# Крыніца

4-5(59)
2000
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

# КРЫНІЦА
## № 4-5 (59) 2000

Штомесячны
літаратурна-культуралагічны часопіс

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнікі:** калектыў рэдакцыі, Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630
ад 31 ліпеня 1996 года





Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца



**Пішыце:** **220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва,11**

**Званіце:** **2-366-113, 2-366-142**



Падпісана да друку з арыгінала-макета 11.07.2000. Фармат 60х84 1/16.
Афсетны друк. Папера афсетная № 1. Ум.-друк.арк. 13,95.
Ум.фарба.-адб. 14,06. Ул.-выд.арк. 12,58. Кошт дагаворны.
Тыраж 585 экз. Зак. 1725.




Надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка ў друкарні выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.



# Вітаўт ЧАРОПКА

*Выпаў з часу назаўжды,*
*і няма ў прасторы чалавека*
*без узросту, без памяці, і мараў,*
*без правоў і абавязкаў.*
*З гадамі ён маладзее,*
*а з маладосцю – старэе.*
*І не ў будучым ён і не ў мінулым.*
*Для яго ёсць толькі цяпер –*
*імгненне на памежжы часу*
*і прасторы стала вечнасцю яго.*

 



*З табой:*

# з Вітаўтам ЧАРОПКАМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

**Леанід Галубовіч:** – Што цябе, шаноўны Вітаўт, прывяло да літаратуры?

**Вітаўт Чаропка:** – Да літаратуры мяне прывяла літаратура, бо я хацеў быць, а не здавацца, і вось я ёсць – чарговая постаць у часопісе "Крыніца". Спадзяюся, гэта не помнік самаглупству, а прызнанне таго, што я ёсць..

**Л.Г.** Чаму Вітаўт Чаропка, вядомы аўтар, не сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў?

**В.Ч.** Вось таму Вітаўт Чаропка і вядомы аўтар. Сяброў СБП шмат, а я адзін. Думаю, гэта не мая праблема, а праблема Саюза.

**Л.Г.** *Што* творыцца ў адзіноце ў адрозненне ад калектыву?

**В.Ч.** У адзіноце творыцца мастацтва, а ў калектыве пішуцца "Зацемкі з левай кішэні".

**Л.Г.** Гісторыя – гэта літаратура, а літаратура – гісторыя?

**В.Ч.** Пытанне гэтак і правакуе на псеўдафіласофію. Асабіста для мяне гісторыя – гэта літаратура, і я не лічу сябе ні гісторыкам, ні пісьменнікам. Бывае, што і літаратура можа быць гісторыяй народа. Хоць гісторыя – самая міфалагізаваная сфера чалавечай дзейнасці. І ў гэтым кантэксце яна і сапраўды літаратура аб народзе.

**Л.Г.** Калі ты не гісторык і не пісьменнік, дык хто ж ты тады, Вітаўт

 

Чаропка? І як ты вызначаеш тое, што робіш у літаратуры?

**В.Ч.** Некалі я называў сябе літаратарам і нават запісаў гэта ў працоўнай кніжцы. Я сачыняю. Калі гэта мастацкая літаратура, дык я бяру звычайнага чалавека і *кідаю* яго ў незвычайную сітуацыю. Калі гістарычная, дык, наадварот, знаходжу незвычайнага чалавека і распавядаю, што і як ён робіць у звычайнай сітуацыі. Пагадзіся, што героі "Маскі Хімеры" або "Эрагеннай зоны" – звычайныя хлопцы, а ў сітуацыю трапляюць неардынарную, выключную, дзе трэба застацца чалавекам, каб быць пераможцам. Ну, возьмем хоць бы Вітаўта. Ужо ад нараджэння – і па выхаванню, і па ладу жыцця – ён, канечне, не просты хлопец: ён – князь, спадкаемца вярхоўнай улады, вяршыцель людскіх лёсаў. І вось ягонае жыццё – інтрыгі, войны, змаганне, палітыка, нерэалізаваныя або рэалізаваныя амбіцыі, – словам, тое, што адбываецца на зямлі ўжо не адно тысячагоддзе. Дэталі могуць мяняцца, адрозніваецца, але фабула нязменная – гэта і ёсць звычайнае жыццё, гэтаму нас вучыць гісторыя.

**Л.Г.** Чаму беларуская літаратура за паўтара дзесятка гадоў *галоснасці* не "нарасціла" свайго *новага* мастацкага тэксту?

**В.Ч.** Ну, гэта табе так задаецца. Што гэта за мода: усё наракаць, што няма літаратуры, няма тэкстаў, няма новых адкрыццяў?.. Падобная мода не праходзіць. І ў XIX ст. расійскія пісьменнікі наракалі на тое самае. Значыць, праблема ў тым, што мы лянуемся чытаць тыя тэксты, якія выйшлі, ці не можам іх ацаніць. У нас звычайна "раскручваюць", а не прызнаюць. Так што імёнаў больш, чым тэкстаў. Прачытаў нядаўна раман Алеся Рыбака "Трэба было жыць": добрая рэч і яшчэ не ацэненая ні крытыкамі, ні чытачамі. Можна назваць яшчэ шэраг тэкстаў, але хай іх шукаюць іншыя. І ўвогуле, чаму мы хочам чагосьці такога, ну, супернезвычайнага, а яшчэ лепш – геніяльнага? Давайце цаніць тое, што ў нас ёсць, – лепшага нам ніхто не

дасць, а калі і дасць, дык гэта будзе не наша. У беларускай літаратуры ёсць свая спецыфіка, свой вобраз і свая ментальнасць. Беларус не можа пісаць, як расеец ці француз, ён піша, як беларус. А нас усё арыентуюць на нейкія сумніцельныя ўзоры розных чужародцаў. А калі тэкстаў "не нарасло", значыць, у грамадстве не было спрыяльнай глебы для росту...

**Л.Г.** А што ты думаеш пра свае тэксты? Ведаю, што твае кнігі выходзяць вялікімі тыражамі. Напрыклад, "Імя ў летапісе" – ажно 30-тысячным. Значыць, цябе чытаюць.

**В.Ч.** Ну, тыражы яшчэ не сведчаць, што самі кнігі вартыя быць у кантэксце культуры. Тыражы – гэта кан'юнктура рынку. Каштоўнасць кнігі ў яе неабходнасці. Я пішу па патрабаванню душы і не арыентуюся ні на моду, ні на кан'юнктуру, ні на сацзаказ. Перш за ўсё – гэта патрэбна мне.

Пачынаў я з рамантыкі. "Храм без бога" – рэч больш рамантычная, чым гістарычная. Тыя ж абразкі – класічны ўзор таго, што я пісаў у той перыяд. Пераходная рэч ад рамантызму да новага мыслення – "Эрагенная зона". Яе ўспрынялі як нейкую парнаграфічную чарнуху. Гэта вульгарнае ўяўленне. Мне хацелася паказаць хаос, з якога нараджаецца гармонія, бруд, з якога вырастае кветка кахання, нарэшце, царства ценяў Аіда, адкуль прыйшоў Эрас. Я паказаў чалавека, які хоча кахаць, але ў грамадстве, дзе дэфармаваныя мараль і норавы, каханне – тавар. Хто яго купіць, той і набудзе права размнажацца. Па-за ўвагай засталася "Маска Хімеры". Рэч містычная, але гэта не страшылка, а ўвасабленне тэмы змагання цьмянага са светлым, зла з дабром, свету з антысветам... Герой змагаецца з самім сабой – сваім анты-Я. Ды што тут тлумачыць, мне за гэта грошы не плацяць. Мне падабаецца пісаць не тое, што адбываецца ў жыцці, а тое, што магло б адбыцца. У нейкім сэнсе я калекцыянер падзей.

**Л.Г.** Вельмі часта пісьменнікі скардзяцца, што іх не чы-

таюць. Хто ў гэтым вінаваты – пісьменнік ці чытач? Як ставяцца да тваёй творчасці іншыя?

**В.Ч.** У беларускіх пісьменнікаў ёсць сур‘ёзная праблема – звужэнне функцыяніравання беларускай мовы, а гэта і звужэнне кола чытачоў. Так, рускамоўных чытачоў больш, чым беларускамоўных. Аднак сваю “нечытабельнасць” нельга апраўдваць толькі гэтым. Спытаем сябе, а ці чытаюць пісьменнікі пісьменнікаў? Магу адказаць са свайго прыкладу – мяне чыталі лічаныя адзінкі. Значыць, самі сябе ведаць не хочам, а патрабуем ад люду паспалітага чытаць нашыя опусы. Асабіста для мяне не важна, колькі чалавек прачытае мяне, важна, як яны паставяцца да маіх твораў. Добрае слова, скажам, ад Янкі Брыля ці Леаніда Дранько-Майсюка, Галіны Багданавай, Сяргея Верацілы ці Юры Гуменюка – гэта ўжо прызнанне, яно даражэй за ўсе раскруткі і рэкламу. Колькі г... ні рэкламуй, а смярдзець яно будзе... Хоць часцей я чую на свой адрас і нядобрае слова. Адзін таварыш увогуле заявіў, што я раблю шкоду беллітаратуры. Дзякуй Богу, што ён не прыватызаваў яе, а то пагнаў бы мяне гной выкідваць. Можна назваць мае творы “надуманымі, змрочнымі і разбуральнымі для чытача”, але я не вінаваты ў тым, што нехта знаходзіцца ў палоне пошлых стэрэатыпаў і камплексуе з-за таго, што іх ісціны – для мяне ханжаства. Не вінаваты, што я думаю не так, як яны. Наслухаўся я кпінаў, маўляў, Чаропка перапісвае летапісы. Вунь у “ЛіМе” мяне ўвогуле назвалі “Карабас-Барабас у функцыі Карамзіна”. Што тут адкажаш? Так, перапісваю, а яны і гэтага не могуць. Затое ёсць “Імя ў Летапісе” і “Уладары Вялікага Княства “. Нагадаю старую думку, што “рабіць” гісторыю можа любы дурань, а каб апісаць яго дзеянні, трэба быць вялікім чалавекам. Дык вось, я – не геній і зорак з неба не хапаю, але напісанае мной мае сваю вартасць. Дарэчы, у адным з апытанняў, здаецца, у “Нашай Ніве”, мая кніга “Перамога ценю” была названа ўслед за кнігамі Янкі Купалы і Уладзіміра Карат-

кевіча. Да такіх апытанняў трэба адносіцца скептычна, але не я паставіў сябе следам за класікамі, а чытачы. А можа я геній? Трэба разабрацца, а то ўсё графаман і графаман, неяк ужо й надакучыла.

**Л.Г.** Нічога, час пакажа, хто Чаропка – геній ці графаман і чаго вартыя ягоныя творы.

**В.Ч.** Згодны, не нам гэта вырашаць, бо якія з нас суддзі... Але ў мяне заўсёды ёсць апраўданне: пісаў я шчыра і не дзеля "благ". Пажывём – пабачым.

**Л.Г.** Можа, ты падзелішся сакрэтамі сваёй творчай кухні? Як прыходзіць сюжэт, як рэалізуецца задуманае, як пішацца?

**В.Ч.** Не варта раскрываць сакрэты сваёй творчай кухні – гэта будзе нецікава. Тут столькі пераплятаецца – фантазія, сны, прадчуванні, веды, вопыт, чуткі, рэчаіснасць, – што гэта цяжка аддзяліць адно ад аднаго. Я ніколі не планую свае творы – прыйдзе час, і яны самі выспеюць у душы. І толькі тады "выкінеш" усё на паперу. Мне здаецца, я пішу сам пра сябе, дакладней, хачу быць тым, кім я не стану ў рэчаіснасці. Хачу раскрыць сваю падсвядомасць. А калі не пішацца – маўчу, бо думаю, што заслужыў права на маўчанне.

**Л.Г.** Твой творчы дыяпазон даволі шырокі – ад абразкоў да раманаў, ад фантазій да навуковых артыкулаў. Можна пагадзіцца з адным з крытыкаў, які назваў Вітаўта Чаропку *парадаксальным пісьменнікам*.

**В.Ч.** А я па прыродзе сваёй і ёсць чалавек іранічны. І мне даўно хацелася пасмяяцца з чалавечай дурноты. А яе столькі ў нашым жыцці, што хопіць не на адзін раман. Мне здаецца, што беларусы развучыліся смяяцца, дык хай смяюцца самі з сябе. Гэта дапамагае.

**Л.Г.** Што ты ўвогуле можаш сказаць пра сучасны літаратурны працэс у Беларусі?

**В.Ч.** Кніжкі выдаюцца, прэміі прысуджаюцца, з'яўляюцца новыя імёны, і па-ранейшаму ўсе знаёмыя твары –

значыць, нейкі працэс адбываецца. Назавём яго літаратурным. Хоць, такое ўяўленне – старэйшае пакаленне ўжо выпісалася і тыражуе сябе. Пакаленне "тутэйшых", не паспеўшы пасталець, састарылася. Новае – нічога яшчэ не напісала, а таму "б'е ў тазікі", каб хоць так засведчыць сваю прысутнасць у літпрацэсе. Працэс пайшоў, ён ідзе і прыйдзе да перамогі, бо ёсць каму што сказаць, і голас яго пачуюць.

**Л.Г.** Калі, на тваю думку, адбываецца нейкі працэс, дык якое месца ты ў ім займаеш. Такое ўражанне, што ты не лезеш у тусоўкі і збоку назіраеш за тым, што адбываецца...

**В.Ч.** Ага, "двух станов не боец, а только гость случайный". Гэта не прынцып, проста так склалася. Скажам, у "Тутэйшых" я быў назіральнікам, як Глёбус сварыўся з Сысам, кожны бок ведаў, як і што пісаць, і даводзіў сваю рацыю. А пасля пачалі ствараць бюракратычную іерархію, і гэты калос абрынуўся пад цяжарам амбіцый. Тыя, што шмат крычалі, атрымалі доступ да пісьменніцкага карыта і змоўклі. А тыя, што маўчалі, – загаварылі. Увогуле, я для "Тутэйшых" не існаваў (бо нават у свой зборнік ніводнага майго радка не ўзялі, дый не прапаноўвалі), як і яны для мяне. Ад "Тутэйшых" засталося мала імёнаў, але яны ўжо зазіхацелі.

Зусім іншая атмасфера была ў масарэнкаўскіх "Крыніцах". Туды перабраліся рэшткі "Тутэйшых". Там я карыстаўся сякім-такім аўтарытэтам. З "Крыніц" нарадзіўся "Першацвет" ды выйшла добрая плойма паэтаў і празаікаў. Гэта і Юрась Пацюпа, і Юры Гумянюк, і Андрэй Пяткевіч, і Мікола Віч, і Аксана Данільчык, і Каця Мяшкова, і Андрэй Гуцаў, і Ларыса Раманава, і Сяржук Мінскевіч, і Алесь Туровіч, і Алесь Карлюкевіч, і Валеры Пазнякевіч, і Сяргей Патаранскі – зараз і не згадаеш усіх. У ТВЛе я не прыжыўся, бо не імкнуўся туды, але супрацоўнічаю з імі. ТВЛ неяк закансерваваўся на сваіх дэкларацыях, яму

не хапае свежай крыві. Можа, таму і адваліліся ад яго бум-бам-літаўцы.

Вось такое маё месца ў літпрацэсе. Калі ўлічыць, што я нават не трапіў у 6-томнік белпісьменнікаў, дык месца ў белліт. для мяне няма – яго заняў нехта іншы. Можна сказаць так: я не люблю сектаў, і літаратурных таксама. У сектантаў свая ерась, якую яны выдаюць за ісціну, і свае бажкі, якіх яны "раскручваюць". Але мая прысутнасць у літаратуры адчуваецца, бо сучасную белліт. без В.Ч. нельга ўявіць. Гэта я вам кажу, а я ведаю, што кажу, і гэта вам скажа кожны літаратуразнавец ці проста чытач. Увогуле, трэба памятаць словы Пушкіна: "Ты царь – живи один". Вось я і адзін.

**Л.Г.** Ці адводзіцца, на тваю думку, пісьменніку нейкая пэўная роля ў сучасным грамадстве?

**В.Ч.** Гэта залежыць ад асобы пісьменніка, ад меры яго таленту і мастацкай вартасці яго твораў. І праяўляецца ўплыў пісьменніка на грамадства па-рознаму. Гамер "выняньчыў" Эладу. А вось Сімяон Полацкі стаў настаўнікам "роду росийску". Генрык Сянкевіч і Алаіз Ірасек былі сімваламі нацыянальнага адраджэння, адпаведна Польшчы і Чэхіі. Наш Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч вярнуў беларускую мову ў прыгожае пісьменства і адкрыў Беларусь для беларусаў. Купала, па словах Міколы Шчаглова, быў "рыцар-змагар за нацыянальную беларускую ідэю". Прыкладаў можна прыводзіць шмат. У пісьменніка ёсць Слова, якое ўплывае на грамадства. Але пісьменнік не павінен забывацца, што Слова яму дадзена ад Бога.

Можна наракаць, што сучаснае грамадства не прыслухоўваецца да пісьменніка. Так, гэта раней пісьменнік быў і настаўнікам, і асветнікам, і мысліцелем, а цяпер... Іншыя куміры фарміруюць свядомасць грамадства і ягоныя густы. А калі час Слова не надышоў, дык у гэтым ёсць віна і пісьменнікаў. Апроч твораў, патрэбны і маральны аўтарытэт. Гавэл мае тое і тое, чэхі выбралі яго сваім прэзідэн-

там. А ў нас? Якая роля Саюза пісьменнікаў у грамадстве? Які за ім маральны аўтарытэт? Народ не пачуў голасу СБП, калі яго выганялі са свайго дома. Вось вам і роля паловы тысячы беларускіх пісьменнікаў у грамадстве. А я думаў, што Саюз – гэта карабель духоўнасці, наш Ноеў каўчэг у часы патопу. Цяпер засталося чакаць: як жа адзавецца Слова нашых пісьменнікаў. Тады мы і будзем ведаць, чаго яно вартае і чаго варты народ, якому яны ахвяравалі сваё Слова.

**Л.Г.** Чаму мы такая *бедная* нацыя, хоць, па звестках ЮНЕСКА і ААН, адна з самых адукаваных і чытаючых на душу насельніцтва краіна?

**В.Ч.** Сапраўды, калі мы такія разумныя, дык чаму такія бедныя? У якім сэнсе? У сэнсе духоўным, дык у нас ёсць досыць духоўных набыткаў і нават імёнаў духоўных правадыроў не пералічыць, народ нават іх усіх і ведаць не ведае, і чуць не чуў. Хоць, можа, яны невідушчыя, ці "страшно далеки от народа"? У матэрыяльным? У гэтым разе нам застаецца суцяшаць сябе – мы бедныя, але адны з самых адукаваных і чытаючых, а яшчэ мы талерантныя, працавітыя, мудрыя, гераічныя, еўрапейскія і азіяцкія + малодшыя браты старэйшага брата. А калі папраўдзе, дык трэба быць народам, а не насельніцтвам. Што гэта за народ, які адмаўляецца ад сваёй мовы, гісторыі, культуры? І вось іронія гісторыі такога народа – гэта ягоная літаратура.

**Л.Г.** Паспрабуй пралічыць гістарычную перспектыву Беларусі.

**В.Ч.** Я не хачу быць пракорам, бо яму няма месца ў Айчыне. Але цвёрда веру, ведаю і прадчуваю, што Беларусь будзе, бо ёй нічога не засталося, як быць. Праўда, гэта залежыць ад кожнага з нас.

**Л.Г.** Што ж, дзякуй на добрым слове.

І – поспехаў табе.

*г.Мінск, лета 1999 года.*

Сцішаюцца гукі спеваў. Начная цемра зазірае ў вокны майго прытулку. Хтосьці кажа: “Зачыні дзверы”, – а можа мне гэта здаецца? Праз адчыненыя дзверы невідушчымі ценямі ўваходзяць да мяне тыя, чые імёны схавала цемра, тыя, каму няма аб чым хваляваццa – уся праца іх назіраць за мной. Яны прыходзяць, як цені, і гэтак жа знікаюць. У вачах іх недавер. Яны крадуць гукі спеваў і ўспаміны – адзінае, што засталося ў мяне.

А я не звяртаю на іх увагі, я чытаю старую кнігу. Яна памятае не адны рукі. І свае вярыгі мудрасці пранесла, як і падабае мудрацу. А як падабае мудрацу? Без крыўды на пакуты, лёс і людзей, з верай і любоўю. Па невядомых сімвалах быцця спрабую зразумець формулы кахання і нянавісці, дабра і зла, нараджэння і смерці, дня ўчарашняга і дня сённяшняга, дня заўтрашняга. На першых старонках тлумачэнне сімвалаў, на апошніх, як у школьным задачніку, адказы... Але першыя і апошнія старонкі вырваны. І не зведаць мне ні часу, ні вобраза дзеі, ні іпастасі іншай, чым я, ні таго, што было і будзе, і як гэта будзе.

1988 г.

# АБРАЗКІ

***

Ні апраўданнем мінулага дня, ні задавальненнем дня сённяшняга, ні

надзеямі на дзень заўтрашні я жыву. Я паведамляю людзям, які сёння дзень, які год, я паведамляю аб святах, калі ўзыходзіць сонца і колькі доўжыцца ягоны абыход зямлі, паведамляю пра маладзік ды поўню, нагадваю пра юбілейныя даты, я распавядаю пра тое-сёе, што было... А было ўжо ўсё – нічым не здзівіць. Было... было... Братабойчае... Неміласэрнае... Трызроднае... Галафрэн... Юдыта... Пётр... Пагоня... Правадыр... І спевы ўсімі забытыя, былі разбітыя ідалы багоў, што аджылі свой век, і новыя багі на мармуровых пастаментах, былі выкалатыя вочы абразоў ды абгарэлыя крылы Фенікса, колькі было смерці? – столькі, колькі нараджэння, чуўся плач Кахання і смех Нянавісці, раздаваліся чыесьці крокі ў цішы стагоддзяў, разбівалася люстэрка, у якое глядзелася праўда, стомлена адпачываў за бутэлькай трайнога адэкалону наш мудры рэалізм, і белыя ніткі на чорных душах – шмат чаго было. А спачатку было слова.

Гадзіннік адлічыць апошнія хвіліны дня, бязлітасны час сваёй рукой адарве мяне і шпурне за акно. Вецер, як попел цыгарэты, падхопіць мяне, панясе ў бязмежнай прасторы ночы. “Яго падзенне на зямлю, як узлёт у бессмяротнасць”, – скажуць падхлебныя языкі. Я ўпаду пад ногі людзей, каб нагадаць ім пра апраўданне мінулага дня, пра сэнс дня сённяшняга ды надзеі на дзень заўтрашні.

1988 г.

***

Сядзіць, чакае – ніхто яе не здымае. Пракісла віно ў келіху, і, як мухі, лётаюць у дыме цыгарэт зыркія позіркі чувакоў. І вось жаданы голас. “Сумуеш?” – “Сумую. Актрыса я, і ніхто не здыме мяне”. – “А я рэжысёр і цябе здыму”.

На кватэры ў яго нібыта пяты кут шукала, каб ад непазбежнасці схавацца там. Вочы бегалі па сценах. “Дзяўчынка, з’еш цукерку. Жыццё, вядома, кака, дык пасаладзі сваіх

расчараванняў горыч". – "Ды што ты? На калені рукі не кладзі. Я не такая". – "Што ты. Мы абое і мы адны". І ён зрабіў ёй пацалунак. Ягоны пацалунак сваім адрабіла яна. І яны заняліся сваёй справай. А іх справа правая, і яны перамогуць. Абое будуць помніць гнуткае імгненне, калі ў вачох засціўся свет – адно імгленне. І надышоў той час збаўлення ад мімалётнай чысціні.

1992 г.

***

Штораніцы стары павольна крочыць па апусцелым садзе, які даўно не ведае клопату ягоных рук. Ён ідзе да альтанкі, якую здавён называюць "Развітанне з Каханнем". Там на мармуровай лаве нехта забыў кнігу. Вецер гартае яе пажоўклыя старонкі. Хто яе чытаў? Хто і калі забыўся? Пра што распавядае яна? Кніга занадта цяжкая для знямоглых старэчых рук, і падслепаватыя вочы не могуць прачытаць ніводнага радка. Яны, як мінулыя гады, зліваюцца ў адну шэрую плынь без усялякіх знакаў ды літараў. Мо яна пра подзвігі? А мо пра каханне? А мо яна пра яго, пра таго, хто зламаў рыцарскую дзіду аб сваю наіўнасць, якая, нібы вятрак, перамалола дні юнацтва ў пустую славу-забаву. Дый дзе тая жанчына, з імем якой жыў ён? Ці варта было за яе ўсё мяняць у жыцці?

Увечары сюды, у альтанку, прабіраюцца Каханы і Закаханая. Ён робіць выгляд рыцара, распавядае ёй, які ён знаходлівы, мужны, гераічны. Яна ўважліва слухае яго, гартае кнігу ды чамусьці свайму сумна ўсміхаецца. Ён злуецца: што яна знайшла ў гэтай кнізе? О, гэтая незразумеласць. У чыіх душах болем яна адгукнецца? Хто розумам сваім яе спасцігне?

Мы ў невядомую нам кнігу, як у люстэрка, углядаемся. У юнацтве самаўлюбёна, у старасці ўжо не бачым твару свайго і не пазнаём сябе. Толькі вецер, які, як ДУХ, лунае над зямлёй, толькі ён адзіны чытае гэтую

 



кнігу. Ён не знойдзе ў ёй сваёй сутнасці, свайго значэння, свайго аблічча. Уначы вецер, як цень, блукае ля вокнаў дома, дзе любяць мяне, але дзе я чужы, ды зазябленым п'яным голасам пра нешта распавядае сам сабе. Я яго не разумею.

А мудры стары? Моцны яго сон. А закаханыя? Ім не да гэтага...

1988 г.

***

Я прыйшоў, каб прыйсці, толькі косткі мне засталіся. Таму, хто спазніўся, – косткі. Але ж я вып'ю сваю чарку да дна. Як добра п'янаму пачынаць з нуля. За вас, мае шчырыя сябры! Дай вам Бог таго, чаго жадаеце мне!

Той, хто апускаецца на дно, хапаецца за нуль. А ў п'яных вачах ён дваіцца і нават траіцца, толькі палачкі не хапае. Мара – не мара. Мэта – не мэта. Не раздаць мне кожнаму па нулю, бо хто захоча быць нулём, нават за кампанію? А за кампанію ж вядома нам, хто павесіўся. То, пэўна, быў Вечны Жыд, але захлыска на ягонай шыі, як неўміручы нуль – усё спачатку. І новы лік жыццё адкрыла для яго.

Ну што, з нуля я пачынаю, каб зноў прайсці па зачараваным коле. Гэты шлях сабе ў набытак залічу. Калі ж у наступны раз спазнюся, дык, шчырыя сябры, і чарку выпіце маю да дна ў гонар абнаўлення вечнага майго – яго вялікасці нуля.

1991 г.

***

На крыжы дарог светабудовы жыццё распяла ружу вятроў, забіўшы ёй у далоні гострыя цвікі рэалізму. Ці будзе адраджэнне? Мы прагнем азарэння. Як прагне цнатлівая ноч стаць маці ды нарадзіць тое адзінае слова мудрасці, імя якому ад Бога будзе дадзена. Дзе вы, прынцы крыві?

 

Да знямогласці на вуснах абкусалі пёры, ахвяруючы паперы прыгожыя словы пра вашыя прыгожыя пачуцці, і не адзін не адважыўся на грэхападзенне. Ноч расплачацца на плячы часу вершамі, і вы кінеце іх пад вокны каханых. А як жа нялюбым? Хто ім хаця валошак падорыць? Такая вось дыялектыка сноў, дыялектыка мрояў, дыялектыка метамарфозаў. Як трызненне паэта: “Я не самотны...”, як пошчак капытоў імклівых дзён (куды ведзяце вы ноч?), як паветраны замак, што не вытрымаў прыземленасці нашых крокаў, як навагодняя паштоўка сярод года старога. Ды ўсё вельмі празаічна канчаецца, нават мары – як лёгка яны, як нечакана яны знікаюць у палёце знічак за мяжой цемры, нават каханне, што п’есай-фарсам для многіх дзейных асоб у памяці застанецца, пакуль не апусціцца заслона апошняга званка, нават святло (заплюшчы вочы – і цемра, цемра), нават птушка ў небе абпаліць крылы свае аб два агні на моры, а трэці агонь – сцяна (куды ёй, бяскрылай?), як бярозавы ўзлесак – падарунак залатых яблыкаў для Сонца. Лёгка, нечакана, само па сабе. Нават памяць (цнатлівая ноч забудзе пра надзеі свае). Этымалогія слоў, разгадка сноў, крохкасць мрояў, вычварнасць метамарфозаў.

1988 г.

***

Ніяк не зразумею, што гэта такое? Усё траўка-мурава-ца – ялыя цвяточкі, усе цвяточкі ялыя, адзін цвет ялейшы.

1986 г.

***

Перад самым сыходам шапнула мне: “Не сумуй, я вярнуся, хоць прывідам, але вярнуся”. Я зрабіў выгляд, што паверыў, а сам ведаў: прывіды не вяртаюцца ў паветраныя замкі.

1986 г.

***

На небе сонца – як масла размазана на лусце хлеба. Расплавілася на зямлі жалеза і пацякло вогненнымі рэкамі па вуліцах уздоўж берагоў-руінаў. А гэты камень стаяў і стаіць, каб мы прачыталі спрадвечнае “Будзьма”.

1989

***

Нехта наступіў на нагу, на любімы мой мазоль. Устрапянулася ў душы злосць і з вуснаў сарвалася слова. І з вуснаў сарвалася, як сабака з ланцуга, і панеслася без шляхоў і дарог цераз пень і цераз калоду, а дзе цераз пень калоду. Зачапілася ці за пень, а можа, за калоду ці за пень калоду, а можа і на месцы роўным – бразнулася і рассыпалася на аскепкі. Сабраў іх я і ў глебу кінуў.

Выраслі словы – брыдкія словы. Наляцелі вароны і падзяўблі брыдкія словы. Акаселі вароны і па свеце дурноту разнеслі. Набеглі людзі і хто корань, хто суфікс, хто прыстаўку, хто літару, хто склад, а хто і цалкам слова паспытаў на смак. Набрыняла жоўць на языку. І паехала-пайшло скокам-паскокам-прыскокам паскакала. На ўсіх мовах і дыялектах, на любы капыл і на розны лад. Кожны правіць сваё права і кожны ісціну нясе. І кожны ведае, што, калі і дзе, чаму, навошта і калі і колькі валасоў у Бога ў барадзе. Не ў вока б‘юць, а прама ў брыво.

Бля... ёлкі-палкі лес густы...<br>
Вось і ...яц... і хер... яць...<br>
Так і launched ператак.. туды і не сюды...<br>
Фіг... уду... кур... ваць...<br>
Ёкарна бабай... усё-маё<br>
і тое-самаё...

А я стаю-маўчу, за сабой віны не наглядаю, трымаю кукіш у кішэні. Адзіны я неадукаваны на філфак‘ю вашай альма-матэр.

1988 г.

***

Пастаю, не спяшаюся, пачакаю. Прыйдзе і мой транспарт. Лезуць і лезуць у транспарт людзі. Прытуліліся, прыжыліся, парадніліся мэткай адной – дабрацца куды трэба дабрацца. Нехта крычыць: "Не пакідайце мяне!" Можа, ён варты, можа, яму трэба перш за ўсіх дабрацца да мэты сваёй. Але для яго месца няма. Ён стаіць засмучаны і ад крыўды ніяк не зразумее, што няма месца прароку нідзе, хіба толькі на нябёсах. І гэта зразумеюць тыя, хто дабярэцца куды ім трэба дабрацца і не знойдуць свайго месца.

1998 г.

***

Ты хочаш сустрэцца са мной і ў снах называеш імя маё. Я мог бы прыйсці да цябе, але ты мяне не пазнаеш, і не прызнаеш ува мне чалавека. Я табе прапаноў напрапаную, толькі ты не паверыш. Не паверыш, бо веры няма чалавеку ў абліччы маім. Наша шчасце доўга-нядоўга скончыцца з нашай сустрэчай. Як жа нам быць, калі толькі імгненне падаравана табе?

Мне наканавана вяртацца ў вечнасць, за вечнасцю – вечнасць, адкуль вяртання няма. А ты наіўна-юная, будзеш жорстка -жаданай, станеш жаноча-мудрай у клопатах аб паўторы жыцця і безнадзейна-старой, калі гэты паўтор паўторыцца. Але безнадзейна-старая ты цяпер наіўна-юная і ў снах вядзеш са мной дыялогі. Я мог бы прыйсці ў чалавечым абліччы, але ніхто не бачыў ўва мне чалавека і ніхто не прызнае, што я чалавек. Дык навошта ў снах успамінаць маё імя дарэмна і пытацца адказу, на які адказу няма, і чакаць тое нарэшце, калі атрымаеш адказ на любое пытанне? А калі гэта будзе, то з'явіцца нехта, хто ведае больш за мяне, што ведаю я сам пра сябе. Ён з табой павядзе дыялогі і павядзе цябе за сабой. У абліччы ягоным не бачу яго самога і не бачу, хто ён такі і адкуль і навошта,чынам якім ён прыняў аблічча маё?

1998 г.

***

Яка заязыкаю на севера-западным крайнім язы́ку – он есць славянскім нарэчыям усім маць. І мяне паймёт і ныне дікі йоще француз і друг палей паляк, і кажды тот, каму міл своего язы́ка знакомый звук, і перадавыя люді на земле, і Гель і Кольт, і Мінтан, і іжа с німі херувімы, і сам Гасподзь. Паймут, што імел в віду, когда абраціл вніманіе на то, как был вапрос пастаўлен. Я рад, што наканец мысль веліку ізлажнуць магу так ясна і аткрыта і дажа не імець в віду і не абрашчаць вніманія на то, как был вапрос рэшон. Когда так ясна і панятна рэч гавару на абшчадаступным, вялікім і могушчім севера-западным радном. Устрапянулася ў душы рускае начала. Да вазбужденія канечнасцей нагцей я ашчушчаю сябе рускім. Не чухонец, не зачухонец, не балахонец, не скабар, не уралец, не зауралец, не валгадонец, не беламораканал, не кацап, не туляк, не задрыпанец, не хахол і нават не маскаль і канечна не тутэйшы беларус. Так і падмывает горда сказаць "Я, ісціна русскі чалавек" і что б непрыменна с двума "сс". А паэтамупасяму вніманія абрашчаю не імець в віду, пасколька не стаіт уже вапрос.

28.09.99 г.

***

Проста, няма людзей, без якіх няма ідэй. Проста, гэта было даўно, а цяпер нам усё адно. Проста ўсё, што было, і ўсё, што не было, – аднойчы сышло і не прыйшло. Проста, я ніяк не зразумею, навошта веру ў надзею. Проста, калі п‘еш да донца, хочацца свята бясконца. Проста, чорт чакае на дне, каб простае сказаць мне. Проста, няма ідэй, а без іх няма і людзей. Проста, цяпер усё адно, бо гэта было даўно. Аднойчы сышло і не прыйшло тое, што было і не было. Проста, паверу ў надзею, хоць навошта – не разумею. Проста, калі хочацца свята бясконца, п‘ецца да донца. Проста, здаецца мне, сам я ў бутэльцы на дне.

Проста ўсё так проста,
Калі ўсё так не проста.
1998 г.

***

Мы прыдумалі тайну – кожны ведаў яе. Якая ж гэта тайна? Значыць, у тайны ёсць таямніца. Шукалі, спрачаліся, думалі і даўмеліся, што таямніца тайны ў тым, што тайну ведае кожны. Ну, якая ж гэта таямніца тайны? Значыць, у таямніцы тайны ёсць свая тайна. Шукалі, спрачаліся, думалі і даўмеліся, што тайна таямніцы тайны ў тым, што кожны ведае тайну таямніцы тайны. Ну якая ж гэта тайна таямніцы тайны? Значыць, у тайны таямніцы тайны ёсць свае таямніцы. Пачалі і яе шукаць, спрачацца, думаць, а вынік той самы– таямніцы тайны таямніцы тайны ў тым, што яе ведае кожны. Але пакуль шукалі, спрачаліся, думалі, кожны і ўсе забыліся, якую яны ведалі тайну.

Калі ж яны ведаюць, што не ведаюць тайны, якую раней ведалі, дык хто тады ведае? Ці можа яе ніхто не бачыў і не чуў, а ўсе лічылі, што бачылі і чулі. Ці тайну гэтую ўсе не ведалі, не бачылі, не чулі, але кожны ведаў, бачыў і чуў. Ці ўсе не ведалі, што кожны ведаў тайну, ці кожны не ведаў, што ўсе ведалі тайну? Дык што гэта за тайна? Значыць, у яе была таямніца. Але і ў таямніцы была ж тайна, а ў тайны таямніцы была тайна, а ў таямніцы тайны была таямніца – значыць і ў тайны таямніцы тайны таямніцы ёсць свая тайна...

О, навошта мы прыдумалі тайну? Вось цяпер і шукай тайну таямніцы тайны таямніцы тайну... А можа, яе проста няма, а мы прыдумалі яе і не ведалі, што ведаць не будзем, калі думалі, што будзем ведаць.

І тады мы прыдумалі назву тайны і тайну назвы трымалі ў тайне. А калі прыдумалі назву тайны, дык патрэбна была і тайна, каб назву тайны ніхто не ведаў, але каб усе

ведалі, што ў нас ёсць тайна і гэтая тайна ў тайне назвы, а тайна назвы якраз у самой тайне. І тады мы прыдумалі тайну...

1998 г.

***

Вось настаў і можна казаць і, можна казаць, што ўсё было дарэмна і было не так, і было не гэтак. А калі пройдзе, калі растане ў імгле, можна казаць, што і гэта было дарэмна, і было не гэтак, і было не так. А калі, калі настане, калі можна казаць, дык трэба маўчаць, што ўсё было так і гэтак і не так.

1995 г.

***

Штосьці нешта і сам не ведаю, што якая спакуса ў гэтым. Ясна-выразна гэтую разумею вабнасць.

Штосьці нешта і сам не ведаю, чаму.

Мне заўсёды жадаецца чагосьці таго, чаго не зведаць іншым.

Я гатовы спакусіцца злом, бо веру ў апраўданне дабром.

1998 г.

***

Ёсць чатыры, а будзе пяць, значыць, трэба нешта напісаць.

А што – не ведаю, што...

Сэрца б‘ецца і гоніць кроў.

Кроў круціць свой прызначаны калаўрот, як сонца – Сварог.

І гэтым мы жывыя і будзем жыць, пакуль кроў услед сонцу будзе абуджаць жаданне пачуццяў.

Толькі кагосьці няма сярод нас – ягоная кроў на паперу сцякла.

Няма яго, але ёсць чатыры...

Яго няма, але ён пакінуў на памяць чатыры, каб было пяць.

Значыць рана нам яшчэ паміраць.

1998 г.

***

І прыйдзе новы вялікі форвард. Заб‘е галы і прывядзе каманду ў чэмпіёны. Кумірам ён будзе для фанатаў і трыбун. І забудуць імя сённяшняга куміра.

1999 г.

***

І зноў з рання ўся тая прафанацыя.
Перад вачыма поўзае так званая нацыя.
Што за нацыя, што за народ?
Калі няма каго любіць і няма каго ненавідзець.

1999 г.

***

Мужык, пастой! Ёсць нагода пастаяць, і стой. Пад гэтым каменем ляжыць той, хто насміхаўся і з цябе. Яго вучылі: “Паважай людзей”. А не паважаў, гарэлку піў і брыдкім словам лаяў свет. А што да дзевак, дык як той злодзей – усё ў шкоду лез і кожны раз алібі ён меў.

Яму жыццё далі на раз і тое аднойчы, і тое выпадкова.

Яму жыццё пражыць, каб не было дарэмна за пражытае жыццё. А яму жыццё і не жыццё, а так абы-што і ўвогуле нішто.

І вось сама смерць да яго прыйшла. А ён: “Чаго прысунулася, дурында? Старых і трухлявых мала?” – “Я забіраю лепшых”, – смерць яму сказала. “Ну, то горшы з горшых я. Давай выпі за маё здароўе”. І самагонкі шклянку паўнюткую смерць кульнула. Касу падняла, ды задрыжалі рукі. Махнула і – як сярпом па... правільна, касой па тым самым месцы.

Не, мужык, не ён пад каменем гэтым. Хоць і не забрала смерць яго, ды не вытрымала душа паэта...

Пастой, мужык, і падумай. Ты стаіш, а ён ляжыць, значыць, доўга будзеш жыць, бо страшней за смерць гонар згубіць.

1999 г.

***

І ўвогуле, я не разумею, хто і каму і што вінаваты. І што такое віна, калі не зразумець, хто каму і што вінаваты. Ну, прыйдуць пасля нас, прыйдуць людзі і скажуць. Чаму гэта мы вінаваты? Ён за нас цярпеў і сцярпеў, ён за нас узяў віну на сябе. А мы добрыя і ўдзячныя сыны сваіх бацькоў і айчыны і не возьмем на сябе ніякай віны. Гэта ён вінаваты, што мы не вінаваты і не павінны браць ніякай віны. Але, калі ніхто і нікому і нічога не вінаваты, дык і ён не возьме ніякай віны. І што тады скажуць людзі? Хто тады для іх будзе ва ўсім вінаваты? Тады скажуць яны, і ўвогуле мы не разумеем, хто і каму і што і навошта, бо ён сам не разумеў, каму і што вінаваты.

1999 г.

***

Мы пайшлі, вось ідзём, каб ісці.
Супраць нас многа, ды і нас нямала.
І хай супраць нас усе, але і нас грамада.
Куды ідзём, не ведаем – куды.
Навошта ідзём, не ведаем – навошта.
І не адкажам: А хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
А што мы нясём – нічога не нясём.
А калі дойдзем – пойдзем далей,
Пройдзем вёрсты ўсіх дарог,
Пакуль яшчэ ў нагах хапае сілы.
На нябёсах здзіўляецца Бог:
“Без ясных надзей, без трывог
Куды і навошта яны ідуць?
У іх няма нават Купалы,

Каб вывеў іх у людзі.
Шмат на зямлі ёсць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы."
11.09.99 г.

***

Энергічна, хутка-хутка ўспыхнула любоў.
Мабыць, першы позірк затрымаўся на табе?
Ты такая, як не ўсе, і не такая, як яны.
І паверыла ў шчырасць маіх слоў.
Захацелася-хацелася пайграцца ў любоў.
Пайграліся, пагулялі, разагналі сум і жаль.
Не заўважылі і самі, як закончылася гульня.
Ты не выйграла ды і я не прайграў.
Толькі будзеш-будзеш наракаць ты на сябе,
Што паверыла ў шчырасць маіх слоў,
Калі захацелася-хацелася пайграцца ў любоў.
27.09.99 г.

***

Вось яна якая і не такая. А вось другая не такая і такая.
Ну дзе мне сустрэць такую, каб падыходзіла па наміналу адносна стандартаў густу майго?
28.09.99 г.

***

Мы натачылі нажы і яны таксама.
Кліч кінулі: "У бой!"
Пайшлі адзін на аднаго – мы на іх, а яны на нас.
Кожны біўся за сябе, а я – за іх магілы.
Гарэла агнём сталь і пілі кроў нажы да самай асалоды,
Як з пахмелля п'юць піва нагбом да дна.
Пáдалі адзін за адным то мы, то яны, пакуль не ўпалі ўсе.
Пахаваў сваіх і ворагаў у адной магіле, прымірыў іх памятным крыжам.

І выпіў на трызне за іх непераможных сыноў – ненароджаных іх дзяцей.

28.09.99 г.

***

Выпаў з часу назаўжды, і няма ў прасторы чалавека без узросту, без памяці, і мараў, без правоў і абавязкаў. З гадамі ён маладзее, а з маладосцю – старэе. І не ў будучым ён і не ў мінулым. Для яго ёсць толькі цяпер – імгненне на памежжы часу і прасторы стала вечнасцю яго.

1.10.99 г.

***

Знайсці такую думку, каб можна было абдумаць, што значыць яна для мяне і што значыць для іншых і ўвогуле сама па сябе, што значыць яна. Хоць адсутнасць думкі такой само па сабе паказвае на прысутнасць яе ў думцы маёй, і, значыць, яна сама па сабе для мяне нешта значыць, нават калі для іншых нічога не значыць наяўнасць думкі маёй аб такой думцы, што сама па сабе значыць яна для мяне і што значыць для іх – іншых – яна. І калі абдумаць значэнне думкі такой, дык можна прыдумаць значэнне яе для мяне і для іх – іншых, і тады можна зразумець, што яна значыць сама па сабе, а тады можна знайсці думку такую, хоць яе адсутнасць само па сабе не абвяргае прысутнасці думкі такой у самой сабе і значэння яе для мяне.

1999 г.

***

Я ведаю, што нічога не ведаю, але як мне ведаць, чаго ведаць не магу, бо не ведаю, як магу ведаць, што нічога не ведаю, бо калі нічога не ведаю, дык і ведаць гэта не ведаю, бо калі ведаю, што нічога не ведаю, дык чаму ведаю гэта, калі не ведаю нічога, а значыць, я не ведаю, што нічога не ведаю, але як я магу ведаць, што не ведаю, што нічога не ведаю, значыць, я ведаю, што нічога не ведаю, бо ведаю, што не ведаю, што ведаю.

1999 г.

***

Ты не памятаеш гэты дзень студзёны. Снегу манна нябесная ўпала на зямлю. Снегу многа і многа. Я цалаваў рукі твае, якія падымуць Вашае дзіця!

Снег, снег – тры разы не скажу снег, але паўтару снег.

Тваё права памятаць, а маё права забыць. Але ён будзе, бо павінен быць, бо ён ува мне, і прыйдзе з табой.

І раптам дзверы адчыніліся. Я падумаў, ну вось і ты. Увайшла яна, падобная на цябе. Я так чакаў цябе, а з‘явілася яна. У гэтае цудадзейна-дзейнае імгненне, калі раптам дзверы адчыніліся і я падумаў, ну вось і ты, увайшла яна ў гэтае цудадзейна-дзейнае імгненне, калі раптам дзверы адчыніліся.

Цябе любіць? Гэтага мала? А я ніхто, ніхто я, а я той, хто ніхто, які ніколі не будзе, а калі і будзе, дык ніколі.

1999 г.

***

Паэты *шумнаю талпой* са смехам і дэкламацыяй пабеглі на вадапой.

Крынічка вузенькая гожа бруілася сярод берагоў.

Паэты напіліся, смагу наталілі, бо п’юць, каб смагу наталіць.

Не было віна, каб палягчэла на душы і распрануць яе перад іншай.

Не было гарэлкі, каб развязаць язык і сказаць, што ў галаве і чаго няма.

Паэты напіліся, смагу наталілі, і кожны верш, які гібеў у запасе для чужых вушэй, прадэкламаваў.

Любоў – кроў. Чалавек – век. Рукі – мукі. Хмары – мары. Брат – стрыечны брат… і далей кожнай рыфме па пары…

Далёка рэха разносіла паэтаў галасы на ўсе гады і на ўсе часы і нават даносіла ў пекла.

Так паэты свае рыфмы гаманілі і з іх складалі нешта пра сябе.

Ну як любяць, як кахаюць, як адчуваюць, як *ощущают*, як не могуць без гэтага таго і без таго гэтага.

Не зарасце *тропа*, куды паэты бегаюць на вадапой.

І будуць бегаць паэтаў *толпы* (іх так многа, ды *нечава считаць*) на вадапой, бо смага больш чым *шырака страна мая радная.*

Ну чаго я так шалею, каго ненавіджу?

Калісьці было такое і сам я бег у натоўпе і голас мой рэхам далятаў у пекла.

Ну, я шалею, не ведаю, ненавіджу каго.

Ну вырвіце мой грэшны *язык*, і я загавару на *общедоступном* і *вместа век* скажу стагоддзе.

Гэта не суцяшэнне – з'явіцца нехта і мовіць: годзе.

Заўсёды знойдзецца слова на ўсіх мовах, з языком і без яго.

Божа, навошта мы не чуем саміх сябе і астатніх, не чуем патаемнага?

І забіў у сабе я паэта.

Дух ягоны ўзнёсся над зямлёй.

У нябеснай цішы ён рэха пачуў, тыя галасы з пекла гучалі.

"Вы што пашалелі там? Каго вы любіце? Каго ненавідзіце?

Смага жарсці больш чым любоў.

Жарсць целаў гадзінамі наталяеце, а гадзіны доўжацца, як імгненне".

І хай паэт ува мне забіты, але рэактар паэтычны яшчэ не астыў у галаве.

Я права не маю на паэтычнае слова, права ёсць на патаемнае слова.

Я жыў і жыву і нават не дзеля сабе, а навошта – не ведаю чаму.

Як спеў жалейкі ветру, як шолах чароту пачуў твой голас праз гады, нябыт і быццё.

І калі быў я, не было цябе, але і тады гучала нашых галасоў пераклічка.

Патаемныя словы я табе паўтару.

Паўтару патаемныя словы я, бо цікуюць за намі цікаўныя, заўсёды зайздросныя людзі.

Гэтыя словы нашы, яны для нас. Патаемныя словы патаемна я кажу.

Я хацеў бы жыць дзеля цябе, як ты жывеш для мяне.

І нават, калі ты не прыйдзеш, – усё роўна будзе гучаць нашых галасоў пераклічка паміж нябёсамі і зямлёй – паміж раем і пеклам.

1999 г.

***

Спявалі ваяўнічыя гімны, а жах наганяў пошчак капытоў. Было крыві праліта нямала. І твой каханы абранец смерці чакаў. Ён ворагам кінуў пад ногі наточаны корд. Калі ты з ім разышлася апрычона, дык навошта біцца за гонар, свабоду, любоў і народ? Не верыў у блізкую смерць, верыў, што не згіне на звод ягоны спрадвечны род. Дык жа тады яго ты і забыла, калі сэрца ягонае працяў наточаны корд.

23.11.99

***

Рыцар крыжацкі атрутны напой у чары падаў: “Прыміце прычасце ў Бога хвалу. І вы сустрэнецеся з міласцівым і справядлівым нашым Панам. Маліце яго даравацъ грэх вашаму бацьку за здраду тэўтонам”.

Сыны Вітаўтавы Іван ды Юр‘я па крыві крывічы, а з роду літвіны выпілі чару атрутную. Моўчкі, са здзіўленнем,няўцямна, без пары ў дзіцячых вачах згас свет белы. Усмешкай ката ўсміхнуўся кат. Не быць на Літве ні літві-

 



нам, ні крывічам, ні русі, а быць рабам тэўтонаў. І хай гіне іх род на корані, каб не жыла Літва.

Дзве светлыя душы падняліся на паднябессе. На ўсход яны глянулі – там маці-Радзіма. На захад яны глянулі – там бацькі Айчына. Ад Дняпра-Славуціча і да Святой Вяллі-ракі іх родная зямля – Маці-Айчына ў полымі дымным вайны.

Дзве светлыя душы Іван ды Юр'я перад панам Богам казалі: "Божанька наш вялікі, вечна міласцівы і справядлівы, мы прынялі немінучую чару ў тваю хвалу. А калі мы маем віну, дык пакарай па віне. Не мальбу мы прынеслі за нашага бацьку. Нашаму народу ён сын, як мы сыны яму. А над ім ён валадар з тваёй добрай ласкі, а над намі ты валадар, Божанька ясны, спагадны, чуллівы. Божанька наш справядлівы. Ты бачыш, як ад Рубона-Даўгой да Нёмана-Хрона на роднай нашай зямлі з тваім імем на вуснах тэўтоны пояць мячы нашай крывёю. Не дай, Божанька, не верыць у цябе, дай верыць табе".

А калі настаў дзень бітвы на полі каля Зялёнай Дубровы, дык быў гэты дзень судны для тэўтонаў. Жалезная моц клінам рассекла жывое цела Вітаўтавых палкоў. Пабеглі літвіны, і сцяг іх у брудзь утапталі. І харугвы крывічоў упалі, бо ад цяжару крыві знясілелі іх мячы. І не быць на Літве ні літвінам, ні крывічам, ні русі, а быць рабам. Усмешкай катаў усміхаліся каты. Вось у гэты час з'явіліся два анёлы ў белых вісонах, нібы ў бялюткіх сялянскіх кашулях, бялюткіх, як святая вада Перуновых дажджоў. Два анёлы Іван ды Юр'я неслі нябеснага воінства сцягі. І паднялі крывічы набрынялыя крывёю мячы, і харобрая літва дзідамі бойны шлях прабіла, каб жыла Маці-Айчына і каб былі яны ў Маці-Айчыны.

16.11.99 г.

 

# ПАРАЗА СВЯТЛА



... А было яно ўсё гэтак:

Годзе ў 7496-м ад Стварэння Свету (або 1987-м ад Нараджэння Хрыстова), ўражаны руплівай і адначасова да празрыстага яснаю методай гістарычных росшукаў Міколы Ермаловіча, вырашыў і я "ничтоже сумняшеся" звярнуцца да Гісторыі і, з патаемнай спадзяванкаю "а раптам і мне прыйдзе ў галаву якая-небудзь светлая, карысная думка наконт нашае агульнае мінуўшчыны?", замовіў у "ленінцы" два адпаведныя тамы з поўнага збору "рускіх" летапісаў. На бібліятэчным белягу прыйшоў адказ: маўляў, патрэбныя мне хронікі – у беларускай зале, у іншага чытача. Праз пэўны час я паўтарыў былую спробу і атрымаў той самы адказ. Спрабаваў і трэці раз...

А праз сем гадоў, пры гальштуку і ў гарнітуры, напрацаваўшыся над нашаю агульнаю мінуўшчынай, гісторыяй і даўніной сівою, з лабірынтаў беларускага аддзела Нацыянальнае бібліятэкі РБ выйшаў Вітаўт і "рече": "Вот этому молодому человеку книг не выдавать!.."

Разумею, гісторыя і праўда ўсё паставяць на свае месцы: і падзеі ў часе, і тамы ў бібліятэчных залах. Зробленае як і Вітаўтам Вялікім, так і яго ценявобразам Чаропкам (раман "Храм без бога", даследзіны "Імя ў летапісе", "Гісторыя нашага імя", "Уладары Вялікага Княства") на гістарычнай дзялянцы – застанецца. Таму – пакінем, "адрачомся" ад гісторыі.

Ну, а як жа тады "нашы гісторыкі глядзяць на нашу сучаснасць"? – спытаемся...

Вось – кніга: В.Чаропка. "Перамога ценю": Аповесці, апавяданні, эсэ. – Мн., "Мастацкая літаратура", 1996.

А вось – ісціна: адзін з самых сатанінскіх сакрэтаў жыцця чалавечага ў тым, што той, хто зведаў сакрэт шчасця, сам ужо ніколі не стане шчаслівым, і той, хто вырашыў стаць Сонцам, мусіць вечна памятаць і разумець, навошта на свяціле плямы...

За выключэннем гістарычнае аповесці “Навь-Явь-Правь”, якая не разгортваецца, а хутчэй загортваецца, без паратунку калапсуючы ад шырачэзных этнаграфічных апісанняў да вокамгненных паваротаў сюжэта (што, дарэчы, пакідае ўражанне схематызму і спехам скончанай работы), бальшыня твораў у кнізе – гэта, па сутнасці, або антыўтопія, або ўтопія, або фельетон, – думкавы эксперымент: “што было б, каб..?”. Карацей кажучы, не трэба капаць кудысь глыбей, каб ужо зараз мовіць: “Нашы гісторыкі глядзяць на нашу сучаснасць – і не бачаць яе”.

У тэксце, які напачатку падаецца найбольш рэалістычным – аповесці “Шчасце страсцей” – бянтэжыць фінал:

“Міця быў на сярэдзіне рэчкі, як пад нагамі пачуўся трэск лёду. Халодная вада абпаліла яго ногі, тулава, твар – Міця апынуўся ў вадзе. Адразу ж кінуў бутэльку прэч –яна разбілася, і чырвонае віно вылілася на шэрую паверхню льду. Міця адчайна барахтаўся ў палонцы. Ногі не даставалі дна. Намоклая адзежа і чаравікі цягнулі ўніз. Хапаўся рукамі за лёд, а той ламаўся. Ён мог выратавацца, але ў той момант, калі мужчына працягнуў яму руку, як прасвятленне, мільгнула думка. Не боязна памерці, а боязна жыць. Самая вялікая страсць – перамагчы смерць – адмовіцца ад жыцця. І калі ён прыме дапамогу, значыць, так і застанецца рабом”.

Наўрад ці падлетак-парнатавец, які ўсю аповесць так імпэтна і зацята змагаецца за сваё месца пад сонцам, здольны на такі ўчынак: так адразу і ледзь не добраахвотна развітацца з жыццём, на што зроблены намёк, а й даўмецца да такой па-езуіцку “дарослай” думкі. Прыпісанае герою меркаванне ў адзін момант выхоплівае таго з ледзяной палонкі і падвешвае ў паветры дзесь паміж жывой асобай і лагічнаю фігурай, пераводзячы ўсё папярэдне напісанае ў даўгую ілюстрацыю да загадзя сканструяванае ідэі.

Абсурд жыцця, каханне і смерць – то тры сасны метафізічна-экзістэнцыяльных блуканняў самога Вітаўта ва ўсіх яго і ўтопіях, і антыўтопіях...

Беларускае паданне: Стварэнне Свету адбылося ў выніку адпаведных дачыненняў-гульняў стыхій агню і вады... Індыйскі міф: усярэдзіне векавечных водаў у рэшце рэшт узгарэўся агонь, з якога ўтварылася яйка, якое – таксама з цягам часу – падзялілася на дзве паловы: Зямля і Неба... Сучасная навука: калі праз ваду прапусціць электрычны разрад, у ёй ужо з‘яўляюцца кіслоты, неабходныя для фармавання Жыцця... Акультны погляд: святло йдзе ад свайго вытоку да апошняй кропкі мёртвай рэчыўнай укамянеласці (інвалюцыя) і вяртаецца назад духоўнай сутнасцю (эвалюцыя)...

“Хто мы? Набор хімічных элементаў. Звычайны згустак амінакіслот” (А.Звонак).

Жыццё. Каханне. Смерць... Жыццё, бессэнсоўнасцю штодзён-

нага бытавання звязанае са Смерцю (апавяданні "Бессэнсоўнасць", "Свята бласлаўлёнай дарогі"). Смерць, згусткам амінакіслот ушчыльную паяднаная з Каханнем... У гэтым трохкутніку – своеасаблівай аналагеме трыяды "Навь-Явь-Правь" (сутнасць якой, дарэчы, ані паўсловам не патлумачаная ў аднайменнай аповесці) – Чаропка-літаратар, здаецца, зусім не зважае на наіўныя банцікі рамантызму ды эфірныя матузкі ілюзій, што намёртва звязваюць Каханне і Жыццё. Шлях Вітаўта да Праві – праз інвалюцыю і смерць...

У мастацкім плане аповесць "Геній смерці" – самая вытрыманая і выграненая ў кнізе. Сюжэтны дынамізм, як і наогул імкненне аўтара да афарыстычнасці і лапідарнасці, робяць займальным ці не кожны тэкст апавядальніка. Аднак у гэтай жа аповесці раскрываецца адметны "метадалагічна-творчы" парадокс, характэрны прозе Вітаўта Чаропкі як белетрыста: змагаючыся з чыста метафізічнымі пытаннямі, аўтар тым не менш увішна пазбягае хоць якой-колечы разгорнутай рэфлексіі і незакончана-шматстайных адказаў на іх: на заяўленую ў аповесці "Геній смерці" праблему (– Вось ты кажаш: любі бліжняга свайго. А як мне любіць хаця б таго Святонія, які ў мяне ўкраў пас. Як мне яго любіць? – Любі і даруй яму, бо не ведае ён, што творыць. І не разумей мой запавет літаральна. Любіць бліжняга – гэта любіць і сваё "Я". Ты разумееш мяне? – Хм...) адказу не дае сам ход падзей, як тое мелася б быць, але **імітуе** яго... Што, праўда, нікольві не змяншае мастацкіх вартасцяў самога твора. В.Чаропка – гэта апавядальнік і апавядальнік перадусім. Напэўна, вельмі рэдка хто яшчэ з беларускіх майстроў атрамантнай асадкі ды друкавальных тэхнадзіваў здольны, дзякуючы ўжо згаданым якасцям, так віртуозна вылушчыць з сюжэта такі энергетычна-інфарматыўны патэнцыял, на які той (сюжэт) наогул здатны (і вам варта было б толькі паглядзець на мазоль на пальцы, які Вітаўт зарабіў у творчай працы!).

Але...

Сцёб, пафас выкрывальніка, збой з інтанацыі, грубае слова – пляма на Сонцы...

Апавяданне "Перамога ценю"... Мабыць, было б займальна правесці паралелі ў яго змесце са спосабам мыслення Нільса Рунэбэрга з апавядання Хорхе Луіса Борхеса "Тры версіі юдавай здрады"?

Апавяданні "Перад маімі вачыма...", "Няхай жыве горад Шчасця!"... Можа, было б і карысна правесці паралелі са спосабам пісання Джорджа Оруэла?..

"Кнігі нацягваюць на сябе чалавечыя скуры і становяцца як бы людзьмі. І, як самазванцы, ненавідзяць тых, пад чыімі яны хаваліся імёнамі... За панцыр цвёрдых пераплётаў зашыфроўваю я сваю існасць, хаваюся ў кнігу.

Аднак і гэтая кніга калісьці напяліць чалавечую скуру, і так ці інакш наканавана мне быць у абліччы і, як кожны самазванец, ненавідзець таго, пад чыім імем я захоўваю сваю істоту!".

(Эсэ "Малая падарожная кніжка")

Часам мне здаецца, што ўсю і ўсялякую мастацкую прозу магчыма падзяліць не больш як усяго на два падвіды: проза, што распавядае паказкі, і проза, якая задаецца невырашальнымі і вусцішнымі пытаннямі. Проза, якая перадае дзіўнасць і невытлумачальную чароўнасць бытавання чалавечае душы ў зямным, звычайным свеце, – гэта ўжо не проза, а паэзія. Першая трацiна апавядання Вітаўта Чаропкі "На кругі свая" – самая лепшая паэма ў сучаснай беларускай літаратуры, прысвечаная тэме пошукаў сэнсу жыцця, напісаная ў прозе! Старонкі **светлыя...**

Але й шкада ж, вядома, што – толькі трацiна. Бо далей, пасля эпізоду развітання героя з дзяўчынай, аўтар, на жаль, патроху інвалюцыянуе да больш шаблонных вобразаў, матываў, схем...

"Мы жывём у гэтым свеце і думаем па законах гэтага свету, і што мы ведаем пра другі свет, непадуладны нашаму разуменню?" ("Геній смерці").

Не ведаю, ці робяцца "нашы гісторыкі", паглядаючы на нашу сучаснасць, метафізікамі або маралістамі. Не ведаю, ці сапраўды на сутнасныя запытанні чалавечай экзістэнцыі нам дадзены імітацыі замест адказаў (г.зн. эфірныя матузкі ілюзій? злучок між Явь і Правь?).

Толькі хацелася б, вядома, каб ценявобраз Вітаўта прайшоў мёртвую кропку, не пакідаючы нас, недалужных, сваёй "яўнасцю". І, вядома, сумна ад таго, што ясна ведаю: такое – намагчыма...

Таму што

"Не, яго герой не зробіць крок цераз парог новага жыцця. Аўтар нічога не ведае пра закон маятніка, пра няўмольны закон маятніка. Калі чалавек не зробіць свой рашучы крок сёння, калі адкладвае яго назаўтра – спрацоўвае закон маятніка; сілы ўчарашняга дня цягнуць яго назад, туды, адкуль ён так прагне вырвацца. Заўтра настае сёння, і сёння трэба было герою парваць з усім, што яго злучала з учарашнім. Вось так і будзе герой ірвацца душою са свайго апрыклага становішча, і не вырвацца яму, бо старое нязменна будзе мацнейшае за яго самога. Туды-сюды, туды-сюды – закон маятніка. Вось так".

(Апавяданне "Закон маятніка", рэалістычна самы дакладны і стылістычна лаканічны абразок, які адзін у адзін перадае атмасферу пасяджэнняў цяпер ужо залегендарызаваных "Тутэйшых").

...А "вось так", гэтак – і вяртаецца ўсё на кругі свая.

**Андрэй ГУЦАЎ**

Апавяданні, аповесці Вітаўта Чаропкі чамусьці нагадваюць мне ягоны м а г ч ы м ы дзённік – дзённік Вітберга, Гамера, Георгія, Супермена, Арыеля, Вітаўта Чаропкі. Дзённік, у якім ёсць самыя неверагодныя і рэальныя сюжэты быцця і літаратуры.

Сустрэча Вітберга са смерцю і несмяротным чалавекам адбываецца ў Жэневе, дзе аўтар быў не так даўно. Металічная тонкая захлыска (сродак забойства) БЫЛА на самай справе (апавяданне "La bagatelle са смерцю", "ЛіМ", 13 чэрвеня 1997 г.). Словы старога чалавека "...пражыў у чаканні жыцця, і так і не жыў", сказаныя перад смерцю ("На крузі свая"), давялося пачуць прыкладна ў такой жа сітуацыі, або, напрыклад, зведаць у снах невядомую "сілу, што падымала ... усё вышэй" ("Геній смерці").

Міфалагічныя сюжэты, легенды падаюцца ў творах як "праўдзівыя гісторыі" і нават пераствараюцца на свой лад. Міфалагічны змей, з якім, паводле легенды, змагаўся Георгій непадалёк ад Берыта (старажытная назва Бейрута), аказаўся звычайным кракадзілам, што ўцёк са звярынца ў суседнім горадзе: "Затрашчаў хмызняк, і адтуль выпаўз вялікі кракадзіл... і тут Георгій убачыў кінуты братам на зямлю залаты кій з цяжкім набалдашнікам – жазло філосафа філосафаў. Георгій схапіў жазло – кракадзіл падняўся на ўзгорак. З адчаем асуджанага Георгій ударыў кракадзіла па воку..." ("Перамога ценю").

***

## Адысея Вітаўта Чаропкі, ці ...Некалькі слоў пра любоў

Галоўны герой твораў В.Чаропкі шчыры ў адносінах да сябе пры любых абставінах. Гэта найбольш прываблівае. Яму спачуваеш, яго дакараеш, спадзяешся – на яго **перамогу.** Бачыш душу чалавечую – аголеную, у грахах, пакутах і велічы: "Учора ты святасць, а сёння – грэх, учора ты смех, а сёння – плач"... "Усё без попелу спаліць. Так, спаліць. І стаць у жыцці зусім іншым: абыякавым і бяздушным...

Усіх сябрамі называць, але нікому – не дапамагаць... Раней – смех, а зараз ужо плач. Раней – чорны крумкач, а зараз – балотны лунь. Раней – ускач, а зараз – цішком...” (“На кругі свая”).

***

Казаць праўду (чым найперш адрозніваецца пісьменнік ад непісьменніка) – заўсёды прыемна і лёгка. Добра яшчэ пры гэтым казаць так, каб быць пачутым – наліваць маладое віно ў новыя, а не старыя мяхі. Згадваецца абыякавасць публікі на юбілейным вечары “Першацвету”; словы прачытаных вершаў не сталіся словамі Духу.

Створанае В.Чаропкам пакідае адчуванне лёгкасці, прыгажосці, а таксама – трагічнасці. Ягонае “віно”, бывае, настоена зусім не на “крынічных” словах (аповесць “Эрагенная зона”, ч-с “Калосьсе”, № 5, 1997), але яно – адно з самых моцных і прыемных.

***

На мой суб‘ектыўны погляд, імя і прозвішча пісьменніка нейкім чынам запраграмавалі адну з асаблівасцей яго творчасці: спалучэнне высокага – гераічна-трагічнага (Віктар (Вітаўт) – “пераможца”. І – зямнога, быццёвага (Чаропка), самотнага, камічнага; смех – ці не галоўная зброя для п е р а м о г і?

Гэты падзел можна ўбачыць нават у назвах твораў: “**Перамога** цэню” (назва кнігі і апавядання), “**Няхай жыве** горад Шчасця!”, “Як стаць **маршалам**”, “**Храм** без **бога**”, “**Геній** смерці”, “Празрэнне **прарока**”, “**Адрачэнне** ад цемры”, “Звычайная **трагедыя**” і – “Шчасце **страсцей**”, “**На кругі свая**”, “**Перад маімі вачыма**”, “**Бессэнсоўнасць**”, “Надзея на **апраўданне**”, “Пакуль не сціхне **дождж**”, “**Эрагенная зона**”, “**La bagatelle** са смерцю” (Любоўная інтрыжка са смерцю).

***

**Вітаўт Чаропка** вядомы як аўтар кніг “Храм без бога”, “Імя ў летапісе”, “Уладары Вялікага Княства”. Хто, як не ён, добра ведае гістарычныя падзеі, перапляценне людскіх лёсаў і – тую ж “рускую літаратуру, якая астабрыдла сваімі героямі і лішнімі людзьмі” (“Эрагенная зона”). Адсюль, напэўна, імкненне аўтара з лёгкасцю жанглёра ствараць і ўзнаўляць самыя розныя сюжэты, мастацкія дэталі:

“Однажды играли в карты у конногвардейца Нарумова. Долгая зимняя ночь прошла незаметно” (“Пиковая дама”. А.С.Пушкін).

“Аднойчы, у сябрыне пісьменнікаў за хмельным трункам, загаварылі пра смерць”... (“La bagatelle са смерцю”. В.Чаропка).

Ці, напрыклад: “Я з поўным правам ахвяры магу сачыніць пра тое, як Хлестакоў трапіў у правінцыяльны гарадок на вяселле Паўла Іванавіча Чычыкава з Кабаніхай. І вось да сталічнага госця пачалі клеіцца правінцыяльныя дамы – гераіні школьных твораў. А ён пудрыць ім мазгі – які ён важны і значны ў сталіцы. “Я прызнаюся – сачыняю, літаратурай існую і ў часопісах змяшчаю. “Кадрыт або Антымоль”, “Мешчанін у

дваранстве", "Ленін думае пра Беларусь". Ужо нават і назваў не прыпомню. У мяне незвычайная лёгкасць у думках. А друкуюся я пад псэўдонімамі. Усё, што пад імем Чаропка – усё я напісаў. ...Таццяна Ларына наіўна пытаецца: "Гэта Вы былі Чаропкам?" і г.д. ("Эрагенная зона").

Што гэта – гульня у перлы? Ці абыякавасць пры веданні таго, што "усё, напісанае пасля Платона, развагі вучняў для вучняў", і не больш за тое, "всё – лишь игра, повторенье по кругу..." (Райнер Марыя Рыльке)?

***

Галоўны герой твораў В.Чаропкі жыве ў пустыні – самотны, горды, адзінокі, няхай сабе й сярод людзей. Але ж пустыня (пустка, **поле**) – гэта месца, дзе можна пачуць Голас Божы. Ці не гэты – індаеўрапейскі – корань мае слова Полацк (Полтескъ)? Відаць, зусім невыпадкова нарадзіліся тут Ефрасіння Полацкая, Францыск Скарына. Пустыня – пустая, полая, дзікая, незаселеная прастора – месца выпрабаванняў Яна Хрысціцеля, Ісуса Хрыста. Зоркі ў пустыні, як нідзе, здаюцца найбольш блізкімі да зямлі. Ежа, якую можна знайсці ў пустыні, – "акрыды і дзікі мёд" (Евангелле паводле Мацвея, III, 4).

М ё д п а э з і і ў скандынаўскай міфалогіі гатуецца з крыві мудрага чалавечка Квасіра, якога стварылі багі са сваёй сліны падчас прымірэння, а таксама – з пчалінага мёду.

Дарога з пустыні – гэта знаходжанне Бога ў сабе (чалавек – храм Божы), і ў кожным, на кім налеплена маска д'ябла. І таму чалавек, які ўбачыў на свае вочы смерць Сафіі (мудрасці), увасобленай у зямной жанчыне, пабыў у мудраца і ўбачыў усе цуды раю (вазьму смеласць назваць яго Адысеем, бо ў апавяданні яго імя пазначана займеннікам "я", а галоўная інтанацыя твора – шляхі-дарогі-сцежкі-пуцявіны-ростані, паўторанае неаднойчы), адказвае так на запытанне душы Сафіі і душы мудраца:

– Шчасце... Гэта быць народжаным і пражыць сярод людзей тым жыццём, якім жывуць людзі.

– Ісціна ў крыніцы, з якой усё пачынаецца, – у жыцці!

Супермен, Міця Арыель – с ы х о д з я ц ь да людзей; так сыходзіць архангел Гаўрыіл на веткаўскай іконе "Дабравешачанне" да Дзевы Марыі – першы раз, другі і трэці раз. Зноў і зноў з'яўляецца яго постаць – з воблака, з-за антычнай калоны – дзеля таго, каб паведаміць добрую, цудадзейную вестку аб нараджэнні Ісуса Хрыста, чые імёны: "Выратавальнік", "Бог ёсць любоў". Шкада тых, каму не дадзена зведаць гэтае пачуццё, не любіць – значыць і не жыць. "А мне стала шкада гэтай жанчыны. Яна так і не зведала ні радасці, ні горычы, ні асалоды, ні пакутаў..., і многа яна не звєдала з таго зямнога жыцця". Гэта – аб Сафіі ("На кругі своя").

Героі твораў В. Чаропкі зноў і зноў прыходзяць у свет "с просьбой о любви" і дорачы любоў, якой заўсёды не хапала: звычайнай,

чалавечай, спрадвечнай, інтымнай, каб... "хоць аднаму, аднаму чалавеку зрабіць добрае" ("Адрачэнне ад цемры").

"Я прыйшоў у гэты свет, каб кахаць і быць шчаслівым..." ("Геній смерці")... Але ўсё ж, як хочацца, каб спусціўся з нябёсаў да мяне Божы вястун, як да Агары анёл. І на крылах ягоных зіхацела раса райскіх садоў ("Эрагенная зона").

Але ці трэба людзям боскія пачуцці, лепшае духоўнае жыццё? "Ім не трэба "Мальбара", – з горкай усмешкай кажа Супермен, – яны задаволены "Беламорам" ці ... помнікам-музеем Георгію Пераможцу, таму што... любіць – цяжка".

"О, гэтая зямля – запусцелая і зарослая ценем бязвер'я і бязбожжа, дзе людзі ад галавы да ног аструпелі, ад начальнікаў да простых анячысціліся гноем распусты! І пясок хавае сляды тых, хто нёс праўду, гонар, святло, веру і любоў. ...хіба гэта не пра Радзіму?" ("Эрагенная зона").

Відаць, самае цяжкае выпрабаванне для чалавека – сцвердзіць любоў. Лёгка ўвасці ў свет Буды, цяжка ўвасці ў свет д'ябла, – кажуць японцы. Бог і д'ябал – не дзенебудзь, а ў нас, усё – адзінае, непадзельнае: нірвана і ёсць сансара. Любы расток нескладана вырасціць у цяпліцы, але ж, відаць, сапраўдны сэнс жыцця – вырасціць зялёны расток сярод ільдоў. Бывае, усё жыццё напоўнена для некаторых шуканнем гэтага святла. Камусьці дастаткова ведаць, адчуваць, што цябе, напрыклад, любіць маці, каханы чалавек, брат, сястра, ці нават сабака...

Японскі майстар ікебаны XVI ст. Ікэноба Сэнью верыў, што на засохлай галінцы можна ўбачыць кветкі, і яны могуць выклікаць азарэнне (саторы). Вера мацнейшая чым смерць. "Вера" – так назваў Барыс Пятровіч тую сілу (у вобразе неіснуючай жанчыны), якая здолела ператварыць нікчэмнае, пустое жыццё Гоя ў велічнае жыццё чалавека.

Бог кожнаму дае па веры яго...

"Я не азірнуўся, каб не ператварылася яна ў цень і не засталася ў каралеўстве ценяў", – кажа галоўны герой "Эрагеннай зоны". Але куды вядуць гэтыя ўцёкі?

Магчымы ідэал прыгажосці і любові – жанчына (вобразы Веранікі (Нікі-Ніты), Алены, Іфігеніі, Вольгі) у творах Вітаўта Чаропкі нагадвае ўсяго толькі экзатычную кветку. Ёсць расліна ў трапічнай Афрыцы: кветка вырастае з тоўстай сцябліны, пры самым корані, і не расце ўверх, а тут жа рассцілаецца пялёсткамі вакол сцябла. Пялёсткі дасягаюць некалькіх – чатырох-пяці – метраў. Дзіўна – няма ніводнага ліста. Кветка надта прыгожая, відаць здалёк. Але, калі падыходзіш бліжэй, чуеш надта непрыемны пах. Падман, відзежа... А калі не падман, як гэта часта бывае, то каханне (царства любові) магчыма толькі на Тым Свеце: "дзве душы ляцелі над горадам, над тысячамі агнёў, што разліліся па лабірынтах вуліц" ("Геній смерці").

І ўсё ж – "памылка апраўдае мяне"...

**Ларыса РАМАНАВА**

# Ён працуе на заўтра

Вітаўта Чаропку яшчэ ацэняць нашыя нашчадкі. Бо мы, ягоныя сучаснікі, надта скупымі сталі чамусьці на пахвалу, на добрае слова, проста на ўвагу. Асабліва да людзей блізкіх — па справе, па духу, па жыцці. Пэўна, гэта перажыткі хваробы савецкіх часоў, калі панавала "кампліментарная крытыка": лепш прамаўчаць, каб не быць западозраным у тым граху... А мажліва, гэта рэцыдыў хваробы новай, імя якой абыякавасць... У любым выпадку гэта ненармальна, што пра творчасць пісьменніка, які прафесійна і плённа працуе ў літаратуры, фактычна не было публікацый — ні добрых, ні дрэнных: ні спагадлівых, ні востракрытычных.

Ды што казаць пра гэта, калі Вітаўт, адзін з найбольш яркіх і цікавых літаратараў — прадстаўнікоў майго пакалення, па сёння нават не сябар Саюза пісьменнікаў... Зрэшты, сяброўства ў Саюзе даўно перастала быць адзнакай, ну, скажам, творчай дасканаласці ды прафесійнасці, бо напрымалі туды апошнім часам такіх "членаў", што хоць сам выходзь... Імя ж Чаропкі "на слыху". Яму не было й дваццаці, калі напісаў ён гістарычны раман (ці ёсць яшчэ іншыя падобныя прыклады ў нашай літаратуры?). То былі гады, калі канала савецкая імперыя, калі шмат каго з тагачасных пачаткоўцаў і маладых хвалявала і вабіла слава Караткевіча. Па-добраму, па-нармальнаму на месца Караткевіча ў нас павінны былі прыйсці дзесяткі хлопцаў і дзяўчат, апантаных жаданнем стварыць сапраўдную беларускую гістарычную прозу, асвятліць усе самыя цёмныя і цікавыя куточкі нашай мінуўшчыны. Чаму ж не прыйшлі? Хто адкажа?

На жаль, збочыў з гэтае дарогі і Вітаўт. Пайшоў у "сур'ёзную" літаратуру і сур'ёзную (без двукосся) гістарычную навуку. Ягоныя кнігі прозы "пра сучаснасць" знайшлі, займелі свайго чытача, але найважнейшым здабыткам лічацца ўсё ж дзве таміны пад назовам "Імя ў летапісе" і "Уладары Вялікага Княства". Гэта

добра, аднак асабіста я чакаю часу, калі нарэшце скончацца ўсе літоўскія князі і Вітаўт кіне рыхтаваць глебу дзеля працы іншых, і сам возьмецца за стварэнне мастацкіх твораў пра час, які ён ведае лепш за іншых, прынамсі , лепш за тых, хто ведае мінуўшчыну... па ягоных кнігах. Вітаўт умее закруціць сюжэт (чытайце "Храм без бога"), умее адабраць самае важнае, не заблытацца ў падрабязнасцях, ён размаўляе са сваім чытачом не паблажліва, не звысоку, а як з роўняй, як з сябрам, якому ёсць пра што распавесці. Ён любіць свайго чытача, чытач любіць яго, а таму ў гэтай "творчай садружнасці" бачыцца мне вялікая будучыня.

Не мая справа аналізаваць ды цытаваць творы Вітаўта Чаропкі. Таму і не буду рабіць гэта. Я не крытык і нават не філолаг, я журналіст. Мяне вучылі глядзець паіншаму. Бачыць чалавека не праз ягоныя творы, а ягоныя творы праз яго (во як закруціў!). Гэта, відаць, кепска, няправільна з пункту гледжання літаратуразнаўства, аднак з боку чалавеказнаўства, мусіць, добра. Мне падабаецца ягоная неназойлівая ўпэўненасць у сабе і сціплая перакананасць у правільнасці таго, што ён робіць. За гэтым мне бачыцца вялікая праца, грунтоўнасць і ... беларускасць. Мне прыемна з ім гутарыць пра ўчора і сёння, перакідваючы масток у заўтра. Так, усё ўжо было. Нават тое, што яшчэ будзе. І нішто не вечнае... Мне таксама гэтым падабаецца гісторыя. Яна не суцяшае, яна дае ўпэўненасць у тым, што гэты час і гэты лад не назаўсёды...

Вітаўт адзін з тых нямногіх сёння пісьменнікаў, каго нельга папракнуць у тым, што ён мала піша. Нягледзячы на не самы спрыяльны для творчасці час, Вітаўт працуе даволі плённа. Ён не шукае апраўданняў. Ён робіць сваю справу. Не за грошы. І не дзеля славы. Гэткія "стымулы" не ёсць адзнака нашага часу. Ён дзівак? Так, але на гэткіх дзіваках і трымаецца свет. Ён працуе на заўтра. І ягоную працу яшчэ ацэняць нашыя нашчадкі.

**Барыс ПЯТРОВІЧ**

# Нараджэнне заўтра

Мне асабіста падаецца, што такімі пісьменнікамі, як Мележ і Караткевіч, становяцца адразу. І зусім не з "Мінскага напрамку" альбо з вершаў, раскрытыкаваных у мясцовай аршанскай газеце. Падаецца і цяпер. А на вачах, зусім паблізу, у адным рэдакцыйным пакоі, за адным столікам у таннай кавярні, проста ў адным выдавецкім калідоры – Вітаўт Чаропка. Хто ён?.. Па працы, вядомай чытачу, па пяці знаёмых

мне кнігах (дзве – з выдавецтва "Мастацкая літаратура", дзве – у выдавецтве "Полымя" пабачылі свет, адна – з "Бібліятэкі часопіса "Маладосць") – канешне ж, ён уяўляецца асобай легендарнай. Хто сёння да яго гадоў паспеў стаць такім актыўным папулярызатарам айчыннай гісторыі, прававеднікам нацыянальна акрэсленага жыццяпісу Айчыны? Скажаце: Арлоў Уладзімір... Памыляецеся. Ён жа пачынаў з прозы. Кніга "Добры дзень, мая шыпшына" пабачыла свет у 1986 годзе. А "Дзень, калі ўпала страла" – у 1988-м... Першы Вітаўтаў раман "Храм без бога" (чамусьці, Чаропка выразна падкрэслена сагрaшыў, дазволіўшы Усявышняму запісацца з малой літары), праляжаўшы пэўны адрэзак часу ў выдавецтве, усё ж пабачыў свет у юным узросце пісьменніка, які яшчэ праз два-тры гады пасля кнігі (гатовай для знаёмства з масавым чытачом) смела, безапеляцыйна заяўляў у друку: "Хто сказаў, што я пісьменнік..."

Але што мы ўсё пра асаблівасці, адметнасці творчай біяграфіі зусім як быццам не Караткевіча, а ўжо і не маладога Вітаўта Чаропкі. Мне асабіста ўсё роўна, хто ён, ці лічыць сябе ён пісьменнікам, ці ёсць у кішэні яго курткі (я не ўяўляю Чаропку ў касцюме, у кашулі пры гальштуку) пісьменніцкі білет. Каму патрэбны гэтыя ў прынцыпе дробязныя дэталі?! Хоць, адчуваю, што ў жаданні не зліваецца з агульнапісьменніцкай (у сэнсе – агульнасаюзаўскай) масай Чаропкам кіруюць амбіцыі, жаданне "покрасоваться" перад гісторыяй. Але перш за ўсё – перад самім сабой.

Ды толькі і гэта ў прынцыпе – драбяза. Зусім драбнюткая драбяза. Галоўнае заключаецца, відавочна, у іншым. Чаропка, падобна вялікаму свайму папярэдніку Уладзіміру Сямёнавічу Караткевічу, робіць адну галоўную справу... Сутнасць яе – у паслядоўнай і, зноў жа, усяго толькі, як мне падаецца, нястомнай працы па раскрыцці нацыянальнай гісторыі нашай Айчыны. У прадмове да другой кнігі В.Чаропкі – "Імя ў летапісе" (Мінск, 1994 год) Анатоль Сідарэвіч заўважыў наступнае: "Гісторык, як і пісьменнік, павінен прымушаць чытача думаць пра агульначалавечае: што ёсць дабро і што ёсць зло, у якіх адносінах знаходзяцца палітыка і мараль. Каб прымусіць чытача задумацца, трэба ведаць факты, шмат фактаў, ведаць час, у які жыў герой, ужывацца ў той час, у вобраз героя. Мне думаецца, што чытач упершыню атрымае кнігу, у якой пра дзеячаў нашай мінуўшчыны сабрана самая багатая сума фактаў. І ў гэтым каштоўнасць кнігі В.Чаропкі. Яшчэ адна каштоўнасць яе ў тым, што наша гісторыя паказваецца праз жыццё і лёс людзей, праз іх учынкі. У беларускай савецкай гістарычнай навуцы было наадварот: імёны

канкрэтных людзей усплывалі толькі ў сувязі з тымі гістарычнымі падзеямі, працэсамі, якія асвятляў аўтар. Гісторыя была дэперсаналізаваная. Чалавеку ж заўсёды цікавей чытаць пра чалавека".

Відаць, ужо сёння А.Сідарэвіч напісаў бы пра зробленае Чаропкам больш узнёсла. Усё ж тое, што робіць пісьменнік і гісторык (за плячыма ў якога – школа ды завод, вось і ўся адукацыя), зусім не звыклая, зараз ужо амаль што масавая белетрызацыя гісторыі. "Імя ў летапісе", а пасля і "Уладары Вялікага Княства" (цяпер В.Чаропка працуе над трэцяй кнігай персаналізаваных гістарычных нарысаў) – мастацкі і жыццёвы, калі хочаце, навукова-публіцыстычны выбар літаратара. Пісьменнік імкнецца разабрацца ва ўчарашніх перыпетыях нацыянальна-гістарычнага лёсу Айчыны. Імкнецца зрабіць гэта на падставе канкрэтных фактаў. Літаратар не займаецца версіфікатарствам згодна той або іншай сацыяльна-палітычнай сітуацыі. В.Чаропка піша згодна перакананню, зыходзячы з адной толькі пазіцыі – гісторыя павінна працаваць на будаўніцтва Краіны як галоўнага храма.

... У свой час Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч выклаў сваю літаратурную, жыццёвую праграму наступным чынам. Спланаваў зрабіць за адведзены час 78 (!) тамоў. Памятаеце?..

1–2 тамы – Вершы. 3 – Легенды. 4–5 – Паэмы. 6 – Раман у вершах. 7–8 – Апавяданні. 9–10 – Аповесці. 11–15 – Раманы гістар. <ычныя>. 16–20 – Раманы сучасныя. 21–35 – Серыя "Век". 36–37– Казкі і літ. <аратура> для дзяцей – у стылі Г.Х.Андэрсена. 38–39 – Фантастычнае. 40–43 – П'есы. 44–45 – Запісы фальклору. 46–47 – Мемуары. 48–49 – Шляхі <дарожныя нататкі>. 50 – Малая спад. <арожная> кніжыца. 51–52 – Крытыка. 53–56 – Гіст. <орыя> бел. <арускага> мастацтва (арх. <ітэктура>, жывап. <іс.>, муз.<ыка>, скульпт. <ура>. 57–58 – Біяграфіі. 59–61 – Гісторыя Белай Русі. 62–64 – Пераклады. 65–67 – Ліставанне. 68 – Пегас дыбкі ("Пегас", "Пегас б'е задам", "Утаймаваны Пегас", "Перакітаіць кітайцаў"). 69 – Паляўнічае. 70 – Гіст. <орыя> бел. <арускай> літаратуры. 71–72 – Кінасцэнарый, лібрэта. 73–75 – Публіцыстыка, навука. 76 – "Вы, беларусы" (прызыў да іх вярнуцца). 77 – Абарона мовы беларускай. 78 – Кніга пра працу пісьменніка (тэорыя літаратуры).

Чамусьці мне падаецца, што многае з задуманага славутым папярэднікам, з акрэсленага ім на пачатку творчай дарогі пад сілу і Вітаўту Чаропку.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Мы, тыя, хто пісаў вершы, заўжды даволі актыўна выказваліся адзін пра аднаго: у вочы і за вочы, добра і дрэнна. А ён не быў паэтам, таму быў для мяне проста Празаікам, зусім безадносна да вартасці і зместу яго твораў. Але тое-сёе з напісанага Чаропкам я ўсё ж прачытаў.

Ад яго "Генія смерці", як мне падаецца, крыху тхне булгакаўскім "Майстрам і Маргарытай". Гэта не адзіны твор Чаропкі, дзе ў аздабленні лёгкай містыкі прысутнічае тэма смерці. І калі я спыніўся на "Геніі...", варта згадаць такі выпадак.

Аднойчы Чаропка запрасіў мяне дадому паглядзець сапсаваны магнітафон. Не помню, ці ўдалося мне яго адрамантаваць, але ў пакоі Празаіка я пабачыў таго самага ката́, на сцяне вісеў той самы абраз і яшчэ было шмат чаго з таго, што потым прачытаў на старонках "Генія". Толькі, як я пісаў вышэй, для мяне было дастаткова аднаго ўсведамлення, што Чаропка – Празаік, і ў яго ёсць нейкія творы і нават геніяльныя кнігі.

Некалі я пазнаёміўся з Вітаўтам Чаропкам на літаб'яднанні "Крыніцы" пры газеце "Чырвоная змена" (потым пры часопісе "Першацвет"). Ужо тады Чаропка здаваўся мне значна старэйшым за іншых. Ён і Верацiла. Яны былі маімі "Марксам і Энгельсам" і доўга ўспрымаліся толькі разам. З таго недалёкага часу мала што запомнілася, бо ў памяці застаюцца пераважна факты, калі ж словы, дык часцей звязаныя з нейкімі ўчынкамі, а іх тады закрыла аўра новага для мяне свету – свету літаратуры. Хоць адно помню. Сівавалосы Чаропка бегае па калідоры, спрабуе загнаць нейкі ці то мячык, ці то шарык з цокальнага паверха на першы.

Беручы ў рукі асадку, я нават прыблізна не ведаў, пра што буду пісаць. Але нечакана нешта ўспаміналася, звязвалася, выстройвалася ў агульны шэраг. Вось гэтак жа і цяпер, на гэтай старонцы, я раблю для сябе маленькае

**Чаропка**

адкрыццё – я зразумеў, чаму для мяне дастаткова толькі аднаго ўсведамлення, што Чаропка – Празаік, чаму мне нават нецікава зазірнуць у ягоныя кнігі. Усё проста: Вітаўт – рэлікт майго далучэння да літаратуры. На гэтых словах можна было б і спыніцца, але хачу згадаць яшчэ адну гісторыю.

Адным разам я сустракаю Вітаўта ў коле агульных знаёмых, і ён, што называецца, з парога: "Зноў – Гарачка. Куды ні ткніся – Гарачка. Разумееце, "Полымя" нядаўна адкрываю – і там Гарачка". Сустракаючыся з праявамі чалавечай слабасці такога роду, рэдка калі ўва мне абуджалася спачуванне да іх носьбітаў. Хутчэй – іронія, насмешка. Не абудзілася яно і гэтым разам. Але заўсёдных насмешкі, здзеку таксама не было.

**Уладзіслаў ГАРАЧКА**

# Чаропка-"морфік"

*"...Надышоў пачатак такой вальпургіевай ночы. Гара тады стаецца долам, дол гарой. Здарэнні бягуць адно за адным, бадай што без прычыны. Нішто тут псіхалагічна не ўматывавана, у процілегласці да пэўных аповесцяў, дзе гэтак званую праблему сексуальнай любві, старанна схаванай, каб яшчэ больш бессаромна біла ў вочы, лічаць за цэнтральны пункт быцця. Шлюб беспасажнай дзяўчыны з мяшчанскага асяроддзя гатовыя ўсвяціць як від вызвалення.*
*Зноў надышоў час, калі Сабакі Дзікага Паляўнічага парвуць ланцугі. І для нас разарвалася нешта – вышэйшае права маўчання".*

**Г.Майрынк. "Ночы Вальпургіі".**

Пераход ад містыцызму тыпу трайбалістычнага да арфічнага стаў ужо агульным месцам; толькі, можа, дзеля формы літаратуразнаўцы задаюць часам рытарычнае пытанне: як, маўляў, вядомы гісторык адважваецца выступіць з фрэнетычнай аповесцю, ці як гэта вандруюць з абжытага мацерыка прозы па астравах сумніўнай паэзіі.

Ж.Дэлёз і Ф.Гватары ў кнізе "Анты-Эдып: капіталізм і шызафрэнія" пытанне суадносінаў паміж грамадскім і асабістым вырашылі кампрамісна – чалавек у сучасным капіталістычным свеце бадзяецца паміж дву-

ма полюсамі –паранаідальна-рэпрэсіўным і шызоідна-рэвалюцыйным, – як маятнік гадзінніка. Літаратура, якая імкнецца адлюстроўваць інтарэсы грамадскай групы, клана, партыі, ("tribe" па-ангельску "племя"), ніколі не бывае вольнай ад праяў аўтарскага *"чалавечага, надта чалавечага"*, адначасова скрайнія індывідуалісты, замыкаючыся ў вежы са слановай косці, рана ці позна знаходзілі свой канал масавай поп-культуры. Паміж простым, як мычанне, "Мы" і асліным "Я" розніца тая, якая можа быць уключана ў супрацьстаянне бясконцага скончанаму і абмежаванаму; кожнае "Мы" складаецца са шматлікіх "Я", якія самі яўляюць прадукт пэўнай гістарычнасці, уласцівай чалавеку, упісанай у глыб яго істоты, што дазваляе ўплываць знутры на вонкавае атачэнне, выклікаць пасоўванне культурнага тла з усталяваных пазіцый.

Нядоўгі час прайшоў ад выхаду ў свет гістарычнага рамана В.Чаропкі "Храм без бога" (1992) да публікацыі яго аповесці "Эрагенная зона" ў "Калосьсі" (1995), але розніца паміж творамі настолькі паражальная, што аўтарства адной толькі асобы лягчэй прыняць як фантастычную гіпотэзу, чым факт рэчаісты.

Што агульнага мае гістарычны раман са струменем хворай свядомасці, шалёнай постмадэрнісцкай галаваломкай з сексалагічнай назвай?

Ці так ужо супярэчныя ўяўны рэалізм гісторыі і правакацыйны анархічны бязлад трансгрэсіўна нахабнай авангарднай метадалогіі?

Гістарычная літаратура заўсёды служыла групавой кансалідацыі заўсёды нечага пазбаўленага – ці то класавай свядомасці, ці гістарычнай памяці этнасу. Мяжа паміж афіцыёзам савецкага гістарыцызму і адраджэнскімі гісторыкамі пралягла ў XVII–XIX стст., калі гісторыя гераізму – індывідуалістычная, у якой дзейнічаў чалавек як аб'ект і суб'ект гісторыі, саступіла гісторыі сацыяльных адносін. Шчырае жаданне і добрая воля шукальніка варункавалі праўдападобнасць святла неабвержных фактаў. Наша гістарычнае мінулае пад рознымі ідэалагічнымі сімваламі нагадвала нагрувашчванне размаітых рэчавых доказаў, ці, як у борхесаўскім "Тлене" называліся прадметы інтэнцыянальнай археалогіі–"хроніраў", выкапаных добрасумленнымі работнікамі мроі. Слова гэта – "Мроя"– утрывалілася як нейкая непазбежная асаблівасць нацыянальнай неахвоты – сімвал прагрэсіўнага характару адраджэнскага глюку. "Сны аб Беларусі" сніліся, як Веры Паўлаўне сацыялізм, а пунсовыя ветразі – Асолі. Таму нядзіўна, што цудоўныя падзеі эрагеннага твора В.Чаропкі адбываюцца ў сне –

царстве Марфея. Ён нагадвае пра п'есу Кальдэрона дэ ла Баркі "Жыццё ёсць сон", указваючы на "марфічны" характар блуканняў і пакут героя. З'яўленне белага каня ў канцы аповесці таксама прымушае пільнага чытача згадваць (кашмар па-англійску Night Mare – "Начная Кляча").

Якія ж сны бачыць у сучаснай рэчаіснасці гісторык Чаропка, якое ў яго "сон-жыццё"?

Тэмы гістарычных твораў В.Чаропкі – паўстанні, бунты, здрады, увязненні і вызваленні. Хоць у лабірынтах сюжэтных ліній "Эрагеннай зоны" цяжка вылучыць утваральную аснову, якая магла б служыць нейкім намёкам на тэму, падобна на тое, што тэма застаецца тая ж самая – здрада, каханне, імкненне да вызвалення з няволі – усё "*пра Радзіму*". Уплыў гісторыка Вітаўта Чаропкі на сюжэтныя вузлы "Зоны" і постаці Віктара Чаропкі на лёсы гістарычных асобаў яго іншай творчасці двухбаковы і ўзаемны. Гістарыяграфія адраджэнскіх літаратараў была бунтарскай у стасунку да афіцыйнай ідэалагічнай сістэмы не столькі, як дэмакратычная апазіцыя таталітарнаму істэблішменту, колькі ўтварэнне анахранічнае, накшталт марктвэнаўскага "Янкі пры двары караля Артура", альбо наадварот, цынічнае, пазбаўленае этычных арыенціраў грамадства яўляе кантэкст, у якім анахранізмам выглядае постаць з няўчаснай самасвядомасцю і незвычайнай асобай.

Індывідуалістычныя імкненні рускай літаратуры не прымаюцца героем "Зоны"; ён не хоча быць "лішнім чалавекам", жадаючы давесці, што можа быць "кімсь" і адначасова "нікім".

Бінарную прыроду асобаў, пазбаўленых маёмасці, грамадскага статута, сацыяльных сувязяў у культурнай прасторы– лімiналаў, – даследаваў В.Тэрнер як феномен архаічнай культуры ў кнізе "Сімвал і рытуал". Лімінальныя, альбо "парогавыя", асобы не падлягаюць класіфікацыі, вольныя ад стану, умоўнасцяў, цырымоній, правілаў паводзін, прадпісаных законам, абавязваючым у даным грамадстве. У архаічным соцыуме – першабытных плямёнах і гуртах – лімiналамі, абавязкова падвойнымі, рытуалізуючымі сацыяльныя і культурныя пераходы з'яўляюцца падлеткі ў перыяд праходжання абрадаў ініцыяцыі. Яны павінны набыць новыя рысы, якія дапамаглі б ім асвоіцца з новым становішчам у грамадстве. У лімінальнасці праяўляюцца рысы нейкай альтэрнатывы, нараджаецца новая сацыяльная структура, "з падлеткаў складваецца пакаленне".

Культурны герой Чаропкі адмаўляе ўсё, што перашкаджае, уціскае, прыгнятае яго пяшчотную душу. У яго самыя простыя дэмакратычныя патрэбы – каханне, га-

рэлка, свабода слова (показкі распавесці), яму ж прапануюць любоўныя пакуты і турэмную камеру. Часам, аднак, герой выглядае надта натуралістычна ў сваім шчырым да эксгібіцыянізму самавыяўленні, таму і літаратурная якасць штучнага эстэтычнага бунту, успрынятага як санкцыя на ўсёдазволенасць, выклікае часам рэакцыю, падобную да той, якую адчуў Венічка Ерафееў, прачытаўшы радок-другі лімонаўскага "Эдзічкі": "Не магу гэта чытаць, бо мне рыгаць нельга".

Празмерная шчырасць *sincérité plus que nobleuse*, гвалтоўна навязаная чытачу як хабар, які даюць, каб заручыцца даверам, каб урэшце спадабацца, спакусіць, скарыстаць; споведзь без пакаяння падобная на нарцысічнае самахвальства, а не досвед адчаю, але, таксама, і на французскі экзістэнцыяльны "чорны" раман, крута замешаны на псіхааналізе, кашмарах, алкагольных галюцынацыях, павярхоўным атэізме, сексуальным містыцызме, які, нібы шматы ўжыванага адзення, уцягнуты ў сучасныя беларускія рэаліі, заканчваецца традыцыйным прарывам "у нішто" – свабоду.

Усё раптам знікае.

Як сон.

Ад "Храма без бога" лёгка перайсці да Бога без храма. Жанчына без кахання можа прыносіць боль, але хто б паверыў у каханне без жанчыны?

Герой "Зоны" апынуўся самнасам на апошняй старонцы аповесці, не жадаючы азірнуцца, каб каханая "*не ператварылася ў цень у царстве ценяў*". Чаго варты памяркоўны Арфей, які вырашыў выконваць правілы гульні? Не надта верачы ва ўласныя сны, хто паверыць у сны чужыя?

Можа, і абуджэнне таксама сон?

Скончылася "нешта", якое адпачатку паабяцала быць "нечым", нават, калі яно будзе "нічым".

Скончылася гісторыя.

Праспалі.

**Дзмітрый СЕРАБРАКОЎ**



# Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

*Не для вас пішу. Не для сябе.*
*Вось цяпер,*
*пры гэтай лямпе цьмянай,*
*З водбліскам гардыні на ілбе,*
*З беднай зоркай у акне туманным, –*
*З кім вяду бясплённы дыялог?*
*Перад кім мая начная споведзь?*

***

Не падкажуць на развітанне,
дзе чакае Харонаў човен.
Давядзецца самому крочыць уздоўж
балоцістых берагоў,
У цямрэчы, па самай твані,
з камарыным піскам над вухам
(я не веру, што ёсць балота —
хай за светам — без камароў).
Будзеш доўга ісці і падаць,
Добра, сам сябе не пабачыш,
перапэцканага дарэшты.
Пад нагою нешта слізгае —
ці то жаба, ці то гадзюка.
Што за клопат? Ты — ужо мёртвы.
Шлях бясконцы, гразкі і ціхі.
Не пляскочуць у Стыксе хвалі.
Ну, каб ведаў — не паміраў бы.
Дзе басяцкі той перавозчык?..
Анічога нідзе.
І нават
Разумееш —
Што й не было.

## КЛЯШТАР

Каменная вежа на фоне адлігі.
Вада ў каляінах люструе аблокі.
Ідуць да калодзежа ціхія мніхі,
Крывавыя звады віруюць далёка.
Раз'ятраны Арэс у шлеме пагнутым
Разводзіць і зводзіць аслепленых
злосцю.
Брунгільда над чашаю,
поўнай атруты,

Чакае цара пераможнага ў госці.
“Бог за намі”, —
гарлаюць абодва натоўпы.
Як гэта далёка.
Як гэта дарэмна.
Каменныя вежы, нібыта цыклопы,
Ахоўваюць востраў кляштара
таемны.
Шаргочуць малітваў нягучныя
словы.
Работа няхітрая па гаспадарцы.
А звону няма.
Бо метал адмысловы
Спатрэбіўся воям —
каб зброяю стацца.
Тут сэрцаў — ні смерцю крануць,
ні дарамі.
Тут — вечная ціша і вечная любасць.
А ў гразкай калюзе ля самае брамы
П’е неба груган
акрываўленай дзюбай.

## ІКАР - ПАСЛЯ...

**1**
Не ўзняцца — таму,
хто заручаны з сонцам.
Яго пацалунак — цудоўная смерць.
Упасці...
Люстэркам крывым раскалоцца,
І кожным асколачкам —
бліснуць паспець.
А што, як не воск быў замяккі —
а сэрца,
Падступна —
як свечку ў царкве заламаць —

І ты не разбіўся.
Жывеш — як жывецца.
І нават у багне спрабуеш спяваць.
Аслеплы, аглухлы,
пазбаўлены крылаў,
Жывеш у краіне балотных людзей,
І раску зганяеш да купін бяссіла,
Каб сонца адбілася ў чорнай вадзе.
Памры ж!
А табе ўжо кугічуць: "Патрэбны!"
І ёсць апраўданне бяскрылым гада́м.
Якое, аднак, непрытульнае неба...
А можа, сапраўдны —
застаўся ты там?
Не!
Клічуць гарластыя жабы балота,
І п'яўкі спраўляюць крывавы абрад.
І сам забываешся —
скуль ты і хто ты,
Ікар, Фаэтон ці Панційскі Пілат?
Такі шараговы...
Аблеплены тванню...
Васковае сэрца —
з адбіткам стралы...
...Маё існаванне —
маё пакаранне.
Былы — не памерлы — былы...

## II

Ты — анёл,
абпалены ўласнай гардыняй?
Раскажы, як знікаюць крылы.
...Я бяссілы...
Ты — птах?
У вачах тваіх — неба сіняе.

Раскажы, як знікаюць крылы.
Я бяссілы.
Ты — герой,
прагай вышняга ў неба ўзняты?
Я — пракляты...

## ПОЗНА

Закончыўся вечар у сінім тумане.
Ізноў прасвятляюцца вочы іконаў.
І горад, які існуе на спадмане,
Каменныя спіны згінае стамлёна.
За гэтым акном —
ні кавалачка неба.
Шаргоча, вуркоча начная дарога.
Гніе сарцавіна Адвечнага Дрэва,
Галіны ля райскага ссохлі парога.
Ад сэрца — да сэрца —
праходзіць цямрэча,
І гасіць,
як свечкі па службе царкоўнай.
І зноў загараецца лёс чалавечы
Ад ціхага слова,
ад цёмнай іконы.
Сусвет рассыпаецца дробнасцю
светаў,
Вялікасцю хрусткай
карон маскарадных.
І свеціцца поўня ў вачніцах паэтаў,
Да працы карыснай
зямной непрыдатных.

## ШЧАСЛІВАЯ

Ці Цэзар, ці ніхто.
Чакаць зацята,

Фіранкі непразрыстыя завесіць.
І сыпаць у камін сухую мяту,
І ля агню пісаць, пісаць і крэсліць...
І ўсё чакаць...
Ці Цэзар, ці самота.
А прыйдзе ён — стары,
знямоглы, брудны...
Ён — толькі што з каня.
Ён піў з балота.
Час на ілбе яго накрэсліў руны.
Ён зойме ложа, крытае вісонам,
Не для кахання —
выспацца з дарогі.
І раніцою рушыць легіёны
Да новай легендарнай перамогі.
Падымеш перакуленыя вазы,
Дап'еш віно
з яго пустога кубка.
Завесіш вокны.
Перамысліш фразы.
І да агменю зноў працягнеш рукі.
Ці Цэзар, ці ніхто...
Няхай мястэчка
Віруе ад неверагодных плётак.
Ты зноўку нешта пішаш
кожны вечар,
І зноў на вуснах адчуваеш дотык.
А побач —
шчасце са штодзённым супам,
І пацалункам, звыклым,
быццам грошы.
А ты ў самотным доме шэпчаш:
"Любы..."
А хто —
ні ўспомніць, ні ўявіць не можаш.

***

Паўстане з хваляў часу Авалон,
Праб'е на вежы замкавы гадзіннік.
Сівы кароль парушыць доўгі сон,
Змахне пальчаткай з твару
павуцінне.
Кароль уздыме рыцараў сваіх,
І подлы люд змяшаецца з гразёю...
Але няма між выбраных — дваіх.
Дзе каралева і найлепшы з вояў?
Таемнай жарсці грэшнай у палон
Яны калісьці трапілі навечна.
Не ўстануць да жыцця.
На іх — праклён.
І больш ніхто іх еднасць
не аспрэчыць.
А як любіў кароль чароўны бляск
Яе вачэй, і ціхую пяшчоту
Яе далоняў... Быццам першы раз,
Узрушваў кожны самы лёгкі дотык...
Але — не мог яе не асудзіць
Ён, хто закон і помсту ўвасабляе.
І засталася ў прывідным жыцці
Яна, бясплотны цень...
Але — кахае,
Кахае — не яго...
Навошта — суд,
Які не можа шчасця даць нікому?
Навошта жыць, калі яна — не тут,
І нельга не аддаць яе другому?
І выпусціць кароль іржавы меч,
І счэпіць на грудзях знямогла рукі...
І мантыя спаўзе з шырокіх плеч,
Суцішацца ўсе колеры і гукі.
У цемру зноў сыходзіць Авалон.

І засынаюць рыцары і коні.
І не парушыць болей іхні сон
Ніякаю малітваю, ніколі.

***

Першая. Апошняя. Чужая
Чара вечнай ісціны жыцця.
Мне няма пакласці што на шалі,
І не злітасціўіцца суддзя.
Ноч перацякае падаконне
Водарам язміну і нуды.
У каменных сотах — сто агоній
Бедных душаў царства нематы.
І ніяк, ніяк мне не ўсвядоміць,
Дзе напрацаваны намі мёд,
Ці ў нябёсным, недасяжным доме
Робяць свечкі з воску нашых сот?
Ці ў начы, сасмяглай ад спякоты,
Кіпень пераварыцца жыцця,
І сцякуць у глебу мёд і соты,
І абрыне шалі ўніз суддзя...

## ДУАЛІЗМ СРЭБНАГА ВЕКУ

Халодны позірк Апалона,
Дыянісійскі цёмны шал
Па-за жыццём,
па-над законам.
Гляджуся ў крышталёвы шар,
У кроплю, дзе — адбітак свету,
Сляпое вока бажаства,
Дзе зліўся ў белы колер ведаў

Вітраж зямнога хараства.
А там, за сценамі кумірні,
Вакханкі ў міртавых вянках,
Іх целы пахнуць мёдам вінным,
І скачуць бубны ў іх руках.
Як гэта проста, як натхнёна —
Згубіцца ў карагодзе іх.
І стрэлы-промні Апалона
Не выб'юць чару з рук маіх.
Але — між мармуровых сценаў
У прахалодзе й цішыні
Са мной вядуць размовы цені,
Размовы поўняць сэнсам дні.
Плывуць у глыбіні крышталю
Карціны велічы зямной.
Усё міне, і варты жалю
Былы ўладар, былы герой.
І для чаго ламаць зацята
Тугое голле юных лоз,
Калі састарацца менады,
Калі віно згарчыць ад слёз.
І толькі мокрая лістота,
Дзе карагод кружыў, гніе...
...А вечар светлай адзіноты
Такі ж, як раніца яе.

***

Не для вас пішу. Не для сябе.
Вось цяпер,
пры гэтай лямпе цьмянай,
З водбліскам гардыні на ілбе,
З беднай зоркай у акне туманным, —
З кім вяду бясплённы дыялог?
Перад кім мая начная споведзь?

Не наважуся прамовіць — Бог.
І ніколі — праўды не прамовіць.
Ціша разліваецца — ці гук?
І няма самоты ў час вызнання.
І аловак выпадае з рук,
Быццам важыць болей за чаканне.
Твар у твар з сабой пературываць —
Гэта не з люстэркам дамаўляцца.
Ноччу распрамляецца трава,
І слядам не суджана застацца.
Дык пры чым да гэтай прагі жыць,
Да пакутаў гэтых і любові
Той, хто смутным вокам прабяжыць
Па рашотках чатырохрадкоўя?
Не, няхай галодны Мінатаўр
Сцішыцца ў замкнёным лабірынце.
Хай сляды губляюцца між траў
На далёкім рамантычным Крыце.

 





# Герман КІРЫЛАЎ

*Знелюбіў,
знявідзеў ён чаргу
і гэтую краму.*

 

# ЧАРГА

*З аповесці "Недзе ў мястэчку"*

Яшчэ на чыгуначным пераездзе Раман пачуў ціхую гаворку з вуліцы Маякоўскага, з таго месца, дзе была прадуктовая крама. Чарга ўжо стаяла.

Звярнуўшы з Вакзальнай на Маякоўскага, убачыў пад сцяной хаты, ля дзвярэй, коса перакрэсленых белай ад інею штабай, чорную на прывідным упоцемках снежным покрыве кучку сцюцюраных постацяў. Падыходзячы бліжэй, вылучыў позіркам на самым ганку колькі чалавек у сялянскіх доўгіх бармах, з заінелымі башлыкамі на галовах – яны, вяскоўцы, калгаснікі, ці прытупалі праз ноч з недалёкіх хутароў, ці, падначаваўшы ў каго са сваякоў альбо знаёмых у мястэчку, прыспелі сюды загадзя. Канечне, рабілі такія ходкі не першы раз, ведалі, што трэба заняць чаргу раней за местачкоўцаў, каб ужо гарантаваць сабе пайку хлеба.

Раман падвярнуў да крамы. Яна займала адзін канец звычайнай, рубленай з бярвення, хаты, які гаспадар здаў у арэнду мясцовай кааперацыі.

– Хто крайні?

– Мы крайнія, – жвавай сініцай павярнулася да яго невысокая дзеўчынёха, захутаная па вочы ў матчыну цёплую хусту. Па ценькім, прыемным галаску ды прыкметных раскосінах вачэй на скуласценькім тварыку Раман пазнаў Дзінку. Сустракаў яе, ходзя-

чы да дзеда. Вучылася ў пятым ці шостым класе, была з мнагадзетнай прыезджай сям'і; матка сядзела дома з немаўлём, жылі на бацькаву зарплату, ён рабіў нейкім чынам у райвыканкоме, выпіваў.

– А вы за кім? – Раман пазнаў і Дзінчыну сяброўку-аднакласніцу, трохі вышэйшую за яе, яна жыла тамсама ў завулку за ягонага дзеда хатаю.

– Во за ёй, – паказала Дзінчына сяброўка на хваравітарыхлую бабу Шкарлапіху.

– Во за гэтай цёценькай, – пацвердзіла і Дзінка, зірнуўшы на жанчыну.

Хто не ведаў у мястэчку бабу Шкарлапіху! Вострая на язык. Удава, муж не вярнуўся з вайны, жыла з дзвюма дочкамі, абедзве раслі па матцы гладкімі, як клёцкі; адна ніяк не магла закончыць сем класаў, другая – хадзіла ў шосты, абедзвюм ужо ў галаве былі кавалеры.

– А перада мной яшчэ цётка, – паведаміла Шкарлапіха сваім па-мужчынску грубаватым голасам. – Ды перад ёй яшчэ двое.

– Ясна, – сказаў Раман. У чаргу трэба было ўсталёўвацца грунтоўна: ведаць мінімум двух-трох чалавек, што перад табой. Меў аднойчы прыгоду: заняў месца за незнаёмым мужчынам, а той некуды сышоў і не з'явіўся. Давялося тады даказваць, што ён на самай справе стаяў. Стаяць у чарзе значыла трохі болей, чым проста стаяць. Трэба было дастаткова доказна засведчыць сваё права на месца ў гэтай часовай людской супольнасці.

Раман прыткнуўся ля сцяны, дзе снег быў убіты ранейшымі чэргамі да лёду.

– Дык вы, козы, цяпер бяжыце дамоў, у цяпло, – параіла Шкарлапіха Дзінцы з сяброўкай. – Чаго вам тут таўчыся? Змерзнеце на костку. Скажам, што вы стаялі. І малады чалавек пасведчыць за вас.

– Хіба пойдзем, Зінуля? – спыталася Дзінка ў сяброўкі, а сама хітравата паглядзела на Рамана: што ён скажа?

– Па мне ідзіце, – згадзіўся Раман.

Абедзве мала што не з падскокам пусціліся праз вуліцу, на звонкую ад марозу сцежку ў той бок, дзе была і хата Раманавага дзеда.

Стоячы за Шкарлапіхай, Раман узяўся зрабіць для сябе, як зазвычай, такія-сякія падлікі. Пачынаючы з галавы чаргі, за мінусам заінелых ад башлыкоў да валёнак вяскоўцаў, было чалавек восем. На кожнага з гэтых трэба прылічваць сама мала двух-трох, а то і чатырох – на разбор хлеба прылепяцца прышлыя, якія будуць бажыцца-клясціся, што “стаялі”, займалі чаргу, і ніхто іх не абвергне, свае ўступяцца гарой за сваіх. Хоць большая частка тых “прыліпалаў”, "прытыкішаў" палезе нахабна, і блізка раней тут не быўшы. Шкада, што ў яго не было ў мястэчку ні “знаёмства”, ні “блату”. Ды ён, відаць, проста не здатны быў бы маніць людзям у вочы, хітрыць, спрачацца з праведным запалам, лезучы без чаргі.

Як водзіцца, наляцяць хмарай розныя льготнікі – яшчэ чалавек дваццаць – трыццаць. А затым папруць нахрапам – хто дужшы, той і першы, яшчэ плюсуй чалавек дваццаць. А звычайна ў будцы, з якой з’явіцца хлебавоз Альшэўскі, боханаў семдзесят з нечым. Застанецца з гэтай колькасці дзесятак, плюс-мінус тры – шэсць, на якія можна будзе разлічваць. Гэта ў лепшым выпадку. У горшым – ніводнага. Было яму, што вяртаўся з пустымі рукамі. Трэба настройвацца і на такі варыянт.

За што ён не любіў – якая там магла быць гаворка пра любоў! – ненавідзеў чаргу, дык вось за гэтую кожны раз няпэўнасць: або дастанеш бохан, або не. Лічылася, што хлеб прадаваўся па чарзе, як недзе сам чытаў і як любіў паўтараць “народны заступнік” Кузьміч, – “в порядке живой очереди”, а на справе выходзіла – як каму ўдасца, хто як здолее дабіцца да прылаўка.

Знелюбіў, знявідзеў ён чаргу і гэтую краму. Як толькі пайшоў у восьмы клас мястэчковай сярэдняй школы, за-

кватараваўшы ў дзеда з цёткай, так усю восень і зіму разы па тры на тыдзень хадзіў сюды па хлеб. На ўрокі яму было ў другую змену. Цётка будзіла задоўга да світання, здавалася – ён толькі-толькі разаспаўся, давала рубля з капейкамі і ён плёўся ў краму. Яшчэ добра, было недалёка. Пакорліва згаджаўся: не ісці ж старому дзеду ці хваравітай цётцы, на руках якой была хатняя гаспадарка. Дзякуй Богу, цяпер, як перабралася ў мястэчка ўся іхняя сям'я, а ён стаў вучыцца ў новай школе ў першую змену, па хлеб хадзілі маці альбо бацька. Цяпер канікулы, маці прыхварэла, бацька збіраўся на працу на станцыю, выпала яму.

Прыйшла, заняла чаргу чыгуначніца, дзяжурная з пераезда. Нябось, ёй належала пайка хлеба як прыпісанай да станцыі. Усе "ўжэнднікі", як у мястэчку па-даўнейшаму называлі тых, хто быў на якой-небудзь дзяржаўнай службе, мелі такую прывілею. Магчыма, гэтай жанчыне, прыстаўленай да шлагбаума, яе праца не давала права на пайку, а магчыма, таго, што ёй перападала, не хапала на яе вялікую сям'ю.

Цяпер, як занялі чаргу за ім, Раман мог бы таксама адысці дахаты, каб вярнуцца ў патрэбны час: месца ягонае было зафіксавана надзейна як спераду, так і ззаду. Але не хацеў рызыкаваць: у мястэчку яго ведалі яшчэ слаба, папоцемку не ўсе маглі б нават запомніць, пасля дабівайся свайго права.

Напаўголаса гаманілі аб сваім вяскоўцы. Дачакалася хаўрусніцы, разгаварылася з чыгуначніцай Шкарлапіха. Раман і астатнія маўчалі. Усе прытупвалі, варушыліся, як бы кожнага даймалі, вярэдзілі пад вопраткай мурашкі, – мароз на згоне ночы мацнеў, скварыў. Раман з вінаватай удзячнасцю прыгадваў матчыны клопаты аб ім: як не гвалтам змусіла яго паддзець яе старую вязаную кофту, а на ногі нацягнуць і падвязаць над каленямі яе ж панчохі з ваўняных нітак. І ўсё адно на гэтым сквары чуўся так, нібы цела было прыкрыта лёгкімі лісцінкамі. Даводзілася тупаць, церці плечы, сцёгны, калені, прыкладваць да носа і шчок рукавіцу.

Колькі ж там на градусніку? Усё вакол аб'інела, дрэвы стаялі ў цемрыве белымі прывідамі. Нават на бярвеннях хаты, у якой мясцілася крама, бялела марозная сівізна, а ў пазах, на касмылях спрэлага моху густа кучаравілася шэрань. Клямка, жалезная штаба на дзвярах крамы здаваліся напаленымі дабяла: вазьміся за іх голай рукой – скура схопіцца крывавым агнём.

А час цягнуўся так пакутліва марудна. Раман раз-пораз прыслухоўваўся: ці не адзавецца з боку моста, з рупара на слупе радыё. Мясцовы радыёвузел пачынаў траисляцыю з шасці гадзін па-маскоўску. У нецярпенні нават прыўздымаў з вуха туга падвязаны клапан шапкі – не, маўчыць.

Прыцягнулася яшчэ некалькі чалавек у чаргу. А застаўся стаяць толькі дзядок з бародкай, як у Калініна.

Мароз даймаў. Раман ужо перастаў чуць пальцы на нагах. Ва ўсім целе, здавалася, застаўся толькі маленечкі згустак цяпла недзе пад сэрцам. Нават кратацца было боязна, каб не расплёскаць тое запаветнае цяпло. Але варушыўся, цёр шчокі, калені.

Як іскрай дало ў галаву, калі пачуў раптам, як з рупара звонка праліліся пазыўныя Масквы. Раз, затым яшчэ і яшчэ. Рэзанансам адазваліся гэтыя ж пачатковыя ноты славутай песні "Широка страна моя родная" з рупара па той бок рэчкі, на плошчы. Гэта толькі ўзмацніла шчымлівую чуллівасць мелодыі. А цераз кароценькую паўзу дыктарскі голас урачыста, гулка, на ўсё мястэчка – нехта, нябось, пачуў і праз сон – абвясціў: "Говорит Москва!" І зараз жа важка, магутна хлынуў гімн Савецкага Саюза.

Цяпер зрабілася нават трохі весялей – хоць па радыё можна арыентавацца, калі чакаць хлеба. Крама адчынялася ў дзевяць па Маскве. Заставаліся яшчэ тры гадзіны.

Па заведзеным парадку радыё пачало з апошніх паведамленняў. Праз клапаны шапкі Раману чутно было не вельмі, ды і гоман стаяў ля крамы. Але ён здагадваўся па паўтораным раз за разам імені Сталіна, па назвах рэспуб-

лік, абласцей, гарадоў – кіпіць стаханаўская вахта. Зноў нечым вызначыліся будаўнікі ГЭС на Волзе, Цымлянскага мора, металургі Магніткі, шахцёры Кузбаса... Затым загучалі назвы замежных краін – ведама ж, рабочы клас у свеце капіталу не мірыцца са сваім бядотным становішчам, змагаецца за дастойнае чалавека жыццё. Было ўзгадана пра Стакгольмскую адозву міру – бясстрашныя энтузіясты з рызыкай збіралі подпісы пад ёй на страх падпальшчыкам новай вайны. Была і зводка баёў у Карэі...

Пасля навін, як заўсёды, урок ранішняй зарадкі. Прыемны, такі па-хатняму свойскі голас Вячаслава Гардзеева. Раман, жывучы ў дзеда, узяўся быў рабіць зарадку пад яго дыктоўку. Выконваў водныя працэдуры – абліваўся халоднай вадою, рашыўся нават па парадзе радыё пачаць абцірацца снегам. Аж падхапіў ангіну. Канчаткова адмовіўся ад урокаў па Гардзееву, адмовіўся не без жалю, калі швагер Іван неяк сказаў: “Каб тую гімнастыку рабіць, трэба і есці, і наогул жыць не так, як мы, як ты”.

Адгучала пад акампанемент піяніна радыёзарадка, перадалі канцэрт папулярнай музыкі. З сямі гадзін – зноў апошнія паведамленні. Затым дыктар узяўся чытаць перадавы артыкул свежага нумара газеты “Правда”. Далей – паўтор таго самага ўрока Вячаслава Гардзеева. Як жа доўга яшчэ да тых дзевяці гадзін!

Патроху расла чарга. Але народу большала не ззаду за Раманам, а наперадзе, бліжэй да дзвярэй крамы. Так заўсёды. Спытаўшы апошняга, знаёмыя падыходзілі да знаёмых пагаварыць, пастаяць побач, бо не мае ж значэння, дзе бавіць час, неабавязкова ж выстройвацца, як салдатам, у запатылак адзін аднаму. А неяк затым ужо і атрымлівалася, што ў самы момант “штурму Зімняга” – калі пачыналі “даваць” хлеб, кожны і заставаўся там, дзе стаяў, з таго месца і пачынаў штурмаваць. Але што тут можна было змяніць? Крычаць, заклікаць шнуркавацца згодна занятага месца? Нехта б слухаў! Няхай. Яму хоць бы скарыстаць

у тым спаборніцтве свае сціплыя шанцы. Ён сачыў, каб не прапусціць нікога між сабой і Шкарлапіхай, з аднаго боку, і між сабой і чыгуначніцай, з другога. І каб не адрывацца ад сцяны, трымацца на адной і той самай адлегласці ад дзвярэй крамы. У цісканіне, якая распачнецца пры штурме, важна мець хоць такую больш-менш цвёрдую, надзейную апору, як сцяна, уздоўж гэтага апірышча будзе крыху лацвей праціскацца да ўвахода.

Як быццам пачалі праглядвацца прыкметы досвітку. Паярчэла белізна снегу на вуліцы, інею на дрэвах, на слупах і правадах.

Раман не змеціў, як з'явіліся гэтыя двое. Пачуў, як загаварылі між сабой па другі бок ад дзвярэй крамы. Запомніліся яны яшчэ па мінулым годзе. Адзін высокі, з чырванню ва ўсю шчаку, хоць і з сівізной у валасах, другі – паўнаваты, з друзлым, у чырванаватых пражылках тварам. Абодва гаварылі па-руску. З'яўляліся яны ў чарзе не так часта. На гэты раз першы быў у белым вайсковым кажушку, у ватовых штанах і ў адмысловых, з раменьчыкамі-засцежкамі, валёнках. Другі – у цёплай, на аўчыне куртцы з засцежкамі-петлямі, у сівых, бітых, без галёшаў валёнках. Гэта, няйначай, былі нейкія адстаўныя чыны. Першы, мяркуючы па манеры гаварыць камандзірскім голасам, быў з арміі. Ягоны сябар меў, відаць, нейкае дачыненне да чыгункі. Аднаго разу, яшчэ той зімою, Раману давялося чуць, як ён распавядаў знаёмаму ў чарзе пра нейкае вынаходніцтва, якое апрабавалі ў паравозным дэпо. Гэта адбывалася яшчэ да вайны. Вынаходніцтва тое, як захоплена гаварыў той чалавек, ух як выручыла іх: калі на чыгуначным транспарце па строгаму ўказанню Кагановіча выполвалі шкоднікаў, у іх няшмат каго забралі. Раману запала ў памяць, як паравознік глыбакадумна падагуліў свой аповед: "Ленин очень мудро сказал: "Массу веди и у массы учись".

Ні адзін, ні другі чаргі не займалі. Праходзілі як ільгот-

нікі, па нейкіх пасведчаннях. Няйначай, па тых жа самых ільготах ім прадалі ў мястэчку ладныя дамы, што пуставалі пасля вайны без гаспадароў. Было трохі незразумела, чаму яны, нейкія важныя, прывілеяваныя чыны, каму, канечне ж, належала спецыяльнае харчзабеспячэнне, хадзілі ў гэтую краму. Каб пабыць з народам? Развеяць нуду ад сядзення без працы? Цётка Каця выказала, мабыць, нагул недарэчную на гэты конт версію: "Бяруць хлеб свінням на вобмешку. Ці курам".

Пачалі сыходзіцца тыя, хто ўжо быў, займаў чаргу ды адпраўляўся дадому грэцца, рабіць што-колечы па гаспадарцы. Перад Шкарлапіхай уткнуліся кабета і хлопец-падлетак, мелася быць неўзабаве яшчэ адна кабета. За Шкарлапіхай занялі свае месца Дзінка з сяброўкай.

З'явілася вядомая ўсяму мястэчку за сваю звяглівасць баба Аршуля. Спытала апошняга, але пасунулася бліжэй да дзвярэй. Як трэба было разумець, кшчоная гэта баба была неяк больш прыстойна – Уршуля, Урсула, але мястэчка звала яе Аршуляй.

Прыйшоў Кузьміч – "народны камісар", "заступнік працоўнага люду". Не затрымліваючыся ля чаргі, рушыў да ўвахода, туды, дзе ўжо завязваўся ніштаваты гурт, асобны ад чаргі.

Тым часам патроху днела. Мароз яшчэ памацнеў. Нават дыханне сцінала ад нібы загуслага паветра. Але ці што Раман прыцярпеўся, ці што ў натоўпе зрабілася цяплей, але яго ўжо так не калаціла, як на самым пачатку стаяння.

Праз памацнелы гоман натоўпу ён улавіў слыхам: па радыё загаварыў Мінск. Дыктары, мужчына і жанчына, неяк скорагаворкай, быццам спяшаючыся, прачыталі беларускія навіны. Спяшаліся, канечне: праз колькі мінут зноў загаварыла Масква. Мінску па радыё трохі болей часу перападала толькі ўдзень.

Мала хто з тых, што прыбывалі, станавіліся ў хвост чаргі. А ля дзвярэй крамы люду збіралася ўсё болей.

– Давайце ж, можа, у вочарадзь строіцца! – гучным сваім голасам пратрубіла Шкарлапіха.

– Ага! – падхапіў нехта з мужчын ззаду за Раманам. – Стаць, хто за кім стаіць... Вун тэй, у белым кажушку, за кім ён?

Усе звярнулі ўвагу на Адстаўніка.

– Вам показать удостоверение? – Правая рука Адстаўніка слізганула паміж адваротамі кажушка.

Чарга разгублена прыціхла: і пагрозліва-начальніцкі тон, і жэст – нібы зараз рука мае выхапіць нож ці рэвальвер, – і само такое шматзначнае для гэтага простага люду, новае слова "удостоверение" – усё падзейнічала магічна.

– А гэны, у лётчыцкай паддзёўцы? – Адна Шкарлапіха не збаялася. Ведала ж, што абодва гэтыя чаргі ніколі не прызнавалі, былі нейкія важныя шышкі, але запытацца і ў іх можна было.

– Извольте, могу предъявить. – Паравознік паўтарыў той самы жэст.

Нічога не знайшла сказаць на гэта і Шкарлапіха.

– Кузьміч! – ужо інакшым, упрошліва-лагодным тонам яна звярнулася да "народнага заступніка". – Стаіш тамака, узяўся б ды глядзеў, каб не лезлі без вочарадзі.

– Анягож! – падтрымала Аршуля. – А то збіліся ў адну кучу.

А следам як прарвала:

– Тут стаіш ад паўночы, калееш і не палучыш за імі.

– О, гэныя! На галовы палезуць!

– З рота каторы гатовы кусок вырваць!

– Ні сораму, ні совесці!

– Бярыся, Кузьміч!

– А чё! – дайшоў да Кузьмічова сэрца покліч масы. – Можно! – Ён патачыўся скрозь гурт, што збіўся насупраць дзвярэй. – Ану, граждане! Станем, как положено! В затылок друг дружке! Эй вы, молодые люди!

Але ў гурце толькі хітравата-паблажліва заўсміхаліся,

нехаця расступаючыся перад “наркомам”, “заступнікам працоўнага народа”. У чаргу станавіцца ніхто і не падумаў.

Раман пазнаваў у гэтым “кодле” каторых зухаў-местачкоўцаў, мясцовых дзецюкоў, якія невядома дзе працавалі і чым жылі, падшыванцаў-пераросткаў з блізкіх хутароў, а сяго-таго бачыў упершыню. Заўсёды ля чаргі збіралася такое кодла.

Кузьміч стаў перад дзвярыма і ўрачыста абвясціў:

– Пушчай никто не рассчитывает: взять без очереди номер не пройдет!

З рупара даляцела бадзёрая музыка: як зазвычай, зранку, на пачатак працоўнага дня перадавалася што-небудзь запальнае.

– Мне вот понравилось, как в Москве дело поставлено с очередью, – карыстаючыся адносным зацішкам, загаварыў той самы дзядок, што сваёй барадой і акулярамі нагадаў Раману Калініна. Чамусьці ён ужо апынуўся наперадзе, хоць прыйшоў пазней – таксама меў нейкія прывілеі? – Там на вокзале приходишь к кассе, тебя записывают в список, на какой тебе нужно поезд, и иди, гуляй себе. Придешь, отметишься – и опять вольный казак. Красота!

– Сравнял, – хмыкнуў Паравознік. – Москва – это Москва.

– А чё! – засмяяўся Кузьміч. – У нас тоже маленькая Москва... Тока что дома пониже да асфальт пожиже.

У чарзе адазваўся радкавы смяшок.

– О, далёка нам да Масквы! – паведаваў нейкі незнаёмы дзядзька ззаду за Раманам. – Не дараслі... Сазнанне храмаець.

– Хромает, да еще как! – пацвердзіў Кузьміч. – На обе ноги.

На журботна прыціхлы натоўп ляцела з боку моста ўзнёслая маршавая мелодыя.

– Ну і што той спісак, – задзірыста звярнулася Шкар-

лапіха да дзядка, падобнага на Калініна, у яе з запазненнем вынікла думка наконт перадавога маскоўскага вопыту з чаргой. – Нас спісвай, хто во тутака стаіць... Што з таго? Во гэныя архараўцы, – паказала на “кодла”, – на спісак будуць глядзець?!

А Аршуля дадала:

– Калі па спіску, то ўсё роўна хлеба на ўсіх не дастанецца.

– Почему? – запярэчыў Кузьміч. – Я писал на предмет увеличения выпечки хлеба. Ответили, что дано указание увеличить выпечку.

– Спісак! – вяла сваё Шкарлапіха. – Да доктара запісваюцца, да начальства на прыём, а ўсё кожан глядзіць, каб як наперад выбіцца.

З “кодла” падкінулі:

– Нахабства – другое шчасце.

– Куды ні паткніся – усюды блат.

– Блат вышэй наркома.

Чуйна, пагрозна ўскінуў позірк Адстаўнік.

– Это кто там говорит?

На чаргу абвалілася цяжкая цішыня. І ў гэты момант падлеткі на вуліцы Маякоўскага абвясцілі:

– Алка! Заўмаг!

Натоўп ля крамы стаў сціскацца ў напрамку дзвярэй.

– У вочарадзь! У вочарадзь! – залямантавала Шкарлапіха. – Кузьміч, ты ж глядзі парадку!

Для чаргі наступаў вельмі важны этап: калі прарвацца следам за загадчыцай крамы ў памяшканне, то ўжо гарантыя, што бохан хлеба дастанеш. А яшчэ немалаважна – трапіць у цяпло, адагрэцца.

– Ану! Спружыліся! – ціхенька скамандаваў Раман Дзіне і Зіне, зрыхтаваўшыся падпіхваць гэтых дзеўчынёх уперад, на рывок у дзверы. І раптам сумеўся ад ніякаватасці: выходзіла, нібы прытуляўся да Дзінкі, да яе кволага цела. Націсні мацней – костачкі разыдуцца. Ну, выпала яму ся-

гоння кампанія! Ззаду спружылася чыгуначніца – да яго-най спіны нібы прыціснулі мяккую, цёплую падушку, адно што па крыві пайшоў козытны агонь. Ну, наваляцца яны сягоння, ірвануць да мэты! Сабралася сіла – мацакі і ўперадзе: непаваротлівая, як ступа, Шкарлапіха, лядашчы дзядок з бародкай, як у Калініна...

Нарэшце і Раману стала відно ў прывідным марозным тумане раніцы загадчыцу крамы Алку. Ішла сваёй нетаропкай, як бы стомленай хадой, памахваючы ў такт крокам пацёртай гаспадарчай сумкай. Ёй не было й трыццаці, а на выгляд, у ранішнім паўсвятле, можна было даць сорак з гакам. Твар худы, касцісты, пабіты зморшчынамі, няўсмешлівы. Казалі, зазнала дзеўка гора. Родам была аднекуль з-за Полацка. У блакаду партызанскай зоны ўся сям'я загінула, цудам ўратавалася яна адна. Доўга затым хварэла, лячылася па бальніцах. У мястэчку ўжо гадоў колькі працавала ў адной і той самай краме. Калі Раман, беручы з Алчыных рук бохан хлеба, сустракаўся позіркам з яе блякла-сінімі вачыма, яны нібы абдавалі зледзянелым сумам. Хаця як прадавец, як чалавек, яна была паважаная – з людзьмі роўная, не грубіла, не абважвала і не аблічвала.

– Прадаўшчыцы ж дайце прайсці, – хоць такой здзеклівай насмешкай уела Шкарлапіха “кодла”, што загарадзіла дзверы, зрыхтаваўшыся скарыстацца момантам і за спінай Алкі сігануць цераз парог.

Аж некалькі галасоў наперабой прывіталі прадаўшчыцу:

– Дабрыдзень, Алачка! Добрага здаровейка! Драстуйця! Прывет, Ала!

– Дзень добры! – адказала яна ўсім і нікому асабіста, нават не падняўшы вачэй на натоўп.

– Отойдите же! – са з'едлівай далікатнасцю прасіпеў некаму ля дзвярэй Адстаўнік. – Вам русским языком говорят – завмагу нужно пройти на рабочее место!

Алцы давялося крыху затрымацца, пакуль пакупцы далі ёй дарогу.

– Будзьце гатовы! – шапнуў Раман Дзінцы.

– Всегда готовы! – весела адказала тая.

Што пачалося ў дзвярах, калі бразнула штаба, а затым скрыгнуў ключ у дзвярным замку і Алка ўвайшла ў краму, можна было толькі здагадвацца. Людзей на ганку нібы закруціла ў віры. Варушыліся галовы, мяняліся перакошаныя натугай і злосцю твары, ускідваліся рукі, каб за што ўхапіцца ці ад чаго адпіхнуцца. Чуваць было, як бы ў час кінасеанса пры сапсаваным гуку: адно хрып, натужнае хэканне ды бразгатанне ўнутранай, шклёнай дзверыны, аб якую раз за разам стукаўся каторы, каму ўдалося прарвацца ўсярэдзіну.

Што было сілы, Раман плячом, бокам піхаў уперад Дзінку, каб хоць трохі прыскорваць дужа ж маруднае пасоўванне чаргі. Старалася, налягала ззаду чыгуначніца, але ад таго толькі хіба гарачэй разыходзілася па Раманавым целе млоснае трымценне.

Чарга неспадзявана тузанулася ўперад.

– Ну-ну! – павесялеў Раман.

Прасунуўшыся крокі тры, яны зноў спыніліся, як упёршыся ў сцяну. Падняўшы галаву, Раман убачыў: шлях ім перагарадзіла "кодла" – што значыць маладыя, дужыя дзецюкі.

– Руку! Руку! – раптам узляцеў роспачны жаночы вокліч.

Але ў наступнае імгненне затор, што загарадзіў быў уваход, разам з лямантам знесла ўсярэдзіну.

– Кузьміч! – як ратунку, закрычала Шкарлапіха. – Лезуць жа гвалтам! Што ж ты, Кузьміч!

– Да куда же, в самом-то деле, прете! – Самога небараку – "наркома" знесла набок, прабіраўся следам за белым кажушком Адстаўніка да дзвярэй.

Раптам на ўваходзе ўсё застыла, нібыта ў кінастужцы

заклініла кадр: у краму ўжо болей не лезла ні чалавека. Двое дзядзькоў застапарылі на самым парозе, перад зачыненымі так-сяк унутранымі дзвярыма.

– Ну вот стали вы на пороге, уперлись друг в дружку лбами, как бараны! – падступіў да іх з растлумачальнай работай Кузьміч, які ўсё ж такі вярнуўся на ранейшую пазіцыю, але толькі са спазненнем. – Неужели вам не понятно: сейчас хлеб придется носить, а вы загородили проход.

– А чаго ён? – прахрыпеў набычаны, з цагельна-чырвоным ад натугі загрыўкам дзядзька.

– А ты чаго? – здушана гыркнуў на яго сапернік з распаленым да чырвані, круглым, як мядніца, тварам.

– Н-ну, козлы! – прачыніўшы лёгкія ўнутраныя дзверы, прабурчаў у пройму Адстаўнік.

З-за ягонага пляча падбавіў Паравознік:

– Д-да, с нашим сознанием далеко шагнем!

Раман, аднак, апанурыўся сваім: як незадачна атрымалася. Ужо маглі б раскашавацца ўсяродку крамы. "Кодла" гэтым разам дужа настырнае. Во, стаяць, цесна збіўшыся, чакаюць свайго моманту. Шакалы, якія сцерагуць, каб перахапіць чужую здабычу. Проста неверагодна: твае таварышы, браты па класе, а мэты прама процілеглыя тваім. Ніхто тут ні за кога, кожны сам за сябе.

Па радыё ён неяк чуў, што там, "за гарой", у хвалёнай Амерыцы, царуе закон джунгляў: "съешь ты или тебя съедят". А ў іх тут які? У іх – "ты мой хлеб з'ясі або я твой"?

Тут жа сумеўся, нават кінуў вачыма навокала, быццам баяўся ўбачыць на сабе дакорлівы, асуджальны позірк кагосьці важнага, строгага, накшталт начальніка з вобласці Бычкова... Што ж, бывае, вырвецца часам пад настрой. Каму няясна, што нашы некаторыя цяжќасці – гэта ўсё часовае, пераходнае, гэта выдаткі росту. Эх, каб не накладвалася яшчэ на гэта галавацяпства мясцовага начальства!..

– Вязу-уць! – прыйшла нарэшце доўгачаканая, галоўная вестка. З якой жа радасцю падаў яе каторы з хлапчукоў!

Цэлая чародка дзятвы сыпанула з вуліцы да крамы. І гэтай жа малечы хацелася спадзявацца на сваю долю хлеба. Канікулы, дык бацькі пасылаюць за сябе дзяцей, а можа, дзе і няма болей каму хадзіць у чаргу.

Цяпер усе позіркі нацэліліся на вуліцу Маякоўскага, у бок моста, адкуль чакаўся хлеб. Стаў паглядваць туды і Раман.

Спачатку яму стала відно прыапушчаную конскую галаву, затым усяго буланага, заінелага каня – пабялелую храпу, грыву, нібы прыпушаныя мучным пылам ногі, бакаціну са скамлычанай, перакачанай у гной поўсцю. Паказаліся сані, на ёй аблезла-рыжая фанерная буда, а там і сам возчык Альшэўскі з перакінутымі цераз локаць лейцамі, – гламаздаваты, у брудна-белым халаце. На ягонай тоўстай, у цяжкім паліто фігуры цесны, незашпілены халат выглядаў усцягнутай дзеля пацехі дзіцячай кашуляй.

І конь, і возчык рухаліся ў аднолькава няспешным, сказаўшы б, урачыста-цырымонным тэмпе. Як бы нават з выклікам: як хочам, так і ідзём, каму не цярпіцца, не трымаем, можа адпраўляцца дамоў, не чакаць.

Конь сам спыніўся на тым самым месцы, дзе заўсёды. Альшэўскі, коратка зірнуўшы на натоўп ля крамы, пашклымаў вялікімі, стаптанымі ботамі да каня, перакінуў яму цераз спіну лейцы.

– Многа, Марцінавіч, прывёз? – з дагодлівай далікатнасцю спытаўся нехта, няйначай, знаёмы.

– Анягож! Разяўляй рот, – не азіраючыся, з гуллівым булькатаннем у горле адказаў Альшэўскі. – Дадуць, дагоняць і яшчэ дадуць.

Хтосьці адгукнуўся на гэта кароткім, роблена-вясёлым смяшком.

Не любіў, не трываў Раман чаргі і з-за гэтага Альшэўс-

кага. Заўсёды брудны, у зашмуляным аж да карычневага бляску на грудзях і локцях халаце, у зацёганай шапцы-аблавушцы, сягоння, на вялікі мароз, падвязанай пад бараду, рэдка калі паголены. Колькі разоў даводзілася размінацца з гэтым чалавекам на вуліцы – ого, як важна ступаў, быццам лянуючыся падымаць ногі, шклым-шклым, гледзячы на чалавека і быццам не бачачы, горда, з непрыхаваным форсам несучы пад пахай дзве а то і тры карычневыя цагліны хлеба.

Альшэўскі ўзяў з саней і нацягнуў на рукі нейкія шэрыя, закарэлыя рукавіцы.

– Пасаблю? – вымкнуўся да яго жвавы дзяцюк. Раман нешта не прыпамінаў такога па чарзе – перахадзіла ўсякіх.

– Пасабі ты йдзі... знаеш каму, – зноў весела забулькала ў ґорле ў возчыка. – Каб за цябе мяне санстанцыя аштрахавала? – Альшэўскі і гаварыў неяк расцягла, нібы па нехаці, толькі каб падсмяяць недарэку, што набіваўся ў памочнікі. – Можа, у цябе кароста? А то яшчэ... пранцы якія-небудзь? Каб людзей заразіў?

Сканфужаны дзяцюк натужна засмяяўся сам з сябе, патрапляючы возчыку. Хіхікнулі і ў чарзе.

Альшэўскі адсунуў фанерную засланку на будзе і стаў вымаць і класці сабе на сагнутую ў локці левую руку боханы хлеба. Дыхнула смачным, духмяным пахам. Раману аж засмактала ў жываце. Гэты, “казённы”, як называў многа хто, хлеб пах крыху не так, як той, што пякла ягоная маці, што пяклі ў іншых хатах у Парэччы. Той аддаваў кменам, аерам, зрэшты, нечым сваім, адмысловым у кожнай гаспадыні. Але той ужо стаўся далёкім успамінам. Апошнія гады ў Парэччы, калі пачаўся калгас, хлеб пяклі рэдка, перабіваліся какорамі – так звалі праснакі.

Раман глядзеў, як у Альшэўскага на руцэ ўсё вышэе абярэмак з боханаў, і нечакана яму як зяпякло. Во ён, хлеб, такі панадны, спакусны. Вокам бачыш, носам чуеш,

а можаш і не пакаштаваць. Разбяруць перад табой – толькі аблізнешся.

– Падгарэў нешта сягоннека хлебец, – як сама сабе зазначыла каторая з жанчын у чарзе.

– Зжарэш, – жартліва кінуў ёй Альшэўскі.

Узяўшы на руку як панесці боханаў, ён паплёўся да крамы.

– Освободить проход! – закамандаваў Кузьміч.

– Ды сыдзі ж ты, каторы, з-пад ног! – засычэў і Альшэўскі, ідучы з хлебам напрасткі, на пасталых яму на дарозе зухаў з "кодла". – Каб табе ўжо... Каб ты, каторы...

А перад самымі дзвярамі яму давялося-такі прыпыніцца з ношай: двое наравістых, што счапіліся, як бадлівыя бараны, на парозе, так і не зрушваліся, ніводзін не збіраўся саступаць.

– Сталі, стаяць, як... – Альшэўскаму аж сперла ў горле ад гневу. – Ну, доўга буду чакаць?

– Сыдзі! – прахрыпеў у твар суперніку здаравяк з чырвоным загрыўкам. У яго з'ехаў з пляча кажух, бедаку не выпадала нават паправіць яго, трэба было трымаць суперніка.

– Сам сыдзеш! – вызверыўся ў адказ другі, на выгляд слабейшы, затое яўна рызыкаўнейшы.

– Да посторонитесь же вы, в конце-то концов! – Адстаўнік прачыніў дзверы і корпусам піхнуў аднаго з двух.

Сiганулі з парога абодва, як счэпленыя, на Альшэўскага, ледзь не збіўшы таго з ног, храпучы і лаючыся.

– Во людцы! – жахнуўся Альшэўскі і ступіў у паслужліва прачыненыя яму Адстаўніком дзверы.

Раман прасачыў за тымі двума. Разышоўшыся нарэшце паўзводдаль людской гурмы, стаялі, касавурачыся адзін на аднаго, гатовыя, як пеўні, кінуцца ў бойку. Нябось, і хлеб ім ужо не ў галаве. Раман з горкім посмехам узгадаў матчыны словы: галодны сабака – ласкавы, галодны ж ча-

лавек – злы, люты звер. У гэтых, глядзі, да кулакоў, да ўручча магло дайсці.

Альшэўскі не выходзіў назад, па чарговую ношку, як здалося Раману, задужа доўга. Такі ўжо маруда! Як наўмысна рабіў, як на злосць знецярпелай ад доўгага чакання, скалелай, галоднай чарзе.

Дзінка з сяброўкай узяліся лічыць боханы. Раман стараўся не слухаць іхнія падлікі. Толькі сябе цвяліць, загадзя пазбаўляючыся надзеі, ведаючы, што хлеба на гэты раз мала, як ніколі.

Дадалося яшчэ пакупцоў. З'явіўся сын гаспадара дома, у якім была крама, – з засліненымі, як заўсёды, губамі, з няўцямна-лагоднай ухмылкай, бамбіза гадоў пад дваццаць. Не заседзелася дома інвалід па псіхічным захворванні Гунэфа, заўсёдніца местачковай амбулаторыі, неахайная кабета невядома якога ўзросту. Гэтыя ішлі без чаргі. Чакалі з важным, незалежным выглядам, калі пачнуць "даваць" хлеб.

Урэшце-такі Альшэўскі, залезшы ў будку па плечы, выцягнуў апошнія боханы.

– Семдзесят тры, – падвяла рахунак Дзінка.

Бывала болей нават леташняй зімою. Ці спяклі меней, ці разабралі ў пякарні. Кузьмічу, "народнаму заступніку", можа, і не лгуць, адказваючы на ягоныя "сігналы з месца", што меры прымаюцца, выпечка павялічваецца.

З лаянкай і праклёнамі сяк-так выбраўся з крамы Альшэўскі – насуперак яму рынула "кодла". Цяпер возчык ужо не цікавіў нікога. Завярнуў каня, які падрамаў, пакуль стаяў. І папляліся назад да наступнага рання.

Выйшлі першыя пакупцы з хлебам. Раман затрымаў позірк на бледным, танклявым падлетку ў расхрыстанай, яўна вялікаватай яму барме, з адкінутым назад башлыком – які ж ён быў шчаслівы, адной рукой ашчадна прыціскаючы да грудзей сваю пайку, а ў другой заціскаючы маленечкі касячок, адрэзаны і дабаўлены Алкай да ягонага бо-

хана, у якім было крыху меней, чым кілаграм! І Раман, і многа хто нават са старэйшых за яго, не кажучы ўжо пра малых, лічылі шчаслівай удачай, калі траплялася атрымаць такі даважак. Вяртаешся з чаргі, рады, што з хлебам, а яшчэ маеш ласунак, не спяшаешся брацца за яго, адцягваеш насалоду, калі будзеш адкусваць патрошку, смакаваць цёплую, хрусткую, з прыемнай кіслінкай скарынку.

З крамы выходзілі, але чарга пасоўвалася слаба. Лезлі ільготнікі, а за імі пралазіў хто-небудзь з "кодла", не зважаючы на Кузьміча.

Не вытрывала Аршуля.

– Ды станьце ж вы ў вочарадзь! – закрычала яна, падбегшы да "кодла". – Ты! – узяла за рукаў жулікаватага выгляду малайца. – Ну куды ты пхнешся? Куды? Вун людзі стаяць. Жэншчыны, дзеці, енваліды. А ты...

– Я стаю, – тарганууў той плячом.

– Стаіш? Вунака ўсе стаяць, а не тут!

– Пайшла ты!

– Ах, так! – Аршуля раптам тузанула таго за каўнер паддзёўкі. У каўняры трэснула.

– Н-ну, с-сука! – дзяцюк хапіўся глядзець каўнер. – Я це счас!

Аршуля палахліва адскочыла. Але пацярпелы не кідаўся, заклапочаны каўняром, і яна асмялела.

– Сучкай абазваў! Усе чулі?! Хоць бы міліцыянер быў... На тым баку ёсцека, дзяжурыць, а чаму гэта ў нас няма дзяжурства? Шлындаюць тут усякія!

Усё-такі яна вярнулася на сваё месца, а патрывожаны ёю зноў вярнуўся на ранейшае месца.

– А гэна флюндра ўжо куды патачылася? – знайшлася смелая кабета на змену Аршулі. Раман нешта не прыпамінаў такую па чэргах. Яна падышла да Гунэфы, учапілася за плячо. – Вун тамака вочарадзь! А ты прыйшла і прэсся!

– Адыдзі, рыла нямытае! – Гунэфа пайшла на кабету, ашчэрыўшы шчарбаты рот, наставіўшы кіпцюры. – Морду

абдзяру! Вірлы твае вырву! І атвячаць не буду! У мяне нэрв! Мне дакумент на тое ёсцека! Мяне не чапай! Згінь, нячыстая сіла!

Знячэўленая такім нечаканым адпорам, кабета стала адступаць бокам, дарэмна шукаючы падтрымкі і заступніцтва ў збянтэжана прыціхлай чаргі: як было казаць, што яна зачапіла таго, каго лепей не чапаць.

Яшчэ нейкі час спрабаваў трымаць парадак Кузьміч. Але і сам неўзабаве знік у краме следам за Шкарлапіхай. "Наркому" ж таксама патрэбна было парупіцца пра сябе.

Рамана аддзялялі ад парога ўсяго тры чалавекі – жанчына, што стаяла за Шкарлапіхай, ды Дзінка з сяброўкай.

– Дзяўчаткі! – шапнуў ён. – Не зяваем! Яшчэ рывок – і мы там! "І блізка наша мэта!"

Аж "кодла" крыху расступілася, калі выбіраліся з крамы, "атаварыўшыся", важныя, надзьмутыя Адстаўнік з Паравознікам. Кранулася ўперад, скарыстаўшы нечаканую палёгку, чарга. Шмыгнуў цераз парог і Раман следам за Дзінкай, за ім чыгуначніца.

Не дужа раскошнае, цемнаватае памяшканне крамы было набіта бітком. За карацейшым прылаўкам, напроці адзінага акна, дзе было досыць відна, завіхалася Алка ў белай вязанай шапачцы. Вось яна ўзяла з паліцы ззаду за сабой бохан, паклала ўзважваць – бразнула талерка шаляў. Неўзабаве шахнуў рычаг нажа – адкроіла скрылік лішняга – норма была адзін кілаграм у адны рукі. Зноў узважыла і падняла пайку – каму аддаць. Зараз жа насустрач выцягнулася аж некалькі рук.

– Мне! Мне! Ала, мне! Мая вочарадзь! Мне-мне! – наперабой залямантавалі некалькі галасоў.

Раман горка пасміхнуўся. Быццам галодныя птушаняты ў гняздзе ўсчынілі піск, разяўляючы дзюбкі насустрач прынесенаму птушкай-маткай корму. Алка ўзяла з каторай выстаўленай рукі грошы і падала бохан. Лямант ураз як абсекла. Нехта злосна кракгануў, нехта задушыў расчара-

ваны ўздых, а нехта засіпеў, азіраючыся назад, на таго, хто налёг на плечы. Алка ўзяла з паліцы чарговы бохан.

Ля прылаўка пачалася валтузня. Дзядок з барадой як у Калініна, трымаючы над галавой бохан, нібы спартсмен ганаровы трафей, пацініснуўся на выхад. А яму насустрач, да прылаўка, напіраў густы людскі збой.

Раман ужо меў досвед: лезці напрамкі да вагаў рызыкоўна. У тым віры, які супакойваўся хіба на колькі імгненняў, магло знесці назад вельмі верагодна, аж пад дзверы, ды і не адзін раз. Шчаміцца напралом, адпіхваючы каго слабейшага, – трэба было пазычыць у сабакі вачэй. Ён трымаўся выпрацаванай не ім, яшчэ да яго, шматкроць выверанай тактыкі – прабівацца да вагаў, да пайкі абходным манеўрам, трымаючыся сцяны, затым доўгага прылаўка. Маючы з аднаго боку сякое-такое надзейнае прыпірышча, выкарыстоўваючы пульсацыю валтузні пасяродку, патроху-патроху пасоўвацца да мэты. І яшчэ меўся козыр: настойліва патрабаваць, каб давалі па чарзе, хоць так, хоць слабенька процідзейнічаць тым, хто “не стаяў”, хто лез нахрапам.

– Ала! Ёсць жа вочарадзь! – нагадала пра свае правы Шкарлапіха, якая ўжо была недалёка ад вагаў.

– Самі ж глядзіце, хто за кім, – трохі знервавана адказала прадаўшчыца. Усё-такі Шкарлапіху ўшанавала: колькім чалавекам запар дала па чарзе.

Услед за Дзінкай і Раман змог праціснуцца да доўгага прылаўка.

На колькі імгненняў яму стала відно ў прагал між галовамі паліцу з хлебам. Аж злякнуўся: штабель боханаў быў ужо зусім малы. Зашчымела трывога: застанецца ні з чым. Канечне, і там, звонку, дазналіся, што хлеб канчаецца. Напор у краму памацнеў. Так напіралі, аж захістаўся гэты доўгі, з цяжкіх дошак прылавак.

Дзінка раптам войкнула, зморшчылася балесна, а затым знямела абхілілася на бар’ер.

– Што табе? Што?! – устрывожыўся Раман. Але пытацца не было патрэбы: дзяўчыну пераломвала на кант прылаўка, як яшчэ трывалі яе рэбры! – Эй там, у дзвярах! – роспачна, не пазнаючы свайго голасу, крыкнуў ён. – Дзіцёнка задушыце! Эй!

Але хто яго слухаў у тым ляманце, які стаяў! У дзверы лезлі пішчом. Дзінка сіпла стагнала, клалася на прылавак, які хістаўся, зараз паваліцца, грымне на паўпустыя паліцы з бляшанкамі і слоікамі. У адчаі Раман штосілы ўпёрся адціскваць ад Дзінкі спіну дзябёлага мужчыны. У наступны момант дзяўчына змагла тузануцца ўперад, змяніць позу. Зірнула на Рамана скрозь слёзы з сарамліва-вінаватай усмешкай на пабляднелым смуглаватым твары. Трэба ж: задушыць маглі гэтага пісклянёнка.

– Наперад! – падбадзёрыў яе Раман, весялеючы. – “Заўсёды наперад, ніколі назад!” Паглядзі, што ўжо нам застаецца!

Боханаў на паліцы ўсё менела і менела. За кожным, які падавала Алка, выцягваўся дзесятак рук. Маленні – “Мне! Алачка, мне!” – рабіліся ўсё больш адчайныя і жаласныя.

Ужо з нейкім брыдкім, трывожна-мляўкім трымценнем пад лыжачкай – усё, няма надзеі! – Раман нарэшце дастаўся следам за Дзінкай да самых вагаў. На паліцы заставаліся два ці тры боханы. Алка ўзяла чарговы, паклала на жалезную талерку вагаў з выпуклым, адлітым словам “Ударник”, дала супакоіцца шалям. Чырвоныя, як у гусакоў, дзюбкі на абедзвюх талерках застылі дакладна адна насупраць адной. Алка яшчэ не зняла адважаны бохан, як да яе працягнуліся рукі. Выцягнуў руку з рублём, у які былі загорнуты капейкі роўна па цане кілаграма хлеба, і Раман, загаласіў разам з усімі:

– Мне! Мне!

Алчыны халодныя вочы раўнадушна прабеглі па ім. Грошы яна ўзяла ад кабеты паўзбоч.

– Ты ж не прапускай без вочарадзі! – спагнаў Раман свой адчай на Дзінцы.

– А что я сделаю? – прахныкала дзяўчынка.

Раман папракнуў сам сябе: знайшоў каго вінавацiць.

Алка ўзяла наступны бохан. На паліцы заставаўся ўсяго адзін.

– Ала, мне! Мне! Мне! – заканькаў Раман як мага, ужо, мабыць, мацней за іншых, калі прадаўшчыца зноў стала выбіраць, каму аддаць адважаны хлеб. Выцягваў штосілы сваю руку, каб узяла грошы ад яго.

Але і гэты бохан пайшоў міма яго, як і міма Дзінкі.

Яшчэ заставалася такая-сякая надзея. Апошняя.

Бохан аказаўся крыху лягчэйшы за кілаграм. Алка дадала да яго адзін абрэзак, мала, дадала яшчэ другі. Божа мой, яшчэ і гэтыя спакуслівыя дабаўкі!

– Мне! Мне! – Цяпер Раман мала не даставаў да Алчынай рукі. Цяпер бліжэй за ўсіх да Алкі былі толькі Дзінка і ён. – Ала, мне! Ала!

Ён ужо звяртаўся па імені, нібы да роўнай. Якое ўжо гэта мела значэнне, калі ўсё вырашалі нейкія секунды!

– Тетя Алла, мне! – як жалячыся, што ў яе збіраюцца перахапіць законнае права, маліў ценькі галасок Дзінкі. – Моя ведь очередь! Мне! Пожалуйста, тетенька Аллочка, мне!

– Мне! Ала! Мне! – намагаўся Раман, разумеючы, што прэтэндуе на перавагу несправядліва, але ўжо не могучы перамагчы ў сабе нейкую брыдкую, нікчэмную роспач, спадзеючыся адно на тое, што Алка раптам ні з таго, ні з сяго, проста машынальна возьме грошы ў яго і падасць хлеб яму.

Яна аддала Дзінцы. Раман з панурай, слепа зласлівай непрыязнасцю слізгануў вачмі па ўраз заззялым тварыку Дзінкі. Ледзь не крыкам гатова была вырвацца з ягонай душы крыўда: стаяў, калеў, сумленна трымаўся чаргі, яшчэ апекаваўся над гэтай дзеўчынёхай, а ў яго як не з рук вырвалі бохан, і хто.

Адступіўшы крыху назад, Алка адхінула фіранку, што прыкрывала з краю паліцу – у самым куточку яшчэ заставалася колькі боханаў...

Калі Раман са сваім боханам, з адрэзаным вугалочкам, выбраўся з крамы, ужо было зусім відно, як магло быць гэтым пахмурным, сцюдзёным ранкам. Змеціў, як па сцежцы аддаляліся дзве дзявочыя фігуркі – Дзінка з сяброўкай. Прыліла ў твар гарачыня: сорамна было ўспамінаць, як гатовы быў перахапіць у Дзінкі пайку. Можа, Алка наўмысна падстроіла ўсё, прыхавала рэшту хлеба?

А тады як бы хто падказаў яму апраўданне: столькі чалавек узялі хлеб без чаргі, яны ж абышлі і яго, і Дзінку, перахапілі ў іх іхняе аж некалькі разоў. Тых не грызе сумленне? Наўрад ці. На тое і чарга: хто першы – той і лепшы, хто спрытнейшы – той і першы.

Але ўсё роўна было брыдка. Ужо неяк і не радавала нават, што вяртаўся дамоў не з пустымі рукамі, недарма хадзіў у чаргу.

Ззаду, з рупара ля моста, нейкім подыхам паветра нанесла песню. Каторая з самых папулярных, знакамітых спявачак залівалася руладамі, спявала пра чорну галку. Гэтую песню чамусьці часцей чым іншыя перадавалі па радыё. Што ў ёй было такое? "Я убога сірацінка, а ты пан, а ты пан. Пашукай сабе такую, як ты сам, як ты сам"? Раману песня не падабалася. Як і другая, якая часта гучала па радыё ў тым самым выкананні:

*Я – калгасніца*
*Маладая.*
*Жыву весела,*
*Ані дбаю...*

Шчаслівая спявачка. Шчаслівая калгасніца... Ёсць жа недзе цудоўнае, вартае песень жыццё, ёсць калгасы... А тут, у іх. У іхнім мястэчку...

***

У прылазнік было носа не ўторкнуць. Адразу ля парога тоўпіліся жанчыны, а далей у рэдзенькім тумане, квола пранятым бледным святлом з акна, відаць было мужчынскі збой. Тхнуў у нос воглы, цяжкі дух, які аддаваў застарэлай плесняй, карболкай, танным мылам ды распаранымі венікамі. Цякла, засяроджана гула гамонка. Ніхто не зірнуў, ніхто не звярнуў аніякай увагі, што зайшоў яшчэ адзін, ахвочы памыцца.

Збянтэжаны такім шматлюддзем, Раман падумаў быў павярнуць назад. Гэта ж якую давядзецца выстаяць чаргу! Яшчэ выходзячы з дому, здагадваўся, што нешта падобнае будзе, але паспадзяваўся на ўдачу: а раптам ды ў гэтую суботу народу прыйдзе менш? У чым і калі шанцавала яму?

Сёння цэліўся, каб трапіць у лазню як мага раней. Трапіў. Інга Жахоўская вырашыла склікаць рэдкалегію школьнай насценгазеты – трэба ж было ў адказ на крытыку раённага начальства выпусціць свежы нумар. Прыйшоў ён, прыйшлі яшчэ двое. А ні рэдактар Гертруда Касцікава, а ні хто іншы з дзесятага класа і воч не паказалі. Пратаўкліся з паўгадзіны, і Інга адпусціла дамоў. А дома, як на грэх, не аказалася ні капейкі грошай, пакуль маці бегала па знаёмых пазычаць яму на білет...

Але і пайсці назад, не памыўшыся, не хацелася. У мінулую суботу маці нагрэла яму на пліце вады, памыў галаву, з большага апаласнуўся. Хіба гэта мыццё?

Як змушаючы сябе да чаго нямілага, да астабрыдлага, Раман паплёўся да мужчынскай чаргі, абыходзячы жаночую паўз самыя сцены. У адбітай дошкамі вузкай бакоўцы былі каса і буфет. Спыніўся ля акенца касы, купіў білет. Падышоў да мужчын, частка якіх сядзела на лавах, на пустых бочках з-пад піва, частка стаяла, дзе было вольнае месца. Цэлая гурма збілася ля дзвярэй у мужчынскую мыцельню. Паўзбоч яе Раман убачыў Фрыда і Лёню Жураўскіх, старэйшага і сярэдняга братоў Веры Жураўскай,

ягонай аднакласніцы. Хлопцы туліліся да бацькі, той, значыць, заявіўся на госці дадому – вучыўся ў Магілёве ў савецка-партыйнай школе. Трое былі так захоплены сваёй гаворкай, што ні на кога не звярталі ўвагі. І добра, што не глядзяць на яго, гэткага кавалера ў ватоўцы, у латаных штанах, з зацёганай торбай, у якой змена бялізны.

– Хто крайні? – спытаўся Раман, стараючыся, каб Жураўскія не пачулі ягоны голас.

Бліжэйшыя да яго мужчыны як гаманілі між сабой, так і працягвалі гаманіць. З шырокай прорезі буфета на яго абыякава паглядзела буфетчыца ў цесным для яе здобнага цела белым халаце.

У чаргі быў свой нораў. Яна не любіла, не разумела ціхмянага, сарамлівага, у каго нават голасу няма, каб дайшоў, як трэба. У чаргі свой гонар. Да яе трэба і звяртацца адпаведна. Раману даводзілася чытаць у газеце дыскусію на тэму, як правільна пытацца: "Хто апошні?" ці "Хто крайні?" Большасць удзельнікаў дыскусіі схілялася да таго, што больш правільны другі варыянт. Пытацца "апошняга" – гэта зачапляць гонар савецкага грамадзяніна. Які такі "апошні"? У нас усе роўныя, ніхто не першы, ніхто не апошні.

– Дык хто ж усё-такі будзе крайні? – прыбавіў Раман голасу, стараючыся не глядзець туды, дзе Жураўскія.

Толькі адзін чалавек пачуў гэты пароль чаргі. На Рамана азірнуўся Бондар, слесар ці токар з машынна-трактарнай станцыі, прыемны дзядзька, з якім яны штораніцы разміналіся – адзін ішоў у школу, другі ў Белы Двор, у майстэрню. Неяк сталася само сабой, першы з ім павітаўся Бондар, а пасля ўжо ён стараўся вітацца першым.

– Э, людзі! – весела гукнуў да ўсіх Бондар. – Чуеце, крайняга шукаюць! Іван, нехта ж за табой займаў? – звярнуўся ён да пажылога мужчыны, што сядзеў на другім ад яго канцы лавы.

Іван паглядзеў вакол сябе.

– Зэнусь за мной стаў... Сышоў. А хто за ім, я й не скажу... Ці не Пятрок Круглы. І Пятрок некуды пакруціўся...

– Вот яны! – пажартаваў Бондар. – Ні Зэнуся, ні Круглага, ні плоскага.

– Каго, Зэнуся пытаюцца? – азваўся, як прачнуўшыся, дзяцюк аж ля дзвярэй у мыцельню. – Ён займаў. Займаў, я сведка. Але дамоў адскочыў, казаў, умэнт явіцца.

– За Петраком Круглым будзеш, – развязаў праблему Бондар. – А пакуль таго няма, трымайся Івана.

– Тады, калі ласка, пакажыце мне, каторы Зэнусь, каторы Круглы, – аж павесялеў трохі Раман: прыляпіўся-такі да чаргі.

– А как маё мненія, – падаў голас з канца лавы ля дзвярэй у мыцельню Шкуцько. Раман заўважыў таго, як ён высунуўся з-за дзядзькі, што яго закрываў, – нада канчаць з эцім: прышол, вочарадзь занял – і абратна дамой. Занял – і стой!

Але ніхто ніяк не адрэагаваў на гэту заяву.

У прылазніку не было месца не тое што сесці, але і стаць, каб не замінаць людзям прайсці. Раман мусіў адступіць назад, да парога, прымасціцца ля дашчанай адгародкі паміж праймай буфета і акенцам касы. Узяла ўжо такая звычная па чарзе пякотна-едкая нудзьга. Стаяць на нагах, чакаць, проста фізічна адчуваючы, як пакутліва марудна цягнуцца хвіліны, быццам выцягваючы з цябе па кропельцы самую душу. Стаяць гадзіну, дзве, тры... Калі нават з цягам часу ўдасца прысесці, уцеха невялікая – усё адно час будзе цягнуцца марудна, як здзекуючыся з цябе.

Перамяніўшы позу, каб не так дранцвелі ногі і спіна, Раман цяпер меў перад вачыма жаночую чаргу. Цесна згрудданыя, абдзетыя, як казала ягоная матка, у сем семярэй, з захутанымі па вочы малымі дзеткамі, з мядніцамі, венікамі і вузламі з бялізнай, заклапочаныя, знерваваныя – кожная, як можа, ціснецца наперад. Неспадзявана між пас-

тацяў яму адсланілася Вера Жураўская. Вось яна з ласкавай усмешкай схілілася да дзіцячай галоўкі – там была яе маленькая сястрычка, над якой яна апекавалася нароўні з маткай. Быццам штосьці мілае прыліло яму ў душу, калі глядзеў, які прыгожы быў Верын твар, распраменены пяшчотай да сястрычкі. Пашкадаваў, калі Веру закрыла ад яго чарга.

– А-дзін чалавек! – гучна абвясціў з парога мужчынскай мыцельні лазеншчык Аркадзя.

Да яго кінулася чалавекі чатыры.

– Адзін – сказана! – папярэдзіў непахісны Аркадзя, перасцярожліва прыкрываючы за сабой дзверы.

– Мы ўсе разам, – стаў прасіцца дзядзька. – Мы там пасядзём, пачакаем, якая розніца, тут ці там.

– Ніч-чога не знаю! – Аркадзя быў непахісны. Шчуплы, невысокі, аршын з шапкай, а проста на вачах рос – як жа, галоўная тут фігура! Прапусціўшы міма сябе аднаго, прычыніў за спінай дзверы, акінуў чаргу. Адно вока ў яго было шкляное, нерухомае, а сваё глядзела горда, паўзверх натоўпу. Аркадзя ведаў сабе цану, быў вядомы на ўсё мястэчка, як і хлебавоз Альшэўскі.

Пастаяўшы трохі, Аркадзя важна рушыў назад, у мыцельню, дзверы за сабой зашчапіў на кручок.

Міма Рамана прайшло ўжо некалькі чалавек туды і назад. Хто такія: займалі чаргу, не займалі? Прыходзілі ў буфет піць піва? Даб’ешся тут нейкага парадку! І толькі гэты, сціплы, як бы нават сарамяжлівы, сярэдняга веку, чыста апрануты мужчына, вядомы ў мястэчку баптыст Собаль, мінуўшы Рамана, зайшоўшы ў самую гушчу мужчынскага збою, спытаў:

– Хто ж, калі ласка, будзе крайні?

– Дзе пытаецца! – падсмяяў яго нехта ля дзвярэй у мыцельню. – Там, ля ўвахода, пытайся.

– Не пабываўшы ў чысцілішчы, перціся ў рай, – ціха кінуў Шкуцько.

 



Пачуў гэтую кпіну Раман, пачуў, вядома, і Собаль. Раману раптам захацелася ў піку Шкуцько, ветліва, далікатна, голасна адазвацца гэтаму чалавеку, як загладжваючы перад ім не сваю віну. Чаму, сапраўды, трэба было хаміць, калі нехта не той веры, а ён не ўчыніў нікому нічога благога, наадварот, трымаў сябе годна, пашанотна да грамады? Але як скавала язык дзіклівая сарамлівасць – яму, такому, браць на сябе агульную ўвагу? А затым прыйшла супакойлівая, ляная думка: можа, і добра, што змоўчаў, той Шкуцько ці хто іншы маглі б зацікавіцца: а што гэта за прыяцель у баптыста?

Толькі тады, як Собаль падышоў да яго, прадставіўся:

– Я крайні.

– Добра, я за вамі.

Купіўшы білет, Собаль і прыладкаваўся побач з Раманам. Во: яшчэ толькі такога суседства яму нставала.

Собаля ведалі ў мястэчку як добрага фатографа ў майстэрні камунгаса. У яго Раману выпала аднаго разу пабыць нават у хаце разам з Эдзікам Беляём, які даводзіўся таму далёкай раднёй. Чысценька, акуратна. У рамцы на сцяне на самым пачэсным месцы вышыўка, прыгожымі барвовымі літарамі па белым фоне словы: “Бог есть любовь”. Раман прачытаў іх і нават разгубіўся: што тут благога? Якая шкода, наадварот – карысць жа, што баптысты адхіляюць п’янства, лаянку, устрымліваюцца ад усялякага граху. Чуў пра іх няўхвальнае: фанатыкі, за веру гатовыя ўсяго адрачыся, гэтым і не падыходзяць да новага, савецкага ладу жыцця. Баптысцкая секта лічыцца яшчэ больш шкоднай, чым касцёл ці царква. На ўсякі выпадак Раман павярнуўся да Собаля бокам.

З мужчынскай мыцельні вываліла адразу некалькі чалавек.

– Двое! – аб’явіў Аркадзя.

– Болей жа выйшла! – абурыўся той самы дзядзька, які ўжо прэтэндаваў, каб яго прапусцілі.

 

– Я, здаецца, ясна сказаў: двое! – з прыціскам паўтарыў Аркадзя. Левае, жывое вока ў яго бліснула грозна, правае стаяла нязрушна.

– З лёгкай парай, Амосавіч! – весела павіншаваў Шкуцько кагосьці з тых, што выйшлі. У прылазніку ўжо зрабілася прыцемна, каб разгледзець, да каго ён звяртаўся. Нарэшце з гурту вылучыўся знаёмы белы кажушок. Адстаўнік, выціраючы твар насоўкай, прабіраўся з гушчы, несучы пузатую сумку.

– Какой там у чёрта пар? – кінуў з прыкрасцю Адстаўнік, кіруючыся па вузкім праходзе між лавак да шырокага акна буфета. – Вода еле-еле теплая.

– Так-такі і не навядуць парадку! – абурыўся Шкуцько. – Ну, дурдом! Сам лічна давадзіл да сведзенія і пісьменна абрашчался, а воз і ныня там.

Адстаўнік прысеў на пустой бочцы і замовіў у буфеце куфель піва і штосьці яшчэ.

– Да о чем ты толкуешь! – махнуў Адстаўнік на знак расчаравання рукой з хусцінкай. – Бесполезно. Разве есть спрос? Этого бы пентюха из комхоза вызвать да всыпать по первое число, да вывернуть, извиняюсь, через задницу наизнанку, – ён нават другой рукой паказаў, як бы рабіў гэта, – может быть, и подействовало бы... А у нас – пожурят, пожурят, запишут в протокол, а то и в личное дело – и все на том...

Вынырнуў з мыцельні Аркадзя, некага ці нечага выглядваючы па-над галовамі.

– Эй, банщик! – клікнуў яго Адстаўнік. – Я всё-таки не слышал ответа: когда у вас наконец будет порядок? Вода холодная, в парилке максимум градусов сорок.

Аркадзя ніколькі не разгубіўся.

– Я ж вам кажу: у начальства пытайцеся. Я тут чалавек маленькі.

– Где оно, твое начальство?

– Яно мне не дакладае. – Аркадзя як ні ў чым не бывала схаваўся ў мыцельні.

– Вот он бич – обезличка! – Адстаўнік, нібы пакрыўджаны, сумна прысмактаўся губамі да куфля з півам. – Никто ни за что не отвечает.

– Аслаблены спрос, – патрапляў яму Шкуцько. – Кантроль анікакой.

На мужчынскай палавіне аж папрыціхла гамана: во яно – адкуль усе беды на свеце.

– Трое! – гукнуў Аркадзя.

Пайшлі мыцца бацька і сыны Жураўскія.

– Чыво мы хацім? – пабедаваў малады, бойкі дзяцюк, які, няйначай, працаваў у райкоме, Раману даводзілася колькі разоў бачыць, як ён заходзіў туды і выходзіў адтуль. – Какія в нас кадры?!

– Яно ж так, – пацвердзіў нейчы незнаёмы голас. – Начальства як начальства, а кадры дрэнь.

Сказана было нібы з прыхаванай кпінай, Раману аж закарцела паглядзець, хто гэта такі смелы. Але чалавека не відно было на тым канцы лавы.

Насцярожыўся і Адстаўнік, зірнуў быў – хто там абазваўся, але чамусьці перадумаў і зноў прыліп да куфля з півам.

– Недзе ж начальства мыецца, што не відаць яго з намі, – загаварыў нехта ў тым жа самым месцы.

– Мала па раёне сваіх лазняў?! – адказаў яму Бондар. – Там, нябось, і гарачая вада, і пара – усё, як мае быць.

– І спіну ёсць каму пацерці, – дадаў той самы голас, што нібы хваліў начальства.

Раману хацелася б пабачыць таго насмешніка, але не ісці ж было пад той канец лавы, дзе ён сядзеў.

Лазеншчыца з жаночага аддзялення запаліла і развешала па сценах лямпы-газоўкі, адну паставіла на бар’ер у акне буфета. У прылазніку больш-менш стала светла толькі паблізу гэтых лямпаў, а пасярэдзіне, дзе тоўпіўся, варушыўся люд, стаяў паўзмрок.

– Два чалавечкі! – паклікаў Аркадзя.

Дачакаўся сваёй чаргі, пайшоў мыцца Шкуцько.

Адстаўнік, дапіўшы піва, важна рушыў да выхада, несучы сваю пузатую сумку з венікам наверсе, загорнутым у газету "Правда".

У прылазнік завіталі некалькі чалавек на піва, а праз нейкі час шумна ўваліліся местачкоўцы – Царок, Мухля, Чыта, Кона.

– Во, ужо прайшла наша вочарадзь! – нібыта на самай справе апанурыўся высокі, дужы, чырванашчокі мацак Царок.

– За кім вы стаялі? – спагадліва пацікавіўся хтосьці з чаргі.

– Той ужо недзе мыецца. – Царок, а за ім Мухля рушылі ў мыцельню ўпэўніцца, знайсці таго, за якім яны "стаялі".

Калі неўзабаве Аркадзя выйшаў, каб запрасіць наступных двух кліентаў, за ягонай спінай Царок махнуў рукой астатнім сваім дружбакам, каб заходзілі. Тыя хутчэй паспяшылі на ягоны знак.

У чарзе нехта толькі ўздыхнуў. Усе прамаўчалі.

А што было рабіць? Абурацца, патрабаваць парадку? Пагражаць паскардзіцца? Толькі сабе самому ад'ядаць сэрца. Ну, калі нават наробіш шуму, пачнуць разбірацца, што гэтыя прайшлі без чаргі, хіба дакажаш што? Гэтым местачкоўцам з калом у горла не ўлезеш, знойдуць спосаб, на табе ж адыграюцца. Не чапай бяды, калі бяда спіць.

Доўга затым Аркадзя не выходзіў з мыцельні. А калі нарэшце паявіўся і аб'явіўся: "А-дзін чалавечак!" – знайшоўся-такі ў мужчынскай чарзе адзін, які не вытрываў:

– Слухай, Аркадзя! Ты ж ужо меру знай. Ужо валам валяць без вочарадзі.

Аркадзя прыкрыў дзверы за тым, хто зайшоў, порстка падняў галаву, жывое вока ягонае зірнула па-над галовамі, у ім паявіўся нейкі адмысловы бляск.

– Я вам буду вочарадзь глядзець? – абурыўся ён. – Маё

не дзела, хто тут у вас за кім. Мне паказвай бялет і прахадзі, мыйся. – Ён крутнуў назад, з пляскам зачыніў за сабой дзверы.

– Вазьмі ты яго, асэсара, – усміхнуўся Бондар.

– Ужо ці не лыкнуў, – выказаў здагадку хтосьці каля яго. – Ужо абодва вокі стаяць праўцом.

З мыцельні вываліў чырвоны, потны, у расхрыстаным кажуху Раманаў сусед Цітовіч. На кульцы трымаў торбу з бялізнай і мокрым венікам. Выбраўшыся на светлае, аж пад самы буфет, весела гукнуў да грамады:

– Што зажурыліся, арлы?

– Мы не арлы, мы львы, – засмяяўся яму ў адказ вясёлы шустры дзяцюк.

– Елісей? – Цітовіч працягнуў яму здаровую руку, а затым і яшчэ некаму, і яшчэ. Убачыў Рамана, кіўнуў яму галавой на ягоны “добры вечар”. Нарэшце, усеўся на бочцы каля буфета і завязаў размову са знаёмымі.

Тым часам людзей у чарзе паменела, ля Рамана на лаве неспадзявана вызвалілася месца. Ён ужо варухнуўся сесці, даць нарэшце спачын прымлелым нагам. Але спахапіўся: побач жа Собаль, ягонае, старэйшага гадамі, пераважнае права на гэтае месца. Даць знак сімпатыі да баптыста? Як паглядзіць на такое райкомаўскі работнік, які сядзіць недалёка?

Собаль сам звярнуўся да яго, паказаўшы на вольнае месца:

– Вы не будзеце садзіцца?

– Не… Калі ласка, вы…

Але нават райкомавец не звярнуў на іх увагі. І Раман папракнуў сябе: такі ўжо баязлівы.

Тым часам Цітовіч зрабіў замову буфетчыцы.

– Прымеш здароўе, Паўлавіч? – спытаўся ён у знаёмага, беручы адкаркаваную “чакушку”.

– Не, – адмовіўся той.

– А здра… Пасля лазні, пасля парылкі – ах харашо! Аж

цела ўзрадуецца! – Цітовіч пагладзіў сябе па паўнаватым чэраве.

– Эт-так! – ухвальна крактануў пажылы мужчына з чаргі. – Сам Суворов говаривал: седмицу не пей, две седмицы не пей, а сызбани выпей... Хошь сподники продай, а выпей.

– Нейк нецікава без кумпаніі, – Цітовіч пакасіўся на Собаля, які аказаўся цяпер блізка каля яго. – А можа, пан Собаль раздзеліць? – Цітовіч паказаў яму чацвярцінку.

– Не-не! – аж замахаў рукой Собаль, як баронячыся.

– Кропельку, – Цітовіч падміргнуў некаму са знаёмых.

Але Собаль нават не адазваўся. Усе сядзелі, патупіўшыся ад няёмкасці. Брыдка пачуваўся і Раман. Цітовіч ужо занадта, да здзеку пацвельваўся з баптыста, падбіваючы яго на грэх. На добрае, маўчаць бы выпівоху, не казырыцца перад цвярознікам, хай сабе ён і сектант, і чужак.

– Во прыгода! – дзіваваў Цітовіч. – Назад аддаць гэта? – Трасянуў чакушкай. – А то, Елісей, возьмеш каліва? – Той падняў галаву. – Елісей – давай па ўсей!.. Хаця ты ж яшчэ не мыўся, ты ж па-сувораўску – сызбані?

– Я? – Елісей задумаўся, а тады рашуча падняўся. – А чаго, можна! Якая розніца: сызбані ці не сызбані?

Пад вясёлы гоман мужчын Елісей далучыўся да Цітовіча.

Памыўся Шкуцько. Падышоў да буфета. Раман дасачыў: замовіў “сто грам з прычэпам” – у куфель піва буфетчыца наліла яму грамаў сто гарэлкі.

Завітала на піва кампанія нейкіх яўна нетутэйшых, відаць, якіх-небудзь камандзіраваных дзецюкоў, на выгляд шафёраў – у пацёртых бушлатах, паддзёўках, адзін у скураной куртцы.

Цітовіч, закусваючы на сваім седале, глядзеў, глядзеў на таго, што ў куртцы, вясёлага, гаваркога, і звярнуўся да яго:

– Канечне, звініце... Здаецца, мы з вамі быдта бы недзе відзеўшыся. Вы не Барсук?

Шкуцько, які прыладкаваўся на пустой бочцы са сваім куфлем, таксама зацікавіўся прышлымі людзьмі.

– Што, на барсука змахваю? – жартліва адказаў дзяцюк. – Морда барсучыная, клінам?

– Не... Я звіняюся – не Барсук ваша хвамілія?

– Чаму Барсук? Чаму, скажам, не Лісіцын?

– Вы расеец? – Цітовічу карцела разгаварыцца з вясёлым чалавекам.

– Чаму расеец? А калі карэец?

– Люблю шабутных, – засмяяўся Цітовіч. – Сам шабутны. Які ж вы карэец?

– Гэта як паглядзець, – завёўся жартаўнік. – Лі Сын Ман, па-вашаму, хто? Карэец. Хоць і Су Кін Сын. Ну, а калі я, дапусцім, Лі Сі Цын? Хіба не магу быць карэйцам? – Дзяцюк абвёў з гарэзлівай усмешкай зацікаўленую грамаду і пачаў расказваць нібыта сваім кампаньёнам, а на самай справе ўсім: – Вот быў такі выпадак... Амерыканцы збілі над Карэяй самалёт. Лётчык спусціўся з парашутам, яго злавілі. Прыводзяць на допыт. “Як зваць?” – “Лі Сі Цын”.

У прылазніку некалькі чалавек пераглянуліся з хітраватым посмехам, спадцішка зіркаючы на Шкуцько. Раманавых вушэй таксама не мінуў патаемны погалас, што ў Карэі на баку Кім Ір Сена ваююць савецкія ваеннаслужачыя, абмундзіраваныя і аформленыя па дакументах пад карэйцаў.

– Какой такой Лісіцын? – дайшло і да Шкуцько, які нацэліўся злосным позіркам на анекдотчыка.

– Ну какой? – з выклікам адказаў весялун. – Лісіцы сын.

– Как твая фамілія па пашпарту?

– А ты, дзядзя, уж больна грозен, как я пагляджу... Выйдзем, пакажу табе пашпарт.

– Не гразі! Не запугаеш! Я це... – Шкуцько неяк ураз сціх, відаць, спахапіўся, што ў гэтай публікі, што засталася ў прылазніку, у яго падтрымкі не дужа.

– Хто табе грозіць, каз-зёл! – ужо з непрыхаванай злосцю змерыў Шкуцько дзяцюк.

Кампанія няспешна пакінула лазню.

– Тры чалавечкі! – весела кінуў Аркадзя.

Шкуцько дапіў піва.

– Слыш, – загаварыў ён даверліва да Цітовіча. – Ты гэнага, што тут балагурыў, знаеш?

– Каго гэнага?

– Ну таго... Што Барсук.

– Ты ж чуў, які Барсук, а пытаешся. Першы раз яго бачыў. Абазнаўся.

Шкуцько звярнуўся ўжо да ўсіх:

– Ніхто гэнага Лжэлісіцына не знае? – Але ніхто нават галавы не падняў. Шкуцько неяк ураз прыціх, а тады спытаўся ў Цітовіча: – Ты ўжо йдзеш? Хадзем разам...

– Чаго мне спяшацца?.. Цёпла, добра, чарачка, піва пад бокам. І шынкарка – гарна маладзіца.

Цітовічу было весела, а Шкуцько відочна апанурыўся.

“Ага! – зларадна падумаў пра яго Раман. – Баішся?! “Лісіцын” там дзе-небудзь падпасвіць”.

Патроху меншала народу як на мужчынскай, так і на жаночай палавіне. Раману, чакаючы, запякло ад тугі. Хоць бы яшчэ вада цёплая была. Ужо разы два прыходзіў з вуліцы чорны ад вугалю качагар, шмыгаў у дзверы да буфетчыцы, дрэмле недзе пад добрай мухай.

За Раманам у чарзе былі толькі баптыст Собаль, двое старых і хлопец, які вучыўся ў сёмым класе, жыў у халупе з маткай-удавой, лічыўся трохі дзіўнаватым, маляваў святых і анёлаў. Бы спецыяльна падабраліся: паскрэбкі, адкіды чаргі.



## Людміла МЯХЕДКА

* * *

*М. Багдановічу.*

Ажурна хваль каўнерыкі плывуць...
Апошні баль... і суцяшэнне – страшна.
Я не магу сама сябе вярнуць –
Дзень заўтрашні закрэсліў учарашні.

А лета папярэджвала! Ты помніш:
"Зачынены вароты на замок,
Але яшчэ ты з ёю побач можаш
Сабраць расу рамонкавых размоў".

Жаўцеючы, плыло уніз цячэнне –
Ўжо без ілюзій – так яму лягчэй.
Скідала лета чырвань бранзалетаў.
Кідала ў Лету бляск тваіх вачэй.

Не, не палохала мяне ты, Восень!
Крычала я табе: круці, свішчы,
Чапляйся да мяне – бо ўсё збылося
Ў разбітых шыбах думак уначы.

Імгненне разрываецца, згарае –
І ў час разбою, фальшу і нуды
Я бачу словы зноў на небакраі
І зорку тую, што запаліш ты.

# Таццяна БУДОВІЧ



*Тут новая трава ізноў*
*пад новым покрывам снягоў*
*сплятае ніці каранёў...*

***

Я сонца нажом забіў,
Завостраным мной старанна.
Забітае сонца ўпала
Далёка за край зямлі
І кроў на спіну сцякала
Аблокам, што там плылі.

...З-за краю зямлі насупраць
Яшчэ адно сонца ўстала
На раніцу днём наступным.

***

Восень даўно ўжо. Цяжкія аблокі
Цягнуць з зямлі жыццядайныя сокі.

Краты галін адгароджваюць свет,
Той, дзе губляецца сноў маіх след.

Тут — адзінота, хвароба і золь.
Цісне да ложка бязлітасны боль.

Ах, як шкада, што вяртання няма
Ў дні, калі быў каралём я. Дарма

Не развітаўся з жыццём я тады,
Ў росквіце славы і сіл, маладым.

Шмат меў багацця, і многа —
сяброў.
Толькі цяпер знікла ўсё без слядоў.

Цяжка апошнія дні дажываць.
Цела ад смерці пад коўдрай хаваць.

Ведае нізкае неба: я Ж Ы Ў.
Дождж адбівае па шыбах матыў:

Супраціўляцца без сэнсу і сілы —
Быць утаптаным у пашчу магілы.

***

Ты маеш час прыйсці.
Травою прарасці
між пліт.

І размаўляць са мной.
Тут ціша і спакой.
Граніт

плюшч апавіў з тугой.
І неба над зямлёй
блакіт.

Прыйдзі, каханы мой.
Паразмаўляй са мной.

***

Як і раней, нас пахаваюць,
Падумаўшы, што мы памерлі.
Зямлёю змерзлаю закідаюць,

Каб да адлігі мы не мерзлі.
А нам з табой таго і трэба.
У нас з табой — не гэта неба.
Пад ім не спыняцца арэлі,
Што з ніцяў срэбнай павуціны
Пляце для нас павук вялізны.

...Усё — нібыта мы памерлі.
Усё — нібыта мы не разам.
І Бог прадвызначыў паразу
Тваёй дружыне. І не злезе
Крывавы снег з зямлі. На снезе
Крывавым быццам бы не зброя
Тваіх непераможных вояў.

***

Тут новая трава ізноў
пад новым покрывам снягоў
сплятае ніці каранёў:

сагрэцца...

***

Як хачу я мець
Жыццяў шмат яшчэ,
Каб у кожным з іх —
Па тваёй слязе,
Залаты Цялец,
Абярог не мой.

І ўсё ж Бог з табой,
І хвала табе,
Залаты Цялец
З залатой слязой.

***

*А толькі мне няма куды ісці,*
*і ўжо даўно няма куды ісці –*
*там*
*нехта ёсць,*
*і я яго баюся...*

**Т. Сапач.**

Маёй не спытаўшы згоды,
Ці ў радасці я, ці ў скрусе,
На ветры Тваім халодным
Ты танчыць мяне прымусіў.

Няспынна за мной Ты сочыш,
Як танчу, і ўдзень, і ўночы.
Да рытму зусім няўважна.
Надзіва бяздарна танчу.

Пакуль што Табе не важна,
Бяздарна, ці не, я танчу.

***

Той свет за белымі дзвярыма:
Дзівосны дом у зяляніне
І кветках патанае сініх.
...Той свет за белымі дзвярыма,
Дзе мы з табою — два манахі.
Баронім жыхароў ад страху
Быць адзінокімі.
...Я дзверы

Ў той свет малюю на паперы.
І кветкі сінія з травою.
І двух манахаў — нас з табою.

***

Я пад белым халодным небам
Белым-белым халодным снегам
Прачынаюся, каб убачыць,
Прачынаюся, каб адзначыць:

У цябе сёння сілы болей.
Сілы хопіць табе, каб здолець
Палюбіць гэты холад неба.
Белы снег на халоднай глебе.

 





# Аляксандр ЛУКАШУК

*Свабода аказалася не выбарам,*
*не рашэннем, не магчымасцю,*
*а мовай.*
*На гэтай мове размаўляла новае*
*жыццё, і гэтую мову*
*немагчыма было вывучыць на курсах*
*ці прывезці з сабою.*
*Найлепшыя слоўнікі валяліся*
*неразгорнутыя.*

 

**А.**

Альфабэты ўсіх еўрапейскіх народаў пачынаюцца з А.

У Афрыцы іначай, але там увесь кантынент на гэтую літару. Як і Азія. Як і Аўстралія. Як і Амерыка з Антарктыдай.

Атлантыда таксама пачыналася з А.

Гэта самы нечалавечы гук. Ён існаваў да Адама, так лопалася, застываючы, магма, так берагавая скала сустракала мегатонны размах акіяна, так развітваліся адзін з адным мацерыкі, раздзёртыя тэктанічнымі сутаргамі.

Адкрыты, быццам глыбокі і павархневы адначасна, пусты, які пачынаецца з насілля: трэба намаганне, каб размыкнуць губы. Трэба адкрыць рот. У целе ўтвараецца неабароненае месца, рана, доступ да ўварвання ўсярэдзіну, для ўдару ў сэрца, тупога і страшнага, як сам гэты гук, неакрэслены, неабмежаваны, невядомы. Сэрца замірае, а потым пачынае гнаць кроў няроўнымі штуршкамі, перасільваючы сябе: удар, яшчэ ўдар, паўза — што цяпер? — зноў штуршок.

А.

***

# ІМЯ А.

Імя было большае за яго самога. У розныя часы ён жыў рознымі кавалкамі: часам гэта быў гук “с” — пасіўнае, спакойнае, крыху соннае, раўнамернае існаванне. Уставаў раніцай,

мыўся, ішоў некуды — на заняткі ці на службу, у чытальную залу, проста ў парк. Канечне, так было тады, калі яшчэ можна было прачнуцца ў сваім ложку, і дома была вада, і хадзіў гарадскі транспарт. Тады дні і ночы сплывалі, не пакідаючы слядоў.

Але ці не падманвае яго памяць, ці быў калі такі час? Неяк яму паказалі ліст ад агульнай знаёмай, якая пару гадоў перад тым з'ехала за мяжу. Тады эміграцыя азначала —назаўсёды, так і праводзілі. Яны спрачаліся, што самае цяжкае будзе там, у новым жыцці, да чаго варта было б падрыхтавацца? Мова, грошы, адсутнасць сяброў, кніг, гэтых гутарак у сваім коле... Свабода, сказаў Ш., іх агульны сябар. Яны смяяліся тады — што ж цяжкага можа быць у свабодзе: чытаць кнігі, якія хочаш, глядзець фільмы без купюраў, ездзіць, куды падабаецца, не хадзіць на дэманстрацыі, сходы і не галасаваць.

Ш. меў рацыю, пісала знаёмая. Свабода аказалася не выбарам, не рашэннем, не магчымасцю, а мовай. На гэтай мове размаўляла новае жыццё, і гэтую мову немагчыма было вывучыць на курсах ці прывезці з сабою. Найлепшыя слоўнікі валяліся неразгорнутыя.

Канструкцыя імя спалучала абарончую моц і хітрамудрую архітэктуру старажытнага замка з падвоенымі сценамі, гулкімі заламі, вежамі і падземнымі хадамі. Нацягваліся ў струну каваныя звёны ланцугоў і пад'ёмны мост неахвотна спалучаў два бакі бяздоннага рова: каралеўскія госці ўцягваліся ў доўгі цёмны тунель з насечанымі байніцамі ў муры. Тых, хто прыязджаў упершыню, дзівіла, што байніцы глядзелі ўсярэдзіну, быццам нехта збіраўся абараняць навакольны свет ад насельнікаў замка, не выпускаць іх вонкі. Так і было.

Гаспадар замка занадта добра ведаў, якога кшталту госці перасякаюць крапасны роў.

***

Яму перадалі, што чакаюць у суседнім пакоі. А. ведаў,

што гэта значыла. Іншыя ўжо хадзілі туды і пасля глядзелі ўбок і рабілі выгляд, што нічога не адбылося. Калі А. увайшоў, дзверы за ім замкнуліся, і ён адчуў дзіўную абыякавасць да таго, што зараз адбудзецца. У пакоі было чалавек пяць-шэсць. Яны акружылі А. Як у сне, А. нехаця паднёс рукі да твару, левая вышэй, на ўзроўні вачэй, правая закрывала падбародак і сонечнае спляценне. Ногі напружыліся, разварочваючы і падаючы цела крыху назад. Не ўдар рукой, а пераанос цэнтра цяжару адначасна з разваротам, калі рух усяго цела, ад пальцаў ног праз мускулатуру сцягна і торса, хваляй узлятае ў перадплечча і выстрэльвае па найкарацейшай лініі ў кісць, складзеную і павернутую так, каб гэтая сіла вылецела з яе і перайшла ў іншае цела.

А. быў абыякавы да спорту, але ўсе нечым займаліся, даставалі разрады, ездзілі на зборы і спаборніцтвы, і ён таксама некалькі гадоў цягаўся на трэніроўкі. Вялікіх поспехаў не меў, бо не меў амбіцыі, больш любіў займацца з грушай, чым з партнёрам. Трэнер гэта бачыў і асабліва не патрабаваў ад А.

А. збілі з ног, але было ўжо позна — нечая сківаца хруснула і роў было чуваць за межамі турбазы. А. давялося з'ехаць, хоць усе дружна пацвердзілі, што бялявы ўпаў сам. Ён потым сустракаў тую кампанію ў горадзе, і яны ненатуральна дружалюбна віталіся. Вузкае лязо нажа ён з таго часу насіў з сабою.

***

Як яго звалі ў дзяцінстве? Ён не памятаў, дакладней, не быў упэўнены. Маці звала “Аля” — ці то дзяўчына, ці то хлапец? Хутчэй, дзяўчына. Ён мог бы быць дзяўчынай. Адкрываць сябе, утвараць пустату, у якую пускаць вонкавы свет, дазваляць яму авалодаць сабой з сярэдзіны, а на самай справе карыстаць з завабленага на сваю тэрыторыю чужынца. Там пустата авалодвае і прысабечвае прастору,

прыручае яе і ўпарадкоўвае. Там свабода ператвараецца ў сон і забывае на свае шырокія і лёгкія крылы, што неслі насустрач гарады, бібліятэкі, тэатры.

А. амаль стаў дзяўчынай, аднойчы. Як імя таго дырыжора, Раман? Еўрапейская зорка, паўзабароненая ў імперыі, аўтар бліскучых спектакляў, кожны з якіх выклікаў эстэтычны скандал. Акторы яго абагаўлялі, начальства не ведала, што рабіць, публіка млела. Ён пару разоў быў на ягоных рэпетыцыях у сталічных тэатрах і кожны раз выходзіў з іх як п’яны. Сцэна нагадвала карціны сюррэалістаў у руху, аднойчы яму падалося, што гераіня паднялася ў паветра і паплыла над залай.

— Вам спадабалася? — спытаў пасля рэпетыцыі дырыжор.

У тэатр А. прывёў ягоны сябар, музыкант і вучань дырыжора, які ставіў свае ўласныя спектаклі. Напярэдадні яны былі ў гасцях у драматурга. Ехаць давялося за горад на электрычках з перасадкамі. Скрозь запацелыя вокны нічога не было відаць, ды і хутка цямнела. Доўга блукалі па цёмных раскіданых вулічках пасёлка, пакуль не знайшлі хату, якую здымаў драматург. Ягоная апошняя п’еса называлася “Снег. Паблізу ад турмы”. Снег каля хаты ніхто не разграбаў ад пачатку зімы, толькі дарожка цягнулася ад весніц да дзвярэй. Драматург якраз рабіў інсцэнізацыю Дастаеўскага на замову тэатра, дзе працаваў сябар. Ён толькі што скончыў першую частку. Прывезеная гарэлка не толькі не адцягнула ягонай увагі, а, наадварот, уся размова за сталом саслізнула ў свет пінскага шляхціца, хваравіта-выпуклы, з падвышанай тэмпературай, калі кожная інтанацыя раптам пачынала настойваць на сваёй першаснасці, выгінацца, напінацца, і раздроблены на дзесяткі самастойных цэнтраў запалены мозг дзёрзка і самаўпэўнена настойваў на мностве відавочных ісцін.

— Чуеш, А. меўся атрымаць дзяржаўную прэмію, але сам ведаеш, каму ў нас даюць, — гаварыў С.

Гэтыя словы прывялі драматурга ў шаленства. Ён блізка нахіліўся да А. і, гледзячы яму ў вочы ненавісным позіркам, сказаў:

— Нічога ў іх не прасі. І не шкадуй. Зразумеў?

Чаму тады драматург так пераняўся і з такой зласлівай трывогай, як бы сам таго не жадаючы, выгаворваў яму, нібы папярэджваў аб нечым? Магчыма, у ім гучалі галасы герояў рамана, які ён перакладаў для тэатра, і ён проста граў ролю аднаго з персанажаў, які не дагаварыў сваё ў тэксце п'есы ці, наадварот, існаваў ужо паводле сваёй уласнай логікі і рэагаваў на прапанаваныя абставіны, як таго вымагала класічная тэатральная сістэма. Тады гэта была перасцярога ўжо не драматурга, а, хутчэй, самога аўтара вялікага рамана.

Страшэнны цяжар наваліўся на вочы А.; яны заплюшчыліся, але ён працягваў ведаць і бачыць, што адбываецца ў пакоі. Стол з недапітай гарэлкай пасунуўся да печы, лаўка пад ім паехала ў кут, лямпачка зморшчылася ў бляклы камяк і пачала разгойдвацца, быццам хату падхапіла акіянская хваля і яны паляцелі ў крутую кіпучую бездань.

Пры гэтым А. увесь час адчуваў бездапаможную крыўду ад таго, што ён няправільна зразуметы, што няважная яму была тая прэмія, што, вядома, ён нікога не прасіў, і парада, якую ён пачуў, не да яго адносіцца. Але выгаварыць гэта было немагчыма, тое, што здавалася ясным і зразумелым яму самому, губляла сэнс і выглядала зусім іначай, калі паспрабаваць пераканаць некага іншага.

— Ну, а калі б далі — адмовіўся б?

А. не ведаў, хто задаў гэтае пытанне, але адчуў яго мярцвячы ціск. Яно выціснула гутарку на самы край, за якім пералівалася і клубілася пустата, іншае вымярэнне, у якім можна існаваць, але гэта будзе ўжо не тут і не з гэтымі людзьмі. Ён не шукаў тае ўзнагароды, яго абралі. Але чаму абралі, чаму яго? Значыць, заслужыў, значыць, неяк змясціўся ў клетцы, склаў свае крылы — ці абрэзаў?

Спрабуючы ўтрымацца на краі, А. пасунуўся па шклянку, калі яго ўвагу прыцягнуў прыглушаны халодны бляск ляза. Драматург перахапіў позірк і засмяяўся.

А. здагадаўся, што ён смяецца, бо нічога не чуў: у вушах даўно стаяў мерны шум, які то нарастаў, то спадаў. Драматург трымаў у руках машынапісны тэкст і чытаў урывак з п'есы. А. напружыўся.

У гэты момант нехта моцна застукаў у дзверы. Прыехала драматургава жонка з гасцямі, яны запоўнілі ўсю маленькую кухню, драматург па чарзе знаёміў іх з А., там была вядомая паэтэса, якая сама спявала свае песні, муж з жонкай — акторы сталічнага тэатра, і мастак, з ім А. ужо сустракаўся раней.

Ён запомніў адну яго карціну: пустая тэатральная зала, шэрагі малінавых крэслаў, і на першым, раскінуўшы рукі, нібы крылы, адзінокі чалавек углядаецца ў пустую прастору над сцэнай ці за сцэнай. А. ўразіла тады надзвычайная канцэнтрацыя адзіноты на палатне. Пустата напаўцёмнай залы зыходзіла на фігуру чалавека ў фокуснай кропцы і ад яго пад вуглом выпраменьвалася на сцэну, дакладней, на таго, хто глядзеў на карціну. Так пры правільным сумяшчэнні лінзаў далёкая і быццам дробная дэталь раптам рэзка і выразна запаўняе прастору і выцясняе ўсё іншае, што ляжыць паміж. А. запомніў гэты скачок, бо менавіта яго шукаў сваімі вершамі.

Ён узгадаў тое палатно ў тэатры на рэпетыцыі і нечакана пазнаў у дырыжоры адзінокага чалавека з карціны.

***

— Вам спадабалася?

Гэта пытаўся дырыжор, яны ўсё яшчэ стаялі ў партэры, музыканты, асвятляльнікі, рабочыя сцэны тоўпіліся наўкол, нешта гаварылі, спрачаліся. Дырыжор глядзеў у вочы А.

— Можа, вы дапаможаце, каб нам дазволілі? — гэта

гаварыла актрыса, тая самая, што лятала. А. не адразу, але здагадаўся, у чым справа: яго прынялі за члена сям'і высокага начальства, які можа паспрыяць. Ён чуў пра члена палітбюро, чый сын марыў пра тэатр; сябар казаў, што той меўся быць на рэпетыцыі.

— Я плакаў, — адказаў ён.

Актрыса адразу страціла цікавасць. Тут яго сябар нарэшце пазнаёміў А. з дырыжорам. Той і сам зразумеў памылку і з цікавасцю глядзеў на А.

— Дык гэта Вы? С. шмат расказваў пра Вас і паказваў Вашыя вершы. Цікавы гук, мне здаецца, Вы ідзяце па краі.

А. заўсёды здзіўляла банальнасць падобных размоваў. Выключэннем былі тыя, хто нічога не казаў. Але і маўчанне таксама магло нічога не хаваць у сабе. Ён сустрэў аднойчы ўспаміны, як два паэты, адзін з іх нобелеўскі лаўрэат, абмяркоўвалі знакаміты радок, знак мінулай эпохі, пра пальцы тырана, падобныя да чарвякоў.

"Паслухайце, якое "эР-р-р...", як Вам падабаецца гэтае "эР-р-р"!.."

Гэта было так відавочна, так па-базарнаму безгустоўна, што А. аж жахнуўся. Пазней ён падумаў, што справа была хутчэй у прозвішчы самога лаўрэата, ён чуў сябе і свой лёс, які трымцеў у тых пальцах, і ведаў сапраўднае значэнне сваіх першых гукаў: "Бр..." Верагодна, толькі гэтых гукаў. "Я імкнуўся развіць у сабе нешта, верагодна, вельмі маленькае, але надзвычай моцнае, прапарцыянальнае вялізарнаму ціску звонку". Развіццё насуперак азначала выбух ва ўсе бакі, у тым ліку на тэрыторыі, чужыя музыцы.

Так здарылася з вершам "На незалежнасць", які лаўрэат чытаў у перапоўненай зале заакіянскага універсітэта. Гэта адбылося праз эпоху ці дзве, А. трапіў на іншы кантынент выпадкова, надарылася магчымасць паляцець — і ён паляцеў. Універсітэт, які фармальна запрасіў яго з лекцыяй з гісторыі, на самай справе нічога ад яго не хацеў, проста былі выдаткаваныя грошы, нехта яго парэкаменда-

ваў, вось і ўсё. Гісторыя ягонай краіны нікога не цікавіла. А. праводзіў час у бібліятэцы і прагулках па горадзе. На вечарыну знакамітага лаўрэата — былога суайчынніка — ён ішоў з цікавасцю, бо ніколі раней не чуў ягонага голасу.

Верш "На незалежнасць" гучаў апошнім. У новай геаграфіі краіны, якая адарвалася ад імперыі, у імёнах яе рэк і гарадоў, якія ракаталі ў вершы лаўрэата, гучала дзіцячая крыўда і рымская пагарда. "Усё адно не янкі лаянку, а нас вы слухаць будзеце".

А. спачатку падумаў, што гаворка ідзе пра заакіянскіх дарадцаў, якіх абвінавачвалі ў развале імперыі, і здзівіўся такой аберацыі густу. Толькі калі ўцяміў, што насамрэч на ўвазе маюцца не янкі, а Янка, зразумеў, што паэта зачаравалі прапорцыі турмы, у якой ён нарадзіўся, і што нават пасля ўцёкаў ён адчувае яе своеасаблівую гармонію, блізкую свабодзе менавіта сваёй відавочнай процілегласцю.

Ірваныя апладысменты прымусілі А. тады ўстаць і невядома дзеля чаго назваць імя адыёзнага палітыка са сталіцы імперыі і сказаць, што той, верагодна, завучыць верш на памяць. Зала таксама выбухнула апладысментамі. Паэт іранічна глядзеў са сцэны. Больш А. у гэты універсітэт не запрашалі. Але гэта было ў будучым, якое тады яшчэ не стала мінулым.

***

А. запомніў іншыя пальцы. Мяккую, шырокую далонь на сваёй галаве, яе бездапаможнае цяпло. Гэта была, магчыма, самая геніяльная рука стагоддзя, але — дзеці не памыляюцца — гэта была слабая рука. Безабаронная, хісткая. Далонь палоннага. А што можа палонны, няхай і ўшанаваны самымі высокімі ўзнагародамі? Прылада, якая гаворыць, як у старажытнасці называлі нявольнікаў. Прылада, якая піша музыку. Якая спявае. Складае вершы. Расшчапляе атам. Прылада.

Няўжо праз такую руку і магла прыйсці і ажыць музы-

ка ягонага часу, з вачыма, залітымі крывёю, слыхам, напоўненым выццём, узарванымі крамамі, калючым дротам, ваеннымі парадамі, рэкордамі, пералётамі і перамогамі, але, больш і перш за ўсё, — рукатворнай смерцю?

Яму было гадоў дзесяць, калі бацька ўзяў яго на сустрэчу з гэтым сусветна вядомым госцем, які прыехаў на адпачынак у іхні горад, дакладней, у блізкую пушчу. Яны сядзелі за вялікім абедзенным сталом, і дырэктар запаведніка, бацькаў знаёмец, даволі назойліва пераконваў госця напісаць музыку пра пушчу і ейных насельнікаў.

Падавалі стравы з мясцовай дзічыны: каўбасы з дзіка, аленіну, вэнджаную ласяціну. Абед не адрозніваўся ад таго, што елі тут калісьці каралі і ваяводы. Хіба посуд быў іншы. Але гутарка была тая самая — пана і прыгоннага, гаспадара і работніка, канваіра і зэка. Удзельнікі ведалі свае ролі.

Музыка пра пушчу з'явілася, але яе аўтарам быў не знакаміты госць, які тады, за сталом пакорліва ківаў галавою. Магчыма, рэліктавы лес мог бы натхніць кампазітара раней, калі ягоную музыку абвяшчалі сумбурам. Альбо пазней, калі была перакладзеная лацінская паэма пра тутэйшае паляванне, і такім чынам гэтыя мясціны траплялі ў культурную традыцыю.

Але тады якраз была паўза, новы дырыжор толькі што ўзышоў на подый і яшчэ прымерваўся да ролі. Ці адчуваў кампазітар, што яго, як клоуна, зноў выпхнуць на сцэну і прымусяць крыўляцца ў пародыі на даўно, здаецца, мінулыя часы? Ён зноў будзе падпісваць звароты і адкрытыя лісты, сваімі мяккімі рукамі дапамагаць пераціскаць чужыя вены? А. думаў, што так — кампазітар адчуваў тонкасць і ненадзейнасць абалонкі, якая быццам зацягнула мінулае, і не мог кантраляваць гіпнатычны жах, які зыходзіў ад улады, што ўся вырастала з таго быццам мінулага і была гатовая ў любое імгненне паласнуць лязом па вачах.

Але тады, падчас сустрэчы, была паўза, рэмісія, амаль

свабода. Кампазітар узяў з вазачкі некалькі цукерак і працягнуў іх А. Закручаныя ў залацістую фольгу і вошчаную паперу, шакаладныя конусы ледзь змясціліся ў дзвюх руках. А. нічога не сказаў, не падзякаваў нават, толькі глядзеў знізу ўверх, і тады кампазітар паклаў яму сваю руку на галаву і некалькі разоў пагладзіў. Далонь палоннага.

***

Дырыжор чакаў.

"Я піў атруту падрадкоўя. Радкі, як стрэлы, зазубрыны напяўшы, прабівалі скуру, засядалі ў целе і абрасталі плоццю. Іх вырваць азначала вырваць цела", — ён чытаў тады верш, які прывёз у сталіцу імперыі са свайго горада.

Верш быў прысвечаны апошняму класічнаму паэту эпохі, які перажыў тры вайны і трох тыранаў і працягваў пісаць у сваім дамку пад сталіцай. У яго пакоі стаяў партрэт з аўтографам вялікай паэтэсы — ягонай сучасніцы, пра другую вялікую паэтэсу казалі, што ён быў ейным апошнім каханнем перад тым, як тая павесілася ў далёкім азіяцкім горадзе над халоднай ракой.

Гэтым разам паэт зімаваў у доме творчасці. Дарога ад чыгункі вілася вакол могілак на гары, і А. спачатку падняўся на круты схіл, расчысціў надпіс на шэрым камені і паклаў кветкі на магілу другога паэта, якога ён таксама без памяці любіў. Аднойчы ён падабраў шышку з сасны, што нахілілася над магілай, прывёз яе дахаты, дастаў карычневае сплюснутае семя, каб пасадзіць дрэва. За гады, якія мінулі пасля пахавання, паэт павінен быў стаць часткай дрэва: праз капіляры каранёвай сістэмы ягоныя гены ўжо напэўна падняліся па высокім ствале ў крону і, магчыма, смалістае семя ўтрымлівала яго апошняе прывітанне. Цікава, колькі жывуць гены? Ці яны прападаюць, раскладаюцца, як клеткі, і знікаюць без следу? Ён ніколі гэтага не ведаў — сасновае семя не прынялося, а потым шышка некуды прапала.

А. дачытаў свой верш у тэатральнай зале. Акторы, яшчэ ўзбуджаныя пасля рэпетыцыі, загаманілі адразу, як ён скончыў, пачалі высвятляць, калі наступны прагон, узгадняць графікі сваіх канцэртаў.

— Мы з вамі яшчэ пагаворым, растлумачыце, чаму ў вас радкі, якія толькі што былі атрутай, ператварыліся ў стрэлы, — сказаў дырыжор, якога некуды ўжо цягнулі.

А. узгадаў тую незавершаную размову праз некалькі гадоў.

Галоўная газета імперыі абвінаваціла дырыжора ў здзеку з класікі, сцэны сталічных тэатраў для яго чарговы раз закрыліся, і дырыжор прыехаў ставіць спектакль у правінцыю. Напачатку яму наладзілі творчую сустрэчу, зала была набітая акторамі, крытыкамі, мастакамі, музыкантамі, рэжысёрамі. Дырыжор умеў гаварыць, і зала як наэлектрызаваная лавіла ягоныя афарызмы, то натапырвалася ад небяспечных анекдотаў, то расслаблялася, то зноў у цішыні слухала пра энергаабмен паміж сцэнай і гледачамі, які дырыжор лічыў галоўным у тэатры. У сталіцы гэтае поле быццам здолелі нават замераць спецыялісты з сакрэтнага інстытута, яно прабівала абарончыя абалонкі душы, і ланцуговая рэакцыя падхоплівала залу ў катарсісе, прывітанне, А., і гэта было сэнсам і спосабам стварэння.

А. тады быццам ударыла токам. Зварот дырыжора, які пабачыў яго ў сярэдзіне залы і павітаўся, ледзь не выкінуў яго з крэсла. Як выглядала, тэорыя энергаабмену была не проста тэорыяй; А. нешта слаба адказаў, на яго з цікавасцю азіраліся. Ён ледзь даседзеў да перапынку, хутка апрануўся і выйшаў на вуліцу.

Дырыжор перадаў яму запросіны на рэпетыцыю, пытаўся, ці не зробіць А. колькі тэкстаў для песень, якія патрабаваліся для спектакля. Аднойчы яны вячэралі ўтрох разам з вядомым крытыкам, які прыехаў са сталіцы спецыяльна на рэпетыцыі. Калі дырыжор іх знаёміў, крытык чамусьці глядзеў на А. з ледзь улоўнай усмешкай. Пасля

рэстарана яны правялі крытыка ў гатэль, і ўдвох пайшлі па старым горадзе ў бок кватэры, якую тэатр здымаў для дырыжора.

Чамусьці А. адчуваў сябе няёмка, размова не клеілася. Ля дома дырыжор запрасіў яго на кілішак каньяку. Седзячы на канапе, А. смакаваў залацістую вільгаць шматгадовай вытрымкі, калі дырыжор выбачыўся і выйшаў з пакоя. Калі ён вярнуўся праз колькі хвілінаў, на ім быў італьянскі шоўкавы халат. Ён сеў побач, узяў А. за руку і пачаў яе лёгка гладзіць. Неймаверная млявасць ахапіла А. Ён быццам расцякаўся, трацячы абалонкі цела; рукі, ногі, галава – усё існавала паасобку і незалежна, усё было невядома дзе, ён не мог сабраць іх і ўжо амаль нічога не адчуваў і не хацеў, плывучы ў тумане, які запаўняў пакой. А. не мог паварушыць пальцам, але ўсярэдзіне ўжо нарастаў жаль, і ён ведаў, што нічога не будзе, не атрымаецца, ён не здолее зрабіць тое, што ад яго чакаюць.

Дырыжор адчуў перамену. Праз смутак ён паспрабаваў яшчэ раз дакрануцца да шчакі, але А. ужо ўставаў.

Аляксандра – жаночае імя, ці не так? Наўрад, наўрад...

***

Кантрастам “А” было “эЛь”: быццам пасля жорсткага касмічнага выпраменьвання, ззяння чорных сонцаў, магнітных бураў, бязгучнага кружэння мёртвых астэроідных паясоў і бязлітаснай бязмежнасці сусвету раптам узнікала Зямля. Вільготнае “эЛь” сцякала з крышталёвых ледзяшоў і разбівалася на бліскучыя кроплі, лілося дажджом і струменіла ручаямі, набрыняла клейкімі лістамі і гулка ляцела долу спелым яблыкам, білася лянівым лінём у сетцы і трапятала лістападам, хваёвай іголкай прыліпала да маслякоў і застывала ў шкляных лужынах, якія яны раскоўзвалі да люстэркавага бляску.

“эЛь” азначала любоў. У роднай мове А. гэтае паняцце перадавалася двума словамі. Адно прызначалася жанчыне

ці мужчыну, другое – паэзіі ці віну. Розніца заставалася загадкавай і недаступнай для перакладчыкаў у сталіцы імперыі – за адным выключэннем. Неяк у сталічным літаратурным архіве А. наткнуўся на тоўсты пакет з прозвішчам маладога паэта, свайго земляка, які знік бясследна паўстагоддзя таму. У пакеце ляжалі спрасаваныя гранкі кнігі паэзіі, якая была падрыхтаваная да друку, але ніколі не пабачыла свет. Сярод выдавецкай перапіскі, рэцэнзіяў і пастановы рэдакцыйнай рады ляжалі пераклады – але не было арыгіналаў вершаў. А. праверыў пасмяротныя публікацыі – усё зыходзілася, апроч аднаго верша. Існаваў пераклад, але арыгінал адсутнічаў. А. перакапаў старыя часопісы і зборнікі, пагартаў газетныя падшыўкі, але нічога не знайшоў.

Аўтарам перакладаў быў Т. За сваё жыццё ён пераклаў тысячы радкоў усходняй паэзіі, адзін заваяваны эмір даў яму нават ордэн за пераклады. Свае ўласныя вершы паэт пісаў у стол, друкаваліся яны надзвычай рэдка, у альманахах, якія называлі брацкімі магіламі, дзе яны былі як алмазы сярод шклянога смецця. Ягоная першая кніжка павінна была выйсці адразу пасля вайны, але вялікая паэтэса, якая напісала прадмову да зборніка, трапіла ў царскую апалу, і набор рассыпалі.

Праз паўтара дзесяцігоддзя, пры новым цары, кніжка ўсё ж выйшла. Там быў радок: “Ах, усходнія пераклады, як баліць ад вас галава!” — акыны адчулі пагарду і паскардзіліся свайму эміру, які ўжо сядзеў у палітбюро, і наступную кніжку паэту ўдалося выдаць толькі пасля чарговай змены ўлады.

– Жывіце доўга, – гаварыў паэт, калі чуў скаргі на тое, што некага не друкуюць. Калі А. спытаўся, ці перакладаў паэт калі-небудзь з ягонай роднай мовы, той неяк уважліва паглядзеў на яго і сказаў, што яго першай прафесійнай працай быў якраз такі пераклад, але хутка ён адмовіўся ад перакладу сучаснікаў і перайшоў на ўсходні эпас. Прычына была даволі відавочная – аўтараў рыфмаваных падан-

няў тысячагадовай даўніны не маглі дастаць нават доўгія рукі тагачаснай улады. Але справа была яшчэ ў мове.

– Хіба нашая мова не самая блізкая да вашай? – здзівіўся тады А.

– Многія жылі тады з перакладаў. Але ў самых лепшых – у Барыса, у Ганны і Марыны – вы знойдзеце толькі па аднаму вершу з вашай мовы. Паспрабавалі і кінулі. Думаеце, выпадкова?

Нашмат пазней А. знайшоў стэнаграму выступу аднаго з трох згаданых паэтаў падчас ягонага прыезду ў яго родны горад у сярэдзіне 30-х. Праводзілі імперскі фэст паэзіі, і паэт выйшаў на трыбуну, верагодна, пасля моцнай вечарыны напярэдадні – так падавалася з ягонага выступу. Ён пачаў гаварыць, што не спаў усю ноч, бо занадта ўсхваляваны паэзіяй Купалы, Коласа, Александровіча. Александровіч быў тады яшчэ на свабодзе і нават узначальваў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Вашая мова – гэта мова самой паэзіі, у захапленні спяшаўся са словамі паэт, гэта мова ветру і рэчкі, лесу і поля. Яна блізкая і паказвае, куды развівацца нашай паэзіі, дзе знаходзіцца блізкае памежжа, нейтральная тэрыторыя, куды мы з нашай паэзіяй можам зайсці і нешта ўзяць, рассунуць нашыя рамкі ў невядомае.

Мова не давалася перакладчыкам, магчыма, таму, што яны адчувалі яе блізкую, але іншую таямніцу. Яе нельга было перакласці, бо першым гінуў гук – яму не знаходзілася адпаведнікаў, бо сэнс усяго быў якраз у гэтай рознасці. Праз трацінy стагоддзя госцю далі самую высокую ў свеце літаратурную прэмію і з гэтай прычыны наладзілі звычайны суд, у якім паўдзельнічалі і мясцовыя літаратары, тыя, перад кім паэт некалі выступаў. У архіве А. знайшоў іхнія выступы. Калі паспрабаваў апублікаваць, яму перадалі: не лезь.

***

Што ён сказаў на развітанне? “Страла, а не кубак з атрутай”. Што значылі гэтыя словы? І тады ён успомніў

свой верш. Але не будзеш чытаць верш следчаму, які хацеў ведаць дакладна, пра што яны гаварылі з дырыжорам. Бо гэта была апошняя размова. Назаўтра дырыжор не прыйшоў на рэпетыцыю, тэлефон не адказваў, калі ўзламалі дзверы, цела нябожчыка ляжала на падлозе ля канапы. Следства знайшло мноства адбіткаў пальцаў. Іх ідэнтыфікавалі. Адбіткі належалі А.

***

Усе каханні А. канчаліся без трагедыі: быццам упіраліся ў глухі і бязгучны фрыкатыўны "К" – лёгкі нячутны намёк на выбух, які не адбыўся, так і заглух: не прагучаўшы.

Трагедыя, магчыма, была зашыфраваная ў канцы, у неверагодна жорсткім, як скрыгатанне танкавых тракаў па бруку, канчатку: "НДР". Але "ЛЯ" ніколі не дабіралася так далёка, адгароджанае шматслойнай бранёй "К" і "С". Нават калі плазма прапальвала гэтыя два слаі, яна губляла моц і расцякалася ў мёртвым бязмежжы другога"А"; усёй тэмпературы ледзь хапала, каб лізнуць няяўнае "Н" і адхлынуць, не пакінуўшы слядоў.

"Н-н-н-Д-д-д-Р-р-р-р..." Так ярасна-натужна ўсімі рычагамі спрабаваў затармазіць на галоўнай плошчы роднага горада яго старэйшы брат, калі пад ягоны танк, які вырваўся з вузкай вулачкі на прастору, раптам пакацілася дзіцячая каляска. Але стрымаць сорак тон сталі не ўдалося, занадта хутка ляцела каляска, брат яшчэ паспеў здзівіцца, што паблізу нікога не было, адкуль жа каляска, як яна наляцела на браню і ўдарыла ўсёй брутальнай сілай закладзенага ў ёй трацілавага зараду. Танк стаў на дыбы, як перапалоханы помнік расійскаму імператару – далей брат нічога не памятаў. Інвалiднай пенсіі пасля шпіталя хапала толькі на таннае віно; але калі грамадзянская вайна перакінулася і на метраполію, пенсію перасталі плаціць і брат прапаў.

Яго звалі Сяргей.



## Уладзя ЖАЎНЯК

* * *

Гартаю старонкі
зжаўцелыя,
працятыя
пахам мінуўшчыны,
як зерне з калосся
спелага
я словы
вытрушчваю,
і пальцы дрыжаць,
як лістота
ад подыху
блізкае восені –
аскепак
разбітай свабоды,
скаваны
ў атрамантах просіні,
з шорсткіх
далоняў старонак
прымаю,
як скрылік просвіры...



# Андрэй ГУЦАЎ

*...у самых фантастычных і неверагодных вобразах, вар'яцкі сюррэалізм якіх і недвухсэнсоўнае прадчуванне трагічнага фіналу раслі з абзаца ў абзац, аўтар на трох старонках падрабязна, дэталёва апісваў "немагчымую падзею, для якой не можа быць ніякіх слоў": звычайную штовосеньскую з'яву – пажаўценне. Аж покуль раніцай аднаго дня замест усохлага лісточка не з'яўляецца раптам бязглуздая, балючая, неспасцігальная пустэча.*

# ВІДАРЫС ЦЕЛА ЗАНАЧНОГА ЗМРОКУ

*Апавяданне*

Сеўшы ў паўпусты вагон электрычкі і разабраўшыся з валізамі, неадрыўна гледзячы, пакуль не зрушыўся цягнік, як палымнее за акном пажоўклая асенняя лістота, я мімаволі прыгадаў чытанае мной некалі апавяданне, імя аўтара якога я не запомніў...

“Калі ў свеце наогул хоць нешта можа адбывацца, – паведамлялася там напачатку, – дык гісторыя гэтая, да неверагоднасці фантастычная, здарылася ў апошнюю Хадорчыну восень. Цяжка вызначыць, прычым тут сама старая Хадора, проста гэта якраз на яе панадворку скрай вёскі стаяла вялікая, разложыстая ліпа...” Тады гаворка паступова зводзілася да аднаго лістка з тае ліпы, які быў самы ніжэйшы і “вісеў, уздрыгваючы ад ветру, на доўгім парастку выгінастай галіны над пылам дарогі”, а пасля, ні разу не называючы рэчаў сваімі імёнамі, у самых фантастычных і неверагодных вобразах, вар’яцкі сюррэалізм якіх і недвухсэнсоўнае прадчуванне трагічнага фіналу раслі з абзаца ў абзац, аўтар на трох старонках падрабязна, дэталёва апісваў “немагчымую падзею, для якой не можа быць ніякіх слоў”: звычайную штовосеньскую з’яву – пажаўценне. Аж покуль раніцай аднаго дня замест усохлага лісточка не з’яўляецца раптам бязглуздая, балючая, неспасцігальная пустэча.

“Праз два дні, – дадае аўтар, – насунуўся арктычны цыклон і ўдарылі першыя замаразкі...”

“Прашу вас, – кажа ён на развітанне, – не выцягвайце з мяне больш ані слова...

Тодар, Хадорын чалавек, не вярнуўся з вайны. Іхні сын Астап пайшоў у свет і знік без вестак. Дачка Проня ўтапілася з няўдалага замужжа.

Памерла Хадора...

Тэарэтычны ўсюдыісны Падарожны астраномаў перасякае межы навукова выдуманай сферы – і трапляе ў Абсалютную Будучыню...

Мне невядома, што было пасля”.

Нагода для маёй паездкі пачала ўзнікаць з таго самага выпадку, калі ў майстэрню завітаў лытканогі, казлагалосы іншаземец Ламбер, замовіў фатографа-прафесіянала для свайго вяселля, і я ў прызначаны дзень, больш за тыдзень таму назад, адправіўся ў рэстарацыю “Планета” здымаць на стужку векапомную для маладых падзею.

Тое, што такіх еўрапеек-беларусачак, адну з якіх кангалезец Ламбер браў цяпер замуж, у жаніха-мурына было перад тым не менш за дзесятак, кожную з якіх ён абавязкова абяцаў яшчэ й забраць з сабой “у Афрыку”, не выклікала, прынамсі ў мяне, ніякіх сумненняў. Але й ніяк не турбавала – я мусіў проста зрабіць сваю справу. Шаферам на вяселлі, як аказалася, быў мой даўні знаёмец – некалі студэнцкі таварыш, хлопец з іншага факультэта, Міруцкі, разам з якім мы адным летам з’ездзілі ў будатрад.

Адшчоўкаўшы больш за палову стужкі, я на нейкі час апынуўся ў агульнай кампаніі з маладой, застольная гутарка вакол якой была настолькі ж бязладнай, наколькі й вясёлай. Унёсшы ў гэты гамуз (“хадзі, хата, хадзі, печ!”) сваю долю і ўжо ведаючы, што імя нявесты – Анжэла Швед, я спытаўся:

– Скажыце, а Максім Швед... вам такі вядомы?

 



І дадаў:

– Калісьці мы былі прыяцелямі...

Твар дзяўчыны пасур'ёзнеў. Цень пагарды і жаху слізгануў па ім. Не адказаўшы ні слова, яна ўзнялася з месца і сышла да свайго іншаземца.

Я яшчэ разы тры бліснуў апаратам.

Потым да мяне падсеў мой будатрадаўскі таварыш і, ляпнуўшы па спіне, сказаў:

– Эх, Алесь! Канчай маланкамі кідацца. Давай лепш вып'ем! Колькі мы з табой не бачыліся?..

Гэтае "вып'ем!" скончылася на маёй кватэры п'янкай у студэнцкім стылі з настальгічнымі ўспамінамі. Раніцай, калі я прачнуўся, майго даўняга студэнцкага таварыша ўжо не было. Яго мінскага адраса або тэлефона я не ведаў...

Праз два дні здымкі былі гатовыя, і я пазваніў заказчыку. Выслухаўшы мае словы, іншаземец з французскім пранонсам у голасе адказаў:

– Можаце пакінуць іх сабе.

Для яго ўся гэтая справа ўяўлялася ўжо вырашанай. Безадрозна ад таго, аплачана мая работа ці не.

Я сеў у фатэль і яшчэ раз, больш уважліва і нікуды не спяшаючыся, агледзеў фатаграфіі. Дзяўчына, якая выходзіла замуж, была сапраўды прывабная. Калі самым дасканалым чалавекам, якога стварыў Бог, разважаў я, быў Адам, дык самаю прыгожаю жанчынай была Ева. І яна была акладна такою, як гэтая, на здымку. Анжэла. Хто-хто, а я ўжо ў гэткіх з'явах праўду ведаў. Паколькі менавіта нязздзейсненыя мастакі здольныя па-сапраўднаму цаніць і вызнаваць прыгажосць. І ў гэтым я перакананы поўнасцю.

Наступнага дня я гэтак жа сядзеў у студыі, перабіраючы ўсё тыя ж фатаграфіі, але думкі мае чым далей, тым болей займаў Максім Швед.

Прыяцелямі з ім мы не былі. Мы сутыкаліся некалькі разоў у школьны час: на алімпіядах па матэматыцы, на

 

стрэльбішчы і, адзін час, на ВВК – вучэбна-вытворчым камбінаце. Калі, выпадала, заставаліся адзін на адзін, ён казаў мне пра тое, што кірунак у напрамку да чатырохмернай прасторы адкрыецца толькі тады, калі будуць акрэслены дакладныя, навуковыя памеры матэматычнай кропкі, пра тое, што самая простая чатырохмерная фігура складаецца з пяці кутоў, або вяршыняў, дзесяці рэбраў і пяці тэтраэдраў, а самая простая стамерная фігура мае 101 вяршыню і 5151 рабро.

– Чалавек, – гаварыў ён мне нібыта як крыху звысоку, – гэта пляма на мяжы чатырохмернай прасторы і фоне космасу. Яе колер яшчэ не мае слоў для вызначэння. Ва ўсялякім выпадку ў цемры любая геаметрыя знікае.

А я, слухаючы яго, не мог вызначыцца, чаго ў гэтых сцвярджэннях было больш: прыгожых парадоксаў ці проста непісьменнага абсурду – жадання ў што б там ні было выглядаць разумнейшым, чым ты ёсць на самай справе. Магчыма, аднак, апошняе было маёй уласнай, асабістаю праекцыяй.

Потым мы яшчэ раз сустрэліся ў Мінску: ён паступаў на фізфак, а я спрабаваў скарыць сабе тэатральна-мастацкі. Самыя істотныя выпрабаванні я заваліў з такім трэскам, што наступны год ужо й не думаў паўтараць былы намер, падаў дакументы на гістарычны факультэт, куды й быў залічаны без асаблівых праблем. На другім курсе майго навучання да мяне аднойчы дайшла чутка пра нейкага "таемнага караля астрафізікаў", які быццам вучыўся дзесь на фізічным факультэце, – і ў прамаўленні гэтага вызначэння-мянушкі гучала хутчэй захапленне і павага, чым звычайная чаканая насмешка. Аднак я не надаў гэтай займальнай інфармацыі належнай увагі – тым часам для мяне сталі рубам куды больш важныя пытанні: я напружана высвятляў, хто я ды што я, у чым сэнс жыцця і што мне рабіць у гэтым свеце. Гісторыя мяне не цікавіла. Міфалагічныя выдумкі народаў свету дзівілі сваёй трапнасцю і

маляўнічасцю куды больш, чым уся сусветная валтузня і калатнеча, не пакідаў я і заняткаў жывапісам. Універсітэт я скончыў, аднак на работу падаўся ў фотамайстэрню, дзе і працаваў дзевяты год. Пра Максіма Шведа па гэтым часе нічога не чуў.

Дзе ён мог быць зараз?..

Псіхолагі цвердзяць, што чалавека акаляюць менавіта тыя людзі, у якіх ён на гэты момант адчувае ўнутраную патрэбу.

У рэшце рэшт, пакінуўшы разважанні ў студыйным фатэлі і сказаўшы начальству, што збіраюся з'ездзіць на радзіму, я напхаў адну валізу вопраткай, другую – харчамі, пачапіў мальберт, узяў квіток на Стоўбцы і сеў у электрычку...

Цягнік спыніўся насупраць убогага вакзальнага буданчыка, і я перабраўся цераз пуці да аўтобуснай станцыі.

“Божа мой, – падумалася мне раптам, – якое глупства ўся гэтая мая задума!”

Праз гадзіну з нечым, поўны новай упэўненасці ў правільнасці сваіх дзеянняў, я выгрузіўся каля крамы Максімавай вёскі і агледзеўся. Паміж шасці-сямі курэй прахаджваўся рудапёры певень, такі стары, што замест таго, каб кукарэкнуць як належыць, ён толькі гаўкаў як сабака. Людзей ля крамы не было, і я рушыў далей па вуліцы.

Праходзячы міма Максімавай хаты, я заўважыў, што ўсе аканіцы ў яе шчыльна пазачыняныя.

Крыху далей нейкі дзед валаводзіўся за штыкетнікам са старым бульбоўнікам, і я накіраваўся проста да яго.

– Ці не падкажаце вы, – запытаўся я, павітаўшыся, – у каго тут можна стаць на кватэру?

– На кватэру? – перапытаў той і апусціў вілы. – А сам ты хто ж такі будзеш?

– Я? Мастак... Прыехаў маляваць пейзажы.

– Мастак... – Дзед зусім кінуў займацца бульбоўнікам і

агледзеў мяне з-пад рэдкіх броваў. – Такіх тут у нас яшчэ не было. Ну, дык ідзі да Цёмкавых, – ён махнуў уперад па вёсцы, – летам у іх стаяла трох, усё жалезную руду шукалі... Высокія вароты, там іхні пляц.

Цёмкавы – сухенькі, высакаваты дзед ды баба, якой, безумоўна, далягалі хворыя ногі, – доўга аднекваліся, пакуль не пабачылі пяць даляраў. Усё ўтрэслася: згадзіліся ўзяць на тыдзень – два.

– А што гэта ў вас, – запытаўся я крыху пазней, – нагогул пустыя хаты стаяць на вёсцы?

– Дзе?

Я ўдакладніў.

Па твары ў Цёмчыхі прабегла тая самая сумесь пагарды і жаху, якую я ўжо меў выпадак назіраць у рэстарацыі на твары маладой.

– То не пустая хата! Там маладзейшы Швед жыве... Задушыў матку з-за пенсіі, а цяпер во прыйшоў, вылюдак! На людзі не паказваецца.

Я хацеў быў раскрыць рот, каб спытацца яшчэ нешта, але своечасова стрымаўся: адказ быў канчатковы і вычарпальны – і сэнсава, і інтанацыйна.

Значыцца, мая паездка была не зусім дарэмная.

Назаўтра я ўзабраўся на пагорак, расставіў мальберт такім чынам, каб можна было назіраць за Шведавай хатай, і ўзяўся за пэндзлі. Ніхто не заходзіў на падворак і не выходзіў з дому. Двор, можна сказаць, быў чысты й дагледжаны. На гародзе – адносны парадак, дзе-нідзе яшчэ сядзелі морква і буракі.

Увечары я раскаркаваў пляшку брэндзі, але Цёмка ўспамінаў верасень трыццаць дзевятага года, а Цёмчыха гаварыла, што хоць яна і маладзейшая на восем гадоў, а паваліцца ўперад за дзеда. Куды больш гаваркі і без прыхамацяў быў іх сын Міхаль, невысокі мужык гадоў сарака, які прыйшоў з суседняй вёскі, відаць, для таго, каб паглядзець, што гэта за мастак пасяліўся ў яго старых. Ад Міха-

ля я даведаўся, што і цяпер, і пакуль Швед адсутнічаў, дагледзець хату раз на тыдзень – два прыходзіла Максімава сястра, якая была замужам у той самай вёсцы, дзе жыў і Міхаль. Наогул, спачатку Швед заявіўся сюды жыць не адзін, а з жонкай, але тая з вёскі знікла. Згадаў Міхаль і яе імя – Анжэла. Відаць, тут ёй нешта вельмі не ўпанаравілася.

Паказаць Міхалю здымак, зроблены на вяселлі ў “Планеце”, я ўсё ж не рашыўся...

Праз тыдзень я ўжо ведаў пра Максіма Шведа ўсё, што толькі можна было даведацца: ён, не скончыўшы аспірантуры, вярнуўся з Мінска гадоў пяць – шэсць назад, працаваць нідзе не хацеў, хадзіў у крадла, пачаў, адным словам, дэградаваць, забіў маці, сеў у турму, прыйшоў увесну, з дому нікуды не выходзіў, адно толькі па начах чорнай постаццю тупаў па ўласным гародзе як той вядзьмак або выкляты. І ў гэтым – як ён там хадзіў або стаяў на адным месцы, не прамаўляючы ні гуку, – было нешта страшнае.

Напрыканцы тыдня, сказаўшы гаспадарам, што трэба з’ездзіць у раён, я адправіўся ў Стаўбцоўскі РАУС, дзе (не без цяжкасцяў, не без званкоў у Мінск) даведаўся, што адседзеў Швед няпоўныя чатыры гады і быў не столькі адпушчаны па амністыі, колькі камісаваны дадому пад нагляд сястры па стане здароўя – на зоне ён пачаў даволі хутка і катастрафічна губляць зрок.

Максім Швед быў сляпы! Максім Швед быў невідушчы...

Надвячоркам таго ж самага дня, разважыўшы, што адцягваць далей няма як, я скіраваў проста да хаты з зачыненымі аканіцамі і штурхануў веснічкі ў двор... Я памыляўся: двор быў не такі ўжо й дагледжаны.

У сенцах, сяк-так намацаўшы клямку, я пацягнуў яе на сябе, ступіў у хату і апынуўся ў поўнай цемры.

Я прычыніў за сабой дзверы і пастукаў пальцамі ў вушак.

– Ёсць хто дома?

На мой паўторны запыт і стук у правым дальнім куце заварушылася, зарыпела белая пляма пасцелі і хрыплы голас спытаў?

– Хто там?

Я назваў сябе.

Дадаўшы, што надарылася быць тут, у гэтай вёсцы, дык во вырашыў, маўляў, “зайціся да Максіма Шведа”. Я, звыкаючыся з цемрай, змоўк і чакаў, пакуль той мяне ўспомніць.

Швед марудна выбраўся з-пад коўдры, сеў на край ложка, і я заўважыў, што спаў ён апрануты.

Швед пацёр далонямі твар і моўчкі, быццам мяне тут і не было, зашабуршэў газетай, скруціў самакрутку і, збіваючы агаркі долу, стаў павольна зацягвацца дымам.

Маўчанне задоўжвалася.

– Піць будзеш? – раптам спытаўся ён глухім голасам.

– Чаму ж...

Ён устаў, пайшоў па хаце і зусім згубіўся ў змроку. Толькі ў іншым кутку чуліся нейкія стукі.

– Хадзі на кухню. Не стой, як пень!

Я рушыў на голас і ледзь не зваліўся, бо зараз жа наляцеў на зэдлік.

– Даруй... Я зараз, – гаспадар пакорпаўся ў сваім куце, запаліў настольную лямпу, пачакаў, пакуль я выберу месца, і скіраваў святло так, што ўсталявалася амаль тая ж цемра, што і была, толькі на сцяне свяцілася вузкае, жоўтае кола. – Даруй, – ён патлумачыў, – але так, у цемры, я хоць нешта бачу.

– Перапрашаю, што пабудзіў.

– Няма чаго выбачацца. Я сплю, як сава.

Яго невідушчых вачэй я разгледзець не мог, але твар, які заўважна змяніўся за столькі гадоў, быў паголены.

Шматкі адсычэлых шпалераў звісалі са сцен...

Ён дапаліў самакрутку, кінуў яе ў тазік з вадой і выставіў на стол бутэльку, з якой ужо было адпіта. Потым намацаў нож, накроіў сохлага хлеба, старога сала, сыпнуў дробных, зморшчаных гуркоў і паставіў шклянкі.

– Наліваць будзеш ты... Давай.

– Паехалі...

– Прозіт!

Заеўшы гідоту, я адказаў на ўсе запытанні пра "дзе я ды што я", мае скупыя адказы, відаць, падаліся яму здавальняючымі. Максім згодна кіўнуў галавой, мы выпілі па другой, і я пацікавіўся:

– Ну, а ты як?

– Я?.. – Швед прызадумаўся. – Ну, што ж, а чаму б і не? – нібы параіўся ён з самім сабой. – Чаму б і не распавесці табе ўсё, як яно ёсць? Усё роўна да мяне ніхто не заходзіць... Як той казаў, – крывагуба пасміхнуўся Швед, – калі сон – гэта адпачынак, дык чаму б дзённыя справы не зрабіць адпачынкам і не знайсці сабе працу па сілах?.. – і запытаўся: – Што ты думаеш наконт светлавога вымярэння?

– Не ведаю... Не ведаю, што нават і думаць.

– Добра. Ты, кажаш, малюеш... Але я спадзяюся, што ты не належыш да тых так званых творцаў, "лірыкаў", якія не толькі, не валодаючы мовай сучаснасці, хочуць сказаць нешта новае ўсяму свету, не толькі, пачуўшы выразы кшталту "парабалоідная арбіта", "частковая інтэрферэнцыя" ці проста "інфармацыя", кіснуць, тупеюць, але й ашчэрваюцца, як пацукі, з апломбам, бач, па-мастацку пнуцца іх высмеяць, уцягнуўшы ўсіх назад, у сваю тупасць, і, такім чынам, атрымліваецца, што выкачацца ў тым самым гаўне, якое гэтыя людзі пакідаюць пасля сябе ды плодзяць наўкола, – гэта, на іх думку, і ёсць знак найвышэйшай павагі да чалавека?

– Ну, што ты, – пераўпэўніў я міралюбна. – Я недарма атрымліваў "пяцёркі" па матэматыцы.

– Добра. Я зразумеў...

– Тое, што я збіраюся табе расказаць, – загаварыў ён зноў, – не лірыка... Была ў мяне некалі адна думка. Мара. І ёсць. Думка, якая з'явілася з адной асацыяцыі. З пытання "які колер Месяца?". Які колер Месяца не на ўзыходзе або схіле, дзе ён жоўты ці чырвоны, а тады, калі поўня стаіць у зеніце і, так бы мовіць, знаходзіцца на сваім троне? Гэты колер – сіні. Колер дня... Колер Сонца – жоўты. І мне падумалася: нябеснае начное свяціла Месяц паказвае колер дня, што наступае пасля ночы, і Сонца, дзённае свяціла, паказвае колер "задзённага" святла, што ўсё ж не наступае ніколі: ноч-дзень, ноч-дзень – двухмерная светлавая прастора, у якой існуе чалавек. Але згадзіся, што цень ад крывога плота ці ад рэзідэнцыі прэзідэнта сонечным днём 3-га ліпеня – яшчэ не ноч. Мы бачым колер задзённага святла (Сонца), але ні разу не жылі ў ім, мы жывём у светлавым вымярэнні ночы, але ні разу не бачылі колеру цемры – нейкага нябеснага цела, якое б паказвала яго. Павінны існаваць градацыі святла і цемры. Павінны існаваць ступені змроку. І мне падумалася: Зямля кружыцца вакол Сонца, Месяц кружыцца вакол Зямлі – ці не павінна абарачацца і вакол Месяца нябачнае нам цела, Цела заначнога змроку, якое можна (і тое, калі адно пашанцуе) заўважыць і разгледзець толькі з Месяца? Цела заначнога змроку колеру ночы?! Цела заначнога змроку, якое, ідучы спектральнай паслядоўнасцю ад Галактычнага ядра (інфрачырвонае) праз Сонца (жоўтае) і Месяц (сіні), варта шукаць у невідочным ультрафіялетавым дыяпазоне выпраменьвання, якое, як і рэнтгенаўскае, да таго ж яшчэ і паглынаецца зямною атмасферай цалкам?! Ты, можа, як звычайны лох, скажаш, што ўсё гэта – наіўныя, прасталінейныя ці саматужныя трызненні?.. Скажаш?.. І ты памылішся! На фізфаку я ўжо падступіў да гэтай справы ўсур'ёз і абгрунтаваў яе належным чынам. Магчымасць мноства светлавых вымярэнняў ужо чыста тэарэтычна пацвярджаецца матэматычнымі фокусамі-покусамі лічбаў натуральнага

рада, накладзенага на ідэю адзінства і разнастайнасці ўсяго існага або сінгулярнасці свету, без чаго ўсяго, дарэчы, былі б немагчымымі ні чалавечая духоўная абмежаванасць, якую індусы называюць словам “авідзья”, ні наша здольнасць да абстрактнага мыслення, бо нельга разважаць аб тым, чаго няма, як нельга бачыць тое, ад чаго святло не адлюстроўваецца! Пры існаванні ўзроўню Цела заначнога змроку такі хрэстаматыйны парадокс, як фотаметрычны, здымаецца поўнасцю. Сутнасць яго ў тым, што калі колькасць зорак у бясконцым універсуме бясконцая, дык чаму ўсё неба не гарыць як адна зорка? Вырашаўся парадокс спачатку меркаваннем, што хутчэй за ўсё аблокі пылу засланяюць ад нас зырк далейшых зорак, але пазней скемілі, што ў гэтым выпадку аблокі б усё роўна распаліліся да таго стану, што пачалі б святло экранаваць... Здымаецца і парадокс гравітацыйны. Праблема “схаванай масы” вырашаецца сама сабой... Адносна Галактычнага Цэнтра, што ў сектарах сузор’яў Скарпіёна і Стральца, на сёння сцвярджаецца, што быццам ягоны бляск у аптычным дыяпазоне выпраменьвання захінуты ад нас хмарамі касмічнага пылу. Ці не нагадвае гэтае сцвярджэнне гісторыю з фотаметрычным парадоксам (бо нават газ міжгалактычны галактыкамі распальваецца)? А, можа, насамрэч гэтае выпраменьванне не такое ўжо і інтэнсіўнае? Альбо нам проста фізіялагічна не дадзена бачыць ні яго бляску, ні колеру?.. Дзякуючы свайму расшырэнню і такім спецыфічным эфектам як “эфект ліку” ды “эфект энергіі”, пры якіх і энергія, і колькасць квантаў, што даходзяць з невымернай далечы да нас, змяншаецца, універсум мае астываць, што супярэчыць закону захавання энергіі. У іншым выпадку – куды дзяецца гэтая энергія?.. Да таго ж, як я даведаўся пазней, у некаторых мовах свету слова “свет” у перакладзе гучыць літаральна як “падсонцавасць”, а “той свет”, вырай, лепшы свет – “засонцавасць”. Ці, тое ж самае, падагульняючы і абстрагуючыся, – свядомасць, скіраваная ў перспектыву, дадзеную ў сенсуальнасці праз структуральна-люмінісцэнтную

яўленасць анталогіі!.. Калі я падсумаваў усе аргументы ў адзіную сістэму, у мяне было такое адчуванне, нібыта я наблізіўся да таямніцы чалавечага жыцця. Прафесура і без гэтага заўсёды абяцала мне добрую будучыню, вар'яцкі пошук Цела заначнога змроку я ўзяў сваёй тэмай, разлічыў арбіту вакол Месяца (паводле другога закона Кеплера яно нескладана), мой навуковы кіраўнік падтрымаў мяне, таму што гэта ўсё ж – гатовае адкрыццё, якое толькі патрабуе гатовага пацвярджэння, і таму што сам мой кіраўнік займаўся касмалагічнымі мадэлямі, альтэрнатыўнымі фрыдманаўскім. Але... – Швед грэбліва махнуў рукой. Потым слепа павёў ёю, намацаў пустую бутэльку і патрос тую. – Шкада, што больш няма чаго выпіць...

– Ну, як няма? Ёсць, – я разгарнуў свой хатулёк і дастаў дзве прынесеныя з сабой пляшкі...

Яго новаскручаная цыгарка разляпілася і прасыпалася. Швед не звярнуў на гэта ніякай увагі.

– Ты сам быў студэнтам, – гаварыў ён, – і ведаеш, што гэта такое: жыць ад стыпендыі да стыпендыі. Як быццам ты не чалавек, а птушка божая, паўчалавека! Нажываць гастрыты-язвы страўніка, шукаць якіясь туфлі, якіх нідзе няма, купляць якуюсь вопратку не па памеру. У рэшце рэшт, жыць агульнай надзеяй, што вось атрымаеш дыплом – тады і станеш сапраўдным чалавекам. А калі я скончыў універ, адпусцілі цэны – і пачалася гэтая кляпаная інфляцыя! Першы год аспірантуры яшчэ неяк вытрымаў. Потым маці прыслала пісьмо, што памёр бацька. На пахаванні яна мне сказала: "Сынку, прыязджаў бы ты ўжо дадому. Колькі можна ў той навуцы быць?.." Разумееш ты?! Фундаментальнае навуковае адкрыццё – пахерыць, а лепшую мару – вось так: на сметнік!.. Каб хоць неяк утрымацца, кінуўся ў бізнес. Займаўся, на што толькі мода была: металам, маслам, тыя ж туфлі-рызманы з Турэччыны цягаў. Але не маё гэта, разумееш, не йшло ў мяне, пагарэў. Капітальна. Перабрацца назад у вёску выходзіла, і сапраўды, сабе танней. Дый колькі можна жыць паўчалавекам? Год?

Два?.. Пяць?.. Я пагаварыў з жонкай – і тая са мной пагадзілася...

– Ведаеш, – заўважыў я асцярожна, – я тут нядаўна пазнаёміўся з Анжэлай, – і, так і не знайшоўшы, як яму лепш сказаць пра Ламбера, не будучы прыхільнікам палігаміі, дадаў: – Прыгожая дзяўчына!

Швед не выказаў ніякага здзіўлення.

– У яе быў выкідыш, – сказаў ён, памаўчаўшы. – Маці незалюбіла яе ад першага разу. Пілавала на кожным кроку. Калі ўсё так яно адбылося, жонка з’ехала да сваіх бацькоў у Столін, і я адзін час да яе ездзіў, але... на ўсё “бабкі” трэба. Адразу пасля Мінска ў мяне яшчэ былі сякія-такія падвязкі ў бізнесе, я спрабаваў іх раскруціць, дык не! Зноў жа! Кажу маці: трэба з’ездзіць туды й туды. А яна мне: “А мой ты сынку! Куды ты паедзеш? Сядзі ты дома”. Жаласна так, разумееш. Т-тваю маць! Чаго, спытацца б! Чаго сядзець дома?! Здаровы, нармалёвы чалавек, не ўломак, на жыццё зарабляць трэба. Яе гэтая фраза! Дайшло ўжо да таго, што, канчаткова закінуўшы бізнес, збіраюся проста да Стоўбцаў, а ў адказ жаласна: “А мой ты сынку! Куды ты паедзеш? Сядзі ты дома. Штаны будуць цалейшыя, боты...”. Маўляў, вось давай будзем хадзіць вакол хаты, корпацца ў гнаі, ды па магчымасці павольней, – і ўсё будзе добра, я буду старэць разам з ёй. А што грошы кляпаныя трэба, дык: “Можа б, пайшоў якім трактарыстам у калгас, у цябе ж правы ёсць, а то дык пражывём як-небудзь на маю пенсію, абы ты не піў”. Куды ні кінь – жыццё паўчалавечае. Дык гары яно гарам, каб я яшчэ, і сапраўды, у ім удзельнічаў!.. Не, вядома, на сваю мару па ўсім гэтым часе я не забываўся. Ні дня. Ездзіў раз у Піцер, адзін час збіраўся ў Маскву, выдумляў розныя праэкты. Аднаго разу, ведаеш, нават склаў і адправіў ліст у Амерыку, адказу не было. Зрэшты, я разумею: каму ў такім часе, калі жэрці няма чаго, трэба нейкае Цела заначнога змроку?! Я й сам ужо так пачынаў думаць. Але аднаго вечара мне нейк прыйшло ў галаў, што нікуды далёка ехаць

не трэба – трэба проста ехаць у Мінск і там дабівацца. І, да таго ж, я ўжо ведаў, як. Гэтую думку, яснае выйсце мне захацелася адсвяткаваць, кульнуць сотку, старая якраз атрымала пенсію, я папрасіў у яе грошай, але яна не дала. Тады я проста ўзяў яе пальчыкамі за горла і трымаў яе так, пакуль яна не супакоілася... Маўляў – "мой ты сынку, куды ты пойдзеш за парог? Сядзі ты дома!.." Усё было б добра, каб не гэтая Вольга, сястра... – ён скрыгатнуў зубамі. – Ведаеш, яна дагэтуль заходзіць да мяне з якім-небудзь "пёркам" між грудзей... Каб не яна!..

Швед сядзеў пахістваючыся. Мае прынесеныя дзве пляшкі, ад якіх цяпер заставалася менш як адна, былі, я зразумеў, для яго неспадзяванай радасцю.

– Каб не яна!.. Калі я вярнуўся з бутэлькай, сястра была дома... Ну, медэкспертыза, суд, тры з гакам гады на зоне. Хаця... – ён выдыхнуў сваю лютасць, – хто на самай справе ведае, як яно было б лепш? **Там** у мяне толькі й заставалася, што адна мая мара, і я думаў над ёй пастаянна... З дня ў дзень. З ночы ў ноч... І хто цяпер мае права што сказаць мне? К-казлы!.. Таму ўсе й маўчаць, шарахаюцца, што добра ведаюць, што я ім не той, як вы ўсе сабе думаеце... не-е...

– Лірыкі, чыноўнікі, правадыры нацыяў, асветнікі народу! – загаварыў ён невымерна гідлівым тонам. – Гештальт універсуму – невідавочны і, безумоўна, так ніколі нам і не будзе дадзены, а таму космас будзе вечна палоннікам псіхалогіі ў інтэнцыянальным плане... Гэтаксама ж і ні псіхалагічны, ні маральны верх ні над бацькамі, ні над радзімай узяць немагчыма. Маралістам усіх часоў і народаў, перш чым мець сапраўды законнае права павучаць іншых, трэба быць спачатку проста выдатнымі дэтэктывамі і ўмець раскрываць **любое** злачынства, "не выйшаўшы з кабінета"... Хіба гэта ўжо так незразумела?

Ён выпрастаўся і пакруціў галавой, нібыта намагаўся ў гэтым цемрыве, дзе моцна тхнула сырасцю, разгледзець мяне лепш.

– Немагчыма разважаць аб тым, чаго няма, – паўтарыў ён, – як немагчыма бачыць тое, ад чаго святло не адлюстроўваецца, так. Але я не сказаў табе самага галоўнага. На зоне я згубіў зрок. Я не бачу днём, так. Але я... я цяпер бачу яго... я бачу Цела заначнога змроку... яго колер...

Звонкі шашаль затачыў стол.

Жоўтае колца скаланулася на сцяне.

І раптам...

Швед спахапіўся з крэсла з такой дакладнай імпэтнасцю ў рухах, нібыта й не быў ніякі сляпак, у адзін момант я апынуўся сарваным з месца, прыціснутым спінаю да печы, і чорныя, вырачаныя, чарнейшыя за ноч вочы, як два правалы ў дзве цёмныя прорвы, апынуліся перад маім тварам:

– Паслухай, ты! Калі з Анжэлай нешта здарыцца...

Рэзка прыклаўшыся лбом да Максімавага пераносся, я з сілай адкінуў рукі ад грудзей і пайшоў прэч. Міскі-тазікі загрукацелі па-за мной.

Слухаць Шведа было ўжо немагчыма!

Я падышоў да хаты Цёмкавых, крануўся брамкі і ўжо збіраўся зайсці ў двор, калі звярнуў увагу на нейкія цені пад варотамі. Прыгледзеўшыся пільней, я пазнаў сваю валізу і мальберт. Я шматануў дзверы. Тыя былі зачыненыя.

– Ой, Цёмка, ён прыйшоў...

Прыглушаны ўсклік даляцеў ад асветленых сянец. Потым пачуліся няўклюдныя крокі і, праз хвілю, ужо з адчыненых дзвярэй, Цёмчыха крыкнула:

– Збірай свае транты і сыходзь куды вочы глядзяць, каб і духу твайго не было ў нас! Болей ты тут не жывеш!

– А што раптам сталася?

– Ідзі, я сказала! Ідзі! Не рві маё сэрца! Ідзі! Ён шчэ й пытаецца!..

– Ды што, урэшце, здарылася?

– Ой, Цёмка... Ды скажы ты яму!

Тупкія дзедавы крокі прагучалі ў двары, яго крык паляцеў на хаду:

– Сыходзь, т-тваю маць, з нашага пляца, а то зараз як вазьму сахор ды як выйду, дык прапару кішкі, як белапаляку!

– Але ж я заплаціў за тва тыдні.

– Ой, ды ты што ж сабе думаеш? Што нам дужа грошы нямецкія нада твае? Цёмка! Нясі!.. А я, дурная, думала, што ты і праўда чалавек...

– У вас і валіза мая засталася.

– Забірай свае грошы й сыходзь, як прыйшоў, пакуль сам яшчэ цэлы!

Два кавалкі разадранага напалам “пятака” паляцелі цераз брамку.

– А я, старая, спачатку не разабралася... А людзі ведаюць што! І ўсё ведаюць. Людзі ведаюць што! Ад людзей не схаваешся.

Мая кайстра ўзвілася па-над брамкай.

– І сыходзь, каб цябе не было тут, паганец!

Я пачапіў мальберт, узяў свае рэчы і рушыў па вуліцы ў канец вёскі, да шашы. Хутка я прамінуў апошнюю хату, узяў направа, прайшоў паўз малады, густы сасоннік, завярнуў, перайшоў доўгі, высокі мост над вузкім, мелкім Нёманам, зноў звярнуў і выйшаў на шлях.

Той запал, з якім я адольваў дарогу, даўно ўжо не праймаў мяне так глыбока.

Ніводнай машыны і ні падарожнага на ўсім дзікім шляху ўначы...

Розныя думкі, няясныя думкі, без пачатку і без завяршэння, кружылі ў маёй галаве... Пра колер і зрок... Пра Цела заначнога змроку і ноч... Пра тое, што gravity – па-англійску “гравітацыя”, а grave – “магіла”... Дзіцячасць панічнае боязі цемры і смяротнасць граху паныласці: канец і пачатак... “Чырвоны квадрат” і “Чорны квадрат” як “абсалютна чорнае цела”... Геаметрыя, якая знікае ў цемрыве... Тупасць-авідзьзя Цёмкавых...

Дарма, што Швед меў замежнае прозвішча! Забіць маці

з-за пенсіі – гэта ўсё ж чыста беларускае забойства! Факт заставаўся фактам... Тых "гаўнюкоў", якія не разумеюць самі, што яны вярзуць і толькі дурэюць ад такой "інфармацыі", я недалюбліваў таксама, але поўная або частковая – любая! – "інтэрферэнцыя", як і "дыктатура" з "дэмакратыяй", – гэта толькі чужы лад мыслення, ад якога "адурэлыя" ўсяго толькі стараюцца захаваць свой тып думання, які, магчыма, стане мовай прышласці... Учыненае Шведам забойства ад сучаснасці асабліва не адрознівалася і далёка ад яе тыпу не адыходзіла! Пісаў жа сучасны аўтар: "Дыктары тэлебачання кожны дзень радасна пасміхаюцца. Лясы гараць – пасміхаюцца. Цэны шалеюць – пасміхаюцца. Сын матку сякерай цяпнуў – пасміхаюцца..." Ну, Швед не "цяпнуў", а ўзяў пальчыкамі за горла. Гэта ж бытавое, "бытавуха"! 5151 рабро фігуры...

І раптам...

Я спыніўся і апусціў валізы.

Ліліт! Ліліт!

Вобраз semіцкай міфалогіі: нябачны спадарожнік Месяца і сімвал Жахлівае Маці! Маці-мсцівіцы...

Ліліт!

Я падняў галаву.

Неадольнае жаданне фатаграфаваць, фатаграфаваць – фатаграфаваць усё наўкола, фатаграфаваць усё без разбору, фатаграфаваць на чорна-белую стужку або (яшчэ лепш!) на стужку спецыяльнага хімічнага саставу, фатаграфаваць, фатаграфаваць – узнікала ўва мне.

Я падняў галаву і зірнуў на неба...

Я падняў галаву і зірнуў на зорнае неба:

недзе тут, вакол гэтага Месяца, кружылася невідочнае Цела заначнога змроку – а пад нагамі ляжала пакатая, бязмежная, відочная нават у цемры зямля: Маці-Беларусь!

*1885, 30 кастрычніка – у Хэйлі, штат Айдаха, нарадзіўся Эзра Луміс Паўнд, адзінае дзіця Хомэра і Ізабэл Паўнд.*

*1901 – Паўнд залічаны ва Універсітэт Пенсільваніі; тут ён сустрэўся з Уільямам Карласам Уільямсам.*

*1903 – залічаны ў Гамільтан-каледж, штат Нью-Йорк.*

*1906 – атрымаў Харысанаўскую стыпендыю па раманскіх мовах ва Універсітэце Пенсільваніі; падарожнічаў па Еўропе, даследаваў творы Лопэ дэ Вегі і правансальскіх трубадураў.*

*1907 – прыняты на службу ва Уобэшкаледж у Кроўфардсвілі, штат Індыяна, у якасці выкладчыка раманскіх моў.*

*1908 – акадэмічная кар'ера Паўнда закончылася ягоным выключэннем з Уобэш-каледжа за сексуальную правіннасць; адправіўся ў Італію; у Венецыі выйшаў ягоны першы зборнік* A Lume Spento*; пачалася кар'ера "выклятага паэта"; у канцы года Паўнд перабраўся ў Лондан.*

*1909–1913 – жыў у Лондане, але часта наведваў кантынентальную Еўропу; шмат працаваў, каб стаць вядомым паэтам і літаратурным крытыкам; падтрымліваў стасункі з У.Б.Ейтсам, Фордам Мэдаксам Фордам, Уіндэмам Льюісам і Джэймсам Джойсам; маніфесты імажызму; сустрэўся са скульптарам Анры Гадзье-Бжэскам; выдаў зборнікі* Exultatations, Personae, Canzoni *і* Ripostes.

## Пра Яго

*1914 – узяў шлюб з Дорацi Шэкспір; сустрэўся і з энтузіязмам дапамагаў Т.С.Эліяту; браў актыўны ўдзел у руху вартыцызму і выданні часопіса* Blast.

***1915—1919*** *— выступаў у ролі літаратурнага агента Льюіса, Джойса і Эліята, але не браў з іх грошай; паступова ў ім расла незадаволенасць літаратурнымі коламі Лондана; сустрэўся з Кліфардам Дугласам, чые дактрыны сацыяльнага крэдыту ўмацоўвалі Паўнда ў ягонай гідлівасці да камерцыйнага духу Лондана; апублікаваў зборнікі* Cathay, Lustra *і* Homage to Sextus Propertius*; напісаў тры першыя Канта, а таксама "Пякельныя Канта"; выдаў анталогію японскай драмы Но.*

***1920*** *— выправа ў Парыж; разам з Дорацi зрабіў пілігрымку ў Праванс па старых сядзібах трубадураў і герцагаў; выдаў "Хʼю Сэлвін Мобэрлі"* (Hugh Selwyn Mauberley).

***1921—1922*** *— пазнаёміўся з Както і Пікабія, а таксама з шэрагам вядомых кампазітараў і музыкантаў, між іншымі — з Равелем, Стравінскім і Коплендам; працаваў над музыкай і лібрэта да оперы "Тастамент" (на сюжэт Франсуа Віёна); праз Трыстана Тзара і Луі Арагона ўцягнуты ў рух дадаістаў; сярод амерыканцаў, з якімі ён сустрэўся ў Парыжы, былі паэт э.э.камінгс*[1]*, Эрнэст Хемінгуэй і скрыпачка Ольга Радж; працягваў працу над* Cantos*; выдаў уласнаручна адрэдагаваную "Спустошаную зямлю" Эліята.*

***1923*** *— кароткія сустрэчы з Джорджам Энтэйлам і Гертрудай Стайн; закончыў рэдагаванне першых шаснаццаці канта.*

***1924*** *— стомленыя Парыжам, Паўнды пераехалі ў Рапала, Італія; Ольга Радж паехала туды за сужэнцамі.*

***1925*** *— у Ольгі Радж ад Паўнда нарадзілася дачка Марыя; надрукаваў першыя шаснаццаць канта.*

***1926*** *— Дорацi нарадзіла сына Амара; у Парыжы пастаўлена опера "Тастамент".*

***1928*** *— выдаў "Выбраныя вершы" з прадмовай Т.С.Эліята.*

***1930—1939*** *— цягам гэтага часу Паўнд працаваў у Італіі над* Cantos *(публікацыя першых трыццаці канта, адзінаццаці новых канта і Пятай дэкады* Cantos*); апублікаваў серыю прац па эканоміцы і літаратуры:* Make it New, Guide to Kulchur, ABC of Reading, ABC of Economics, Social Credit: an Impact*; арганізаваў шэраг канцэртаў у Рапала; усё больш і больш займаўся палітыкай; у 1933 г. сустрэўся з Мусаліні.*

***1939*** *— выправіўся ў Амерыку, каб перашкодзіць ёй уступіць у вайну; атрымаў ганаровае званне доктара літаратуры ў Гамільтан-каледжы; парваў амаль з усімі старымі сябрамі.*

---

[1] *Паводле традыцыі, якую вызначыў сам паэт, ініцыялы і прозвішча падаюцца з малой літары.*

***1940*** *– уся журналісцкая дзейнасць і ліставанне Паўнда прысвечаны падтрымцы Мусаліні.*

***1941*** *– адхілена ягоная просьба пра вяртанне ў Амерыку; вёў рэпартажы супраць саюзнікаў для Рымскага радыё.*

***1943*** *– асуджаны за здраду Радзіме амерыканскім міністэрствам юстыцыі.*

***1945*** *– арыштаваны партызанамі і выдадзены амерыканскім ваенным уладам; у траўні адпраўлены ў лагер, што месціўся ў Пізе; напісаў "Пізанскія канта"; высланы ў Вашынгтон і трапіў у вязніцу; 27 лістапада прызнаны псіхічна неасудным, а 21 снежня памешчаны ў псіхіятрычную лячэбніцу Святой Лізаветы.*

***1949*** *– "Пізанскія канта" атрымалі прэмію Болінгена за лепшы твор, апублікаваны цягам года.*

***1950–1954*** *– адрадзілася цікавасць крытыкаў да Паўнда; выдадзены ягоныя "Лісты" (1907–1941) і зборнік эсэістыкі з прадмовай Эліята; знаходзячыся ў лячэбніцы, стаў цэнтрам уласнай літаратурнай індустрыі; наведнікі Паўнда мусілі чакаць сваёй чаргі, запісаўшыся за месяц; актыўна працаваў над перакладамі і паэтычнымі творамі, а таксама ліставаўся.*

***1955–1956*** *– выдаў уласныя пераклады кітайскай паэтычнай анталогіі Шы Цзын і трагедыі Сафокла "Трахінянкі"; кампанія за вызваленне Паўнда, арганізаваная славутымі дзеячамі культуры, мела пасняховы вынік.*

***1958 – 18 красавіка*** *абвінавачанне ў здрадзе знята; Паўнд вярнуўся ў Італію і пасяліўся ў дачкі Марыі.*

***1959–1964*** *– гады хваробы, няўпэўненасці, гранічнай раздражнёнасці і сумневаў; незадаволенасць усёй паэтычнай кар'ерай і расчараванне ў творчасці наогул; выдадзены* Thrones*; доўгія прыступы маўчання.*

***1965*** *– падарожжа ў Лондан; Паўнд наведаў магілу Эліята; паездка ў Ірландыю дзеля сустрэчы з удавою Ейтса, а таксама ў Салета на пастаноўку "Тастамента", гэтым разам ужо ў якасці балета.*

***1967*** *– выправа ў Парыж, а таксама ў Цюрых на магілу Джойса.*

***1969*** *– візіт у Нью-Йорк; ніводнага ягонага сябра ўжо не было на свеце.*

***1972, 1 лістапада*** *– Эзра Паўнд памёр у Венецыі.*

**Падрыхтавалі**
**Андрэй ХАДАНОВІЧ**
**і Барыс АЎДЗЕЕЎ.**

 



Трагедыя Паўнда, як літаратара, у тым, што ён нарадзіўся ў такім свеце, які не мог прапанаваць нічога, што дало б выйсце ягонай экстравагантнасці; ні сістэмы думак, вартых яго імя; ні веры, якая пасоўвала б хоць трохі далей джэнтльменскую веру ў "прагрэс" чалавека. Паўнд шмат што прымаў у гэтым свеце і ў той жа час паўставаў супраць яго.

**Наэль СТОК.**

Ён дэгуставаў такую колькасць кніг, што я ўвогуле сумняваюся, ці прачытаў ён хоць адну з іх удумліва і да апошняй старонкі.

**Рычард ОЛДЫНГТАН.**

Ад ранніх баладаў да "Ripostas", "Lustra" і "Mauberley" уся ягоная паэзія магла быць ахарактарызаваная не як пошук нечага, а хутчэй як адчайная спроба ўцёкаў. Я ўявіў бы яго рудым лісам, якога гоніць зграя адэптаў: а ён вядзе іх праз кусты ажыны ў багну; большасць спыніла пагоню, але нехта ішоў за ім да канца. Цяпер, у "Cantos", ён узляцеў на высокае скалістае плато, дзе след знік, а сабакі, якія ўсё-такі паспрабуюць дагнаць яго там, скрываўяць сабе лапы, і ўсё ж я адчуваў, што ў рэшце рэшт яны знойдуць і абкладуць яго, прытуліўшы морды адна да адной, не дзеля таго, каб расшкуматаць, а каб сваім шчаслівым брэхам узнесці яму хвалу.

**Малькольм КАЎЛІ.**

Эзра ставіўся да людзей з большай дабрынёй і міласэрнасцю, чым я. Яго ўласныя творы, калі яны ў яго атрымліваліся, былі нагэтулькі выдатныя, а ў сваіх памылках ён быў нагэтулькі шчыры і гэтак захоплены сваімі хібамі, і гэтак ён быў спагадлівы да людзей, што я заўсёды лічыў яго нейкім адмысловым святым. Ён, праўда, надзвычай часта раздражняўся, але, пэўна, многія святыя былі такімі ж.

**Эрнэст ХЕМІНГУЭЙ.**

**ЦЫТАТНІК**

Сярод цяперашніх амерыканцаў ён, бадай, належыць да тых нешматлікіх (двух ці трох) паэ-

 

таў, якіх будуць памятаць як паэтаў першай велічыні.

**Ален ТЭЙТ.**

Эзра Паўнд, безумоўна, заслугоўвае звання паэта, але, пэўна, я занадта стары і занадта тупы, каб ацаніць яго так, як ён, магчыма, таго заслугоўвае. Тутэйшыя крытыкі лічаць яго няшкодным; але, паколькі ён, наколькі я ведаю, сябе ацэньвае вельмі высока, то я не думаю, што ён асабліва тлуміць сабе галаву меркаваннямі крытыкаў. І потым, столькі жанчын ля ягоных ног; гэта мусіць ствараць поўны камфорт.

**Джозеф КОНРАД.**

У адрозненне ад многіх маіх сучаснікаў, у 20—30-х гадах я пазбег уплыву зусім не першакласнага паэта Эліята і бясспрэчна паэта другога гатунку Паўнда. Іх вершы я прачытаў значна пазней, недзе ў 1945-м, у гасцявым пакоі аднаго з маіх амерыканскіх сяброў, і застаўся да іх не толькі зусім абыякавым, але і ўвогуле не мог зразумець, чаму яны хоць каго мусяць хваляваць.

Многія знаныя пісьменнікі для мяне папросту не існуюць. Іх імёны высечаныя на плітах над пустымі магіламі, іх кнігі — бутафорыя, а самі яны, на мой літаратурны густ, абсалютныя нулі. Брэхт, Фолкнер, Камю і многія іншыя нічога не значаць для мяне, і я мушу змагацца з падазрэннем у змове супраць майго розуму, калі бачу, як крытыкі і браты-пісьменнікі зусім спакойна прымаюць за "вялікую літаратуру" распусту лэдзі Чатэрлей ці прэтэнцыёзную бязглуздзіцу гэтага дасканалага махляра Паўнда. Я заўважыў, што ў некаторых дамах ён ужо замяніў доктара Швейцэра.

Спадар Э. Паўнд, гэты шаноўны махляр, наладзіў "сентыментальны візіт" у сваю альма-матэр у Клінтане, штат Нью-Йорк, і выпускнікі, на ўрачыстым сходзе, у асноўным, верагодна, прыдуркі і вар'яты, паўскоквалі і наладзілі яму авацыю.

**Уладзімір НАБОКАЎ.**

Паўнд загіне, калі за некалькі бліжэйшых гадоў не вытрасе са сваёй галавы туман фашызму, а ў мяне ёсць вялікі сумнеў, што ён зможа зрабіць гэта. Лагічнасць фашыстоўскага рацыяналізму хутка знішчожыць яго.

**Уільям Карлас УІЛЬЯМС.**

Шкада, што ён не атрымаў Нобелеўскую прэмію, ды і ўсе іншыя прэміі разам — ён быў найвялікшым паэтам стагоддзя.

**Ален ГІНЗБЕРГ.**

Кожнае пакаленне мусіць само перакладаць для сябе. Гэта азначае, што кітайская паэзія, якой мы яе ведаем сёння, ёсць нешта, вынайдзенае Эзрам Паўндам.

**Томас Стэрн ЭЛІЯТ.**

Ён быў кропляй алею ў шклянцы вады. І ўся складанасць у тым, я мяркую, што ў яго не было ніякага жадання размешвацца.

**Уіндэм ЛЬЮІС.**

***Падрыхтаваў***
***Барыс АЎДЗЕЕЎ.***

*Эзра папрасіў, каб я навучыў яго баксаваць... Аднак з гэтага нічога не атрымалася, таму што Эзра быў прызвычаены да прыёмаў фехтавання, а мне трэба было навучыць яго працаваць левай і высоўваць уперад левую нагу, а потым ужо ставіць паралельна ёй — правую. Гэта былі самыя элементарныя прыёмы. Але ў мяне так і не атрымалася навучыць яго хуку левай, а правільнае месцішча правай рукі было для яго справай далёкай будучыні.*

**Эрнэст Хемінгуэй.**

# ВЯЛІКІ ЗАПАВЕТ

*(Опера ў трох паўндах з оверпаўндам)*

## *ПЕРШЫ ПАЎНД:* **НЕВЕРАГОДНЫЯ ПРЫГОДЫ АМЕРЫКАНЦА Ў ЕЎРОПЕ.**

У адзін з туманных лонданскіх дзён 1908 года ў холе Політэхнічнага інстытута на Рэджэнт-стрыт, з трыма фунтамі ў кішэні ўвайшоў "высокі тонкі бландзін з адкінутымі назад доўгімі валасамі, твар яго меў вуглаватыя рысы, вялікі нос і светлыя вочы, якія ніколі не ўсміхаліся". На пытанне, ці хоча ён быць залічаным у студэнты, наведнік адказаў:

— Не, я хачу быць залічаны выкладчыкам. Я хачу чытаць курс раманскай літаратуры поўдня Еўропы.

— Але нам не патрэбен курс раманскай літаратуры поўдня Еўропы. І ўвогуле, хто вы такі?

— Дайце мне чытаць курс і тады ўведаеце.

Яго залічылі выкладчыкам.

Амбіцыі правінцыяльнага юнака, які нарадзіўся ў глухой вёсцы, шырокія літаратурныя веды і адмаўленне буржуазнага ладу амерыканскага грамадства прывялі яго ў Лондан,

дзе за кароткі час з ім адбылася дзіўная метамарфоза: пра раней нікому не вядомага Паўнда ўжо праз некалькі гадоў гаварыла ўся Англія, і хвалі гэтага розгаласу неўзабаве дасягнулі самых далёкіх закуткаў Еўропы і Амерыкі.

Першы зборнік Эзры Паўнда выйшаў у тым жа 1908 годзе ў Венецыі. Далей кнігі выдаваліся запар адна за другой. Вольныя пераклады, версіфікацыі ды імітацыі былі выкананыя з такім майстэрствам, што выглядалі як самастойная, аўтарская творчасць. Паўнд не хаваў сваіх літаратурных сімпатый, свайго глыбокага захаплення кумірамі мінуўшчыны: Сафоклам, Дантэ, Віёнам, Кавальканці. Прынцып "маскі" найлепей адпавядаў мастацкаму светапогляду Паўнда — ён ужываўся ў вобраз іншага паэта праз пачуццё глыбокай непарыўнай сувязі з ім. Паўнд не стамляўся вывучаць усё новыя мовы: французскую, іспанскую, італьянскую, правансальскую, грэцкую; адначасна ён ладзіў выправы ў розныя графствы і герцагствы, вандруючы шляхамі трубадураў і іхніх каханак...

У 1913 г. адзін з ягоных зборнікаў ("Ripostes") трапіў у рукі ўдаве вядомага амерыканскага ўсходазнаўцы Эрнэста Феналозы, які памёр за пяць гадоў да гэтага выпадку. (Дарэчы, калі японскі ўрад даведаўся пра смерць Феналозы, то паслаў ваенны карабель па ягонае цела. Феналозу пахавалі з усёй пашанай і ў адпаведнасці з японскай традыцыяй і цырыманіялам).

Феналоза пакінуў пасля сябе багатую калекцыю кітайскай паэзіі, японскай драмы, хоку і танка з падрадкоўнікамі, мноства перакладаў, каментароў і, самае галоўнае, роздумы прафесіянала пра характар і прынцыпы паэзіі Усходу, пра перавагу сістэмы кітайскай мовы перад мовамі еўрапейскімі...

Калі ўдава Феналозы прачытала вершы Паўнда, то адразу зразумела, што ён — той адзіны чалавек, які зможа належным чынам скарыстацца архівам яе сужэнца, адзіны, хто сапраўды варты "скарбаў Феналозы". Але нават яна не ўяўляла, якую ролю адыграе гэты архіў у творчым лёсе паэта... У спадчыне Феналозы паэту адкрылася тое, што інтуітыўна ўжо шукала выйсця ў ім самім і што надалей легла ў под паэтычных і філасофскіх канцэпцый Паўнда. Што б ён ні пісаў потым, якую б ідэю ні агалошваў, усё гэта так ці інакш брала пачатак з досведу знаёмства Паўнда з працамі Феналозы.

Наколькі Паўнд быў захоплены Усходам, сведчыць адзін, амаль анекдатычны, выпадак. Неяк у Парыжы Гертруда Стайн запрасіла Паўнда на вячэру. Падчас палымянай дыскусіі пра японскія гравюры, Паўнд настолькі эмацыйна даводзіў сваю праўду, што зваліўся на падлогу разам з крэслам, якое было абабіта габеленам, атрыманым гаспадыняю ад Пікаса.

Болей Гертруда Стайн не запрашала паэта да сябе. Паўнд пакрыўдзіўся, і на гэтым іхняе знаёмства скончылася.

## *ДРУГІ ПАЎНД:* **ЧАЛАВЕК У ЖАЛЕЗНАЙ КЛЕТЦЫ**

30 кастрычніка 1922 года ў Італіі да ўлады прыйшоў Мусаліні. Гэтая падзея супала з днём нараджэння Паўнда, але ў гэтым выпадковым супадзенні, пэўна, быў нейкі сімвалічны сэнс... Праз два гады паэт пераедзе на жыхарства ў Рапала, гарадок на паўднёвым усходзе ад Генуі, а з 1940 года яго ўжо немалады, але ўпэўнены голас загучыць на італьянскім радыё...

Урад Злучаных Штатаў Амерыкі абвінаваціў Паўнда ў здрадзе радзіме. Многія сябры адмовіліся ад паэта, асудзіўшы яго прафашысцкія погляды і антыамерыканскія выказванні.

"Ён пазычаў ім грошы. Ён прадаваў іхнія карціны. Ён арганізоўваў ім канцэрты. Ён пісаў пра іх артыкулы. Ён знаёміў іх з багатымі жанчынамі. Ён знаходзіў выдаўцоў для іхніх кніг. Ён усю ноч сядзеў побач з імі, калі яны былі пры смерці, і засведчваў іх спадчынныя тастаменты. Ён даваў ім грошы на аплату лячэння і адгаворваў ад самагубстваў. А ў выніку мала хто з іх устрымаўся ад таго, каб здрадзіць яму пры першым выпадку". Гэтыя радкі належаць Хемінгуэю, які быў адным з тых нешматлікіх сяброў, хто да апошняга заставаўся адданым Эзры і хто заўсёды падтрымліваў яго ў самыя цяжкія хвіліны. Атрымаўшы Нобелеўскую прэмію, Хемінгуэй адаслаў тысячу долараў Паўнду, афіцыйна заявіўшы, што Паўнд — адзіны, хто сапраўды варты гэтай узнагароды.

З лета 1945 года для Паўнда распачалася цяжкая пара. Ён быў арыштаваны і адпраўлены ў лагер для нацысцкіх злачынцаў, дзе адседзеў некалькі тыдняў у жалезнай клетцы пад адкрытым небам. Затым Паўнда перавезлі ў ЗША, але там медыцынская камісія прызнала яго псіхічна хворым і таму не падлеглым суду. Такім чынам Паўнд пазбег электрычнага крэсла, якое чакала яго як здрадніка радзімы.

Эзра Паўнд дванаццаць гадоў правёў у шпіталі для псіхічнахворых. Спакваля ён зноў пачаў размаўляць, пазнаваць блізкіх і нават працаваць. Памыліліся ўсе тыя, што паставілі крыж на ягоным паэтычным таленце. Былы Паўнд неўпрыкмет адрадзіўся, з-пад ягонага пяра адна за другой сталі з'яўляцца новыя "Cantos", ён зноў стаў шмат перакладаць, пісаць памфлеты і літаратурную крытыку. У 1948 годзе выйшлі ў свет "Пізанскія песні", адзін з леп-

шых твораў, калі-небудзь напісаных Паўндам, дзе выявіўся крызіс паэта, ягоны адчай і спроба пераасэнсавання духоўнага шляху.

## *ТРЭЦІ ПАЎНД:* СМЕРЦЬ У ВЕНЕЦЫІ

У 1958 годзе Паўнд вярнуўся ў Італію. Ягонае вяртанне сталася магчымым дзякуючы турботам сяброў і прыхільнікаў таленту. Томас Стэрн Эліят, Эрнэст Хемінгуэй, Роберт Фрост, Ален Тэйт і многія іншыя засыпалі афіцыйныя органы лістамі, паручыцельствамі і просьбамі аб памілаванні. Паўнду тады было семдзесят тры гады...

Апошнія дзесяць гадоў свайго жыцця Паўнд мала працаваў, а размаўляў яшчэ меней. Ягоныя кантакты са светам людзей амаль перапыніліся. Поўнае бурлівых падзей жыццё спарадзіла ў ім разуменне бессэнсоўнасці барацьбы. Ён засланіўся адзінотай, жадаючы набыць душэўны спакой. Адна толькі Ольга Радж, спадарожніца большай часткі яго жыццёвага шляху, цалкам усведамляла тое, што адчуваў гэты чалавек, і разумела кожную змену ягонага настрою. Неяк яна запыталася ў Паўнда пра Гадзье-Бжэску, скульптара, добрага знаёмца Паўнда:

— А ягоную сястру звалі Сафі-Сюзэн ці Сюзэн-Сафі?

Паўнд звыкла прамаўчаў.

— Я думаю, што Сафі-Сюзэн. Я маю рацыю, Паўнд?

Адказу няма.

— Эзра, будзь чалавекам. Міргні два разы, калі “так”.

Паўнд не міргае.

— Ну тады міргні адзін раз, калі “не”.

Паўнд міргнуў двойчы.

30 кастрычніка 1972 года ён пачуваў сябе блага і не ўставаў з ложка. Госці паволі, па чарзе, падыходзілі да яго, каб павіншаваць і аддаць даніну павагі чалавеку, з якім лёс, магчыма, абыходзіўся не заўсёды справядліва.

Паўнд памёр ранкам 1 лістапада ў Венецыі, калі восеньскі золак гэтак нязветлівы з гандальерамі.

Гэты вялікі паганец па іроніі лёсу памёр у Дзень Усіх Святых. 3 лістапада ў касцёле на востраве Сан Джорджо Маджорэ па ім адслужылі імшу, і супярэчлівая душа Паўнда нарэшце супакоілася. “Афіцыйная” жонка Паўнда, Дораці Шэкспір, і сын Амар, прафесар гісторыі ісламу ў Кембрыджы, на пахаванне не прыехалі. Яны ўжо шмат гадоў не мелі ніякіх сувязяў з Паўндам.

Пражыўшы 87 гадоў, Эзра Паўнд памёр апошнім з той таленавітай плеяды паэтаў, што стварыла вялікую літаратуру пачатку стагоддзя. Лёс адмераў яму болей часу, можа, каб даць магчымасць развітацца з тымі, хто быў яму дарагі пры жыцці. У 1967 годзе Паўнд схіліўся над магілай Джойса ў Швейцарыі, а праз два гады не прамінуў сустрэцца з удавой Эліята, які калісьці напісаў: "il miglior fabbro" ("майстру, вышэйшаму за мяне").

## *ОВЕРПАЎНД:*
## **"І ўсё загіне па-за прыгажосцю".**

Прамінула 27 гадоў з дня смерці амерыканскага паэта. За гэты час імя Паўнда трывала замацавалася ў падручніках па літаратуры, усё часцей пра яго кажуць як пра класіка. Маштабнасць асобы Эзры Паўнда, ягоны ўнёсак не толькі ў паэзію, але і ў культурную спадчыну нашай эпохі ўжо ні ў кога не выклікае сумневу. Ва ўсім свеце штогод выходзіць мноства кніг, артыкулаў, іншых публікацый пра творчасць Паўнда. Адразу пасля смерці паэта, з ініцыятывы даследчыкаў ягонай творчасці, у ЗША было створана Таварыства Эзры Паўнда. Задача Таварыства — папулярызацыя ведаў пра паэта і спрыянне ўсім, хто цікавіцца ягонай біяграфіяй і творчасцю. Штогод у Амерыцы ладзяцца канферэнцыі, на якія з'язджаюцца прафесары найбуйнейшых універсітэтаў свету, незалежныя літаратуразнаўцы, родныя Паўнда. Апошнім часам раз на два гады падобныя канферэнцыі адбываюцца і за межамі ЗША: 1997 г. — у Італіі, 1999 г. — у Кітаі.

З 1972 г. перыядычнасцю чатыры разы на год "Таварыства" выдае часопіс "Paideuma", цалкам прысвечаны Паўнду. Спецыяльныя карэспандэнты часопіса працуюць болей чым у дваццаці краінах. На жаль, ні ў адной з краін былога СССР такіх карэспандэнтаў няма, ды і магчымасць кантактаў з замежнымі спецыялістамі па творчасці Паўнда вельмі абмежаваная. Калі на пачатку дзевяностых у Маскве планавалася выдаць двухтомнік паэта, то з усяго Савецкага Саюза сабралася толькі 600 заявак, і ад гэтай ідэі давялося адмовіцца з прычыны яе фінансавай нерэнтабельнасці, а вось на Захадзе цікавасць да Паўнда не змяншаецца. У сярэдзіне 70-х на Бі-Бі-Сі ў Лондане была пастаўлена опера Паўнда "Тастаменты Франсуа Віёна", зусім нядаўна ў Італіі дэманстравалася выстава скульптур па матывах "Cantos", дзе было паказана больш за пяцьдзесят працаў. У Вашынгтоне час ад часу арганізуюць экскурсіі ў шпіталь Святой Лізаветы, дзе паэт знаходзіўся з 1946 па 1958 год.

Па творчасці Паўнда абараняюць дысертацыі, яму прысвячаюць радыё- і тэлеперадачы. У Амерыцы і ў Еўропе ёсць некалькі буйных

архіваў, дзе захоўваюцца рукапісы Паўнда, ягонае ліставанне. Падрабязную інфармацыю пра Паўнда можна атрымаць і ў Інтэрнэце.

Дзякуючы перакладчыкам, якія ўзялі на сябе цяжкую працу данесці зусім не простую паэзію Эзры Паўнда да беларускага чытача, мы маем магчымасць працягнуць наша знаёмства з гэтым выдатным паэтам. Спадзяёмся, што гэта не апошняя сустрэча з Паўндам на старонках беларускіх выданняў, што з дапамогай гэтай і іншых публікацый імя амерыканскага паэта, якога не заўсёды апраўдана абвінавачвалі раней, стане для маладога пакалення літаратараў калі не ўзорам для пераймання, то, прынамсі, карысным досведам.

**Барыс АЎДЗЕЕЎ**

## Вяртанне

Глянь: яны вяртаюцца; ах, глянь, як няпэўна
Ідуць яны й як павольна,
Як цяжка ім рухацца, як яны
Хістаюцца!

Глянь: яны вяртаюцца, адно за адным, у жаху,
Нібы напалову прачнуўшыся,
Як быццам бы снег павінен вагацца
Ды мармытаць на вятры,
адварочвацца напалову;
Гэта былі «Акрыленыя жахам»,
Недатыкальныя
Багі крылатага чаравіка!

З імі срабрыстыя ганчакі,
што вынюхваюць след паветра!
Гэй-я! Гэй-я!
Яны спяшаліся плюндраваць –
Гэтыя, з рэзкім пахам;
Іх душы прагнулі праліваць кроў.

Павольна рухалася зграя,
мярцвяна-бледная зграя людская!

## Тэнцона

Ці людзі іх успрымуць?
(г.зн., гэтыя песні).
Як пудлівыя дзеўкі ад кентаўра
(ці то ад цэнтурыёна),
Ужо яны ўцякаюць, выючы ад жаху.

Ці іх закране жыццёвая праўда?
Іх тупая дзявоцкасць неспакушальная.
Малю вас, прыязныя мае крытыкі,
Не бярыцеся забяспечваць мне слухачоў.

Я ўскарасквaюся, як магу, на скалы;
Найпатаемнейшыя закуткі
Пачулі рэха ад грукату маіх абцасаў,
у халаднаватым святле,
у цемры.

## Дамова

Я заключаю дамову з табой, Уолт Уітмен –
Досыць доўга ты быў мне агідны.
Я іду да цябе дарослым дзіцём,
У якога быў бацька свінагаловы;
Я занадта стары, каб займець сяброў.
То быў ты, што новы лес валіў –
Час прыйшоў пілаваць дровы.
Кроў адна ў нас, адны карані –
Давай зробім гешэфт між намі.

## Рэшта

О, меншасць бездапаможная ў маім краі,
О, рэшткі зняволеныя!

О, мастак, паламаныя ёю,
Што заблукалі, згубіліся ў вёсках,
Недавер, ганьбаванне спазналі,

Апалагеты прыгожага згаладнелыя,
Пасвараныя з сістэмамі,
Бездапаможныя супраць віжоў;

Вы, што не можаце знясіліць сябе
Ва ўпартым змаганні за поспех;
Вы, што ўмееце адно прамаўляць
І не хавацца ў шматлікіх паўторах.

Вы, з пачуццямі далікатнымі,
Паламаныя фальшывым веданнем,
Вы, што ведаць пра ўсё самі можаце,
Зненавіджаныя, гнаныя, даверу пазбаўленыя,

Уцямце толькі:
Я стрываў гэтую буру,
Я знясіліў сваё выгнанне.

## З паэмы «Амаж Сэксту Праперцыю»

### IV

#### РАЗЫХОДЖАННЕ ДУМАК З ЛІГДАМАМ

Скажы праўду, Лігдам, што чутно пра адданую нашу
красуню,
І хай ляжа куплёнае пані ярмо на цябе бесстароннім
цяжарам;
Бо я поўны тваіх кампліментаў пустых,
ашуканы тваім адсыланнем

Да тых рэчаў, што ты вельмі-вельмі б хацеў,
каб паверыў я ў іх.

Аніводзін вястун не прыходзіць ні з чым;
раб павінен баяцца няпэўнасцяў;
Весці мноства размоў – добра гэтак жа сама,
як мець свой дом.
Прэч з усім гэтым, раскажы мне пра гэта,
прычым ад пачатку самага –
Я прагна наставіў вушы свае.
Што? Яна плакала, з валасамі нерасчасанымі,
ты бачыў гэтае?
Цэлыя рэкі слёз цяклі з ейных вачэй?
Гэта ты, ты, Лігдам,
Бачыў яе распасцёртую ў ложку –
у люстэрку нішто не адбілася,
На бялюткіх руках – ані золата, ані аздобаў якіх.
Рукі зграбныя ўборам журботным акрытыя.
І шкатулка з пісчым дабром у нагах.
Ва ўсім доме жалоба, і ўсе прыслужніцы ў роспачы,
Бо яна ім пра сон свой распавяла.

Яна ляжала, захутаная, пасярэдзіне.
Хусткі мокрыя запаўнялі вільготныя вочы яе,
На заўвагі спакойныя нашы
ў адказ раздражнёныя гукі чуліся.
Дык за што ад мяне ўзнагароды ты чакаеш цяпер,
Лігдам?
Многа рэчаў сказаць – гэта тое, што мець сваё котлішча.
А другая жанчына тады «не сваімі манерамі зграбнымі
спакусіла мяне,
А дастала мяне атрутнымі зёлкамі;
яна круціць у ромбе кола штурвальнае;
Яна жабаў надзьмутых гатуе, косткі змяіныя,
пер'е сіпухаў лінялае;

Рызманамі ад савана яна вяжа мяне.
Ёй у ложку няхай павуціну плятуць павукі!
Хай у вуха храпуць ёй каханкі нараніцу!
Хай ёй ногі пакурчыць падаграю!
І ён хоча, Лігдам, каб спала я адна?
Хоча брыдкія рэчы казаць на маіх паховінах?»

І вы хочаце, каб я паверыла ў гэта,
адцярпеўшы нягоды ўвесь гэты год?

**З ангельскай пераклаў
Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

## Гвіда запрашае так[1]

Я Ляпа[2] й Дантэ пакідаю ззаду,
Каб морам плыць адно з табой. Не трэба
Мілоснай балбатні. Мой карабель
І твой тавар – пакі паўзверх маснічын.
Што тут, на сушы, ведаюць пра вычын,
Які здаўна нам мроіўся дваім?

Твае жаданні важыў я на шалях,
Твой кожны сон праз нерат мой цячэ.
Тваё жыццё ў сваіх хаваю хвалях,
Як у ахвярным полымі. Ты шчэ
Не вандравала. Вось мой карабель.

## Ballatetta

Прыбралася ў святло ў імя сляпых
І ценяў, збудаваных, нібы людзі;
Ў святло, што спевам лашчыла нам слых,

Бо сонечнае чыстае праменне

Ў кароне валадаркі майго сэрца.
Не чулі ў лесе лані і алені
Святла цішэйшага; нат павучына
Грубейшая; і сонца дабрачынна
Ў траве смарагды з кожнага сцябла
Ірве, бо згаснуць ад яе святла.

## Silet[3]

Цячэ атрамант, плынны, як гады,
З крыніцы несмяротнасці дармовай,
Што некалі засохне назаўжды,
І гэтай тэмы хопіць для прамовы.

Нам хопіць стрэч мінулае пары,
І не аздоблю згадкай новы твор я!
Мы крочым праз асеннія вятры,
Чакаючы вясновага надвор'я.

Нам хопіць стрэч мінулае пары;
Хай супраць ветру пролівень паўстане.
Нам хопіць стрэч мінулае пары;
Наш сведка – час. Яму няма вяртання.

І заўтра першы-лепшы ератык
Без жалю зрыне наш *art poétique.*

*Верона, 1911*

## Плашч[4]

Ці ты захаваеш пялёсткі ружы,
  Калі час ружаў міне,
Юрліўца-Нябыту цябе кране пацалунак?

Ці змрочны Гадэс падарыць каханка,
Лепшага за мяне?
Ці новыя краскі красе тваёй паратунак?

Дык лепш у мой плашч загарніся самохаць –
Смерць гвалтам агорне нас.
Не вочы мае павінны палохаць,
А плынны час.

## Το καλόν[5]

Ты зноў мне адмаўляеш – нат у мроях –
І шлеш адно служанак узамен.

## Фрагменты з паэмы «Х'ю Сэлвін Мобэрлі» (Жыццё і сувязі)

*«Vocat aestus in umbram»*[6]
*Nemesianus, Ec. IV.*

**I**

*E. P. ODE POUR L'ELECTION DE SON SEPULCHRE*[7]

Тры гады будаваў ён з хімер
мастацтва хорам хаўтурны,
нібы ўваскрэсне памерлы памер,
катрынка абуе катурны.[8]

Сын дзікай краіны[9] – садзіў жалуды,
каб вырасціць вінную гронку.
Спадужнік Тэбаў[10], нябёсаў, вады –
наядаў лавіў, як стронгу.

«'Ιδμεν γαρ τοι πανθ', οξ' ενι Τροιη»[11] –

праз адкаркаваныя вушы
песня між скал чаравала героя.
За год ён забыўся на сушу.

Яму Пенелопаю й панацэяй
Флабэр быў[12], вось вам і вынік:
часцей бачыў сонечны локан Цырцэі,
чым сонечны – побач – гадзіннік.[13]

Яго тастамент – трывалейшы за медзь
наконадні трыццацігоддзя
пііта[14] – за год паспеў спарахнець,
як леташні снег дый годзе!

## II

Век вымагаў люстравання
ўласных жвавых гімор:
нешта пра харчаванне
лепш за трагічны хор!

Аніякай прынукі
азірацца назад:
лепш шматкроп'е ашукі,
чым двукоссе цытат!

Не «пасланні», а пошта!
Не «тастамент», а тэст!
Пошук рымаў? Навошта?!
Век абірае змест!

## III

Не містэрыі etc,
сёння містыкі – comme il faut!

А музычнай шкатулкі ігра –
аргумент супраць ліры Сафо.[15]

Узліванні заместа хростаў,
фалахвалства як форма веры.
Арыэль пакідае востраў,
Калібан перамог Праспэра.[16]

«Усё цячэ», вы кажаце, ойча
Геракліце? Чаму ж гэты свет,
нібы ў рэчку, двойчы і тройчы,
уваходзіць у той жа тандэт?

Колісь Павал прыбраў у карынку
хрысціянскай красы эталон,[17]
каб таварам на кожным рынку
сёння сталася το καλόν.[18]

Так, амброзія нам абрыдла
і абразаю стаўся абраз.
Мы аплаткамі кормім быдла.
Абразанне – бачынаў – для нас!

Быццам перамаглі тырана,
быццам зрынуты Пісістрат[19]
і на троне законна абраны
ўсенародны... махляр ці кастрат!

Бога, мужа ў пачэсную барву?
Τιν' ανδρα, τιν' ηρωα, τινα θεόν?[20]
Дык каму дэльфійскаю лярвай
спавівацьме чало Апалон?

<...>

## Envoi[21] (1919)

Ідзі, нямая кніга, і скажы
Той, што мне колісь Лоўэса пяяла:
Ты чула спеў
Дый іншага нямала,
І, можа, дараваўшы мне заганы,
Мае грахі – нат самы нечуваны,
Сягнула б несмяротнасці мяжы.

Скажы
Той, што хавала ў небе скарбы,
Адно каб ейнай прыгажосці фарбы
У кожнай адбіваліся хвіліне,
Што я падараваць мог урачыста
Ім неўміручасць ружаў у бурштыне,
Адзіны колер і адзіны пах,
Чырвоную й аранжавую істу,
Каб красавалі ў вечнасці ў руках.

Скажы ёй
(Той, што ў вуснах спеў нясе
І не пяе, не знае, як усе,
Пра творцу), што аднойчы ў нечых вуснах,
Як у яе, прыгожых і спакусных,
Гучацьме хваласпеў і ёй, калі
Ўолеравыя з маімі косці
Нарэшце спарахнеюць у зямлі
І адыдуць усе, што тут жылі,
І ўсё загіне – па-за прыгажосцю.

**З ангельскай пераклаў**
**Андрэй ХАДАНОВІЧ.**

---

[1] Уяўны адказ Гвіда Кавальканці на санет Дантэ «Guido, i'vorrei che tu e Lapo ed io...» («Гвіда, я б хацеў, каб ты і Ляпа, і я...»). Насамрэч Гвіда Кавальканці адказаў Дантэ санетам «S'io fu quello che d'amor fu digno» («Калі б я быў тым, хто варты кахання...»).

[2] Ляпа Джані – сучаснік і сябра Гвіда Кавальканці і Дантэ Аліг'еры; фларэнтыйскі натарыус і паэт.

[3] Ён змаўкае (лац.).

[4] Парафраза дзвюх эпіграмаў: Асклепіяда (1-6 радкі) і Юлляна Егіпецкага (7-10 радкі).

[5] «Краса» (старажытнагр.).

[6] Эпіграфам да паэмы «Х'ю Сэлвін Мобэрлі» Паўнд абраў радок з эклогі лацінскага паэта III стагоддзя Немезіяна: «Спёка кліча нас у цень». Паводле аўтарскай задумы, такі эпіграф павінен наводзіць на думку пра адчужэнне ад сучаснасці. Гэта своеасаблівае развітанне паэта з Лонданам.

[7] «Э. П. Ода на выбар уласнага склепа» (фр.) – Паўнд паўтарае назву адной з одаў П'ера Рансара, асацыіруючы яе таксама з «Эпітафіяй» Трыстана Карб'ера.

[8] У арыгінале гаворка пра «высокае» – выкарыстана ангельскае слова «the sublime», што адсылае да ангельскай назвы крытычнай працы грэцкага аўтара I стагоддзя нашай эры Лонгіна «On the sublime» («Пра высокае»). «Каб стацца «высокімі», – пісаў Лонгін, – літаратурныя творы павінны бліскуча карыстацца магчымасцямі мовы, выяўляць шляхетны дух і ўплываць на чытачоў нават пры шматкротным чытанні.

[9] Паўнд мае наўвеце Злучаныя Штаты Амерыкі.

[10] У арыгінале – Капанэй, герой грэцкай міфалогіі, адзін з сямёркі, што змагалася супраць Тэбаў. Кінуў выклік Зеўсу, за што быў забіты бліскавіцаю.

[11] «Бо мы ведаем тое, што было ў Троі» (старажытнагр.). Радок з песні сірэн («Адысея», XII, 189). Як вядома, вушы ва ўсіх маракоў, акрамя Адысея, былі залепленыя воскам. «Адкаркаваныя» – метафара Паўнда.

[12] Гюстаў Флабэр (1821 – 1880) быў сімвалам пісьменніцкай патрабавальнасці да сябе. Ён бясконца перарабляў напісанае, закрэсліваў і пісаў нанова. Гэткім жа чынам Пенелопа, паводле «Адысеі», зноў і зноў ткала і перарабляла тканіну, спрабуючы падмануць залётнікаў.

[13] На сонечных гадзінніках часцяком рабіліся надпісы пра плыннасць часу.

[14] Алюзія на першы радок «Вялікага тастамента» Франсуа Віёна («У трыццаты год свайго жыцця»). Адсюль у беларускім тэксце і «леташні снег» – вольнасць перакладчыка. Паўнду было 31, калі выйшаў зборнік ягоных ранніх вершаў «Lustra».

[15] Паэтка Сапфо (ці Сафо) была для Паўнда ўзорам высокай класічнай паэзіі.

[16] Героі Шэкспіравай п'есы «Бура».

[17] Магчыма, гаворка пра суровую хрысціянскую этыку, якая акцэнтавалася Паўлам.

[18] Глядзі заўвагу (5).

[19] Пісістрат, афінскі тыран (памёр у 527 г. да н.э.).

[20] «Якога мужа, якога героя, якога бога...» (старажытнагр.) – абгульваецца фрагмент з другой алімпійскай оды Піндара: «Якога бога, якога героя, якога мужа ўшануем?»

[21] «Envoi» (франц.) – даслоўна «пасылка» (апошняя скарочаная страфа верша-балады). Тут абгульваецца вядомая песня «Ідзі, пекная ружа» на мелодыю Генры Лоўэса і вершы паэта XVII стагоддзя Э. Уолера; адсюль і ніжэйшыя згадкі пра апошніх.

**Каментар**
**Андрэя ХАДАНОВІЧА.**

## Песня I

І тады ўзыйшлі на жагляр,
Паставілі кіль на хвалі, наперад у боскае мора, і
Ўзнялі мы шчоглу і ветразь на гэтай змрочнай судзіне,
Занеслі авечак на борт, і нашыя целы таксама,
Сцяжэлыя ад узбраення, вятры з кармы
Панеслі нас прэч, надзьмуўшы радно,
Гэта махлярства Кіркі, багавіцы прыўкраснавалосай.
Пасярэдзіне чоўна мы селі адылі,
вецер зацiснуў румпель,
Так напятыя ветразі вынеслі нас на той бок мора
і скончыўся дзень.
Сонца заснула, прыцемкі зжэрлі ўвесь акіян,
Мы прыплылі адылі ў абсяг найглыбокай вады,
Да Кімерыйскай зямлі і населеных местаў,
Затканых густой павучынай імглой, заўсёды замкнёнай
Для бляску сонечных промняў,
Для ясных зораў, для позірку долу з нябёсаў.
Найцёмная ноч распасцёртая там
над мізэрным жыхарствам.
Плынь акіяна змяніла кірунак,
тады даплылі мы да месца,
Вышэйпамянёнага Кіркай.
Тут зрабілі яны рытуалы, Перымед з Эўрылохам,
І малюючы вузкім мячом, знятым з майго сцягна,
Я выкапаў яму локаць на локаць;
Пралілі мы напоі для кожнага з мёртвых,
Мёд спярша, адылі віно, ваду,
змяшаную з белай мукой.
Пасля я прамовіў безліч малітваў
да недалужных галоваў памерлых,
Як гэта прынята ў Ітацы, найлепшых валоў
Для ахвяры, згрувасціўшы рэчы ў хаўтурны агонь,
Барана, асобна Тырэсію, чорнага, што вадзіў статак.
Цёмная кроў сцякала ў рышток,

Выходзілі душы з Эрэба, нябожчыкі бледныя, дзеці,
Нявесты, старыя, што зведалі процьму пакутаў,
Душы са свежымі плямамі слёзаў на шчоках,
крохкія дзеўчыны,
Мноства мужоў, чые твары знявечыў масенж,
Счарнелыя рукі трафеі сціскаюць яшчэ,
Яны атачылі гурмой мяне, енкам і лямантам
Патрабавалі больш быдла ў маіх пахолкаў;
Каб рэзалі статкі і білі авечак спіжовымі дзідамі;
Разлівалі напоі і заклікалі багоў,
Плутона магутнага і Празэрпіну ўсхвалялі;
І вузкі меч агаліўшы,
Я сеў, каб трымаць падалей шалёных
бязмоцных мёртвых,
Пакуль не пачую Тырэсія.
Ды першы прыйшоў Эльпенор, Эльпенор наш сябра,
Непахаваны, згублены дзесьці на сушы,
Цела рэшткі, што мы пакінулі ў доме Кіркі,
Неспавітыя долам і плачам, чакалі нас іншыя справы.
Лядашчы дух. І гукнуў я крылатымі словамі:
“Эльпенору, ты як апынуўся на гэтым беразе цёмным?
Удалы марнар, пехатой абагнаў жагляры?”
І ён мне сцяжэлымі словамі:
“Доля ліхая і рэкі віна. Я заснуў ля агменю ў Кіркі.
І няўважны, сыходзячы лесвіцай доўгай,
Я зрынуўся долу, разбіўшы шыйны хрыбетнік,
І душа адшукала Авэрн.
Але, гаспадару, прашу, памятай пра мяне, неспавітага
долам і плачам,
Збяры маю зброю, зрабі надмагілле на узбярэжжы,
і надпіс:
“*Тут ляжыць а-бяз-долены, што атрымае імя*”,
І паставіш вясло маё зверху,
што між таварышаў седзячы я паварочваў.”

 



І Антыклея прыйшла, яе адагнаў я,
адылі Тырэсій з Тэбаў,
Трымаючы моцна сваё залатое жазло, пазнаўшы мяне,
ён першы прамовіў:
"Ужо другі раз? чаму? чалавек ліхой зоркі, ізноў
Прыйшоў на спатканне з памёрлымі ў гэты павет,
спабыты святла, маркотны?
Адыдзі за рышток, пакінь для мяне мой крывавы напой,
Каб я мог прадказаць."
І я крочыў назад,
І магутны крывёю ён мовіў тады: "Адысей
Будзе вяртацца праз цёмныя моры, і раззлаваны Нептун
Скрадзе ўсіх яго спадарожнікаў". І прыйшла Антыклея.
Хай Дывус спачне ў спакоі,
я маю наўвеце Андрэаса Дывуса,
In officina Wicheli, 1538-га року, з Гамера.
І ён паплыў да Сірэнаў, і прэчкі адтуль, і далей
Ажно да Кіркі.
Venerandam.
Казаў той крыцянін, у залатой кароне
Cypri munimenta sortita est, вясёлыя, orichalchi,
у залатых
Пасках і стужках, цёмнапавекая, ты
Нясеш залатую галіну Аргазабойцы. Дык вось:

**З ангельскай пераклаў**
**Міхась БАЯРЫН.**

---

"Cantos I-III" упершыню апублікаваныя ў чэрвені 1917 г. пад назваю "Three Cantos" у часопісе "Паэтры" (Чыкага). У значна зменены выглядзе яны выйшлі ў 1925 годзе ў зборніку "A Draft of XVI Cantos".

Радкі 1-67. *І тады ўзыйшлі на жагляр...* – У аснову пакладзены тэкст XI песні "Адысеі" Гамера – раздзела, які Паўнд называў "Кнігай Мёртвых", бо лічыў яго найстаражытнейшым фрагментам самага старога твора ў заходняй літаратуры.

 

Пачынаючы такім чынам сваю паэму, ён хацеў паказаць, што вядзе свой аповед ад самых вытокаў чалавечай цывілізацыі. У «Cantos" гэта найвялікшы па аб'ёму цэльны адцінак апавядання.

Р. 7. *Кірка (Цырцэя)* – дачка Геліяса, багіня, якая валодала чароўнаю сілай. Адысей, які гвалтам утрымліваецца на яе выспе, выкарыстоўваючы параду чараўніцы, адпраўляецца ў падземнае царства, каб даведацца пра свой далейшы лёс у празорца Тырэсія. Падобным чынам робіць і сам Паўнд, калі звяртаецца да спадчыны зніклых культур, заклікаючы не наследаваць цару Пэнтэю ў ягонай саманадзейнасці (гл. кам. да "Canto II", радкі 59,62,115). Шлях да будучыні можа падказаць адно мінулае, сувязь з якім, на вялікі жаль, амаль страчаная. Царства памерлых у пачатковых радках паэмы – гэта таксама і зварот да "Боскай камедыі" Дантэ, дзе дарога да Раю ідзе праз Пекла і Чысцец. Тут не пакутуюць грэшнікі, для Паўнда гэта нешта станоўчае, што павінна кіраваць людзьмі і весці іх праз Чысцец Рэнесанса і сучаснага свету да будучай цывілізацыі парадку і цноты; гэта тое, да чаго, паводле Паўнда, варта прыслухоўвацца і чым неабходна кіравацца.

Р. 12. *Да Кімэрыйскай зямлі...* – легендарная краіна, што мясцілася каля ўвахода ў Аід ("Адысея", XI, 14-19).

Р. 19. *Перымед, Эўрылох* – спадарожнікі Адысея.

Р. 25. *Ітака* – выспа ў Іанічным моры, радзіма Адысея.

Р. 29. *Эрэб* – старажытнагр. 'цемра', цёмнае месца, дзе апыналіся душы памерлых перад тым, як трапіць у Аід.

Р. 38. *Плутон* – бог апраметнай і царства мёртвых. *Празэрпіна* – рымская багіня расліннасці, атаясамлівалася з Пэрсэфонай. Як жонка Плутона, мусіла паўгода праводзіць у падземным царстве і адно ўвесну вярталася на зямлю, сімвалізуючы штогадовае паміранне і абуджэнне прыроды.

Р. 42. *Эльпэнор* – малодшы ў камандзе Адысея.

Р. 53. *Авэрн* – возера ў Кампаніі, Італія. Аточанае густымі і змрочнымі лясамі, праз свой вонкавы выгляд лічылася адным з уваходаў у Пекла.

Р. 58. *Антыклея* – маці Адысея. Памерла падчас ягоных вандровак.

Р. 66. *Нептун* – рымскі бог вады, які атаясамліваўся з грэцкім богам Пасейдонам. Пасля таго, як ягоны сын Паліфэм быў аслеплены Адысеем, пачаў помсціць апошняму і перашкаджаць ягонаму вяртанню дамоў, у выніку чаго падарожжа Адысея цягнулася дваццаць гадоў ("Адысея", IX,106).

Р. 67. У ранейшым варыянце 1917 года тут былі наступныя радкі, ад якіх Паўнд пасля адмовіўся:

Потым прыйшла Антыклея і ёй адказаў я:
"Лёс вядзе мяне цераз глыбіні: шукаў я Тырэсія".
Я апавядаў ёй пра Трою, і цень яе тройчы
Знікаў у маіх абдоймах.
Пасля я дазнаўся пра дзеўчын, што адышлі –
Тыра, Алкмэну, Хлорыс –
У яміны чорнай я гісторыі іхнія слухаў, і плыў
Паўз Сірэн і прэчкі адтуль, і далей,
Ажно да Цырцэі, вартаўніцы Эльпэноравых рэшткаў.

Паўнд палічыў, што гэты фрагмент мае занадта акультную канатацыю, і не хацеў яшчэ раз скіроўваць чытацкую ўвагу на душы памерлых.

P. 68. *Андрэас Дзівус* – перакладчык "Адысеі" Гамера на лаціну.

P. 69. *In officina Wecheli...* – "У майстэрні Вэхэла" (лац.), надпіс на тытульным аркушы выданай у Парыжы ў 1538 г. кнігі "Homeri Odyssea ad verbum translata, Andrea Divo Justinopolitano interprete, Euisdem Hymni Deorum XXXII, Georgio Dartona Cretense interprete." Гэтае выданне "Адысеі" і гамераўскіх гімнаў і сталася матэрыялам для цытавання, а таксама асноваю для ангельскага перакладу, які быў здзейснены Паўндам у "Canto I". Лацінскі тэкст фрагмента гл. у артыкуле Паўнда "Раннія перакладчыкі Гамера".

P. 70. Сірэны – напаўжанчыны-напаўптушкі, што насялялі адзін з астравоў каля Сцылы і Харыбды і прываблівалі маракоў чароўным спевам ("Адысея", XII,39,142-200).

P. 72. Venerandam – "Вартая шанавання" (лац.). Так пачынаецца другі гамераўскі гімн да Афрадыты ў лацінскай інтэрпрэтацыі Георгія Дартоны з згаданага вышэй парыжскага выдання.

P. 73. Казаў той крыцянін... – Г. Дартона быў родам з Крыта. Афрадыта – багіня кахання і прыгажосці – у Траянскай вайне выступае на баку абаронцаў места, галоўным чынам таму, што сярод іх быў яе сын Эней. Ён пакінуў разбураную Трою, вырашыўшы з дапамогаю маці заснаваць новае места, і, паводле падання, пасяліўся ў Лацыі, а ягоныя нашчадкі заснавалі Рым. Ключавая тэма ў "Cantos" – вяртанне дамоў, "nostos" (Ітака для Адысея), альбо, іншымі словамі, шлях ад разбурэння цывілізацыі (Троя) да яе адраджэння, ладу і гармоніі (Тэбы). Эпічнае "вяртанне дамоў" уяўляюць сабою і самі "Cantos", а Паўнд-паэт у нечым паўтарае падарожжа Адысея, прыйшоўшы да ўхвалы ладу ў вобразе Італьянскай Рэспублікі пад кіраўніцтвам Мусаліні.

P. 74. Cypri munimenta sortita est... – "Уладарыць над крэпасцямі Кіпра" (лац.), працяг цытаты з другога гамераўскага гімна да Афрадыты.. Адно з імёнаў багіні – Кіпрыда, што звязана з міфам пра яе нараджэнне з марской пены. Выйшаўшы з мора, яна ўпершыню ступіла на зямлю на выспе Кіпр.

...orichalchi... – "з медзі" (лац.). Дартона ў сваім перакладзе ўжывае гэтае слова дачынна завушніцаў Афрадыты. Іншая лацінская назва медзі – Cyprium – этымалагічна звязаная з вострвам Кіпр, які ёсць цэнтрам культу багавіцы. У гэтым слове Паўнд зрабіў памылку ў адну літару: яго сапраўднае напісанне: "oricalchi". Пасля гэтае месца будзе паэтам выпраўлена.

P. 76. Нясеш залатую галіну Аргазабойцы – зменены пераклад лацінскай фразы habens auream virgam Argicida з першага гамераўскага гімна да Афрадыты (радок 117) у версіі Дартоны, дзе багіня апавядае пра тое, як яе выкраў Argeiphontes ('Аргазабойца'), то бок Гермес. Дартона перакладае гэты грэцкі эпітэт як Argicida. Залатая галіна – асяродак магічнай сілы, сталы атрыбут Гермеса як правадыра душаў памерлых у Аід, пасярэдніка паміж двума светамі. Яе ж трымае ў руках Тырэсій, калі дае прароцтва. Афрадыта, чый сын, Эней, падобна да Адысея, спускаецца ў падземнае царства, каб даведацца пра свой лёс, таксама нясе тут залатую галіну і асацыіруецца з Пэрсэфонаю (гл.: Вергілій, "Энеіда", VI).

**Каментар Барыса АЎДЗЕЕВА.**

## Песня II

Чхай на ўсё гэта, Робэрт Браўнінг,
Можа быць толькі адзін “Sordello”.
Толькі Sordello і мой Sordello.
Lo Sordels si fo di Mantovana.
Со-Шу раскалыхваў мора.
Нерпа гуляе ля скалаў у пеністых колцах,
Разлашчаная галоўка, Лірава дачка,
вочы Пікаса
Пад каптуром із чорнага футра,
паслухмяная дачка Акіяна;
І хвалі бягуць сваёй чарадой на бераг:
“Элеанора, Ελεναυs, Ελὲπτολιs!”
І бедны стары Гамер сляпы, сляпы, як кажан,
Вуха, вуха для шэпту плесі,
шолах старэчых людскіх галасоў:
“Яе трэба вярнуць назад на жагляры,
Назад у грэцкія твары, каб ліха мінула наш род,
Ліха, даўняе ліха, праклён, пасланы на нашых дзяцей,
Крочыць, так яна крочыць нібы багавіца,
Яе боскі твар
і голас дачок Схенэя,
І згуба ідзе разам з ёй, шпацыруючы,
Хай яна вернецца на жагляры, назад
У грэцкія галасы”.
І той пляж каля рэчкі, Ціро,
морскага бога звячэлыя рукі,
Рухі гнуткіх мясеняў вады, што бяруць яе ў лоні,
І шкло шэра-сіняе хвалі ставіць над імі намёт,
Зыркі блакіт, халадэча, самотны атулак.
Спакойны сонечны сон на цёмна-жоўтым жвіры,
Чайкі шырока выпростваюць крылы,
чысцячы пер’е,
Долу злятаюць бакасы,

і гнуць суставы,
Цягнуць вільготнае пер'е да сонца,
І каля Схіоса,
ўлева з дарогі да Накса,
Скала забраснелая формай нагадвае човен,
морскае зелле цалуе яе ў хрыбціну,
Там вінна-чырвоны пажар на мелях,
цынавы сполах у сонечнай слепаце.

Жагляр у схіоскім порце,
людзі, што прагнуць вясновай вады,
І ля стаўка сярод скалаў хлапец, млявы ад віннай брагі.
"Да Накса? Добра, ты будзеш у Наксе.
Паехалі з намі, малец". "Не гэткай дарогай!"
"Гэта дарога да Накса".
І мовіў я: "Гэта наўпросты жагляр".
І выгнанец з Італіі, колішні катаржнік,
Зваліў мяне пад фока-штаг,
(За забойства ў Тасканіі ён быў у вышуку)
Іх было дваццаць супраць мяне,
Ашалелых ад думкі пра колькі манетак,
якія даюць за нявольніка.
І з Схіоса выйшлі яны,
І змянілі свой курс...
І хлопец з'явіўся ізноў, тлум і гоман яго атачалі,
І, стаўшы на нос жагляра,
ён зерыў на ўсход, на дарогу да Накса.
І раптоўна богападступнасць, богападступнасць:
Катвіга трывала захрасла ў морскім віры,
Павой вырастае на вёслах, кароль Пэнтэй,
Вінаградныя ягады ў морскай пене,
Павой расце на шпігаце.
Так, я, Акет, стаяў там,
і бог стаяў ля мяне,
Водныя лёзы пілуюць пад кілем дошкі,

Суворы ашчэр прадоння,
плыні чуйнуюць у чэраве чоўна,
І на месцы планшыра цяпер былі комлі лазы,
І сцябліны насення віліся, дзе быў такелаж,
вінаградная лісце ў качотах,
Цяжкія гронкі звісалі са стрыжняў вёслаў,
І подых нябыту,
гарачыя дыхі ласкочуць мяне пад каленам,
Звяры нібы цені у шкле,
футраныя хвасты зніадкуль,
Курныканне рысяў і верасовыя пахі звяроў,
дзе раней патыхала жывіцай,
Са́панне й лапы звяроў,
зерак зіхценне ў чорным паветры,
Закарэлае неба прагне маланкі,
Са́панне й лапы звяроў,
поўсць ціхенька кранае скуру майго калена,
Шолах бязважных надкрылляў,
скарэлыя формы ў этэры.
І жагляр бы судзіна на верфі,
быццам падважаны бык у кавальні на лінах,
Шпангоўты трывала ўвагнаныя ў штапелі,
вінаградныя гронкі на сценах бартоў,
пустое паветра.
Пераўтвараўся нішчымны вецер,
кашэчая млявасць пантэраў,
Лемпарды нюхаюць голле лазы на шпігаце,
Разлеглыя целы пантэраў на палубе,
І глыбока-блакітнае мора вакол нас,
зялёна-багранае ў ценях,
І мовіў Ліэй: “Адгэтуль, Акет, маім алтарам
Не баяцца няволі,
не баяцца лясовых котак,
Пад рысінай аховай,
вінаградам карміць маіх лемпардаў,

Olibanum - мой дабрапах,
лозы будуць расці ў мой гонар”.

Набраклае дрэва бартоў,
Чорная пыса грызухі
замест Лікабантава твару,
Пакрытыя рыбнай луской весляры,
І я схіліўся ў пашане.
Я бачыў тое, што бачыў.
Калі прывялі яны хлопца, я мовіў:
“Ён мае бога ў сабе,
ня ведаю толькі, якога”.
І мяне павалілі пад шчоглу.
Я бачыў тое, што бачыў:
жэбры на твары Мэдона,
Рукі зморшчваліся ў плаўнікі. І ты, Пентэй,
Аднолькава слухаў Тырэсія й Кадма,
Твая доля пакіне цябе.
Сцёгны ў рыбнай лусцэ,
сярод мора курныканне рысяў...
І на колькі гадоў пазней,
паля шчоглы ў вінна-чырвоных раслінах,
Калі глянеш удол са скалы,
каралевы твар, крыху адценены хваляй,
Бледна-ружовы пад зменлівай плесяй,
Ileuthyeria, з узбярэжжа цнатлівая Дафна,
Галіны рукамі дзяўчыны былі,
Хто скажа, ў якім гэта годзе,
ад якой уцякаючы зграі трытонаў,
Ласкавыя веі, відаць, напалову відаць,
цяпер цішыня пад колер слановай косткі.

І Со-Шу ўзбіў мора як масла, Со-Шу пры гэтым
маладзіком працаваў як пестам...
Віраванне гнуткай вады,
цягліцы Пасейдона,

Чорны блакіт і празрыстасць,
шкляная хваля над Ціро,
Самотны атулак, гоман,
зыркі гармідар хвалістых нітак,
Пасля спакой у вадзе,
спакой у бурнатых пясчынках,
Морскія птахі шырока выпростваюць крылаў суставы,
пырскі лятуць на праёмы ў скале і на ямы ў жвіры,
Шалахценне плесі на выдмах,
Шкляныя сполахі хваляў ад сонечных промняў,
бледны Гэспер,
Шэрае верхавінне вады,
хвалі пад колер віннага жмаку.

Побач з шэрай алівай,
далёкі шэры дымок на скалістым скелзе,
Жоўта-ружовыя крылы ястраба-рыбара,
падводны кідок шэрых ценяў,
Вежа, нібы аднавокая шэрая гусь,
выгінаецца ўгору з аліўнага гаю.

І мы чулі фаўнаў, што лаяліся на Пратэя,
пад аліўнымі дрэвамі ў сенным паху,
І жабаў, якія спявалі насупраць фаўнаў
у прыцемках.

І...

**З ангельскай пераклаў**
**Міхась БАЯРЫН.**

---

Радок 1. *Роберт Браўнінг* (1812–1889) — англійскі паэт, аўтар эпічнай паэмы “Сардэла” (1840). Паўнд высока ацэньваў паэзію Браўнінга і лічыў яго, як і сябе, паслядоўнікам эпічнай традыцыі Гамера.

р.2. *Sardello* (1185? – 1255?) — італьянскі трубадур, герой паэмы Р.Браўнінга. Паўнд тут кранае праблему суб'ектыўнасці паэтычнага ўспрымання, праблему суадносін рэальнай постаці і мастацкага персанажа. Як вядома, гістарычная праўда мала цікавіла Браўнінга, ягоны герой рана гіне, тады як гістарычны Сардэла дажыў да паважнага ўзросту (гл. таксама Дантэ "Чысцец", VI–VII).

р.4. *Lo Sordels si fo Montovana* — "Сардэла родам з Мантуі", цытата з кнігі Каміля Шабано "Les Biographies des Troubadours en Langue Provencale", Toulouse, 1885.

р.5 *Со-шу* — японскае гучанне імя кітайскага паэта Сыма Сяньжу (179–117 гг. да н.э.), прадстаўніка проза-паэтычнага жанру фу, якога праз алегорыю крытыкаваў Лі Бо за пену замест хваляў. Радок узяты Паўндам з заўвагаў Эрнэста Феналозы.

р.7. *Лір–Лер*, у кельцкай міфалогіі марскі бог. Ва ўяўленні Паўнда дочкамі Ліра былі марскія цюлені.

р.8. *вочы Пікаса* — Верагодна, маецца на ўвазе здольнасць мастака ў сваім уяўленні мяняць аблічча рэчаў; а таксама знешнасць самога Пікаса.

р.11. *Элеанора...* — У гэтым радку Паўнд выкарыстоўвае прыём "накладання" персанажаў: легендарнай Елены, што пагубіла Трою, і Элеаноры Аквітанскай (1122–1204), дачкі і спадкаемніцы Вільгельма X, апошняга герцага Аквітанскага. Элеанора праз два месяцы пасля скасавання шлюбу з Людовікам VII, каралём Францыі, выйшла замуж за Генрыха II Анжуйскага (Плантгенета), які пазней зрабіўся каралём Англіі. Атруціўшы з рэўнасці каханку Генрыха II, змовіўшы супраць бацькі яго двух сыноў і паклаўшы пачатак тэрытарыяльным спрэчкам паміж Францыяй і Англіяй, з якіх пазней усчалася Стогадовая вайна, здабыла сабе славу femure fatale.

*elenaus i eleptolis...* — "тая, што губіць караблі і губіць гарады". З трагедыі Эсхіла "Агамемнан", дзе аўтар выкарыстоўвае гэтыя эпітэты адносна Елены, ператалумачваючы яе імя як вытворнае з аднаго кораня.

р.14–22. *"Яе трэба вярнуць..."* — За аснову ўзяты фрагмент з "Іліяды" Гамера, III, 155-160.

р.19. ... *дачок Схенэя...* — Адной з дачок Схенэя была Атланта, згубная прыгажосць якой таксама была падставай смерці многіх людзей (гл. Авідзій, "Метамарфозы", X).

р.23. Ціро — дачка Салманея. Бог мораў Пасейдон авалодаў ёю, прыняўшы аблічча яе каханага, бога рэчак Энiпея (гл. "Адысея", XI, 235–259). Міф пра Ціро Паўнд укладае ў некалькі радкоў. Падобным прыёмам ён карыстаецца неаднойчы, падмяняючы паслядоўныя метамарфозы Авідзія імгненнымі мутацыямі ўласнага вытворства. Прыём непасрэдна стасуецца з пастулатам Паўнда аб эканоміі паэтычных сродкаў і з ягонай прыхільнасцю да структуры кітайскай мовы, дзе адсутнічаюць прыназоўнікі і канчаткі, а часціны мовы ўзаемадзейнічаюць адна з адной напрасткі.

р. 34–35. *Сіос — Схіос* — востраў, які знаходзіцца ў 70 мілях ад Наксоса. Гэтая назва ўзятая Паўндам з англійскага перакладу Авідзія, зробленага Голдзінгам.

*Наксос* — самы буйны востраў Кікладскага архіпелага, цэнтр культу

Дыёніса, славуты таксама вінаробствам (гл. "Метамарфозы", III, 632–640).

р.42. ... *хлопец, млявы ад віннай брагі...* — Дыёніс, бог вінаградарства і вінаробства. Гэты і наступныя радкі малююць сустрэчу Дыёніса, які кіруецца ў Наксос, і тырэнскіх піратаў, што вырашылі прадаць яго як раба, каб зарабіць на ім грошай. Першае ў "Cantos" з'яўленне ідэі квотніцтва, як самага вялікага зла. Піраты, аслепленыя гэтым злом, таму і не пазнаюць у п'яным хлопцы бога, і гэта ім дорага каштуе.

р. 59. *Пентэй* — фіванскі цар, унук Кадма. Пентэй забараніў пакланяцца Дыёнісу, і за гэта яго разарвалі вакханкі, сярод якіх была і ягоная маці.

р. 62. *Акет* — стырнавы на караблі тырэнскіх піратаў. Ён быў адзіным, хто пазнаў Дыёніса. Духоўная відушчасць Акета ставіцца Паўндам у прыклад Пентэю, чый розум адслонены ад свету, а пачуцці — абыякавыя да яго. Ён ганарліва адмаўляецца наладзіць, падобна Гамеру, свой слых "сярод дыхання мора" і ў выніку пакараны за гэта (гл. каментар да радкоў 59, 115).

р. 95. *Ліэй* — адно з імёнаў Дыёніса.

р. 100. *Olibanum* — *Libanus*, "ладан" (лац.) вытворнае ад імя боства ўрадлівасці Лібера, які ў Рыме таясаміўся з Бахусам-Дыёнісам (гл. Авідзій, "Фасты", 111, 727–732).

р. 103–104. *Лікабант* (Мэдон) — сябры каманды карабля, якіх Дыёніс, як патрапіў на карабель, ператварыў у рыб.

р. 115. *Тырэсій* — легендарны сляпы вяшчун. Разам з Кадмам, дзедам Пентэя, з'яўляецца ў "Вакханках" Эўрыпіда, калі падымаецца на гару, каб прыняць удзел у вакханаліях і ўхваліць Дыёніса. Паколькі ён валодае дарам відушчага, то раіць і Пентэю ўхваліць бога, але той, тым не менш, робіць па-свойму (гл. каментар да р. 59, 62).

р. 124. *Ileuthyeria* — Верагодна, аўтарскае злучэнне імя багіні дзетараджэння Іліфіі і грэцкага слова "элеўтэрыя" — "свабода" (ёсць і іншыя інтэрпрэтацыі). Паўнд ганарыўся сваім уласным міфам, Іліўтэрыяй, якую ён ператварыў, у адрозненне ад Дафны Авідзія "не ў лаўр, а ў карал".

*Дафна* — німфа, дачка фесалійскага рачнога бога Пенэя. Калі яе пераследаваў закаханы Апалон, яна папрасіла ў бацькі дапамогі і той ператварыў яе ў лаўровае дрэва (гл. "Метамарфозы", 1, 546–560).

р. 130. *I Со-шу...* — у больш позняй рэдакцыі з тэксту быў прыбраны прыназоўнік "і".

р. 144. *Гэспер* — вечаровая зорка, якую старажытныя грэкі шанавалі як самую прыгожую (гл. "Іліяда", XXII, 317–318). Для Паўнда яна заўсёды асацыіравалася з одамі Сапфо і Катула.

р. 153. *Пратэй* — марское бажаство, якое можа прымаць любое аблічча.

р. 155. ... *і жабаў, якія спявалі насупраць фаўнаў...* — маецца на ўвазе фрагмент з камедыі Арыстафана "Жабы", дзе Дыёніса і ягонага слугу Ксанфія, калі яны спускаюцца ў Аід, вітае хор жабаў. З'яўленне ў апошніх радках "Canto II" жабаў, сімвала пераствараэння, гэтаксама як і Пратэя, падкрэслівае галоўную тэму твора, тэму метамарфозы.

**Каментар**
**Барыса АЎДЗЕЕВА.**

# Замест Гамера: περιπλους вакол Паўнда

## (заўвагі да пачатку беларускага перакладу «Песняў»)

*Traduttore – traditore*[1]

*Перевожу с немецкого, армянского и еврейского...*
*на Ваганьковское*[2]

Выхад у свет кожнага новага перакладу, а перадусім – у паэзіі, заўсёды стварае пэўную інтрыгу: ці станецца ён сапраўднаю з'явай сваёй культуры? Больш за тое: ці атрымаецца з яго нешта значнейшае, чым проста чарговы тэкст, прафесійна зроблены знаўцам сваёй справы? Добры пераклад добрага твора – гэта далёка не дрэнна. Але – такая ўжо чалавечая прырода! – ад найлепшых перакладаў заўсёды чакалася чагосьці большага па-за развязаннем асноўнай праблемы, якой ёсць насамперш напісанне больш-менш падобнага тэксту на іншай мове. Банальнасцю лічыцца думка, што добрая карціна, нават калі мастак прагне дакладнасці малюнка, мусіць люстраваць асобу свайго аўтара. Гэткім жа чынам пераклад – нават дакладны – да пэўнай ступені павінен быць адбіткам асобы перакладчыка.

Зусім нядаўна адзін знаёмы майстра перакладу казаў мне, што яму ніколі не хапала магчымасці выражэння свайго ўласнага досведу (напрыклад, успамінаў пра дзяцінства, бацькоўскі дом і г.д.). Як адлюстраваць усё гэта, займаючыся адно перакладаннем? Але, маёй думкай, сітуацыя выглядае складаней. Па-першае, калі перакладчык не працуе на замову, ён мае магчымасць абіраць, а выбар тэкстаў для перакладу амаль заўсёды знакавы. Па-другое, нават міма волі аўтара, паўсталы пераклад нясе пячатку індывідуальнасці чалавека, які яго выканаў. Крытыкамі заўважана, што сума свядомых ці несвядомых адхіленняў ад арыгінала беспамылкова дае нам творчы партрэт асобы перакладчыка. Праблема паэта-перакладчыка хутчэй у непазбежнасці залішняга духоўнага стрыптызу, пагатоў для эксгібіцыянізму існуюць уласныя вершы.

Звычайна, калі людзі ад прыгожага пісьменства на міжнародным узроўні пачынаюць размову пра перакладанне сусветнай літаратуры, прыгожыя пісьменнікі з Беларусі сарамліва апускаюць вочы долу. І няма чаго здзіўляцца, бо сітуацыя напраўду выглядае не надта аптымістычна. Шэраг хрэстаматыйных аўтараў не перакладзены да сёння, таму існаванне розных перакладаў аднаго і таго ж верша, за выключэннем звышанталагічных, пакуль застаецца адно мараю[3], а перакладаннем пісьменнікаў, вельмі далёкіх ад звышанталагічнай школьнай праграмы, нас радуюць далёка не кожнага дня. Такім чынам, проста немагчыма было змарнаваць добрую нагоду і не паразмаўляць пра пераклад твора, які належыць вельмі «далёкаму ад народу» паэту; паэту, які, у сваю чаргу, належыць да вельмі далёкай ад сярэдняга

беларускага чытача традыцыі звышінтэлектуальнай паэзіі. У даным выпадку спынімся адно на перакладзе першага canto.

Прынцыповая розніца паміж беларускім перакладчыкам першай песні Cantos і ягонымі калегамі з Усходу ці Захаду вызначаецца наступным чыннікам. Пачатак паўндаўскіх «Песень» – гэта, як вядома, «раўналежнае месца» да адзінаццатай песні гамераўскай «Адысеі». Такім чынам, чалавек расійскамоўнай ці, напрыклад, польскамоўнай культуры можа цалкам свядома суадносіць сваю працу з тэкстам згаданай песні ў наяўных у гэтых культурах перакладах (гаворка пра вядомую кожнаму тутэйшаму філолагу расійскую версію В.А.Жукоўскага ці вядомыя кожнаму тамтэйшаму літаратуразнаўцу польскія варыянты – вершаваны пераклад Люцыяна Семеньскага ці празаічны пераклад Яна Парандоўскага). Адсюль вынікае магчымасць цытавання (яўнай, беспасрэднай ці прыхаванай цытацыі), а таксама частковага знішчэння старажытнаэпічнай рыторыкі, пераадолення гамераўскага дыскурсу ў межах ягонага ж топасу. Беларускі ж перакладчык вымушаны даваць сабе рады без апоры на Гамера пабеларуску, які пакуль – таксама ружовая мроя. Вершаваны падмурак еўрапейскай культуры для нашага перакладчыка на сёння літаральна зрэдукаваны да паўндаўскага пачатковага «і», кропку над якім пакуль ніхто не паставіў. «Што было перад гэтым «і»?» – быццам бы правакуе пытанне Паўнд. Была высокая культурная традыцыя, якой амерыканскі паэт больш не адчувае і мусіць адбудоўваць разбуранае. У беларускай культурнай сітуацыі мы маем справу не з чужымі руінамі, што больш не страляюць ва ўпор гекзаметрамі, а з уласнаю пустэчай, дзе ёсць свой «Vergile travesti», але няма свайго Вергілія, дзе імкнуцца да верлібра, амаль не ведаючы дакладнай рыфмы і маючы досыць смутнае ўяўленне пра цэзуру (беларускія пераклады французскіх «александрын» – яскравае таму сведчанне!), дзе спяшаюцца абвясціць сябе постмадэрністамі, практычна не маючы досведу мадэрнісцкай літаратуры, дзе фізічна адчуваецца патрэба ў татальнай «гульні ў класікі», але нестае класікаў – і homo ludens шэсцьдзесят другі раз не атрымлівае доўгачаканай «мадэлі для зборкі». Руіны немагчымыя, бо сапраўднага дойлідства яшчэ не было.

Затое беларускі перакладчык атрымлівае нешта іншае, каб не сказаць «большае» – неацэнную пазіцыйную перавагу. Адсутнасць Гамера ў ягонай культуры стварае спрыяльныя абставіны для арганізацыі стратэгіі перакладу (калі мы ўжо карыстаемся вайсковаю тэрміналогіяй) такім чынам, каб тэкст, які павінен узнікнуць, часткова выконваў функцыі адсутнай эпапеі – на роўні як стылістычных рысаў, так і ўсіх чыннікаў, што канатуюць патрэбны пафас. Не знішчэнне, пераадоленне ці трансфармацыя гамераўскага дыскурсу (пакуль няма чаго знішчаць, пераадольваць ці нават трансфармаваць!), а ягонае стварэнне стаецца мэтаю беларускага перакладчыка. Ідэальным вынікам такога стварэння – гэта пакуль з вобласці ружовых мрояў – павінна стацца наступная сітуацыя: патэнцыяльны перакладчык сапраўднай гамераўскай

«Адысеі» некалі, у сваю чаргу, змушаны будзе кіравацца стылістыкаю «беларускамоўнага Паўнда». З падобнаю праблемай сустрэўся перакладчык знанага верша У.Б.Ейтса «Who with Fergus?» («Хто з Фэргусам?»). Рэч у тым, што Джойс выкарыстаў у сваім «Улісе» тры радкі з Ейтсавага твора. Ян Максімюк, перакладаючы Джойса, натуральна, пераклаў і гэтыя радкі –

*Расхмар чало, не думай дум,*
*Чаму так горкі сэрца жар,*
*Вось Фэргус гоніць свой рыдван*[4], –

якія больш-менш увайшлі ў беларускую культуру. Спрабуючы захаваць у перакладзе бесперапыннасць традыцыі, перакладчык быў змушаны ўключыць максімюкоўскія радкі ў свой пераклад (гл. постаць Ейтса ў «Крыніцы» №49).

Цытуючы «Адысею» ці адсылаючы чытача да яе тэксту іншым чынам, дасведчаны расійскі ці польскі перакладчык «Песні I» мусіць трымацца лініі «Паўнд поруч Гамера» (а дзе-недзе нават «Паўнд супраць Гамера»), якая ёсць істотным, адным з самых асноўных элементаў ягонай паэтычнай стратэгіі (падобныя стасункі паміж Гамерам і Паўндам і назіраюцца ў польскіх перакладах Ежы Немаёўскага[5], Анджэя Сасноўскага і Лешка Энгелькінга[6], а таксама ў мінскага паўндазнаўца, расійскамоўнага перакладчыка «Cantos» Барыса Аўдзеева). Лінія ж «Паўнд замест Гамера» – адзін з галоўных пастулатаў для беларускага перакладчыка-інтэрпрэтатара.

Кожны чытач першага canto, спрабуючы свядома занурыцца ў гэты тэкст, сутыкаецца з пытаннямі цытацыі і перакладу. Большасць радкоў песні (67 пачатковых вершаў) – больш-менш вольны пераклад ужо згаданай XI песні «Адысеі», але не беспасярэдні пераклад з грэцкага аўтэнтыка: Паўнд карыстаецца даслоўным лацінскамоўным перакладам, які калісьці выканаў Андрэас Дзівус. Амерыканскі паэт добра валодаў лацінай – мог чытаць і перакладаць «з ліста» як прозу, так і паэзію; грэцкай жа мовы ён амаль не ведаў і мог чытаць Гамера выключна з дапамогаю падрадкоўніка. Перакладаючы Гамера-Дзівуса, паэт быццам бы хацеў зрабіць свой кідок касцей, ухваляючы выпадак, бо менавіта дзякуючы выпадку (Андрэасу Дзівусу ды некаторым іншым) Гамер, паводле Паўндавай думкі, нарэшце вяртаецца на Захад. «Гамер, – піша Х'ю Кенэр, – змяняецца з цягам стагоддзяў; мы можам адно смакаваць гэтыя мутацыі, калі перакладчык будзе іх фіксаваць пісьмова. І перакладчыкі распачалі свае заўвагі на тэму periplous[7] былых гамераўскіх мысаў і водмеляў, перакладаючы Гамера пасля таго, як візантыйскія навукоўцы прывезлі каштоўны тэкст у Італію. Першае canto акурат згадвае нам пра тое, што рабіў Андрэас Дзівус: ён вычэрчваў словы з «сляпою дакладнасцю».[8] Пачатак песні And then went... напраўду вынікае з At postquam ad navem descendimus...Дзівуса, які, у сваю чаргу, паўтарае Гамера: αυταρ – 'і', επει – 'пасля; па тым, як', επι

νεα – 'да карабля', κατελτθομεν – 'сышлі'. Паставіўшы ў канцы радка descendimus, Дзівус нават захаваў гамераўскі парадак слоў, пераносячы ў лаціну грэцкі парадак, так бы мовіць, ad verbum, такім чынам, каб адна сінтэтычная мова магла «люстраваць» іншую. З усёю сваёй да-слоўнай, да-літарнай да-кладнасцю Дзівус зрабіў падрадкоўнік, як гэта мог бы зрабіць кожны студэнт 16 стагоддзя.

У сваю чаргу, Паўнд цалкам наследуе Дзівусу. Х.Кенэр звярнуў увагу на прыметнік «боскае» («godly») у другім радку «Песні I». Лацінскае слова «divum», паводле Кенэра, не ёсць найлепшым адпаведнікам грэцкага διαν (ад διος – не толькі 'боскі', але яшчэ – 'слынны, слаўны' – улюбёнае гамераўскае акрэсленне, сталы эпітэт, свайго роду фірмовы знак, асабліва калі гаворка ідзе пра спуск карабля на ваду). Напісаўшы in mare divum, Дзівус як быццам гуляе з чытачом – уласным імем. Натуральна, нам не вядома дакладна, якім чынам слова «divum» трапіла на бачыны Дзівуса, «але Эзра Паўнд так ці інакш цалкам наследуе яму і піша «on the godly sea»:

*periplum: не зямлёю на мапе,*
*толькі межамі мора, што ўгледзелі маракі –*

так і тут godly sea – гэта мора вачыма чалавека, што плаваў чатыры стагоддзі таму і чый компас быў недасканалым. Гэта цікавы прыклад таго, як, сустракаючыся з тэкставаю праблемай, Паўнд стараўся быць як мага больш «літаральным». Калі паэт не разумеў слова альбо калі тое ці іншае слова не стасавалася з астатнімі, ён звяртаўся да лепшага, чым ён сам, знаўцы. Такім чынам Дзівус падказаў яму слова «godly»[9].

Што і трэба было давесці: мы можам разглядаць Дзівуса як падрадкоўнік Гамера. Але ў Паўндзе мы таксама можам убачыць звычайны падрадкоўнік вершаў Дзівуса, ці падрадкоўнік падрадкоўніка, падрадкоўнік, узведзены ў ступень (калі не браць пад увагу ўсёй сумы адбітых у паўндаўскім творы звестак, якія аўтар атрымаў па-за тэкстам Дзівуса – перадусім, маючы магчымасць чытаць Гамера ў іншых перакладах, у перакладах на ягоную родную мову; калі не браць пад увагу літаратурны талент найбуйнейшага паэта-мадэрніста!).

Перакладчык апынаецца ў складаным становішчы, бо пераклад у ягоным традыцыйным разуменні ў стасунку да «Песні I» непрымальны. Насамрэч, не перакладаем жа мы Міцкевічавы пераклады з Байрана, хоць ангельскі і польскі варыянты істотна розняцца міжсобку. Але – пры ўсіх паралелях з Гамерам-Дзівусам – арыгінальнасць паўндаўскай песні відавочная. Нашай думкай, магчымыя два шляхі развязання праблемы. Першы – гэта сумленная спроба зрабіць чарговы падрадкоўнік, гэтым разам – падрадкоўнік Паўнда, ці падрадкоўнік падрадкоўніка падрадкоўніка «Адысеі», натуральна, як і Паўнд, зрабіўшы папраўку на Гамера, што існуе ў нашай культуры па-за паэмаю амерыканскага паэта. Для паляка альбо расійца гэта напраўду добры метад, але што рабіць, калі Гамер не адаптаваны беларускім

пісьменствам?

Думаецца, нядрэннае выйсце – гэта не рабіць чарговага падрадкоўніка, але выкарыстаць Паўнда ў якасці падрадкоўніка – перакладаючы Паўнда, перакладаць нешта (ці некага) яшчэ – зрабіць адзін крок у бок тэкстаў, якія былі падмуркам паўндаўскага – працуючы з ангельскім тэкстам, на хвіліну ўявіць сябе Гамерам... не, хутчэй ужо, згаданым тут Вергіліем, бо Гамер наўрад ці свядома ствараў нацыянальны эпас. Такі шлях, не больш не менш, здаецца, і абраў для сябе беларускі паэт Міхась Баярын. Праца ягоная ўадначас вузейшая і шырэйшая за звычайны пераклад ангельскамоўнага калегі. Вузейшая, бо беларускі чытач атрымлівае свядома скажонага Паўнда, крыху рытмізаванага і моцна дэфармаванага стылістычна (натуральна, пры захаванні слоўнікавага сэнсу словаў, з якіх складаецца аўтэнтык). Шырэйшая, бо ў выніку гэтага «скажэння» беларускі інтэлектуал чытацьме тэкст, які ў большай ступені адпавядае ягоным запатрабаванням, тэкст, які, можа, і «не цягне на Гамера», але ж, прынамсі, стварае ілюзію прысутнасці высокай, першаснай культуры. Наяўнасць пасярэднікаў паміж грэцкім і «канчатковым» тэкстам значна менш адчувальная, чым у Баярынавых польска- ці расійскамоўных калегаў, дасведчанейшых за яго паўндазнаўцаў і, несумнеўна, больш пісьменных з пункту гледжання перакладчыцкага рамяства, але, паўтаруся, Баярын ставіў сабе задачу, шырэйшую за проста выкананне добрага перакладу добрага верша.

Адной з рысаў, якія ствараюць стыль перакладу, стаецца свядомае ўжыванне моўных формаў, якіх проста «не існуе» для пераважнай большасці «сучасных» беларускіх слоўнікаў, а калі-нікалі і злоўжыванне гэтымі формамі. Лексікаграфічныя крыніцы дваццатых гадоў (перадусім расійска-беларускі і беларуска-расійскі слоўнікі Мікалая Байкова і Сцяпана Некрашэвіча, першы з якіх не перавыдадзены да сёння!) большасць з гэтых формаў фіксуюць. Але, нават узброіўшыся гэтымі выданнямі, чытач Паўнда-Баярына, дасць сабе рады далёка не заўсёды. Так, «жагляр» у носьбітаў польскай мовы трохі асацыіруецца са словам «żeglarz», але па-польску гэта «марак», а не «карабель». Слова «шчогла» мы знойдзем у Байкова з Некрашэвічам, але ці не з украінізмам мы маем тут справу. Няўжо пурыстычныя інтэнцыі сп. Баярына не задаволіла «машта», калі проста «мачта» супярэчыць ягоным творчым прынцыпам? А чаго вартае слова «адылі» – ледзь не найчасцейшая лексема ў тэксце! Воляй лёсу Байкоў з Некрашэвічам не паставілі над ім націску, таму сярод беларускіх культурных дзеячаў, здаецца, і да сёння існуе падзел на дзве партыі адносна акцэнтуацыі ў гэтым слове, калі не лічыць тых (яны складаюць пераважную большасць), хто ўвогуле не ведае, што гэта такое. Але папракнуць перакладчыка за ўжыванне гэтых і падобных да іх формаў у нас язык не павернецца. Мы маем справу не з праявай непісьменнасці, а з скіраваным уздзеяннем на сучасны стан беларускай мовы. Нястача ў нас «высокага стылю» стварае шэраг істотных тэматычных

абмежаванняў і робіць практычна немагчымым адэкватны пераклад т. зв. «высокай» паэзіі. Вырашыць пытанне можна наступным чынам: актуалізуючы добра забытую і ўжо практычна незразумелую лексіку, якая можа ўспрымацца носьбітамі мовы як кніжная, архаічная альбо у рэшце рэшт, – высокая. Такі лінгвістычны падыход, натуральна, ускладняе камунікацыю. Існуе нават небяспека шматкротна паменшыць кола сваіх чытачоў, як гэта калісьці ў гісторыі французскай літаратуры атрымалася з Малармэ. (Дарэчы, менавіта такім чынам беларускі перакладчык і перакладаў Малармэ: кожны, хто захоча прачытаць Малармэ па-беларуску, сустрэнецца з пэўнымі праблемамі ў разуменні гэтых тэкстаў.) Але іншага вырашэння азначанай праблемы пакуль не відаць. Мяркуючы па беларускім перакладзе «Песні I», іншага вырашэння не бачыць і Міхась Баярын.

Зынакшыць канатацыю слова – толькі адзін з спосабаў паставіць Паўнда «на катурны». Можна трохі (наколькі дазваляе ўласны густ, хоць гэта, як вядома, не зусім аб'ектыўны паказальнік) зынакшыць і сам сэнс аўтэнтыка. Ужо першы радок перакладу можа збянтэжыць педантаў: замест паўндаўскага «сышлі да карабля» ў Баярына чытаем «узыйшлі на жагляр». І – рызыкну сцвердзіць – ніякай памылкі тут няма: ёсць свядомы прыём, які дасягае сваёй мэты. Патэнцыяльна магчымае «І тады сышлі да карабля» – адно пераклад, тады як «І тады ўзыйшлі на жагляр» – гэта ўжо праграма дзеяння, пачатак уласнага падарожжа, уласнае Voyage ці Sailing to Bizantium. Паэт-перакладчык абяцае περιπλουζ. Што ж, чакаем апісанняў наступных вандровак.

**Андрэй ХАДАНОВІЧ**

---

[1] Перакладчык – здраднік (італ.).

[2] Расійская неперакладальная гульня слоў.

[3] Тым прыемней казаць пра такія выключэнні. Падчас працы чарговай сесіі Міжнароднай школы гуманітарных навук у Кракаве раўналежна паўсталі тры беларускія пераклады спецыфічна-"кракаўскага" верша К.І. Галчыньскага "Зачараваная фурманка". З прыемнасцю адсылаю чытача да варыянтаў у выкананні Інэсы Кур'ян і Сержа Мінскевіча ("Першацвет", № 1, 1999. На бачынах таго ж часопіса ёсць і падагульняльныя развагі аднаго з перакладчыкаў пра гэтыя тэксты.). Гл. таксама: "Наша ніва", № 23, 14 снежня 1998 г., с. 14 – 15.

[4] Дж. Джойс. Уліс, пераклад Яна Максімюка, т. 1, Беласток 1993, б. 14.

[5] Ezra Pound. Poezje. Warszawa, 1993, s. 157 – 158.

[6] Гл.:Ezra Pound, *Pieśń I.* "Literatura na świecie" 1991, nr 1, s. 46 – 48, 49 – 51.

[7] Грэцкае *περιπλουζ* – 'плаванне вакол, аб'езд на караблі' – ад *περιπλεω* – 'плыць вакол, аб'язджаць на караблі'; адсюль пазнейшае лацінскае *periplus* – 'плаванне паўз берагі, а таксама апісанне гэтага падарожжа'.

[8] Hugh Kenner, *Pound and Homer.* У кн.: Ezra Pound among the poets, ed. G.Bornstein, Chicago 1985, p. 4.

[9] Hugh Kenner, op. cit., p. 6 – 7.



**Валадзей БОЛКА**

## НЕПАРАЗУМЕННЕ

Асфальт ашчэрыўся польскім брукам.
Пад брукам прыціх стары тракт.
Дзякуючы тракту на гэтым месцы
ўзнік горад.
Але горад не дзякуе, ён бурчыць,
што асфальт ашчэрыўся
польскім брукам.

## Даведкі пра аўтараў

***Мікола Рабчук*** *(нар. 27 верасня 1953 г.) — ідэолаг іранічнага кірунку ва ўкраінскай літаратуры 80-х. Аб'ектам мастацкага даследавання пісьменніка з'яўляецца ўплыў савецкай маралі падвойных стандартаў на дэградацыю асобы. Жыве ў Кіеве.*

***Яўгенія Кананенка*** *(нар. 17 лютага 1960 г.) — пісьменніца, у творчасці якой пераважае тэма жанчыны ў вялікім горадзе, хворым на каланіяльныя комплексы. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Міколы Зэрава. Жыве ў Кіеве.*

***Валянцін Тарнаўскі*** *(нар. 9 красавіка 1951 г.) — аўтар зборнікаў прозы "Гарадскія матывы", "Парожні п'едэстал", аповесці "Нуль", рамана "Матрыопаль". Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Андрэя Галаўко. Жыве ў Кіеве.*

***Уладзімір Янчук*** *(нар. 14 чэрвеня 1977 г.) — пісьменнік, якога хвалюе найперш праблема дэгуманізацыі сучаснага свету. Жыве ў Жытоміры.*

***Юры Андруховіч*** *(нар. 13 сакавіка 1960 г.) — аўтар аповесці "Рэкрэацыі", раманаў "Маскавіяда", "Перверзія". Сябра літаратурнай суполкі "Бу-Ба—Бу". Прадстаўнік постмадэрнізму. Лаўрэат літаратурных прэмій "Благовіст" і імя Гэлен Лапікі. Жыве ў Івана-Франкоўску.*

# Сучасныя ўкраінскія апавяданні

## Мікола РАБЧУК

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО КАХАННЯ

Яна кахала Андрэя яшчэ з шостага класа, кахала невядома за што. Хоць Андрэй быў нармалёвы хлопец — дужы і не дурны, а ў наш час такое здараецца досыць рэдка. Прынамсі, ёй так казала мама, а мамы ў такіх рэчах разбіраюцца. Аднак Андрэй Вераніку не кахаў.

У шостым класе, як і ў сёмым, ён быў закаханы ў футбол, у восьмым — у Андрыяну, у дзевятым — у Олю і адначасова ў Тэрэзу-Дануту, у якой, акрамя дзіўнага імя, нічагуткі не было! А ў дзесятым класе ён ужо кахаў усіх без перабору.

Вось тады ён і звярнуў увагу на Вераніку — яна падрасла і, калі апранала грубы ваўняны швэдар, выглядала зусім дарослай дзяўчынай. Ён запрасіў яе ў кіно, а пасля дахаты. Дома быў толькі малодшы брат, якога Андрэй адразу выправіў пагуляць.

Яны слухалі музыку на канапе — файную такую, з негрыцянскімі сінкопамі. Вераніка крыху зналася на музыцы, асабліва класічнай, бо мама з дзяцінства запісвала яе ва ўсе гурткі. Вераніка, аднак, маўчала, пабойваючыся, каб Андрэй не палічыў яе за хвалько. Яна вучылася на "выдатна" і чамусьці саромелася гэтага.

Андрэй не маўчаў — ён хвацка перамотваў магнітныя стужкі і балбатаў пра фільмы, якія бачыў у Польшчы — даўно, яшчэ калі з маці ездзіў да бацькі. Бацька яго быў вайскоўцам і загінуў тры гады таму дзесьці пад Прагай. Ён ратаваў чэхаславакаў ад вяртання ў ярмо памешчыкаў і

капіталістаў, за што нейкі маньяк з гранатай кінуўся пад колы іхняга танка. Андрэй сказаў тады, што пасля школы таксама будзе вайскоўцам і каменя на камені не пакіне ад Чэхаславаччыны. Але гэта ён толькі так выхваляўся.

Вераніка ніколі не бачыла свайго бацьку і таму як найхутчэй скіравала гутарку на кінастужкі. Кінастужкі былі ўсе страшэнна клёвыя, таму іх у нас, відаць, і не круцілі. А неяк Андрэй бачыў нават ПАРНУХУ. Там была ГРУПАВУХА і безліч разнастайных адхіленняў. Андрэй сказаў, што маці зноў збіраецца за вайскоўца і, дасць Бог, яго таксама накіруюць за мяжу.

Вераніка шукала вачыма гадзіннік, бо вельмі баялася, што маці яе не пусціць у хату. Бо каханне — каханнем, а мама — мамай. Андрэй балабоніў пра штосьці далёкае і малазразумелае — пра клёвую мясціну на беразе Свіцязі, дзе ён улетку быў з сябрамі. Сябры ягоныя нашмат старэйшыя — некаторыя маюць дваццаць два і нават дваццаць тры гады, а сярод чувіх нават развядзёнкі трапляюцца — гэта жахліва.

Андрэй збіраў іх п'яных у лесе і раскладаў па намётах. Ён прапанаваў Вераніцы паехаць туды наступным летам.

— Я ўжо, відаць, пайду, — сказала яна нясмела. — Я забылася свой ключ.

— Не сыходзь, — сказаў Андрэй і пачаў яе цалаваць.

Вераніка спалохалася і ўцякла.

Андрэй з таго часу нават не звяртаў на яе ўвагі. Хутка Вераніка скончыла школу і паступіла ў тэхналагічны інстытут. У інтэрнаце яна жыла з Ленай Марыкішка. Лена Марыкішка была разлучаная і лаяла былога мужа пры кожным зручным выпадку. Зручныя выпадкі надараліся часта, бо Лена была КЛЁВАЯ ЧУВІХА, і хлопцы да яе КЛЕІЛІСЯ. Лена сказала, што ўсе яны сволачы, — і мела рацыю.

Вераніка сустрэла Андрэя неспадзявана ў цэнтры горада, і ён правёў яе да інтэрната. Маці яго выйшла замуж за

цывільнага, а Андрэй вучыўся на кельнера. Чэхаславакі соладка спалі ў сваіх мяшчанскіх дамках, паадкопваўшы схаваных немаўлят са сціртаў сена. Каля інтэрната Андрэй спытаў, ці не надумала яна зрабіцца ягонай каханкай. Вераніка не надумала і таму пабегла штомоцы прэч.

— Падумай, — крыкнуў Андрэй наўздагон.

Ён пачаў прыходзіць да іх у пакой ледзь не кожны дзень. Балбатаў пра ўласныя прыгоды і ўсё пытаўся ў Веранікі, надумала яна ці не.

— Ён не абрыдзеў табе? — неяк не вытрымала Лена.

— Абрыдзеў, — выціснула Вераніка.

Лена выставіла Андрэя за дзверы, і з таго часу ён пачаў упадаць за Нецалаванай. Нецалаваная жыла побач, а мянушку такую яна атрымала ад Лены за злосны жарт. Нецалаваная цэлую гадзіну распытвала Лену пра ГЭТА і бажылася, што не ведае нават, як пачуваюцца падчас пацалунка. А ўвечары церлася з кімсьці і цяжка сапла ў агульным калідорчыку, аж покуль не выціснула спінай шкляныя дзверы свайго пакоя.

Лена сказала, што бабы часам бываюць горшыя за мужыкоў. Андрэй начаваў у Нецалаванай заўсёды, як толькі тая заставалася адна ў пакоі. Перад гэтым ён ніколі не забываўся завітаць да Веранікі і спытацца ўсё пра тое ж.

— Каб ты здох! — не стрымалася аднойчы Лена і шпурнула ў яго тапкам. — Шчэ й здзекуецца, падла!

Назаўтра яна папрасіла Нецалаваную забаўляцца з Андрэем у іншым месцы, а паколькі іншае месца, ды яшчэ такое зручнае, цяжка было б знайсці, дык Нецалаваная ёй адказала:

— А што, зайздросна?

— Лярва! — сказала Лена, і тады Нецалаваная склала на іх з Веранікай ананімку.

Камендантка выклікала да сябе дзяўчат па чарзе.

— Нізавошта нічога не пішы! — папярэдзіла Лена, выходзячы ад каменданткі.

Вераніка зайшла ў кабінет.

— Што ж гэта вы бардак учынілі?! — спыталася Ганна Васільеўна, але ж Вераніка нічога такога не ўчыняла.

— Вось распісана па гадзінах, ЧЫМ ты там займаешся! — крычала камендантка, тыцкаючы пальцам у ананімку.

Маці Веранікі такой ганьбы не перажыла б. З яе дастаткова было ўласных памылак. Вераніка дрогкім голасам выціснула:

— Я ведаю, хто гэта абгаворвае.

— Рана ты пачынаеш, — сказала камендантка.

— Што? — спыталася Вераніка, хоць і сама ведала, што.

— Спаць з ... — Ганна Васільеўна ледзь не сказала, з кім, але своечасова спынілася. — З іншаземцамі! — выпаліла нарэшце.

Вераніка падумала пра Нгваму Аціена з Уганды, які прыходзіў да іх рашаць задачы па нарыснай геаметрыі, пасля — пра маму, якая абавязкова памрэ ад ганьбы, спярша пакараўшы смерцю Вераніку, і ёй зрабілася млосна.

— Пішы тлумачальную, — вярнула ёй уцямнасць камендантка.

— Не буду! — віскнула Вераніка. — Не буду!

— Усё роўна цябе студсавет выселіць, — прамовіла камендантка і бразнула асадкай аб стол.

Вераніка пайшла да сябе.

— Не выселіць, — супакоіла яе Лена. — ДУРНІЦА.

І паехала да выклятага мужа, бо той напісаў, што не можа без яе жыць. Пачаліся вакацыі, і інтэрнат зрабіўся пусты. Вераніка дахаты не спяшалася, бо, акрамя мамы, яе там ніхто не чакаў, а з мамай было яшчэ больш сумна.

Ад знаёмых крокаў у калідоры яна затрымцела, а калі Андрэй адчыніў дзверы, закрычала:

— Не!!!

Аднак горла яе сутаргава сціснулася, і крык ператварыўся ў варты жалю піск.

Андрэй накіраваўся ў суседні пакой.

Вераніка сядзела за кніжкай, і не ішоў ёй у галаву ні раман, ні іншая якая трасца. Калі ложак за сцяной пачаў рыпець, яна выскачыла з пакоя. На калідоры мігцелі неонавыя лямпы, а на дварэ падаў снег. Яна зайшла да Нгвамы Аціена, і яны да глыбокай ночы рашалі задачы па нарысной геаметрыі. У ягонай краіне адбыўся чарговы пераварот — якраз перад вакацыямі. Вераніка сказала, што застанецца тут начаваць. Нгвама Аціена не зразумеў і здзіўлена ўтаропіўся ў яе.

— Я тут застануся, — сказала яна яшчэ раз.

Нгвама Аціена пагладзіў яе плячо і пацалаваў валасы. Ён нічога не сказаў, і яна была яму за гэта бязмежна ўдзячная. Ён расклаў канапу.

Настольную лямпу яна таксама папрасіла выключыць. Раніцай, калі Нгвама Аціена яшчэ спаў, Вераніка шмыгнула ў свой пакойчык. Ёй балела галава і ўсё цела. За сцяной было ціха. Вераніка села на свой ложак і, закрыўшы твар рукамі, заплакала.

Андрэй быў зусім побач — шчаслівы і ўлагоджаны, — і нічога яму не балела.

Яўгенія КАНАНЕНКА

# НОВЫЯ КАЛГОТЫ

Жанчын і жонак можа быць шмат. Дзяцей па свеце можна нарабіць шмат. А маці на зямлі адна! Яе ніхто не замяніць.

— Мама, супакойся, табе нельга нервавацца, мама.

— Калі б у цябе была вартая жонка... На каго я пакіну адзінага сына?

— Мама, табе зробяць аперацыю, усё будзе добра, — ён абдымаў маці, а жонка, якая стаяла побач, трымаючыся за біла шпітальнага ложка, узняла вочы. Усе дзесяць гадоў яе сямейнага жыцця прайшлі пад лозунгам: "Жонак на свеце шмат, а маці адна". Калі маладзенькае прыгожае дзяўчо, і паўгода не пражыўшы ў інтэрнаце, перш чым з'ехаць да мужа, ладзіла развітальную вечарыну, усе ёй зайздросцілі. І толькі адна, крыху старэйшая за іншых, сказала са шчырым спачуваннем:

— Дваццаць дзевяць гадоў, жанаты не быў, жыве з маці, ды яшчэ й без бацькі? Я табе не зайздрошчу.

— Ды пакінь ты трэсці мой ложак! — крыкнула маці нявестцы, якая абаперлася на біла. — Божачкі, апошнія дні нельга спакойна дажыць!

Назаўтра сын пайшоў у шпіталь без нявесткі.

— Ужо не магла прыйсці праведаць смяротна хворую маці, якая столькі для яе зрабіла.

— Яна павінна сустрэць дачку з музычнай школы.

— І навошта толькі яе туды аддалі? Дзяўчынка ж уся ў мяне, ёй трэба займацца маляваннем і вышываннем. А твая не разумее, што трэба дзіцяці. Божачкі! І Бог яшчэ дае такім дзяцей!

Матулі тэрмінова была патрэбна аперацыя. Уся афіцыйна і неафіцыйна сабраная інфармацыя сведчыла, што лепшага хірурга, чым Зелянковіч, у матуліным профілі няма, іншая рэч — профіль самога Зелянковіча. Матуля загадала даведацца, што хаваецца за падазроным прозвішчам. А калі праз доўгі і пакручасты ланцуг знаёмых удалося выйсці на аддзел кадраў бальніцы і высветліць, што Зелянковіч пішацца беларусам, матуля была расчараваная: у медыцыне больш даверу выклікае іншая расшыфроўка пятага пункта.

Але існавала яшчэ адна праблема, вырашыць якую было

цяжэй. Справа ў тым, што Зелянковіч браў. Нахабна і непрыхавана. Без гэтага дамаўляцца наконт аперацыі не мела сэнсу. Казалі, што задарма Зелянковіч аперыруе толькі дзяцей з інтэрната для сірот.

— Мама, у цябе на кніжцы ёсць патрэбныя грошы. Размова ідзе пра тваё жыццё.

— Гэта мне на пахаванне. У СССР бясплатная медыцына, на якую я маю права.

— Мама, без гэтага ён цябе не прааперыруе.

— Ты пойдзеш да яго і скажаш, што я ветэран працы, заслужаны работнік навукі і маю тры ганаровыя граматы.

— Яму на гэта начхаць.

— А ты пойдзеш і скажаш.

Зелянковіч рухам рукі запрасіў сесці.

— Я адносна аперацыі Кліменка.

— Аперацыю трэба рабіць даўно. Мы з вамі размаўлялі на гэтую тэму.

— А... умовы...

— На гэтую тэму мы таксама размаўлялі.

— Але ў нас няма такіх грошай.

— Упэўнены, што ў вас такія грошы ёсць. Больш за тое, гэта не апошнія вашыя грошы. Але я гатовы зрабіць аперацыю за бутэльку добрага каньяку.

— Які каньяк вы лічыце добрым?

— Ну... "Двін"... "Ерэван"... Вы што, самі не ведаеце, якія каньякі добрыя, а якія не надта?

— Т-толькі і ўсяго?!

— Толькі і ўсяго. Але няхай гэтую бутэльку прынясе мне дахаты ваша чароўная жонка.

— Дахаты? — ён упершыню ўражана і пільна зірнуў на Зелянковіча. Мала таго, што хапуга, дык яшчэ й кацяра. Бялюткі халат эфектна падкрэсліваў чорную бараду Зелянковіча і яго ярка-зялёныя вочы.

— Так, дахаты. Вось, — Зелянковіч працягнуў візітку. — Напрыклад, заўтра ўвечары я застануся дома адзін. Буду

чакаць. Увогуле, калі гэта для вас занадта дарага, грашовы тарыф вам вядомы. І спяшайцеся. Праз тыдзень я еду ў Тбілісі, на кангрэс, а калі вярнуся, аперацыя можа ўжо не дапамагчы.

Па матулінаму патрабаванню яго выклікалі ў бальніцу ноччу. Матуля пакутавала ад страшных думак пра смерць.

— Я зараз напішу табе даручэнне, дай яму тыя праклятыя грошы, я згодная на аперацыю. Я яшчэ хачу жыць.

— Патушыце святло, дайце спакою, — абураюцца суседзі. Ён так і не здолеў выбіць маці асобную палату.

– Сціхніце, вы яшчэ не паміраеце, — затыкае маці рот суседкам.

— Во дзе зараза...

Святло давялося патушыць, яны шэптам размаўляюць у цемры.

— Мама, даручэнне павінен заверыць натарыус, а яны ўначы не працуюць.

— Паездзі, пашукай, можа атрымаецца з кім-небудзь дамовіцца. І адразу здымай грошы з кніжкі ды вязі гэтаму Зелянковічу. Не, няхай лепш твая адвязе.

Тут ён распавёў маме прапазіцыю Зелянковіча. Яе аблічча яснее ўпершыню за ўвесь час знаходжання ў лякарні.

— Канешне, якія тут могуць быць ваганні, чаму ты не сказаў мне пра гэта ўчора, чаму прымусіў выклікаць сябе сярод ночы? А грошы — іх пачні толькі здымаць з кніжкі!.. Умомант голы застанешся, нават на хаўтуры не хопіць.

— Ды сціхніце вы! — гэта зноў з суседняга ложка.

— Але ж ты разумееш, што яму ад яе трэба?

Матуля разумее.

— А што ёй? Калі яна змагла ачмурыць цябе...

— Яна была дзяўчынай, калі мы сустрэліся, я табе пра гэта ўжо сто разоў казаў.

— Прытварылася. Я табе сто разоў казала.

— Мама, зараз гэта не мае ніякага значэння. Заўтра! Не, нават ужо сёння ўвечары яна пойдзе туды. Толькі б яна згадзілася.

— Што? І яна не зробіць гэтага дзеля маці, якой абавязаная ўсім?!

— Мама нарэшце дала згоду на аперацыю.

— А грошы?

— Тут такая справа... — ён не ведае, як пачаць, хоць звычайна іх сямейныя праблемы вырашаюцца проста: ён сказаў — яна зрабіла. А тут такая справа... Але нарэшце здолеў патлумачыць жонцы, што ад яе патрабуецца.

— Гэта той барадаты, які падыходзіў да нас у вестыбюлі?

— Так, высокі такі, н-нягоднік.

— Ісці трэба сёння?

— Так, вось адрас, гэта недалёка ад Львоўскай плошчы...

Жонка спакойна ідзе ў ванную. Неўзабаве выходзіць адтуль у чорнай паўпразрыстай камбінацыі. Сядае перад трумо. Выцягвае з валасоў аптэчную гумку, робіць экстравагантную прычоску. Падкручвае чубчык над ілбом. Апранае вабны гарнітурчык, які выцягваецца з шафы толькі на матулін дзень нараджэння. У пакоі пахне вытанчанай парфумай — адкуль яна ў яе? Звяртаецца да мужа:

— У мяне няма новых калгот.

Муж ледзьве не пэнкае ад злосці:

— Можа, табе яшчэ чорныя панчохі з поясам?

— Мне?

— Досыць з яго і цыраваных, к-кабель.

Жонка надзявае цыраваныя калготы, боцікі, сіні плашч, бярэ тэатральную сумачку і кажа, перш чым знікнуць:

— Сустрэнеш дачку з музыкі.

Ён гатовы раструшчыць у гэтым доме ўсё на дробныя кавалкі. Усё-ўсё. Божа, як ён быў закахаўся ў гэтую жанчыну дзесяць гадоў таму! Матуля якраз з'ехала ў Трускавец на сорак пяць дзён. І тут такая сустрэча, такая цудоўная дзяўчынка! Да гэтага ён сустракаўся толькі з бабамі,

як кажуць, няпэўнага ўзросту, і калі казаў ім, што ніводнага імгнення ў сваім жыцці не думаў пра шлюб, быў абсалютна шчыры, чым страшэнна цешыў матулю. А тут гэтае зялёнае дзеўчанё — цудоўнае, бяздомнае, без памяці закаханае. Так лёгка было зрабіцца для яе Панам Богам. А зараз яна ідзе да гэтага зеленавокага ката, зрабіўшы адмысловую прычоску, апрануўшы святочную сукенку, а ён нават пазбаўлены права абурацца.

Ён чакаў, што жонка вернецца дахаты, глытаючы слёзы, як вярталася са шпіталя ад матулі, калі хадзіла туды адна. Матуля некалькі разоў на год клалася ў бальніцу. Вельмі любіла, калі носяць перадачы і падаюць судна. Таму і на гэты раз ніхто не ўспрыняў усур'ёз яе хваробу. Ён пайшоў сустракаць дачку і размінуўся з ёю. Дзяўчынка ўжо дома. Села за піяніна рыхтаваць чарговыя практыкаванні.

— Ды перастань ты бразгаць! Вушы вянуць. Бабуля даўно кажа, што табе трэба маляваннем займацца!

— А дзе мама?

— Пайшла да бабулі.

А тут і бабуля тэлефануе са шпіталя. Тэлефануе сама, не просіць злосных на яе нянек.

— Яшчэ не прыйшла.

— Божачкі, калі ж яна будзе? Скажы, яна хоць новыя калготы надзела? А то ж калгасніцай была, калгасніцай і засталася...

Матуля тэлефануе яшчэ два разы.

— Божачкі, божачкі, мне пакуты, а ёй задавальненне. Я ж табе казала, хто яна такая, — і ён пачынае злосна думаць: так, яна такая. Мама кажа, каб ён патэлефанаваў у ардынатарскую, калі яна вернецца. Чутно, як пад вокнамі спыняецца машына. Праз дзве хвіліны жонка адчыняе дзверы. У вачах не слёзы, а агеньчыкі радасці.

— Мама, дзе ты была? Бабуля тэлефанавала, што ты не ў яе.

— Калі ты позна вяртаешся, чаму не паведамляеш, каб я сустрэў? — інсцэніруе абурэнне ён.

— Я ведала, што мяне падвязуць. Вось, дачушка, табе перадалі цукеркі "Птушынае малако", — яна вымае з сумачкі пакуначак з цукеркамі, а таксама кардонную пушачку з цыраванымі калготамі, кідае яе на падлогу ў ваннай і звяртаецца да мужа:

— А што ж ты забыўся даць мне каньяк? Аднак усё добра. Усё будзе добра. Такога доктара, як гэты, няма больш нідзе ў свеце.

Аперацыя прайшла добра. Матуля хутка ачуняла і забылася на страшны дыягназ. А галоўнае, Зелянковіч ампутаваў пэўную частку яе невыноснасці. Так, яна па-ранейшаму патрабавала да сябе перабольшанай увагі, але ўжо не пасылала сваіх хатніх разбірацца ў краму, калі, на яе думку, недаважылі пяцьдзесят грамаў масла ці сыру, не патрабавала судна пры першай-лепшай хваробе, і хоць і надалей была незадаволеная нявесткай як маці і гаспадыняй, але больш не распавядала кожнаму стрэчнаму, што яна "такая". А праз два гады мама памерла ад зусім іншай хваробы. Сын настаяў на анатаміраванні трупа, бо казалі, што Зелянковіч вяртае частку грошай, калі смерць адбываецца раней чым праз тры гады пасля аперацыі. Аднак анатаміраванне паказала, што прааперыраваны Зелянковічам орган быў у парадку.

Далей яны жылі ўжо без матулі. І кожны раз, калі ён згодна з праграмамі, закладзенымі нябожчыцай, выказваў незадаволенасць жонкай, яна, кіруючыся невядома якімі асацыяцыямі, пачынала згадваць, якая была кватэра ў доктара Зелянковіча, якая ў ёй зала, якія кнігі ў кабінеце, якія ружы ў вазе, якія каньякі ў бары... і ён змаўкаў, і яна змаўкала, і маўчала пра тое, што было далей.

Але сама яна часцей, чым першы шчаслівы месяц знаёмства з мужам, згадвала той восеньскі, неверагодна халодны дзень, калі ішла цёмнымі мокрымі вуліцамі, пэцкаючы

гразёй точаныя ножкі ў цыраваных калготах. Як сабрала ўсе грошы, якія былі ў кішэнях сіняга плашча і маленькай сумачкі, і купіла ў галантарэі імпартную пушачку з новымі калготамі. Як пераапранулася ў цёмным пад'ездзе, млеючы ад сцюжы і жудасці. Як пасля села ў тралейбус і хтосьці галантна саступіў месца прыгожай жанчыне, і яна ехала і думала: Госпадзе, куды я еду? Але калі ішла завулкам да Львоўскай плошчы, шукаючы высокі будынак на рагу, дзіўна адчувала: гэты вечар неверагодна зменіць яе жыццё. Зелянковіч адчыніў са словамі:

— А, гэта чароўная нявестка ведзьмы Кліменчыхі? Праходзьце, прашу.

У кватэры быў яшчэ хтосьці. Яна не бачыла, хто, але аднекуль, ці то з кухні, ці то з далёкіх пакояў, дзе гарэла святло, чуліся ціхія галасы. Зелянковіч запрасіў яе ў кабінет, сумежны з залай. Прычыніў дзверы, прапанаваў сесці. З яго аблічча не сыходзіла чароўная і нахабная ўсмешка.

— Госпадзе, — раптам схамянулася яна. — Ён жа забыўся даць мне каньяк!

— Не трэба каньяку. У мяне ёсць — бачыце колькі. — Ён паставіў на маленькі столік дзве чарачкі, пачатую пляшку і каробку дэфіцытнага ў тыя часы “Птушынага малака”. — Галоўнае, што вы прыйшлі. Даўно ў мяне не было такой цудоўнай жанчыны.

— А мяне так даўно не называлі цудоўнай жанчынай, — яна ўздыхнула, — з папярэдняга жыцця.

— Вы верыце ў перасяленне душаў?

— Не, але хочацца.

— І мне хочацца. Вы і ў папярэднім жыцці былі такою ж прывабнаю. А я і ў мінулым жыцці быў якім-небудзь эскулапам... А ў гэтым жыцці і ў гэтай краіне мая аперацыя каштуе, вы ведаеце, колькі. Не будзем разглядаць маральна-этычны аспект праблемы. Будзьце пэўныя, я дапамагаю бясплатна, калі гэта неабходна сапраўднаму чалавеку, які зусім не мае грошай. Ваша свякруха не з тых. Але

я адчуваю, што магу ўскосным чынам дапамагчы вам. І зраблю гэта. Давайце вып'ем за вас.

Яны выпілі. А пасля выпілі яшчэ. Ён разглядаў яе нахабна і пяшчотна, а ў яе паступова знікла збянтэжанасць.

— Будзьце пэўныя. Усё будзе як след. Вы заслужыце ласку ў сваёй радзіны. Хто ў вас — сын, дачка?

— Дачка.

— У мяне таксама. Вось гэта для вашай дзяўчынкі.

Ён сабраў пакуначак "Птушынага малака" і працягнуў ёй. Яна раскрыла сваю маленькую сумачку, і адтуль вывалілася новая пушачка са старымі калготамі. Ён нахіліўся і падаў ёй пушачку. Доктар Зелянковіч быў дасведчаным не толькі ў хірургіі. Ён убачыў, як сур'ёзна маладая жанчына паставілася да таго, што ад яе патрабавалася.

— Давайце я адвязу вас. — Ён падаў ёй сіні плашч, яны спусціліся ўніз і селі ў аўто. У бліскучым чарноцці паплылі вокны і ліхтары.

— Калі дужа стамляюся пасля працы, люблю ездзіць па вуліцах проста так, без пэўнае мэты.

Яны паехалі па Арцёма, Саляной, Глыбочыцкай. Праваруч цямнела Хорава гара, злева мігцелі агеньчыкі Шчакавіцы. Яна глядзела, шырока раскрыўшы вочы, на знаёмыя мясціны, якія з машыны выглядалі зусім іначай, і думала, што ўпершыню за многія гады можа не нервавацца, што трэба спяшацца дахаты. На Падоле заехалі ў вузенькую вулачку і спыніліся каля аконцаў з кратамі.

— Тут нядрэнна гатуюць каву, цікава, яшчэ адчынена?

У кавярні гучна смяяліся маладыя хлопцы і дзяўчаты. Гэта было чужое і незнаёмае жыццё, нейкі вар'яцкі свет.

— Як ваша імя?

— Ганна.

— Вельмі цікава, што вас так завуць. Донна Ганна. Гэта імя жанчыны, якою так і не авалодаў Дон Жуан.

— Баяўся Камандора...

— Ну, па-першае, Дон Жуан нічога ў свеце не баяўся, а па-другое... Па-другое, ваш муж — не Камандор.

Пасля кавярні яны ехалі па набярэжнай. Чарнеў Дняпро, плылі ўбогія камяніцы Набярэжнай, Крашчацік. Зелянковіч распавядаў пра тое, што адбывалася ў гэтых завулках даўным-даўно, калі ён студэнтам працаваў на "хуткай дапамозе".

Чорны горад плыў па рацэ жыцця, якая несла яго ў неверагодную далеч. Вось і іхняя сонная Кураніўка і яе цёмны дом.

— У маёй машыне доўга будзе жыць вашая парфума, Ганна. Бывайце. Усё будзе добра. І вось вам невялікая парада: ніколі, нават у апошнюю хвіліну, калі, крый Божа, будзеце паміраць раней за мужа, не прызнавайцеся, што паміж намі, як кажуць абывацелі, нічога не было. Ён гэтага не варты.

Валянцін ТАРНАЎСКІ

# ДРЭВА ЖЫЦЦЯ

Адліга скончылася. Ноччу ціскануў мароз, і да раніцы зямля зноў прамерзла сантыметраў на трыццаць. Чорныя шкілеты акацый, ператвораныя начной імжой і сцюжай у ледзяшы, здаваліся застылымі фантанамі ў промнях кволага сонца.

Холад заўжды цвёрды.

Счарнелы ад перапою мужык у ватоўцы налёг грудзьмі на закураны адбойны малаток, і гулкая чарга выбухнула над узлескам зграяй гругання. Мужык разагнуўся, безнадзейна сплюнуў, брыдка вылаяўся і зноў затросся ў ліхаманкавым танцы.

Быў панядзелак — цяжкі дзень. Цікава толькі, на якіх шалях важаць час?

Чацвёра з ламамі і рыдлёўкамі следам вымалі чорныя камлыгі, пакуль не дабраліся да жаўтаватага глею, якім вяршылі своеасаблівы бруствер па баках ямы. Яны мелі наладжаную навуковую арганізацыю працы, гэтыя здаровыя расчырванелыя інфізаўцы ў футбольных дынамаўскіх майках з нумарамі, — кожны заступаў з рыдлёўкай на пяціхвілінную вахту, упіраўся рогам, пакуль іншыя адпачывалі, бо месца там хапала толькі аднаму.

Быццам траншэю для трубы капаюць.

Нарэшце яма была гатовая. Выкаціўшы на роліках з аўтобуса дамавіну серыйнае вытворчасці — абы-як збітую з сырых негабляваных дошак, — мы падставілі плечы і рушылі да бруствера, слізгаючыся па грудах.

“Вопратка: драўляны бушлат — і перабежкамі на клады”.

Калі цяжкі футляр з бязважкім целам усталёўвалі на краі, у Лёсы з-за пазухі раптам вывалілася шапка і паляцела на дно. Лёса няўцямна лыпнуў вачыма і азірнуўся. Шапка была новая, казённая. Такія насілі ўсе адказныя супрацоўнікі яго ўстановы. Мы са Сланом зрабілі выгляд, што не бачым. От дзеяч!

Што для чалавека даражэй — шапка ці рэпутацыя?

Узімку, відаць, шапка, бо Лёса замітусіўся, шукаючы ў нас падтрымкі. Мы адвярнуліся. Адзін з чатырох далакопаў скочыў на дно і падаў шапку на дзержаку.

Усё гэта выглядала як дзіцячая гульня ў хаўтуры. Дурнаваты заалагічны смех крывіў нашыя вусны. Смяяцца хацелася ад страху.

Мы хавалі Аліка — колішняга кіраўніка і саліста нашага сусветна вядомага ў межах горада гурта “Бэллз”, у перакладзе “Званы”, які распаўся аж дзесяць гадоў таму, пасля заканчэння намі інстытута, і з тых часоў у поўным складзе збіраўся ўпершыню.

 



Сапраўдныя сябры выяўляюцца ў бядзе.

Падчас апошняга канцэрта той шалёнай выпускной вясны звар'яцелыя фанаткі ледзьве не падралі на Аліку натуральны вогнетрывалы дакронавы кліфт. Алік адбіваўся не на жарт, лямантуючы, што аддаў за яго на "таўкучцы" цэлую сотку і беражэ на смерць.

Хто б мог падумаць?

Цяпер ён ляжаў менавіта ў гэтым вечным касцюме. У пятніцу ўвечары на перакрыжаванні Круглауніверсітэцкай і Басейнавай невядомая легкавушка збіла Аліка і ўцякла. Згорблены задуменны Алік якраз вяртаўся пасля заняткаў у клубе пазашкольнай працы. Яго ангельская напаўакустычная гітара засталася цэлая, а на нотных аркушах адбіўся малюнак пратэктара. Такіх шынаў наша прамысловасць вырабіла найменш сто тысяч.

Тым часам далёкі Алікаў сваяк, падобны да лектара з таварыства "Веды", пачаў доўгую казань з цытатамі, нагадаў між іншым пра вялікія заслугі і нерэалізаваныя планы, што застаюцца пасля нас. Вусны ягоныя варушыліся, як у рыбіны, але нават за два крокі нічога не было чутно. За нашымі спінамі чахкаў закураны кампрэсар, адбойны малаток дзёўб грунт, нібы траскучы жалезны дзяцел.

Быццам хацеў прабіцца скрозь устылую кару да мозга зямлі.

Слон, рыпнуўшы навюткім скураным паліто, падышоў да сінюшнага мужыка. З клубка чарвівага дыялогу выкацілася толькі адно зразумелае слова — "план". Ва ўсіх план.

Слон выцягнуў з кішэні лайкавага пінжака шаўровы партманет і па-сяброўску ўсунуў штосьці мужыку ў кулак. Мужык пайшоў да кампрэсара.

Неўзабаве зрабілася ціха.

Такая самая наэлектрызаваная ціша клалася, калі Алік браў мікрафон і, жуючы яго, нібы жуйку, шпурляў у залу

 

назву наступнага "хіта". Хваля захопленага свісту і віскату разыходзілася канцэнтрычнымі кругамі.

Дзесяць гадоў як адзін дзень праляцелі пасля таго зорнага ў нашым жыцці канцэрта. Быццам і не жылі мы ад таго.

Які да немагчымасці светлы месяц залівaў неонам зялёны клуб інстытуцкага кампуса на высокім беразе Дняпра ў тую познюю вясну! Якія лютыя камікадзэ-камары атакавалі нашых галаногіх прыхільніц з шалёнымі ад маладосці вачыма, што ў поўным трансе верашчалі пасля магічнага Алікавага "Ван, ту, фры, фо"! З якім непараўнальным апломбам мы выдавалі што-небудзь з шэдэўральнага рэпертуару бітлоў! Як дакладна капіраваў вялікі Слон маленькага насатага Рынга, увішна парадкуючы на сваёй кухні — ударных з гронкай бонгаў фірмы "Прэм'ер"! Нібы сэрцам адбіваў ён хвалісты перадінфарктны рытм "Лэт Іт бі" — гэтага рэквіема па маладосці. Якім распаленым наркатычным дыскантам на чысцюткай ангельскай мове крычаў Алік у мікрафон: "Хай будзе так", — нібыта адчуваючы пачатак канца. Якімі лазернымі промнямі асвятляла натоўп яго рагатая "Джыпсан". У якім амаль малітоўным экстазе глядзела на яго Натка — гэтае дзіця кветак у вяночку з палявых рамонкаў на доўгіх чорных валасах — яна як асабліва набліжаная сядзела проста на сцэне, побач з трыццацікватнымі дынамікамі! Якая яна была тады закаханая ў Аліка! Па самыя вушы. Дый усе дзяўчаты былі тады нашымі фанаткамі. Дзесяткі рук цягнуліся да Алікавага пінжака, калі ён саскокваў са сцэны ў праход, каб праверыць, як нас чуваць. У той вечар мы дасягнулі немагчымага. Нават шапялявага Лёсу цяжка было пазнаць — у кароценькай маечцы да пупа, з прыліплымі да плячэй пасмамі, ён даваў сваёй "Ямахай" такую басавітую вібруючую моц гэтай рацэ жыцця, што рваліся аорты і хацелася плакаць. Нават мая гэдээраўская "Элжыта" чысценька, як ніколі, адчувала рытм, паўзы, кантрапункты, быццам гэта гучаў электронны лічыльнік.

Мы былі тады неперасягальнымі маленькімі копіямі сваіх вялікіх куміраў.

У прыгаломшанай цішыні сваяк блытана скончыў сваю казань. І зараз не ведаў, што далей. Можа, пачатак паўтарыць? Але чацвёра далакопаў спрактыкавана ўхапілі вяроўкі, і дамавіна паплыла ў жоўтую пашчу. Гулка застукалі камякі аб века, пасля цяжка загупалі брылы — гэта інфізаўцы ўзяліся за рыдлёўкі. У курганок утачылі таблічку, абклалі яе вянкамі. Слон як адміністратар заплаціў далакопам за працу. Сваякі па-старасвецку дзюбнулі па чарцы і закусілі халоднымі галубцамі. Алікава маці, якую трымалі пад рукі стрыечныя дзядзькі, ужо нікуды не кідалася, а толькі механічна прыгаворвала: “А вы ешце, ешце”.

Вось і па ўсёй таямніцы.

Вясёлы верабейка прыляцеў невядома адкуль, сеў на вянок, скоса паглядаючы круглай пацеркай, а пасля пачаў бокам-бокам падбірацца да крошак. Слон тупнуў нагой, і верабейка спалохана пырхнуў прэч. Старая, уся ў чорным, папрасіла Слана нахіліцца і штосьці прашаптала яму на вуха. Пасля гэтага Слон больш не еў, толькі па дарозе да машыны, хаваючы разгубленасць, кінуў мне:

— Кажа: гэта душа ягоная прыляцела. Птушачка Божая. Смешна. Забабоны...

Ён адчыніў свой навюткі цёмна-зялёны “Жыгуль”, які паспеў ужо атрымаць дзесьці драпіну, і мы з Лёсам узбіліся на задняе сядзенне. Закрактаў, буксуючы, перш чым крануцца, аўтобус са сваякамі, і мы гужам рушылі на Алікавы памінкі, а самога Аліка пакінулі на свежараспачатых індустрыйных могілках.

А ён з радасцю паехаў бы з намі. Алік адзін быў жывым сярод нас.Выпадковая смерць не скасоўвае заканамернасцяў жыцця.

Алікава маці патэлефанавала мне ў суботу зранку, калі я пасля філіжанкі кавы і цыгарэты збіраўся ўжо ісці на працу. Я паспяхова дапісваў дысертацыю, кіраўнік мяне

падганяў, адзначаючы спрыяльнае становішча зорак і актуальнасць тэмы. У свой час з мяне сем патоў сышло, пакуль я ўвасобіў яго праект на натуры, выціснуўшы ўсё магчымае і немагчымае з падначаленых, праклінаючы слоту і пранізлівы вецер, на рэканструкцыі стадыёна. Пра мяне пачалі казаць “цвёрдая рука”, пакінулі ў інстытуце, і мае шанцы рэзка пайшлі ўгару. Час ваганняў, сентыментальных роздумаў мінуў — зараз трэба было напінацца. Я цвёрда ведаў, што кандыдацкая вось-вось будзе ў мяне ў кішэні, мне даручаць весці профільны курс сантэхнікі ў нашым інстытуце, а пасля — чаму б і не? — замахнуся на доктарскую. Энергія распірала мяне, з кіраўніцтвам я ўмеў ладзіць, інтрыганы мяне самі баяліся. Дый патрэбныя былі такія, як я, здольныя і ініцыятыўныя, якія варон лавіць не будуць.

Лёса і Слон таксама бралі ад жыцця ўсё, што маглі. Прыйшоў наш час.

Лёса падаўся па грамадскай лініі. З інстытуцкага прафкома, дзе сядзеў на падаконні, ён перабраўся на сціплае крэсла ў трэсце, а не так даўно трывала ўладкаваўся ў шыкоўным скураным фатэлі ў саліднай рэспубліканскай установе. І задзёр нос. Жахлівыя заганы пачаў называць асобнымі недахопамі. Ён загадваў культурай і таму лічыў сябе неверагодна культурным. Булькатаў прамовы з паперкі. Вучыў іншых... Хоць калі вада ліецца з крана, гэта яшчэ не азначае, што яна ўтвараецца ім. Ён нясмешна распавядаў смешныя показкі, і ўсе рагаталі. Яго шапялявасць пачалі ўжо пераймаць асобныя падхалімы з падначаленых. Цэлы хор шапялявых. Але для нас ён застаўся колішнім саплівым Лёсам.

Слон пасля размеркавання тры гады добра-ткі памерз на мантажы цыклапічных ачышчальных збудаванняў далёка за горадам, зразумеў, што тут яму нічога не свеціць, плюнуў на сваю пасаду і ўладкаваўся праз знаёмых мяснікам на цэнтральным базары. Ён стаяў каля калодкі ў но-

вых джынсах, запраўленых у падшытыя валёнкі, і з хеканнем сек цялячыя тушы, нахабна дакідваючы костак усім знаёмым.

Словам, так ці іначай, мы ўжо моцна ўхапіліся за штосьці ў жыцці і добра ведалі, што нам ад яго трэба.

Адзін Алік не ведаў. І толькі ў дамавіне на яго тонкім празрыстым твары застыла дзіўная таямнічая ўсмешка прасвятлення, быццам ён нечакана адкрыў для сябе тое, чаго мы ўсе ніколі ўсвядоміць не зможам.

Між намі кажучы, Алік быў самы звычайны недалэнга з хваравіта развітымі комплексамі. Мы ўсе спачувалі яму — таму ён і абыходзіў нас бокам. Адно гэты неспадзяваны званок сабраў наш раз'яднаны гурт разам.

За доўгім сталом у цьмяным, з чыгунным фікусам, пакоі, які вокнамі выходзіў на Пасаж, мы таксама, не змаўляючыся, селі поруч. Пара-тройка дубовых, з высокімі спінкамі, крэслаў на ўскрайку так і засталіся пустыя. Абадранае люстэрка каля шафы было завешана чорнай хустай. Кажуць, гэта акно на той свет. Алікава маці бесперастанку бедавала, што не хопіць месца, прасіла прынесці лаву. Яна з адсутным позіркам перапрашалася за незастылы халадзец, бегла на кухню і вярталася без нічога. Раптам, зірнуўшы ў наш бок, астматычна захапала паветра. Яе падхапілі дзядзькі, але яна авалодала сабою.

Штосьці лёгкае прашамацела над намі, закрануўшы хустку на люстэрку.

Далёкі сваяк прачысціў горла і прапанаваў выпіць за спачын душы. І ўсе, не адмаўляючыся, выпілі, бо добраткі намерзліся, з гадзіну прытупваючы на марозе. У насцярожанай цішыні пакоя далікатна зазвінелі відэльцы.

Ніхто не ўздымаў вачэй.

Алікава маці зноў усхапілася на ногі і замітусілася:

— Алікаў прыбор, дзе Алікаў прыбор, няхай і ён будзе з намі...

Дзядзькі асцярожна павялі яе ў іншы пакой.

Далёкі сваяк, шумна ўздыхнуўшы, прапанаваў выпіць за светлую памяць. Усе сумна выпілі па другой і пацягнуліся цераз стол да ўпадабаных страў. Бабця ў чорным пачала частаваць маўклівага ад самых могілак Слана, які баязліва корпаўся відэльцам у капусце.

— Грэх не памянуць таварыша. Еш, саколік, не саромся. Жывым — жывое. Я, бач, усіх перажыла. Двух зяцёў, галубкоў, правяла. А па мяне не йдзе. Жыву вось чагосьці на свеце, старая порхаўка.

Слон упарта адмаўляўся, але, калі выпілі па трэцяй, здаўся, еў усё запар, асабліва налягаючы на дэфіцытную пячонку траскі, якую падсунула бабуля.

За сталом узнікла размова, якую культурна вёў далёкі сваяк.

— У розных народаў яно, гэта, па-рознаму. Адныя галосяць, валасы на сабе рвуць, попелам пасыпаюцца, або і, гэта, жонак з сабой паляць... І коней. А гэныя, як іх, ацтэкі, дык для іх, гэта самае, яно як свята, весяляцца яны, чарапы з цукру робяць, дзеля смеху, значыцца. А мы ўсё па-людску, з'ямо, згадаем добрым словам.

Слон, якому бабця паклала лыжку грыбоў, неяк па-дзіцячы хліпнуў:

— Закусь наша, Алік любіў.

І торкнуўся ў бабцін плячук.

Лёса шматзначна працягнуў "м-да" і адставіў пачатую пляшку далей ад Слана. Слон выцерся рукавом, шморгануў носам і, узняўшы галаў, ні села ні пала ляпнуў:

— Я адчуваю сябе чалавекам, толькі калі выціскаю са свайго жалеззя сто шэсцьдзесят.

Усе здзіўлена і асуджальна азірнуліся ў наш бок.

— Алік быў самы таленавіты сярод нас, — сказаў Слон з выклікам. — Ён спаліў сябе, а мы ўсе тут толькі ямо.

Гэта была праўда.

Пасля інстытута мы ўтрох своечасова спыніліся. Вечнае свята са штодзённымі рэпетыцыямі, выездамі на халтуру,

ажыятажам мінула разам з той шалёнай вясной. Дарогі нашыя разышліся. Кожны мусіў прабівацца сам. Трэба было ўладкоўвацца, грэць месца, брацца за справу.

Толькі Алік быў нібы з іншай планеты. Увосень па старой памяці ён яшчэ намагаўся зацягнуць нас на рэпетыцыі пры клубе харчавікоў. Але — у кожнага знаходзіліся нейкія неадкладныя справы: хімчыстка, бальніца, канец месяца. З часам яны зусім засмакталі, і Алік застаўся зусім адзін.

Ён тэлефанаваў нам, хапаў за рукі, абяцаў неўзабаве здабыць праз знаёмых высакакласную бундэсаўскую апаратуру “Фэндэр”, пра якую можна толькі марыць, і гэта абавязкова дапаможа прабіцца на тэлебачанне, перамагчы ў конкурсе “Алё, мы шукаем таленты” і стварыць уласны адметны стыль.

Дон Кіхот. Мы ўсё цудоўна разумелі. Нам на замену ідзе новая стрыжаная генерацыя тых, хто таксама ўмее сяк-так брынкаць на гітары, можа, нават і лепш за нас. Ва ўсякім разе, канкурэнцыя абвастраецца, гурты ў горадзе распладзіліся, як прусакі, большасць удалых малайцоў навучылася беспардонна спекуляваць на фальклоры, а гэта магло расчуліць нават самую артадаксальную камісію. Усе яны мелі трывалыя тылы, выступалі ад заводаў ці ВНУ. А мы былі самі ад сябе. Ніадкуль. Свіснулі — збегліся. І хто мог гарантаваць нам поспех, блакітны экран? У лепшым разе, нас ганялі б па вяселлях ад новаўтворанага аб’яднання музычных ансамбляў. У нашым узросце гэта было проста несалідна. Надышоў час мець надзейны кавалак хлеба.

Алік нерваваўся, але працягваў змагацца. Аднак пакуль мы выраслі са звычайных інжынераў у кіруючыя кадры сярэдняга звяна, здолеў прайсці са сваім новаствораным гуртом толькі на абласны конкурс. Новая генерацыя дзелавых хлопцаў не працавала, як мы, да поўнага самазабыцця, наадварот — яны ніколі не забываліся пра ўласныя інтарэсы. Алікавы хлопчыкі пасля трэцяга месца

імгненна пападпісвалі выгодныя кантракты з рэстараннымі аркестрамі ды пачыналі выбіваць траякі з наведнікаў.

Алік зноў застаўся адзін. Пакуль мы з сераднякоў-выканаўцаў перабраліся ў вышэйшы эшалон і замацаваліся на сваіх пасадах, ён здолеў толькі прапіхнуць на радыё, у забаўляльную перадачу, адну сваю песеньку, якую спявак з оперным голасам ушчэнт сапсаваў. Песеньку залічылі да матылькоў-аднадзёнак, і Алікавых паслугаў больш не патрабавалі.

Алік хадзіў па вуліцах насуплены, згорблены і, згледзеўшы некага з нас, па-вучнёўску хаваўся за прахожых, забягаў у краму, заскокваў у тралейбус — калі не было іншага выйсця. Дзесьці ён там выкладаў курс гітары, на нейкіх шасцімесячных курсах пры гарнізонным доме афіцэраў ці клубе міліцыі, быў, здаецца, кіраўніком ансамбля мастацкай самадзейнасці на якімсьці падшэфным прадпрыемстве. Але ўсё гэта, безумоўна, было не тое. Не з Алікавымі нагамі было даганяць апошні цягнік.

Падчас выпадковых сустрэч ён, хаваючы згаслыя, нібы запарушаныя попелам, вочы, казаў, што справы ідуць “о’кэй”, што яго запрашаюць напісаць музыку для нейкага мульціка, кшталту “Жоўтай субмарыны”. Але мы, як людзі дарослыя, гэтага мульціка так ніколі і не ўбачылі. Ён вяла цікавіўся нашымі справамі, пытаўся, што новага прыдбалі. І нам было пра што распавесці.

Слон браўся праз знаёмых зрабіць яму месца “ну проста фешэнебельнае”, кіраўніка аркестра ў “Інтурысце”, дзе часам перападае і валюта, ды Алік, гледзячы яму ў вочы, проста пасярод цэнтральнай вуліцы па-лёкайску завішчаў: “Калінка, малінка, калінка мая”, і заскакаў з бруднай насоўкай вакол мажнога Слана, адбіваючы паклоны.

Аднойчы Алік сам зайшоў да Слана ў падсобку і, запінаючыся, папрасіў пазычыць тысячу рублёў на філіпсаўскі шматканальны ўзмацняльнік. Слон катэгарычна сказаў, што на такую дурноту не дасць, — лепш яны гэтыя

грошы прап'юць. І, як Алік ні адмаўляўся, зацягнуў таго сярод дня ў пустую банкетную залу, дзе яны былі толькі ўдвох, частаваў шампанскім да непрытомнасці, сам чапляў відэльцам і запіхваў у Аліка марынаваныя грыбкі. А калі надышоў час разлічвацца, Алік стукнуў сябе ў грудзі, залямантаваў: "Бацька вы наш родны!" і палез цалаваць Слану рукі, што трымалі пульхны партманет. Знаёмы афіцыянт пасля сказаў, што Алік сам даўно за ўсё заплаціў.

Лёса выклікаў Аліка ў сваю ўстанову, запрасіў сесці, кудысьці патэлефанаваў і напісаў цыдулку. З ёй Аліка павінны былі без пытанняў узяць у філармонію, у ансамбль гітарыстаў. Алік у гэты час меланхалічна аглядаў вялізнае крэсла, у якім маглі змясціцца тры Лёсы, а калі ў кабінет заляцела энергічная пані з паперамі, раптам адрэзаў, што жабкай у шматгалосым хоры ніколі не будзе, і няхай ён, Лёса, сваёй цыдулкай падавіцца, чым надзвычай скампраметаваў адказнага супрацоўніка.

Я тактоўна, разумеючы далікатнае Алікава становішча, нічога не абяцаў, ніколі яго не лаяў, не наракаў на дурную прынцыповасць, а проста дэманстраваў на ўласным прыкладзе, чаго дасягнуў, пераадольваючы цяжкасці, колькі горлаў перагрыз, пакуль займеў цёплае месца, і супакойваў, што ўсё ў яго яшчэ наперадзе. "Толькі хвост ззаду", — не дужа ветліва кідаў ён. І чамусьці менавіта мяне, такога ветлівага, разважлівага, мяккага, Алік абмінаў як найдалей. Інстынктыўна пазбягаў, як пазбягаюць небяспекі жывёлы і дзеці. Мабыць, у яго ад перажыванняў зусім атрафіравалася пачуццё ўдзячнасці за тонкае неназойлівае разуменне ягонага стану.

Мы ўжо выбіраліся ў людзі, а ён заставаўся яшчэ дзесьці на ніжняй прыступцы сацыяльнай лесвіцы. Мы жадалі яму толькі добрага, а ён, няўдзячны, кусаў руку дапамогі.

Перад гарачымі стравамі, каб не замінаць гаспадарам накрываць на стол, мы выйшлі на ганак папаліць. І тут Слон як з ланцуга сарваўся:

— А ты чаго маўчаў? Мы казалі яму розныя словы, давалі парады, ён нас не любіў за гэта. А ты, чмур, маўчаў. Добранькім хацеў быць?

— Мы сто, а вось цябе б ён, моза, і паслухаўся. Цябе ўсе баяцца, — відавочна прыбядняючыся, заплямкаў вуснамі Лёса. Ён ужо выдатна навучыўся перакладаць віну на іншыя інстанцыі.

— Не мне вам тлумачыць, — адсек я, і яны змоўклі.

Атрымалася так, што пасля таго феерычнага канцэрта, нашай лебядзінай песні, калі згаслі ліхтары і ўсе разышліся, камусьці трэба было застацца вартаваць на сцэне апаратуру. “Рафік” павінен быў прыйсці па нас толькі ранiцай. Ноч была надзіва зорная, светлая-светлая, выпала густая раса — і на дождж не паказвала. Таму Алік, агледзеўшы выматаны асабовы склад, сам застаўся на гаспадарцы. Мы прынеслі яму матрац, а замест коўдры ён накрыўся нейкімі чахламі. Мы пажартавалі, выпалілі па цыгарэціне. Агністыя зыркі блукалі па сцэне, смяяліся, пакуль не засталася адна, маўклівая. Мы падаліся спаць.

І вось тады да мяне неспадзявана прычапілася Натка, якую мы ўсе даўно, але таемна адзін ад аднаго, кахалі, бо ведалі, як яна глядзіць на Аліка. Натка, як, увогуле, тады было прынята, была ў нашым гурце чымсьці накшталт талісмана, які прыносіць шчасце. Мы вазілі яе з сабой на ўсе канцэрты, дзе б яны ні адбываліся. Вытанчанасць, багемнасць гэтага дзіцяці кветак надавала нам асаблівую вагу. Яна не дазваляла разменьвацца на танныя падробкі, працаваць на публіку, а патрабавала ад нас неверагоднага, немагчымага. І была сапраўднай крыніцай натхнення для ўсіх.

Калі мы ішлі з ёй па начной алеі да намётаў, Натка раптам спынілася. Водбліск далёкай навальніцы на Левабярэжжы асвятліў яе твар, зусім бледны і рашучы. Яна нібы з нянавісцю паглядзела на мяне і хрыпатым пракураным голасам сказала:

— Ты — слухай. Ты ведаеш, я выйду за цябе замуж. Ты далёка пойдзеш. Ты машына жыцця.

У мяне дух перахапіла:

— А Алік?

— Я яму не патрэбная, яму ніхто не патрэбны — толькі яго музыка. Яна спаліць яго.

Гэта была праўда.

І Натка зрабілася маёй жонкай. Я прымусіў яе кінуць паліць. Прыдбаў кухарскую кнігу. Запісаў на курсы кройкі і шыцця. У нас нарадзілася двое дзетак. Яна распаўнела і панічна, больш за ўсё на свеце, баялася трапіць на вочы Аліку.

Хіба мог я рызыкаваць крадзеным шчасцем?

Нас ізноў запрасілі за стол. Цяпер справы пайшлі весялей. Бабця ў чорным распавядала, як маленькі Алік любіў, падцікаўшыся да яе, затрубіць на вуха. Далёкі сваяк трызніў пра перспектывы развіцця крэмацыі ў нашым горадзе, біў сябе ў грудзі і на нешта брахаў, што аддасць сваё цела Акадэміі навук для доследаў. Алікава маці, ад якой густа пахла валяр'янкай, ужо больш асэнсавана парадкавалася з гарачым, запрашала частавацца, бо не прападаць жа дабру. Потым падсела да нас, пачала дзякаваць за клопат, што прыехалі, што знайшлі час, ва ўсіх праца — яна разумее і вельмі дзякуе, вельмі дзякуе, вельмі дзякуе. Я глядзеў у столь, Слон пад ногі, а Лёса — у прастору. Яна сказала, што Алік нас часта згадваў апошнім часам, таму яна і насмелілася патурбаваць занятых людзей, бо гэта нібы яго апошняе жаданне.

— Там у Аліка нейкія запісы засталіся, можа, возьмеце, — зазірала яна нам у вочы, час ад часу аўтаматычна прыгаворваючы: — А вы ешце, ешце.

Мы адчужана бралі чарку за чаркай, але не п'янелі. Алік, аказваецца, увесь гэты час памятаў пра нас. А мы? Нейкі злосны адчай, цвярозая незваротнасць душылі нас, патрабавалі адкуплення віны, палёгкі, неадкладнага дзе-

яння. Мы хацелі апраўдацца, быць добрымі зараз, вось тут. Калі б Алік цяпер заікнуўся, што трэба прыехаць у найдалейшы канец горада, у які-небудзь жэкаўскі паўпадвал, хіба мы не паехалі б, ды на карачках папаўзлі б і поўзалі б так штодня. Але дараваць, зняць нам грэх з душы не было каму, было позна.

Ён быў душой нашай кампаніі, і вось зараз яе не стала. А засталіся тры спустошаныя целы з горкім цяжарам. Вечнай карай.

Потым у суседнім, Алікавым, пакоі мы слухалі яго зусім незнаёмы, вібрыруючы, сталёвы голас, голас раззлаванага анёла, які, ламаючы звычайныя гармоніі і лады, уздымаўся да надхмарных вышыняў, складаў крылы і падаў у чорны змрок, які кіпеў незнаёмымі пачуццямі і парываннямі. Мы нібы бачылі, як па-над мітуслівай плошчай узнёсся спакутаваны менестрэль з электрагітарай і адчайна крычыць пра талент і сумленне, а ўсе паглядаюць скоса і абыходзяць бокам гэтую малазразумелую з'яву ў нашым арганізаваным свеце. Ён адзін замяняў цэлы аркестр, дождж і грымоты, шум ветру і крык кнігаўкі, быў сінтэзатарам галасоў новых невядомых інструментаў, пульсаваў у выпраменьваннях шматслойных рытмаў, вартых новай суперзоркі.

Алік сам пісаў праз накладанне на магнітафоне ўсіх партый. І бас, і рытм, і бубны. І гэта было непараўнальна лепш, чым калі б гэта рабілі Лёса, я і Слон. На вялізным дрэве жыцця мы ў свой час зручна ўладкаваліся пад тоўстай карой, а ён імкнуўся безабароннай крохкай галінкай у нязведаную вышыню, прабіваў сабой мур нязнанага. Быў кволым, але смелым парасткам, шукальнікам будучыні для ўсіх нас, паходняй людскасці сярод пусткі штодзённасці, зламаным стратасферным бурам, а мы засталіся ўбаку, на бяспечнай адлегласці.

Выпіўшы па апошняй, мы выйшлі ў сіні ранні зімовы прыцемак. Слон прапанаваў падкінуць нас на сваіх навют-

кіх цёмна-зялёных “Жыгулях”, і мы ўзбіліся на задняе сядзенне. Рухавік зароў, машына тарганулася з месца і панеслася па крутой вулачцы, выбіраючыся з лабірынта квартала. Слон барабаніў пальцамі па рулі, падміргваў нам у люстэрку і несамавіта роў “Хай будзе так”. Мы з Лёсам спалохана назіралі за ім. Слон адчайна гнаў на чырвонае святло, машыну заносіла, тармазы вішчалі, і ён, відаць, ізноў адчуваў сябе чалавекам.

Нейкая згорбленая, самазаглыбленая постаць неспадзявана ўзнікла перад самым бамперам нашых “Жыгулёў” на рагу Круглауніверсітэцкай і Басейнавай, знерухомела і спознена кінулася ўбок, адштурхоўваючы як мага далей футарал і ноты. Мы не азірнуліся.

**Уладзімір ЯНЧУК**

# ПЯТНАЦЦАЦЬ ХВІЛІН СПАКОЮ

Было ўжо цёмна, хоць светла-блакітнае неба яшчэ кантраставала на фоне хмурных будоўляў і бруднага пляжа, які спаўзаў у мора, што сонна шыпела, чвякала каля пірса і патыхала гнілымі водарасцямі. Хлопец крывіўся ад паху і ўглядаўся ў далягляд. Цішыня і спакой. Ён сядзеў на пяску, выцягнуўшы ногі да мора, якое не магло да іх дацягнуцца, і кідаў пляскатыя каменьчыкі, назіраючы, як яны скачуць па вадзе, нібы рабіў паслугу ўсяму свету, нетаропка, з выглядам знаўцы, які разумее, што вада з такім пахам не здольная паўплываць на эмацыйны стан чалавека, ад якога залежыць, колькі разоў падскочыць на

вадзе каменьчык; аднак узнікалі сумненні, ці сур'ёзна гэта для чалавека ў дзевятнаццаць гадоў. Такі занудны занятак яму парадкам абрыдзеў, абрыдла і гнілое мора, і халодная цэгла, аднак было яшчэ ранавата, каб ісці дадому, і ён, зірнуўшы на фосфарны цыферблат капітанскага гадзінніка, вырашыў пасядзець яшчэ хвілін з дзесяць – пятнаццаць.

Нечакана пачуліся чыесьці галасы.

Ён зірнуў у той бок, дзе ў цемры раслі і акрэсліваліся белыя плямы: мужчын было трое, жанчына адна. Часта перакрываючы адно аднаго, яны рухаліся да мора. Хлопец ведаў дакладна: адсюль яны яго не заўважаць, і зноў адвярнуўся да мора. Ды толькі адчуваўся ў гамане тон, які змусіў яго зноў зірнуць на прыхадняў. Жанчына нудна і загнана прасіла, каб яе адпусцілі.

— Я прашу вас... ну не трэба... ну навошта... ну я... прашу вас! — яна, як магла, выкручвалася, але адзін трымаў яе за руку і за валасы, другі намагаўся залезці пад спадніцу, трэці крочыў наперадзе і, напэўна, усміхаўся.

Хлопец адвярнуўся да мора. Што ж яшчэ можа быць на гэтым запушчаным пляжы, акрамя гнілых водарасцяў і згвалтаванай жанчыны? І пачуў, як яна дала камусьці гучную поўху.

— Скаціна! Пусці! — пачала адбівацца, але яе скруцілі і пацягнулі да пляжнага будана.

Адтуль жанчына яшчэ разоў колькі прахрыпела “Дапамажыце!”, паспрабавала завішчаць, але, відаць, ёй моцна заціснулі рот, і яна толькі знясілена стагнала. Да слыху далятаў задаволены гоман мужчын.

Хлопец сядзеў і глядзеў удалячынь. Паміж морам і небам, далёка-далёка з'явіўся карабель і замігцеў агеньчыкамі, як навагодняя ёлка. Ён рухаўся па лініі далягляду і нагадваў мішэнь у забаўляльным аўтамаце, на якім гуляюць у марскі бой. У лялечны карабель адразу ж быў кінуты каменьчык: адзін... два... тры... — хана!.. Хлопец мля-

ва пазяхнуў і, пацягваючыся, зірнуў уверх, у зорнае неба. Раней ніколі б не падумалася, што ў такі вечар можна некага гвалтаваць. Відовішча, безумоўна, прыгожае: зоркі... Зоркі — гэта добра. А смярдзючая вада — дрэнна. Скрывіўся і зірнуў на гадзіннік. Было яшчэ рана.

Ззаду пачуўся шоргат. Азірнуўся і пабачыў трох мужчын. Сапучы і ўсміхаючыся, яны рушылі кудысьці, абменьваючыся ўражаннямі ад толькі што пераЖытага. Постаці іхныя хутка праглынула цемра, і хлопец зноў заглыбіўся ў сузіранне амаль нябачнага ўжо далягляду, дзе пульсавала ледзь прыкметная кропка далёкага карабля.

Ззаду зноў пачуўся шум — хлопец зірнуў у бок драўлянага будана. Там з'явілася светлая постаць жанчыны. Напаўсагнутая, яна кульгала да вады. Яе стогны ледзьве даносіліся.

— Быдла! Падлюкі!.. Божачкі! — стагнала яна.

Калі жанчына падышла бліжэй, ён заўважыў, што спадніца на ёй ушчэнт падраная; цела скаланалася, твар скрывіўся, валасы скудлаціліся. Жанчына ўздрыгвала ад плачу і падстаўляла мору змучанае аблічча, што надавала яе пакутам асаблівы эфект. Яна была зусім яшчэ маладая, магчыма, ёй было крыху больш за дваццаць. Хлопец глядзеў на яе і крывіўся, яму было непрыемна.

Не заўважыўшы яго, яна легла на халодны бетонны пірс і зачарпнула рукой ваду, выцягваючы разам з вадой гідкія марскія водарасці. Хлопца ажно скаланула: няўжо можна мыцца гэткай брыдотай? Але дзяўчына змыла кроў, выпрасталася і, енчачы, азірнулася. Спалохана падалася назад, відаць, заўважыўшы яго.

— Гэй! Яны пайшлі! — гукнуў ён і адвярнуўся.

Яна, здаецца, зразумела ягоныя словы і знясілена апусцілася на цэмент. Нейкі час няўцямна глядзела на яго.

— Ты хто? — варухнула разбітымі вуснамі.

— Чалавек, — адказаў ён лянiва.

Яна маўчала.

— Ты што... бачыў?

— Бачыў, — спахмурнеў ён і кінуў каменьчык.

— Ты бачыў і не дапамог? — закалацілася яна ад плачу. — Падлюка! Усе вы падлы, баязліўцы, кныры смярдзючыя! Усе да аднаго!

Хлопец скоса зірнуў на яе. Ён быў занадта блізка, каб не адчуць яе болю.

— Яны былі ўтрох, — буркнуў.

— Я ж клікала... Я крычала... Я ж так прасіла дапамагчы... За што яны, за што? — завыла. — Божа, што ж рабіць, што рабіць, як жа мне ісці, га?

Карабель знік за далягладам, знік і далягляд, і увесь свет, пазбаўлены мяжы паміж небам і морам. Усё паглынаў чорны хаос.

Хлопец зірнуў на фосфарны цыферблат, пятнаццаць хвілін мінула, і абыякава сказаў:

— Магу прынесці табе якую-небудзь адзежыну, я тут блізка жыву.

— Давай, — ціха ўздыхнула і падабрала пад сябе прыгожыя ногі дзяўчына. Дзіўна, як на іх засталіся туфлі?

Ён нетаропка падняўся, строс пясчынкі, рушыў. Пад нагамі палахліва храбусцелі шкарлупіны мідый.

— Гэй, — пачуў ззаду. Азірнуўся. — Прыходзь хутчэй! Холадна тут! — даляцеў пануры тужлівы голас.

Хлопец нічога не адказаў. А жанчына зноў зарыдала. Ціхі шоргат мора ўплятаў прыгожую мелодыю ў гэтую музыку тугі і гора. І ён, адыходзячы далей, чуў, як усхліпы жанчыны і ўсхліпы мора робяцца ўсё цішэйшыя і цішэйшыя.

Яго чакаў тралейбусны прыпынак. Яму яшчэ доўга давядзецца ехаць у іншы канец горада ў пустым салоне па пустых вуліцах. Там зусім іншае паветра, не такое назойлівае, як каля мора. Зрэшты, каб адагнаць гэты непрыемны пах гнілля і цвілі, ён, дабраўшыся дахаты, адразу нап'ецца гарачай гарбаты і праваліцца ў ціхі спакойны сон.

Юрый АНДРУХОВІЧ

# ЗЛЕВА, ДЗЕ СЭРЦА

Я маю дрэнную схільнасць да самоты. Проста люблю, калі ў свеце няма нікога, акрамя мяне. Тады мая фанабэрыя красуе і родзіць, бо я — найвялікшы цар і валадар. І чаму я толькі не Адам?

Два тыдні, цэлыя два тыдні я не маю нават хвіліны адзіноты. А наперадзе — два гады такога жыцця. Два тыдні, як я зрабіўся курсантам — не тым, з якіх атрымліваюцца афіцэры, а тым, які ў лепшым выпадку стане сяржантам і праз паўгода паедзе ў лінейныя войскі, псаваць жыццё сабе і іншым. Я курсант вучэбнага мотастралковага палка. Мая галава мае ідэальную сферычную форму — гэта высветлілася толькі тут, пасля таго, як мяне пастрыглі. Яшчэ я даведаўся, што падлогу трэба мыць з мылам — нават калі яна чыстая. Мая правая рука хворая і бяздзейная — на ёй шнар, і яна моцна закручаная нясвежым бінтам.

Чацвёрты дзень я ляжу ў палкавым лазарэце — апошнім прытулку гнаных і нявыспаных, святым месцы для ўсіх пакутнікаў са сферычнымі галовамі. Тут таксама не даюць доўга спаць, прымушаюць мыць падлогу з мылам, але можна да адурэння сядзець на залітай сонцам верандзе і часам, угрэўшыся, нават трохі пакімарыць. Ціша і спакой. Сяржанты дзесьці дужа далёка.

Веранда мае шкляныя сцены, праз якія прыемна сачыць за палкавой мітуснёй і ўсведамляць, што цябе яна зараз не датычыцца.

Крочыць чарговая змена каравула: матлянне аўтаматаў і мерны грукат ботаў, ланцужкі стомленых робатаў на чале з механічным сяржантам, надзвычай тонкія ногі якога,

 



здаецца, вось-вось паадлятаюць. Крочаць адпрасаваныя і стрункія лейтэнанты, падобныя да бажкоў гэтага мікрасвету — з-пад фуражак выбіваюцца спатнелыя чупрыны, гальштукі на кашулях — як высалапленыя языкі. Канец мая. Спёка. Надвячорак.

А вось — вельмі павучальнае відовішча: сустрэча антыподаў на палкавым пляцы. З аднаго боку — рота мордаваротаў-разведчыкаў у маскавальных “ягуарах”: двухметровыя акселераты са схільнасцямі наёмных забойцаў, каратысты і баксёры з каменнымі сківіцамі і фаласамі вяртаюцца з заняткаў у спортгарадку, дзе яны дзве гадзіны мясілі асфальт кулакамі і вучыліся крычаць “я-а”; іх падобныя да грудных мішэняў торсы сплываюць ручаямі поту, а металёвы голас ротнага камандзіра прымушае ластавак панічна знікаць у нябёсах. З другога боку — рота, якая складаецца ці не з адных насельнікаў Сярэдняй Азіі. Маленькія, чорнагаловыя, кульгавыя, рахітычныя, мурзатыя — ісламскі легіён вяртаецца з будаўнічых работ разам са сваімі грыбкамі, мазалямі, нашараванасцямі і дыурэзамі. Шэрагі ваяроў вітаюць адзін аднаго — аркестр, музыку!

О, гэтыя сяржанты, якія вядуць няшчасных сыноў Азіі, быццам атару брудных авечак па ханаанскай даліне. У свае няпоўныя дзевятнаццаць яны ўжо зведалі слодыч улады над сабе падобнымі, хмельнае пачуццё гонару і пагарды распірае ім грудзі, звычка прыніжаць і прыгнятаць робіцца проста неабходнасцю іхных жаўтаротых арганізмаў.

Гэта вучэбны мотастралковы полк, гэта спрадвечная пакутніца — пяхота, сёмае кола Дантавага пекла на чале з п’янымі паганятымі вярблюдаў. Гэта гнюсная клаака, у якую кінулі некалькі соцень стрыжаных рахітаў з хворымі нагамі, у якой яны гніюць, спусташаюцца і штодня зжыраюць свае дваццаць грамаў масла, а штотыдня — два крута звараныя яйкі. Яйкі гарантаваныя камандаваннем — гэтак жа, як белы хлеб і цукар у абмежаваных статутам дозах.

На ганку побач са мной — цэлая хеўра ЛАЗАРАЎ з

 

палкавога медпункта. Усе яны ШЛАНГІ і вайсковыя злачынцы, якіх трэба судзіць за ўхіленне ад службы. Маленькі, падобны да малпачкі армянін з прозвішчам, як у царскага генерала — Мамантаў, — найпершы спекулянт і “членовредитель” (наўмысна носіць боты без анучаў, каб панаціраць ногі). Ён ціхі сабатажнік, спадзяецца купіць усё камандаванне каньяком, часта выхваляецца, што дома ў яго ўласная “газуха” і процьма баб. Каля яго асецін Жора Цакоеў. Ён не курсант, ён праслужыў ужо больш за год палкавым кухарам на палігоне. Тут, у медпункце, хаваецца ад салдацкай Феміды і нібыта лечыць парок сэрца. Кажуць, што хутка пойдзе на два гады ў дысцыплінарны батальён, бо два месяцы таму ўцёк з палігона, пакінуўшы замест сябе МАЛАДОГА варыць кашу, і, пераапрануты ў цывільнае, з падробленым пашпартам, быў затрыманы ў аэрапорце Барыспаль, адкуль меўся ляцець у Ленінград. У партфелі меў два кілаграмы анашы. Ад турмы Жору ўратаваў сам камандзір дывізіі, які надта ўжо ўпадабаў шашлык у яго злачынным выкананні. Але дысбата небарака, здаецца, не міне. Трэці рыцар журботнага ганка — малдаванін Попа з апухлымі барвовымі нагамі. Сюды ён уцёк пасля таго, як у роце яго злавілі на крадзяжы гадзіннікаў і кішэнных грошай. Ногі паапухалі самі па сабе, а можа і ад хвалявання.

А чацвёрты тут — я, з ідэальнай лысай галавой і шнарам на правай руцэ, апатычны, як кракадзіл. Я магу сядзець гадзінамі і ні пра што не думаць, утаропіўшыся ў адну кропку. Я заўсёды хачу спаць і лічу сон найбольшай уцехай. Раней я ніколі не быў такі.

Паўз нас бразгаюць туды-сюды вёдрамі і казанамі яшчэ два калекі — бульбаш Астапенка, худы, як хорт, і ненаедны, а другога я не ведаю, але выгляд ён мае не лепшы. Сёння яны носяць для ЛАЗАРАЎ “парашку” і якраз збіраюцца па вячэру — смажаную рыбу. Шлях гэты будзе цяжкі і доўгі — абодва ледзьве цягнуць скалечаныя ногі ў чорных пантофлях, якія смярдзяць фармалінам. Таму рыба

можа пакуль што спакойна плаваць. Яны дакульгаюць да кухні не раней, чым яна будзе засмажаная. Вайсковы злачынец Жора Цакоеў загадвае ім прынесці найбольшую рыбіну, а лепей дзве, для яго.

Чарговы фельчар — старшы сяржант Мурмыла — любіць біць сваіх пацыентаў кароткім і непрыкметным ударам пад дых. Ён высокі і прыгожы, падобны да арганаўта. Яго ўдары знішчальныя — пасля іх застаецца толькі скурчыцца і паваліцца — адзіная магчымая рэакцыя кожнага ШЛАНГА. Мяне ён не чапаў ніводнага разу, як і малпачку Мамантава — гэты адкупляецца армянскімі цыгарэтамі.

— Бстре-е-е! — пранізліва-агідным голасам падганяе Мурмыла двух кульгавых, і яны, смешна падскокваючы, бразгаючы вёдрамі і спалохана азіраючыся, пускаюцца ў сваю вандроўку за тры моры. Гэта робіць даволі моцнае ўражанне на медсястру Арысю. Яна захоплена сочыць за мужным арганаўтам. Яна маладая і прывабная. Кажуць, што Мурмыла часта зачыняецца з ёй у фізкабінеце. Там ёсць халаднаваты, засланы цыратай тапчан.

Яна сама прапанавала перавязаць мне руку. І сапраўды, бінт такі завэдзганы, што нават няёмка. У яе вельмі спагадлівыя рукі. Беласнежны халацік, лёгкі і духмяны, ён прывабна акрэслівае цела. Яна так блізка, і мы ў працэдурнай — толькі ўдваіх. Стары бінт, нібы шэрая забітая птушка, спадае пад ногі. Мая рана — гэта пякучая кветка. Чароўная фея не шкадуе бальсану — асцярожна і зграбна накладае слой мазі на маю руку. А потым завязвае чысцюткі стэрыльны бінт. Яна так блізка ад мяне. А што я для яе — голы чэрап, САЛАБОН, курсанцік? Я — пачвара, я — ЧУМА, я — згустак апатыі і ляноты. Я выпіў сваю мужчынскую сілу разам з бромам, які падліваюць у гарбату і кампот. Я разліў сваю мужчынскую годнасць па падлозе, якую скрабу намыленай шчоткай. І старшы сяржант Мурмыла можа кожную хвіліну даць мне пад дых, а пасля легчы з ёй на тапчан у фізкабінеце...

Я часта бачу, як яны міла шчабечуць. Ёй дваццаць тры гады, а яму дваццаць. Увосень ён паедзе дахаты, а яна знойдзе сабе іншага фельчара. У яе дзіця ад аднаго з такіх фельчароў — пра гэта ведаюць усе.

Дні цягнуцца марудна: сняданак, абед, вячэра. Мы праседжваем ад ранку да вечара на верандзе. Вочы заплюшчваюцца, галава ківаецца, і нейкая сусветная дрымота спавівае ўсяго цябе. Яна таксама калі-нікалі прысядзе на верандзе. Ёй дваццаць тры, і яна прыгожая.

Руку яна мне перавязвае чым далей, тым часцей, нават па некалькі разоў на дзень, але лекаванне амаль што не дае вынікаў. Рана загнаілася і пухне як на дражджах. Таму, калі мы застаёмся ўдваіх і пачынаем цалавацца, я адчуваю сябе бязрукім няўмекам, хоць яна і шэпча мне, што гэта не так. Пра нас тут усе ведаюць. Не ведаюць, магчыма, толькі таго, наколькі далёка ўсё зайшло.

— Твая пяшчота, — пытаюся я, — гэта прымха арыстакраткі ці спачуванне пацыенту?

— Гэта каханне, — кажа яна.

Увечары я мыю з мылам і лізолам увесь другі паверх — адной левай. Старшы сяржант стаіць нада мной, як рабаўладальнік.

— Калі паверх будзе вымыты дрэнна, заўтра ж выпішу цябе ў роту. Досыць ужо адпачываць. Пабегаеш разам з усімі.

Ён палохае мяне палігонам і маршамі, бо пачаліся вучэнні. У палку цяпер штодня бываюць трывогі, мае таварышы лётаюць па пляцы з аўтаматамі, процівагазамі і заплечнікамі. Афіцэры ходзяць у палявой форме. Здаецца, што пачалася вайна.

У нас ёсць некалькі закуткаў, куды мы прыходзім, каб цалавацца. Яе часта шукаюць па ўсім лазарэце, і тоўсты начмед злосна лаецца. Ён абяцае высветліць, дзе яе носіць увесь час. Здараецца, мы сустракаемся на гарышчы — там прыцемак і цёплы кілім пылу на драўляных бэльках. Калі

маю каханую пачынаюць клікаць, яна зрываецца і бразгоча абцасікамі па сходах, хуценька папраўляючы халацік і прычоску.

Аднойчы яна прыносіць мне адзенне, загорнутае ў поліэтыленавы пакет: тэніска, старыя нагавіцы і кеды. Ноччу пасля адбою я павінен да яе прыйсці. Жыве яна зусім блізка, і да раніцы я абавязкова вярнуся. Адзенне пакуль што хаваем на гарышчы.

— Я купіла віна і яблыкаў. У мяне ёсць магнітафон, — кажа яна.

Потым я мыю з мылам кабінеты доктара і начмеда. Гэта павінен рабіць Жора Цакоеў, але ён, карыстаючыся правам старэйшага, склаў усё на мяне.

— Ты маладзейшы, — тлумачыць ён.

— Усё ж лепей, чым па палігоне гойсаць, — дадае карацелька-армянін.

Я згодны з тым, што лепей. Кажыце сабе што заўгодна. Праз лічаныя гадзіны я буду ў іншым свеце. Мая каханка ўжо прыбрала ў кватэры і заслала святочным абрусам стол. На ім — віно і яблыкі.

І калі ўвесь медпункт засынае, калі сяржанты-медыкі і сяржанты-пацыенты, да адурэння нарэзаўшыся ў карты, таксама кладуцца спаць, я, пераапрануты і аднарукі, падыходжу да люстэрка. Выпетралы і голагаловы, у завялікай вопратцы, якая вісіць, як мех, я падобны, бадай што, да па́нка. А ці не ўзяць з сабой у дарогу брытву — на ўсякі выпадак.

На верандзе дае храпака днявальны Астапенка, і яго вялізны кадык вібрыруе ад невыноснага рыкання. Я прайду праз дзірку ў паркане за клубам. Вартавыя там амаль не з'яўляюцца — яны соладка спяць у цёплым прычэпе. У задняй кішэні нагавіцаў — мой вайсковы білет. Гэта на выпадак, калі ўначы нападуць імперыялісты або кітайцы і пачнецца вайна.

А пасля я іду праз начное мястэчка, зноў самотны і амаль шчаслівы, калі б не пухліна на правай руцэ. Мая сферыч-

ная галава — верх дасканаласці. Я смелы і зухаваты, як Бельмандо. Мяне чакае салодкая ўзнагарода. І віно, і чыстыя прасціны, і цела жанчыны — лёгкае, як трысцінка, глыбокае, як калодзеж. Чым я не Адам!

Я прыходжу да яе дзесьці каля першай. Яна ўжо нават паспела заснуць, чакаючы мяне. Але ўсё яшчэ наперадзе. У яе адзін пакойчык і двухгадовая дзяўчынка, якую нельга будзіць. Таму яна просіць прабачэння і запрашае мяне на кухню. Нам бракуе часу, мы спяшаемся і п'ём віно шклянкамі. А шостай мне ўжо трэба ляжаць у лазарэцкім ложку. Нам не да яблыкаў. Уключаць магнітафон няма сэнсу — занадта позна. Пальцы трымцяць і ўва мне прачынаецца нейкі вар'яцкі малатабоец, які часта і рэзка грукае ў грудзях. Гэта там, злева, у мяне штосьці аджыло. Я заблытаўся ў яе адзенні (о, каралева, мантыя твая цяжкая, як каменная брыла, і ў зморшчках яе хаваюцца кветкі ўсяго каралеўства).

— Можа залезеш у ванну? — прапануе яна. І думка пра гарачую ванну зноў, ужо каторы раз, робіць мяне шчаслівым.

Мы зноў п'ём, з кранаў ляціць вада, мы палім, п'ём і цалуемся. А пасля пачынае плакаць дзіця, і яна штохвіліны выбягае да яго ў пакой. Гэта сон, сон — плач дзіцяці ў суседнім пакоі і гарачая вада, што абдымае мяне, і віно, што цячэ ў мяне праз шыйку цяжкай бутэлькі. І да чаго тут гэтая незагойная рука, і аголены мозг, і мыццё падлогі з мылам? Я ж зусім іншы, я найвялікшы цар і ўладар, цар віна і гарачых струменяў, і блакітных кафляў. Я цар гэтай жанчыны, якая з яблыкамі прыйшла да мяне. Я голы і першасны, і плямісты халат ляціць з яе плеч і спадае да пят, адкрываючы мне сапраўдную глыбіню. Гэта сон, сон.

І ці магу я здагадвацца пра тое, што а трэцяй у палку будзе трывога. І ўсе роты будуць стаяць на пляцы ў працівагазах і хімкамплектах, і хтосьці будзе казаць, што напалі амерыканцы, што ўвесь полк перакідваюць у Афганіс-

тан. Я не ведаю яшчэ і таго, што і медпункт падымуць па трывозе і, палічыўшы сваіх пачвар, старшы сяржант Мурмыла заўважыць маю адсутнасць, пра што неадкладна паведаміць дзяжурнаму па часці капітану Балакіну. Той у сваю чаргу неадкладна паведаміць камандзіру, а апошні дасць загад неадкладна адшукаць мяне, у першую чаргу звязацца з ваенным камендантам чыгуначнай станцыі, паколькі я мог дэзерціраваць.

Але а пятай я сам вярнуўся ў полк, яшчэ адчуваючы смак яе цёплых салодкіх вуснаў. Я забудуся на асцярожнасць і там, каля дзіркі ў паркане за клубам, мяне затрымае старанны вартавы-ўзбек, які ніводнага слова не разумее па-расійску. Я аблаю яго “кутаком”, але гэта ніяк не падзейнічае. Тады я дам яму магчымасць забіць мяне, бо паспрабую ўцячы.

Пасля мяне будуць весці цераз пляц перад усім палком, у цывільнай мешкаватай вопратцы, з непакрытай стрыжанай галавой.

Мой учынак будзе названы “падрывам баявой гатоўнасці”. Праз два тыдні мяне адлічаць з нашага вучэбнага палка, як не вартага звацца сяржантам, і перакінуць на горны палігон у Сярэднюю Азію. Яна не напіша мне ніводнага радка...

Але цяпер я яшчэ не здагадваюся пра гэта. Я нават падсвядома не адчуваю блізкай бяды. Мяне не палохае будучыня, бо Адам пражыў восемсот трыццаць гадоў. Мы толькі ўдваіх, мы кружляем па-над вежамі і садамі. Праганіце мяне скрозь строй і пакарайце шпіцрутэнамі. Я не баюся далёкіх краёў і выпаратых вачэй. Я буду лятаць над гарамі на верталёце і пакрыю ўсё вакол сваім кулямётным агнём. Я сам буду выразаць языкі душманам і чапляць іх сабе на пояс. І з рук маіх паліецца кроў, калі я ўздыму іх да неба з дзёрзкай пагрозай.

Мы толькі ўдваіх. Пакарайце мяне, калі зможаце.

**З украінскай мовы пераклаў**
**Андрэй СКУРКО.**



# Юрась БАРЫСЕВІЧ

*У тэкстах постгуманістаў крыві*
*й гною можа быць колькі заўгодна,*
*але ніколі няма ксенафобіі*
*й шавінізму. Некрафілія*
*“ненароджаных” —*
*нешта накшталт настальгіі*
*па нашай забытай*
*радзіме — ці то вечнасці,*
*ці то сырой зямлі...*

# НЕКРАФІЛІЯ І ПАТРЫЯТЫЗМ*

*Усё наша жыццё — анатамічны тэатр, а людзі — акторы.*
**Віктар Жыбуль,**
"Каханне з апошняга позірку".

## Элегантны труп

Беларуская савецкая літаратура, па вялікім рахунку, была дзіцячай літаратурай. Яна ствaралася (і працягвае стварацца) з свядомым разлікам на тое, што чытаць яе будуць пераважна дзеці ў межах школьнай праграмы і пазакласнага чытання. Мерай камерцыйнага (і чамусьці нават творчага) поспеху пісьменніка лічыцца колькасць гадзінаў, падчас якіх яго "праходзяць" у школе. Таму і без аглядак на пурытанскую рэдактуру дзяржаўных часопісаў і выдавецтваў аўтары самі ўсяляк пазбягаюць у сваіх тэкстах маральна няпэўных калізій, эратычных і празмерна жорсткіх сцэнаў, фармалістычных пошукаў і надта складаных ідэй. Кожны літаратар-"традыцыяналіст" піша так, нібыта ён хай сабе маленькі, але ўжо класік, на творах якога будуць выхоўваць моладзь. У беларускай савецкай макулатуры немагчыма знайсці рызыкоўную гульню думкі, нематываваную жорсткасць, чорны гумар — тое, што *не забываецца*. Таму людзі без філалагічнай адукацыі амаль нічога і не памятаюць з прачытанага ў школе (апрача, бадай, "Стойка трымаўся юнак на дапросе..."). Сённяшнія дзеці чытаюць былых прыдворных пісьменнікаў хіба пад прымусам (а дарослых і прымусіць няма каму), бо

чым тыя могуць уразіць на фоне крывавых тэлевізійных рэпартажаў і фільмаў, крымінальнай газетнай хронікі, перакладных трылераў С. Кінга і кампаніі?

Сучасны чалавек штодня стаецца сведкам гвалтоўнай смерці дзясяткаў людзей — дзякуючы, перш за ўсё, тэлеэкрану. Аматары кампутарных гульняў самі штодня забіваюць рознай зброяй сотні экранных ворагаў і спальваюць дзесяткі ўласных жыццяў. У беларускім кіно і выяўленчым мастацтве ўбачыць кроў можна хіба што ў творах пра Вялікую Айчынную ды яшчэ пра паўстанне К. Каліноўскага. Свайго Квенціна Таранціна ці Джона Ву ў нас няма (калі не лічыць такім Менахема Голана). Тым не менш агульнабеларускі рэкорд па станоўчых рэцэнзіях у друку дастала выстава жартаўлівых катафалкаў і размарожанай рыбы ў акварыуме Артура Клінава “Смерць піянера-3”. На думку гэтага мастака-”некрарамантыка”, Беларусь з яе любоўю да ўсяго мёртвага і неадольнай прагай самапахавання магла б зрабіць галоўным прыярытэтам нацыянальнай эканомікі экспарт трунаў ды іншых прыладаў смерці (наша краіна і сапраўды ўваходзіць у дзесятку буйнейшых экспарцёраў зброі). Сімвалічны таксама поспех варшаўскай выставы Клінава "Бар-калумбарый сусветнай літаратуры" (неабарочны буфет, застаўлены бутэлькамі з попелам класічных твораў). Чорны гумар і крывавыя натуралістычныя сцэны выходзяць з андэграўнда і ўліваюцца ў мэйнстрым усёеднай сучаснай культуры (у тэрмінах германа-скандынаўскай міфалогіі можна казаць пра вызваленне з падземнай вязніцы жартаўніка Локі, з чаго мае пачацца Рагнарок — “прыцемкі багоў”). Некрафілічная эстэтыка ўваходзіць у моду — нават у літаральным сэнсе. У ЗША і Вялікабрытаніі ў 1996 г. нарабіла скандалу серыя рэкламных кліпаў, сюжэтамі якіх былі забойствы манекеншчыц. Падобны прыём — фотамадэлек у вобразе ахвяраў смяротных здарэнняў — скарыстоўвае для рэкламы сваёй прадукцыі дом моды Dolce e Gabbana. Адной з лепшых калек-

цый Аляксандра Макуіна, стыліста дома Givenchy, лічыцца серыя мадэляў, якія прыпадабняюць шыкоўнае цела манекеншчыцы эксгумаванаму трупу.

Сутнасцю постмадэрнізму 80-х гадоў былі плюралізм, паліткарэктнасць, дыялог культураў. Мастакі 90-х больш цікавяцца пошукамі не кампрамісаў, а, наадварот, самаідэнтычнасці, сваёй адрознасці ад сучаснікаў і папярэднікаў. У фільме "Вяртанне Бэтмана" чалавек-пінгвін кажа галоўнаму герою: "Я сапраўдны монстр. А вы, каб здавацца монстрам, павінны насіць маску. Вось што выклікае ў вас зайздрасць". Пінгвін (ягоную ролю выконвае комік Дэні Дэ Віта) з гонарам называе сябе "Мая Адрознасць" і плануе забіць усіх дзяцей казачнага Готэм-сіці толькі таму, што не ў стане трываць іхнюю апрыклую нармальнасць. На думку аўтара стужкі Ціма Бартана, найбольш жахлівы кашмар — гэта звычайныя людзі. Жанчына-котка (Кім Бэсінгер) разбівае літару "O" ў неонавым надпісе "Hello There" ("Сардэчна запрашаем") — і ён ператвараецца ў папярэджанне "Hell There" ("Тут апраметная").

Прыкладам максімальна аўтэнтычнай (у сучасным разуменні) творчасці можа служыць аўтапартрэт англійскага мастака Марка Куіна "Я сам" з калекцыі рэкламнага магната Чарльза Саачы. Скульптурная выява галавы мастака зроблена з 4 літраў уласнай крыві і захоўваецца ў празрыстай лядоўні. Назва "Я сам" увасабляе, на маю думку, альтэрнатыву знакамітаму тэзісу Арцюра Рэмбо "Я —гэта іншы", на якім грунтуецца эстэтыка дадаізму, поп-арту і, асабліва, постмадэрнізму з ягонай плюралістычнай аморфнасцю і гульнямі аўтара ў хованкі. Крывавы аўтапартрэт Куіна — гэта адчайная спроба прабіць галавой сцены лабірынта цытатнасці, у якім заблукала мастацтва 80-х, заклік адрадзіць творчасць "ад першай асобы". Ці атрымаецца? Прынамсі, "калі доўга стукаць галавою ў бетонную сцяну, бетон стане цёплы" (Вальжына Морт).

Скандальна вядомых мастакоў з калекцыі Саачы яднае радыкальная правакцыя, пошук балючых нерваў грамадскай свядомасці, імкненне агаломшыць публіку разбурэннем маральных табу. Агляд некаторых залаў выставы "Сенсацыя" ў Каралеўскай акадэміі мастацтваў (1997) нават быў забаронены асобам да 18 гадоў.

Лідэр гэтай генерацыі мастакоў Дэміен Хёрст даследуе механіку смерці на прыкладзе чалавекападобных жывёлаў — закансерваванай у велізарным акварыуме 5-метровай акулы ("Фізічная немагчымасць смерці ва ўяўленні жывога"), рассечанай удаўжыню свінні, адна з паловаў якой рухаецца (у назве — "Гэтая свінка пайшла на рынак, а гэтая засталася дома" — абыгрываецца дзіцячая лічылка), разрэзаных упоперак кароў ("Пэўнае суцяшэнне, атрыманае ад прымірэння з агульнай маной"). Найбольш уражвае змешчаны ў шкляны кантэйнер інкубатар па вытворчасці мух ("Тысяча гадоў"). Мухі сотнямі вылупліваюцца з лічынак і пералятаюць у суседнюю камеру, дзе ляжыць акрываўленая галава каровы, стаяць талеркі з цукрам і вадой. Шчаслівыя такой удачай мухі балююць, але праз некалькі хвілін гінуць ад выпраменьвання інсектыцыднай лямпы. Мірыяды іхніх трупаў засцілаюць падлогу кантэйнера, а ўсё новыя і новыя пакаленні нараджаюцца побач і лятуць насустрач непазбежнай смерці. Прыгадваецца думка Васіля Быкава з аповесці "Ваўчыная яма": "... гісторыя чалавецтва надта ж падобная на мітуслівы рух згаладнелых мух па пустым стале. Ні законаў у тым руху, ні пэўнасці, адно толькі памкненне — знайсці і зжэрці". У адрозненне ад англійскіх, нашы мухі паміраюць галодныя.

Па словах Хёрста, ён імкнецца скалануць да самага падмурка крывадушны свет рэспектабельнага мастацтва: "Я хацеў быць спыненым, але ніхто мяне не спыніў. Мне проста хацелася зразумець, дзе мяжа дапушчальнага. Да гэтага часу я перакананы, што яе проста не існуе". Яшчэ больш

экстрэмальныя і пакуль не здзейсненыя праекты мастака — выставіць мёртвых карову і быка ў паставе палавога акта пад назвай "Мёртвыя маркітуюцца двойчы"; адрэзаць свае рукі, змясціць іх на пастамент, сфатаграфаваць і потым прышыць ізноў; сшыць свайго ўласнага Мінатаўра з галавы і капытоў быка і цела добраахвотніка.

Экспазіцыі твораў Хёрста традыцыйна выклікаюць пратэсты грамадскіх арганізацый, што бароняць правы жывёл. Аднак сапраўдную скандальнасць выставе "Сенсацыя" надаў гіганцкі партрэт знакамітай у 60-я гады злачынцы Майры Хіндлі, якая разам з партнёрам забівала дзяцей і да гэтага часу адбывае пажыццёвае зняволенне. Мастак Маркус Харві ўзнавіў чорна-белы фотаздымак з паліцэйскага дасье на "забойцу з верасовых балот" з дапамогай безлічы адбіткаў дзіцячых далоняў на палатне — з іх, нібы з мазкоў, і паўстае твар маньячкі. Бацькі закатаваных дзяцей наладзілі маніфестацыю пратэсту ля ўвахода ў акадэмію, а непадалёк нейкія цьмяныя асобы збіралі подпісы за вызваленне Майры Хіндлі. Ужо ў дзень адкрыцця выставы партрэт быў закіданы яйкамі і запэцканы незмывальнай фарбай з балончыкаў. У брытанскіх мас-медыя ўсчалася палкая дыскусія: ці павінна мастацтва быць маральным і ці не патрэбна было б адрадзіць цэнзуру? Канец спрэчкам паклала кіраўніцтва Каралеўскай акадэміі: пасля тыднёвай рэстаўрацыі "Майра" вярнулася на сваё месца, цяпер ужо абароненая шклом.

Куратар іншай этапнай для 90-х гадоў выставы "Post-Human" кажа ў каталогу: "Людзі паступова пачынаюць разумець, што няма ніякай патрэбы вылечваць неўраўнаважанасць асобы. Аб чым яшчэ сведчыць цяперашняе захапленне мастакоў кіношнымі монстрамі і серыйнымі забойцамі, як не аб празе новых маральных нормаў, адрозных ад ранейшых этычных патрабаванняў?". У 1920-я гады французскія паэты абвяшчалі, што выйсці на вуліцу з рэвальверам і расстраляць выпадковых прахожых — гэта і

было б узорным сюррэалістычным актам. Сёння пра такія ўчынкі мы чуем штомесяц, яны ўжо мала каго здзіўляюць, а некаторым нават здаюцца нормай нашага сюррэалістычнага жыцця. Вось прыклад: у Жытоміры (Украіна) у сакавіку 1999 г. да вышэйшай меры пакарання быў прыгавораны серыйны забойца Анатоль Анапрыенка. На ягоным рахунку рэкордная для пасляваеннага часу колькасць ахвяраў — 52 чалавекі, у тым ліку дзеці, забітыя без ніякай рацыянальнай прычыны. Тым не менш псіхіятрычная экспертыза пацвердзіла поўную нармальнасць гэтага монстра, а сам ён у тэлеінтэрв'ю называе сябе "супернармальным" і патрабуе абавязкова публічнага расстрэлу для самога сябе.

І ўсё ж нельга сказаць, што жыццё — а разам з ім і мастацтва — робіцца больш жорсткім і небяспечным, чым яно было калі-небудзь раней (пра гэта сведчыць, найперш, рост насельніцтва Зямлі). Дастаткова згадаць знакамітую "інсталяцыю" Тамерлана ў заваяваным ім Ісфагане: кульгавы эмір загадаў скласці гіганцкую піраміду з 70000 галоў пакараных за супраціў жыхароў гэтага іранскага горада. Што істотна змянілася, дык гэта стаўленне да пралітай крыві: мастакі выпускаюць яе на палатно, экран ці паперу ўжо не столькі дзеля выхаваўчых мэтаў, колькі ў пошуках колеравай гармоніі твора. Алесь Пушкін у 1989 г. шакіраваў публіку на маладзёвай выставе ў Палацы мастацтва выявай нацыянальнага беларускага сцяга, якую ён напісаў паловай літра ўласнай крыві, што сцякае па палатне з адбітка далоні. Як і цяпер, бел-чырвона-белы трыкалор тады быў забаронены ўладамі як ледзь не фашыстоўская сімволіка, і Пушкін ахвяраваў сваю кроў дзеля яго рэабілітацыі ў грамадскай свядомасці. Мастак нагадаў гледачам старадаўнюю легенду, паводле якой першаўзор сцяга быў намаляваны крывёю параненага воя і дапамог беларускаму войску атрымаць перамогу ў бітве. Наступная рэспубліканская маладзёвая выстава адбылася ў Палацы мастацтва ажно

праз 9 гадоў. Варта адзначыць, што нацыянальная сімволіка на ёй прысутнічала толькі ў адным творы новага, нашмат больш прагматычнага пакалення мастакоў (з маёй, дарэчы, ініцыятывы) — у інсталяцыі суполкі Бум-Бам-Літ "Тазік беларускі". Чырвоную стужку на белым фоне над скамечанай алюмініевай місай з нашымі кнігамі (у тым ліку зборнікам "Тазік беларускі") увасаблялі рэшткі камуністычнага сцяга, знявечанага Зміцерам Вішнёвым. Сам Вішнёў выставіў там серыю графічных твораў, напісаных крывёю (прыкладна, тая ж палова літра) ды іншымі экзатычнымі фарбамі. Алесь у свой час свядома праліваў кроў дзеля высакароднай ідэі, Зміцер жа імправізавана скарыстаў выпадковы парэз аб шкло: лепш, маўляў, выкінуць сваю кроў на выставу, чым з анучамі на сметнік.

Бел-чырвона-белыя сцягі, што традыцыйна сустракае авацыяй публіка ў фінале культавага спектакля Мікалая Пінігіна "Тутэйшыя", сімвалізуюць несмяротную (пакуль жывыя мы) кроў нашых продкаў на пялюшках вечнага немаўляці-народа: белыя прасціны ўзнімаюцца над сцэнай з калыскі, а чырвоныя стужкі крыві — з магілы.

Крывавыя сцэны ў тэкстах літаратараў савецкай эпохі — Купалы, Чарота, Панчанкі ды інш. — заўсёды былі загорнутыя ў рэвалюцыйна-патрыятычны пафас:

*О Пугачоў,*
*Балотнікаў*
*і Каліноўскі,*
*Вы ўсе, што рвалі ланцугі няволі, —*
*Дзе хоць адна пылінка праху вашага?*
*Сваёй крывёй яе я напаіў бы*
*І ажывіў бы вас,*
*каб вы змаглі яшчэ раз*
*Паслаць у венцаносны чэрап кулю.*

**(Максім Танк, "З хронікі")**

*Аднаго кожны дзень я жадаю ў жыцці:*
*Каб за сонцам услед мне па трупах варожых*
*Хоць на некалькі крокаў наперад прайсці.*

**(Пятрусь Броўка, "Рана")**

Паэты беларускай эміграцыі найбольш небяспечнымі ворагамі народа лічылі, як можна здагадацца, камуністаў:

*Мне лёгка глядзець на любую кроў,*
*Я — камуніст, Мікола Бугроў.*
*Не перадавала ты немцам ніякіх звестак,*
*Але я учыню над табою зверства.*
*Выдумаў нарошна я гэтую справу,*
*Каб расстраляць цябе была падстава.*
*...Гойсаў ён па аколіцах вокал,*
*Па жанчынах і дзецях шпокаў.*

**(Масей Сяднёў, "Мікола Бугроў")**

Гэтая поўная крыві паэма была напісаная на падставе сапраўдных фактаў, але чамусьці толькі праз 40 гадоў пасля тых падзей. Чаму дзесяцігоддзямі пісаў выключна пра вайну Васіль Быкаў? Напэўна, некаторыя аўтары маюць прыродную схільнасць да катавальных сюжэтаў, але не адважваюцца праліваць кроў на паперу без санкцыі грамадскай думкі. Грамадства ж найбольш шануе кроў, пралітую не ў прыватным сюррэалістычным кашмары пісьменніка і не ў п'янай бойцы, а на вайне (бо яна дапамагае нацыі адчуць сябе адзіным арганізмам: смерць ці рана кожнага з "нашых" баліць усім астатнім). Праліваць кроў з нейкіх асабістых прычынаў ці, яшчэ горш, без дай прычыны ў айчыннай (і эміграцкай) літаратуры лічыцца безгустоўным і нават злачынным. Кандыдаты ў класікі адчуваюць надта вялікую адказнасць перад грамадствам, каб пазбывацца сваіх крывавых фантазій у палітычна нейтральных сюжэтах. І толькі ў апошнія гады да беларускіх літарата-

раў пачалі даходзіць чуткі пра тое, што ўладар і кантралёр іхніх думак скончыў жыццё самагубствам: "...Народ, які паводле адраджэнскага мыслення разглядаўся як "хворы", "несвядомы", як нешта, што мусіць прачнуцца, абудзіцца, заняць свой пасад, прыгадаць сваё мінулае, — такога народу больш няма. Ці, больш дакладна, такі народ ёсць мёртвым". (І.Бабкоў).

## Экзістэнцыялісты і сюррэалісты

У сённяшніх аўтараў сярэдняга пакалення — С. Алексіевіч, В. Казько, В. Акудовіча, дый у позняга Быкава — ужо няшмат веры ў духоўнае адраджэнне народа і ў гуманістычныя ідэалы наогул. Жыццё яны малююць як бясконцую і бессэнсоўную катастрофу, у якой вінаватыя не толькі нашыя чарговыя ворагі (бальшавікі, навукоўцы з іхнім Чарнобылем, папулісты, рука Масквы, орды акупантаў і г. д.), але і мы самі: "У далоні Радзімы мы ўсе забівалі цвікі" (Л.Рублеўская). "...Дзічэе творца, дзічэе народ, дзічэюць улады. І тады, і так нараджаюцца монстры, з'яўляюцца ваўкалакі і вампіры, з глыбінь сярэднявечча ажываюць, паўстаюць шматлікія Дракулы. І ці варта на іх крыўдаваць, можа, гэта і ёсць першыя пасланцы новага часу і новай расы". (В.Казько, "Да сустрэчы...").

Маладыя літаратары ўжо не проста палохаюць чытача звыклымі відовішчамі нацыянальнай ці экалагічнай катастрофы, яны альбо распрацоўваюць уласныя, больш цікавыя сцэнарыі апакаліпсіса, альбо клічуць Беларусь да сякеры. Неатрадыцыяналісты (гэта, найперш, кола аўтараў "Нашай Нівы") бачаць паратунак для культуры ў бескампрамісным нацыяналізме. "Капітулянцкія" развагі пра блізкую ці нядаўнюю смерць нацыі яны разглядаюць як варожую правакацыю. Натуральна, што і ў сцэны забойстваў і

катаванняў гэтыя аўтары ўкладаюць пераважна выхаваўчы змест (“Азм адпомшчанне уздам” А.Наварыча, “Цверазілаўка” А.Федарэнкі, “Любіць ноч — права пацукоў” Ю.Станкевіча, “Алах акбар” А.Дынько, “Яму канцы” А.Аркуша, "Сякера невядомага салдата" Зм. Бартосіка, "Убей президента!" С. Адамовіча, “Паленьне кніг” П.Севярынца...). Чалавек, на іхнюю думку, усё адно нараджаецца на пакуты, дык хай жа яны хоць будуць апраўданыя спрадвечным высокім сэнсам. Але сэнс чалавечаму жыццю можа надаць і звыклы, прыхарошаны высокімі словамі, ахвярамі або цяжкай працай абсурд: калі Сізіф у аднайменным апавяданні Сяргея Дубаўца закаціў, нарэшце, свой выклятый камень на вяршыню гары — ён не скарыстаўся нечаканай свабодай, а сам падштурхнуў яго ўніз, да месца старту. Як кажуць пенсіянеры, трэба працаваць, а начальства разбярэцца.

Іншыя аўтары новай беларускай літаратуры — А.Глёбус (“Карыда”), В.Жыбуль (“Ноч перад зарэзам”), У.Арлоў (“Мой знаёмы забойца Сяргей”), І. Сідарук (“Крывавая імша”), М.Баярын (“Песьня пра чырвоную рану”), З.Вішнёў (“Шчыры чалавек”), С.Мінскевіч (“Кропляць мазгі”), А.Бахарэвіч (“Лета дэзэртыра”), Ю.Гумянюк (“Святарная карова”), М. Клімковіч, В. Ахроменка (“Здані і пачвары Беларусі”) схіляюцца да высновы, што ніякія пакуты (чалавека ці жывёлы) ніколі не маюць сэнсу і, адпаведна, не могуць быць апраўданыя. Першыя на чале з Дубаўцом імкнуцца разбурыць зручны для прыстасаванцаў усіх пакаленняў і рангаў міф пра талерантнасць беларусаў і мабілізаваць чытачоў на крыжовы паход супраць ворагаў нацыі і дэмакратыі, другія ж — пацыфісты, і да ўсіх надта высокіх ідэалаў ставяцца з сумневам. Працытую тэксты Іллі Сіна: “...ён часта спрабаваў прыкалоць сваёй шпількай неба, але яго нідзе не было... Тут не было нічога, нават смерці” (“Праменьчык хіманалізу”). “...Хістаючыся і падаючы, яны ішлі паўз слізкія як бессэнсоў-

насць вулкі нябыту. Кроў на вуснах, што ўздрыгваюць нібы ў перадсмяротных сутаргах, ссівелая ад ночы скронь" ("Сустрэча"). "—Бывай. Добрага табе цела. Шчасліва. Да пабачэння, — сказаў ён і раптоўна праваліўся ў прыадчыненыя дзверы ў ільдзяную бадхысатву... Быў проста дзікі вецер, ён падхапіў муміі іхніх мрояў і разадраў іх на малюткія бездапаможныя шматкі" ("Лёд").

Параўнайце з тэкстамі Дубаўца: "...Снежаньскі вецер нясе лісце кніжных старонак без кірунку й бяз мэты... Сёньня й самі аўтары — недзе сярод іх, такія ж бязвольныя, безадказныя й бязмэтныя. І ўсё за іх вырашае вецер. Такі ж безадказны. Такі ж бязмэтны" ("Пэрсанажы й аўтары"). "... Крывавая, трупная, "нецікавая" гісторыя. Гісторыя акупацыі. Не напісаўшы яе, мы не напішам і гісторыю суб'екта. Мы проста ня станем ім" ("Пацярпелы ў суд не зьявіўся"). Мэта найбольш нацыянальна заангажаванага крыла нашай новай літаратуры — зрабіць Беларусь паўнапраўным суб'ектам сусветнай гісторыі, а чалавека, адпаведна, — аўтарам уласнага лёсу. Сцэны катаванняў і смерці дзеля таго і патрэбныя гэтым літаратарам, каб праз шок падштурхнуць чытача да ўсведамлення сваёй ролі ў свеце, да выбару акрэсленай маральнай і грамадзянскай пазіцыі. У тэкстах Глёбуса, Сіна, Жыбуля, Сідарука крыві яшчэ больш, але яна выконвае процілеглую функцыю распушчальніка стэрэатыпаў свядомасці (звыклых думак) чытача: прычына пакутаў чалавека дый народа — не ў нястачы, а ў лішку саматоеснасці (самазакаханасці), у закасцянелых формах мыслення і астатняга жыцця:

*"У гутарцы на разьвітаньне вы мне сказалі, што проста*
*Я не люблю Радзіму, і гэта напэўна так.*
*Так, калі пад радзімай вы разумееце зямлю,*
*Гліны пласты змарнелай, няздатнай больш нараджаць.*
*Крэнлі, зь якой нагоды я мусіў вышукваць сілы,*
*Каб за яе падохнуць? Яна — старая сьвіньня,*

*Кронас, які ўздымае ўласных дзяцей на вілы,*
*Лежачы ў цёплым хляве, поўным свайго лайна.*
*...Вы меркавалі, што я недастаткова адданы*
*Бацькаўшчыне, але проста яна ў нас не адна".*

**(Міхась Баярын, "Лісты да беларускага сябра")**

Заўважу, што параўнанне радзімы з свіннёй яшчэ не сведчыць пра адсутнасць патрыятызму. Прыгадваецца старадаўняя ірландская сага пра пяцёх братоў з аднолькавым імем Лугэйд. Падчас палявання ім здарылася заначаваць у нейкім загадкавым доме, дзе жахлівая дзікая свіння прапанавала кожнаму з іх заняцца з ёй каханнем. Пагадзіўся толькі адзін — і менавіта ён неўзабаве стаўся заснавальнікам новай каралеўскай дынастыі: агідная свінняператварылася ў "найпрыгажэйшую з жанчын". Навукоўцы мяркуюць, што гэта была персаніфікаваная Ірландыя.

Тэксты неакансерватараў працягваюць юда-хрысціянскую культурную традыцыю з яе абагаўленнем Слова і мовы, рацыяналізмам, культам пакутнікаў за веру і айчыну. Неамадэрністы адкрытыя культурным уплывам усіх эпох і народаў (Вішнёў, напрыклад, імкнецца "афрыканізаваць" беларускае мысленне). Адных словаў для самавыяўлення ім замала: праўды нашмат больш у жэстах, хай сабе і не зразумелых. Дарэчы, з гледзішча дзэн-будыстаў, сам Буда не сказаў ніводнага слова. У рэчышчы будысцкай традыцыі неамадэрністы шукаюць выйсце з зачараванага кола пакутаў, у якім нас трымае чапляннe за жыццё і, найперш, за ўласнае "я": "...мы толькі "тамагочы" ў руках Вялізнага Дзіцяці" (В.Жыбуль, "Тамагочы"). "Нястача Бога адсутнасьць прысутнасці мы караскаемся дагары потым падаем уніз мы ня можам разьбіцца памерці зьнікнуць мы апынаемся там тамсама ў месцы дзе ўжо былі ізноў ізноў ізноў..." (І.Сін, з тэксту да пэрформанса "Бабілёнскія вежы"). "Стаю на вежы // з выбітымі шыбамі, // над нашым светам" (А.Глёбус, хоку). Замест таго, каб нястом-

на выкрываць ворагаў нацыі і памылкі сяброў (паводле інструкцыі Камю: "Вінаватыя ўсе"), найбольш, здавалася б, крыважэрныя літаратары і мастакі пагаджаюцца, хутчэй, з Л.Талстым: "няма ў свеце вінаватых". Дый самой смерці, па вялікаму рахунку, няма: гэта толькі адна з мноства прыгодаў на нашым бясконцым шляху ў нікуды і паўсюль, які называюць жыццём.

Адзін з улюбёных паэтаў С.Дубаўца ("у ім ня знойдзеш нічога прынцыпова нездаровага") шчыры камуніст Максім Танк аднойчы занатаваў у дзённіку: "Што можа быць самым страшным у жыцці? Хіба само жыццё" (31.12.1941). Ідэя бясконцага жыцця — суцэльны жах для тых, хто кліча суайчыннікаў на барыкады ці на варожыя акопы:"Трэба яшчэ разабрацца, што страшней — смерць ці вечнае жыццё. У канцы дарогі для падарожніка сэнс вандроўкі, у канцы тэрміну — сэнс вучобы, працы, службы. Канечнасць неабходная, сэнсоўная, а бясконцасць — бязглуздая й страшная" (С.Дубавец, "Эцюды аб смерці"). У вечным жыцці ўсялякая рызыка — несапраўдная, і таму ў ім няма подзвігу за Радзіму. Але, па-першае, нават у нашым кароткім жыцці ледзь не ўсе подзвігі адбываюцца выпадкова, без папярэдняга асэнсавання магчымых наступстваў рызыкоўнага ўчынку, без свядомага выбару калецтва ці смерці. Чалавек ідзе на подзвіг таму, што ўсё жыццё адчувае сябе практычна несмяротным — быццам герой якой-небудзь кнігі, які ажывае кожнага разу, калі пра яго пачынаюць чытаць (ажывае ў тых, хто чытае). П а м і р а ю ц ь а ў т а р ы , а п е р с а н а ж ы з а с т а ю ц ц а . Па-другое ж, калі ў вечнасці немагчымы подзвіг, то тое самае датычыцца і здрады. З гледзішча бясконцага жыцця ўсе пакаранні і ўзнагароды выглядаюць надта дробнымі, каб звяртаць на іх сур'ёзную ўвагу. Дый каму здраджваць, каму помсціць, каго ратаваць,калі вечнае жыццё — адно на ўсіх? У вечнасці  няма мяне, няма нават нас, а ёсць толькі ўсе разам. Ніхто не вечны апрача нашага агульнага жыцця.

Для літаратараў, якія на чале з Дубаўцом змагаюцца за народнае шчасце, “канечнасць (у тым ліку магчымая смерць нацыі. – **Ю.Б.**) – апірышча, бясконцасць – прорва”. Адсюль, дарэчы, і вынікае скептычнае стаўленне Дубаўца да “філязофіі валацугаў” – нацыянальнай ідэі як Беларускага шляху, а таксама да постмадэрнавай паэтыкі адкрытага твора, паводле якой сэнс тэксту мае права выбіраць на свой густ не толькі яго аўтар, але і кожны выпадковы чытач. Неамадэрністы, следам за Глёбусам, мяркуюць, што смерць не можа надаць сэнс нашаму жыццю, але можа яго ўпрыгожыць: “Забойства – найвышэйшае з мастацтваў” (цытата з рамана “Заўсёды сьветла каля турэмных муроў”, напісанага Глёбусам, Клімковічам і Шайбаком пад суперпсеўданімам Уладзімір Сакалоў ).

Смерць – такая самая ілюзія, як і нараджэнне. Для Глёбуса ды іншых стыхійных будыстаў “смерць нічога не змяняе” (на мой погляд, гэта адна з дзвюх ключавых фразаў у “Новым дамавікамэроне”; другая – “Гноем і крывёю Дамавік перапэцкаў сваё жытло”). У адрозненне ад герояў камуністычнай ці адраджэнскай літаратуры, персанажы “Дамавікамэронаў” ніколі не маюць крыўды на сваіх катаў і ахвяр, не спрабуюць апраўдаць сваю ці чужую (гэта не істотна) смерць высокім сэнсам, каб ператварыць злачынства ў подзвіг. У іхняй душы няма злосці, уласцівай карнікам і “народным мсціўцам”.

Аўтары эксперыментальнай і камерцыйнай літаратуры не імкнуцца скласці з чытачоў нацыю. Яны пішуць не для народа, а для людзей (часам і для іншых жывых істот). А нашыя людзі, як слушна адзначае С.Дубавец, – гэта “раз’ятраны натоўп, што прагным чырвоным ротам раве: смерці! Страляць, вешаць, танкамі душыць! Наш народ – прыхільнік пашырэння смяротнай кары... Як шчыльна спляліся (рэпрэсіўная. – **Ю.Б.**) палітыка ўлады і зверствы п’янага мужыка на ўласнай кухні, і групавы гвалт у цёмным куце парку, і ўсё такое іншае. Людзі самі заслугоўва-

юць тае ўлады, якую маюць" ("Чалавек без галавы"). На думку Дубаўца, ніхто не нараджаецца з псіхалогіяй бандыта ці карніка, прагу забойства й гвалту ў людзях распальвае ўвесь лад тутэйшага жыцця, адказнасць за які нясе дзяржава. Глёбус жа схіляецца да высновы, што кожны чалавек, незалежна ад грамадзянства, у глыбіні душы — крыважэрны монстр, нават калі зусім не ўжывае мяса. Забіваць для чалавека гэтак жа натуральна, як і паміраць: дастаткова зірнуць на ягоныя іклы, якіх не маюць прыродныя траважэры. Але тым ён і адрозніваецца ад большасці жывёлаў (за выняткам дрэсіраваных — амаль разумных), што можа дзейнічаць супраць прыроды, можа і павінен стрымліваць некаторыя свае інстынкты. Забойцамі людзей стварае не дзяржава, а прырода, дзяржава ж толькі выдае ліцэнзіі на "цывілізаванае" праліццё крыві на мясакамбінатах і паляванні, на эшафоце і ў варожых акопах. Дзяржава неабходная людзям, каб забіваць (або патрабаваць крыві) з чыстым сумленнем, не адчуваючы сябе забойцамі. Дубавец і сам прызнае, што права забіваць мае толькі прырода, але ці выпадкова сваіх паплечнікаў па змаганні ён называе "байцамі"? Дарэчы, гэтым жа словам на мясакамбінаце называюць рабочых, якія рэжуць быдла. Глёбус жа ў "Забойстве ката" прызнаецца, што ніколі не марыў быць генералам: "Нічога ў свеце не выклікае такой гідлівасці, як позва ў войска". Ягоныя тэксты часта крывавыя, але ніколі не крыважэрныя. Прынамсі, недастаткова лютыя да зацверджаных уладамі ці апазіцыяй палітычных ворагаў, каб трапіць калі-небудзь у дзяржаўную школьную праграму з яе рытуальнымі оргіямі патрыятызму. Глёбус і сам, па ягоных словах, пісаў "Дамавікамэрон" з надзеяй, што гэтую кнігу — адзіную ў беларускай літаратуры — будуць хаваць ад дзяцей. Лепшая рэклама — гэта антырэклама: менавіта яна калісьці падштурхнула першых людзей-падлеткаў пакаштаваць у райскай даліне забаронены плод. Плод асветы.

У якасці псеўданіма Глёбус абраў сабе найбольш касмапалітычнае імя Адам — імя першага чалавека, над парэшткамі якога быў укрыжаваны Хрыстос. Без Адама любы народ — няпоўны. Без Сяргея — толькі ўласны. У прадмове да "Койданава" С.Дубавец кажа, што Глёбус хоча жыць вечна, і гэта сапраўды так — не толькі ў гістарычным, але і ў геаграфічным плане: ён спрабуе жыць паўсюль і ўсяляк, а потым распавядае пра гэтыя эксперыменты.

## Праз могілкі

Узорныя патрыёты "шматпакутнай Беларусі" да ўсялякіх эксперыментаў — эстэтычных, навуковых, палітычных — ставяцца, у лепшым выпадку, скептычна. Зменлівае, не санкцыянаванае шматвяковай традыцыяй жыццё ўяўляецца ім тужлівым — у адрозненне ад "шчаслівай" (паводле Камю) долі Сізіфа, заўсёды вернага свайму каменю. Абмежаванасць чалавека ў правах і думках надае сэнс навакольнаму свету і дапамагае жыць (змагацца), вызваленне ж — нават часовае — ад пакутаў традыцыйнага ладу жыцця раўназначнае смерці: "Вяршыня —могільнік, куды звальваюцца трупы рухаў і сэнсаў, — і там трупянее Сізіф, пакуль скінуты пад ногі камень не пачне спаўзаць уніз" (В.Акудовіч, "Камень Сізіфа"). Патрыятычны варыянт некрафіліі — гэта, найперш, любоў да "святарных камянёў Еўропы" (Дастаеўскі) і малой радзімы, да ўсяго закамянелага, нязменнага, абмежаванага старадаўнімі — "прыроднымі" формамі. Цікава, што ў эсэ Акудовіча "Хто я?" Сізіфаў камень пераўвасабляецца ў надмагільную пліту: "Я залішне доўга бавіўся на старых могілках, каб не помніць, ува што згортваецца жыццё чалавека... Быццё падобнае да старых могілак за каменным мурам, дзе жывыя мілуюцца на надмагільных плітах, з якіх шурпаты час паздзіраў усе

 



літары”. У адрозненне ад Дубаўца, які прагназуе, што мы ніколі не выйдзем з сітуацыі чалавека, Акудовіч мяркуе, што й вызваляцца няма каму: “Чалавека можна прыдумаць — нельга знайсці”. Немагчыма ўскласці сваё жыццё на ахвярнік Айчыны ці нейкай іншай высокай ідэі, калі ты не ўпэўнены, што ўжо нарадзіўся.

Літаратараў новай генерацыі, якія не жадаюць удзельнічаць у бясконцай “вайне культураў”, Дубавец даволі трапна называе “ненароджанымі”: “Іх ніхто не нараджаў, яны не пакліканыя ані папярэдняй літаратурай, ані нацыянальнай традыцыяй...”. Таму, хто не нараджаўся, няма патрэбы ўсё свядомае жыццё чакаць смерці, як, напрыклад, герою аповесці Б.Пятровіча “Чаканне”, які сам параўноўвае сябе з жывым трупам. Малады паэт Віктар Жыбуль, відаць, мае рацыю, што “...кожны пакупнік ператворыцца ў зомбі” (“Zombification”). Сітуацыя ненароджанага — амаль тое самае, што сітуацыя несмяротнасці: ён не спяшаецца рэалізаваць сябе ў гэтым свеце, бо мае справы і ў іншых.

Другі вельмі істотны аспект сітуацыі ненароджаных — вызваленне значнай часткі сучаснай моладзі ад Эдыпавага комплексу, на які хварэе ангажаваная літаратура з яе спробамі задушыць у “ружовым тумане” класікаў савецкай эпохі. Трэба наогул сказаць, што класічны псіхааналіз безнадзейна састарэў — састарэў ужо таму, што ствараўся ў эпоху вышэйшага росквіту імперыялізму, і ў сённяшнім разбэрсаным свеце можа быць карысным хіба што для вытлумачэння ўчынкаў ці твораў тых кансерватыўных людзей, якія па-ранейшаму мараць пра веліч імперыі (напрыклад, Расійскай ці ВКЛ) і змагаюцца з суседняй Імперыяй Зла (той жа Расіяй ці NATO). Падмуркам псіхааналізу сам Фрэйд лічыў вучэнне пра выцясненне ў падсвядомасць усіх нерэалізаваных памкненняў чалавека (найперш, амаральных), якія і спараджаюць неўрозы й сны альбо сублімуюцца ў нібыта прыстойнай мастацкай творчасці. Варта адзначыць, што класічны фрэйдызм цалкам бездапаможны ў

 

вытлумачэнні шызафрэніі ды іншай паталогіі. А з тым, што сучасная цывілізацыя сур'ёзна хворая на галаву — мала хто будзе спрачацца. Найноўшая літаратура грунтуецца не на неўрозах (міфах), а на псіхозах (трызненні). Калі чытаеш, напрыклад, тэксты Сіна, Морт, Жыбуля, Сідарука, — складваецца ўражанне, што аўтар н і ч о г а не в ы ц і с к а е ў падсвядомасць, нават наадварот — прызнаецца ў такіх сваіх маральных заганах, у такіх крыважэрных фантазіях, якіх у яго насамрэч ніколі і не было. Іхняя псіхіка (прынамсі, падчас пісьма) унікае падзелу на "Я" і "Яно", а таксама на "Я" і "Іншы". (Дарэчы, на мой погляд, феномены "Іншы" і "Яно" шмат у чым узаемназамяняльныя, і менавіта гэты ключ дапаможа нам адчыніць дзверы ў мастацтва заўтрашняга дня з ягоным сінтэзам аўтэнтычнай і цытатнай творчасці). Аўтары трансгрэсіўнай літаратуры й самі не ведаюць, чые трызненні яны занатоўваюць — свае ці чужыя.

Ядро фрэйдызму складае ўяўленне пра адвечную патаемную в а й н у паміж схаванымі ў глыбінях індывіда бессвядомымі псіхічнымі сіламі (сексуальнымі й агрэсіўнымі імпульсамі) і наяўнай культурай грамадства з яе ідэаламі, нормамі паводзінаў, маральнай цэнзурай. Культура, паводле Фрэйда, працуе на энергіі бессвядомых памкненняў, сублімаваных у прыстойную форму, санкцыянíраваную дзяржавай ці нацыянальнай традыцыяй. Але, напрыклад, у тэкстах кшталту "Дамавікамэронаў" Глёбуса ці "Споведзі самагубцы" Сідарука амаральныя фантазіі аўтара не сублімуюцца, не трансфармуюцца ў звычайныя крывавыя сюжэты на тэму Вялікай Айчыннай альбо нацыянальна-вызвольных паўстанняў. Спрадвечная вайна культуры з бессвядомымі псіхічнымі сіламі паціху заканчваецца. Сучаснае грамадства ўсё больш талерантна ставіцца да маральных меншасцяў — да забойцаў, гвалтаўнікоў і ўсялякіх вычварэнцаў: у найбольш цывілізаваных краінах іх ужо не караюць смерцю (пра забарону здымаць для кіно ці

смакаваць у літаратурных творах сцэны гвалтаў і катаванняў няма й гаворкі, пэўныя абмежаванні захоўваюцца толькі ў сферы распаўсюджвання такой прадукцыі). Дзяржава яшчэ імкнецца кантраляваць паводзіны грамадзян, але ўжо не спрабуе абмежаваць свабоду ўяўлення.

Базавы прынцып сучаснай заходняй цывілізацыі, пацверджаны нядаўна на саміце краін – удзельніц NATO з нагоды 50-гадовага юбілею альянсу і пакарання Югаславіі за этнічныя чысткі ў Косаве, — гэта прыярытэт правоў чалавека над нацыянальным суверэнітэтам. У перспектыве кожны чалавек будзе мець больш правоў на самавызначэнне, чым ягоная нацыя. “Вайна культураў” у глабалізаваным (глёбусаваным?) свеце трансфармуецца ў канкурэнцыю культурных меншасцяў і нават асобных індывідаў, кожны з якіх будзе мець права на ўласную нацыянальную ідэнтычнасць: колькі будзе людзей -- ледзь не столькі ж будзе й народаў. Больш за тое, генная інжынерыя дапаможа кожнаму ахвотнаму заснаваць уласную расу, роўную ў правах з усімі астатнімі, а нават і новы біялагічны від накшталт некаторых персанажаў “Дамавікамэронаў”.

Фрэйдызм мала прыдатны для аналізу псіхікі жывёлаў, духаў і кібаргаў. Ягоны эксклюзіўны аб’ект — чалавек, які змагаецца з уласнай прыродай ды іншымі “ворагамі”: дзе было “яно” — там павінна паўстаць “я”. Свабодныя ад спрадвечных “комплексаў”, літаратары-постгуманісты, аднак, не бачаць вялікай розніцы паміж “я” і “ яно”, мысленнем і трызненнем, чалавекам і іншымі формамі бязмежнага жыцця:

*...Сягну туды, дзе грукат агрэгатаў*
*Навекі змоўк, чакаючы кагосьці,*
*Хто разьбярэ паміж Нічым і Нечым*
*Мяжу са свежавыламаных костак —*
*Сьвіных, сабачых, воўчых,*
*чалавечых.*

**(В.Жыбуль, “Маё ўварваньне”)**

У тэкстах постгуманістаў крыві й гною можа быць колькі заўгодна, але ніколі няма ксенафобіі й шавінізму. Некрафілія “ненароджаных” — нешта накшталт настальгіі па нашай забытай радзіме — ці то вечнасці, ці то сырой зямлі:

*Съляпыя мастакі варушацца ў норах,*
*Іх кіпці скуголяць ад пяску й гною.*
*Цалуюцца чульлівымі вуснамі*
*З мокрымі празрыстымі чарвякамі.*
*...І ведаюць яны, мастакі сьляпыя,*
*Што ёсьць у іх для існаваньня*
*Некалькі жыцьцяў.*

**(В.Морт, “Краты”)**

Можна даць іншую інтэрпрэтацыю гэтаму вершу: усялякі аўтар паміраe ў сваіх творах, але ажывае зноў, калі яму шчасціць пераўзысці самога сябе — выкараскацца з магілы чарговага “я” да святла, дзе жыццё не паспела яшчэ падзяліцца на “я сам” і “я іншы”.

Псеўданім Вальжыны Морт (Мартынавай), гэтай крохкай дзяўчыны-школьніцы, у перакладзе з французскай на нармальную мову азначае Мёртвая. Не выключана, што на ўроках беларускай савецкай літаратуры яе пераехала Максімам Танкам.

---

* Артыкул складзены па матывах публічнай лекцыі, прачытанай аўтарам у Беларускім калегіуме.



## Міхась ЮЖЫК

***

Разлілася барва па пакоі,
То, напэўна, шалее Мастак.
Краявіднага свету ніколі
Ён яшчэ не накідваў вось так.

Мы з табой каву цягнем няспешна,
Абмяркоўваем кпліва жыццё.
Ён жа позірк з завоблачнай вежы
Апускае да нас праз галлё.

Ясакар засланіў аж паўнеба –
Штось дрыготка шапоча сабе...
Толькі промні вячэрнюю зебру
Вышываюць на шэрым стале.

Я твае думкі бачу празрыста,
Веру, мусіш ты бачыць мае.
Камянёў дарагое маніста
Па-за шыбай зіхцець паўстае.

П'ём напой. Не заснуць гэтай ноччу –
Надта ўжо разгуляўся Мастак.
Кроплі зорак па чорнай сарочцы
Ён яшчэ не раскідваў вось так.

# Лаўрэаты "Крыніцы"



*Рэдакцыйная рада часопіса "Крыніца" прысудзіла штогадовыя прэміі за лепшыя публікацыі мінулага года. Як і раней, лаўрэатамі маглі стаць толькі чатыры аўтары.*

Прэміяй адзначана паэма **Міхася Баярына** "Senectutes", надрукаваная ў № 9.



За мастацкія пераклады прэміі прысуджаны
**Лявону Баршчэўскаму**
("Пакуты маладога Вертэра" Ёгана Вольфганга Гётэ ў № 4—5;
"Жабы" Арыстафана ў № 9)



і яго маладзейшаму калегу
**Андрэю Хадановічу**
(вершы Стэфана Малармэ ў № 4—5).



У галіне эсэістыкі лаўрэатам стаў аўтар "Нататак сумесніка" **Алесь Асташонак** (№ 10).

# Шаноўны чытач!

Нам яшчэ і, магчыма, не апошні раз трэба паразумецца адносна перыядычнасці нашага часопіса.

На вялікі жаль, па незалежачых ад рэдакцыі прычынах, з-за хранічнага недафінансавання, часопісы "Крыніца" №№ 2 і 3 выдаць не зможам. Таму і працяг рамана Эжэна Іянэску "Адзінотнік" чытайце ў наступных нумарах.

Просім прабачэння і паведамляем: мы працуем і спадзяёмся, неўзабаве справы з перыядычнасцю нашага выдання наладзяцца і мы, як і раней, будзем сустракацца штомесяц.

**Рэдакцыйная калегія часопіса.**